ISSN 1945-8665

# БЕЛАРУС
# 2011

**Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа
выдаецца са жніўня 2007 году**

# BIELARUS
# 2011

**Literary almanac of Belarusan writers abroad
published since August 2007**

**Заснавальнік і выдавец:** Марат Клакоцкі.

**Адрас для допісаў:** *BIELARUS*
*P. O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
*USA*
**E-mail:** *hazetabielarus@att.net, zamova@e-krama.com*

Падрыхтоўка тэкстаў да друку і макет - Марат Клакоцкі.
Карэктар - Алена Высоцкая.

# БЕЛАРУС 2011

## ЗЬМЕСТ


*Падзякі* . . . . . 4

**БАРАВЫ Лявон.** Вершы . . . . . 7

**ВАРАБЕЙ Ірына.** Пераклады . . . . . 12

**ВОРАНАЎ Віталь.** Апавяданьні . . . . . 36

Коміксы . . . . . 42

**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер.** Вершы . . . . . 50

**ЖВАЛІКОЎСКІ Юры.** Вершы і песьні . . . . . 54

**ЗАЙКА Віталь.** Лысы . . . . . 58

**КАВАЛЕЎСКІ Віктар.** Залатыя пялёсткі аднаго з двух дажджоў . . . . . 67

Пераклад . . . . . 70

**КУЗЬМІЧ Аліна.** Калі вецер . . . . . 82

**ЛАПАТКА Якуб.** Пераклады . . . . . 88

*Гіём АПАЛІНЭР*. Тры аповесьці пра Божыя кары . . . . . 89

*Мануэль дэль КАБРАЛЬ. Вершы* . . . . . 95

*Фэдэрыка Гарсія ЛОРКА. Вершы* . . . . . 96

**ЛІАКУМОВІЧ Цімох.** Споведзь . . . . . 99

**МАЎЧУН Анатоль.** Мы і прырода . . . . . 109

**РЫЖЫ Эмігідыюш.** Шосты запавет . . . . . 113

**СКІБА Міхась.** Квартэт . . . . . 122

**СНАРСКАЯ Іна.** Два небы . . . . . 158

**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук.** Граблі . . . . . 167

**ТАРАНОВІЧ Аляксандар.** Песьня эмігранта, або Ліст да самога сябе . . . . . 180

**ШАМЕЦЬКА Юрась.** Вершы . . . . . 196

**ШЧУР Макс.** Урывак з элегіі . . . . . 201

Экзэкуцыя . . . . . 215

вяртаньне волі . . . . . 224

**ЯКІМОВІЧ Валянціна.** Дзяцінства майго бацькі . . . . . 231

*Пляны на будучыню* . . . . . 238

**SUMMARY** . . . . . 239

# ПАДЗЯКІ

*Шчыры дзякуй усім, хто сваім удзелам ці дапамогаю спрычыніўся да выхаду ў сьвет літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС” за 2011 год.*

*Асаблівая падзяка асобам, што зрабілі грашовыя ахвяраваньні адмыслова для друку гэтага нумару, а менавіта:*

| | |
|---|---|
| ***Л. Шурак*** | ***250*** |
| ***Т. Бэрд*** | ***200*** |
| ***В. Кіпель*** | ***175*** |
| ***А. Гардзіенка*** | ***120*** |
| ***К. і Я. Вініцкія*** | ***100*** |
| ***Л. Касоўская*** | ***100*** |
| ***Ул. Юры*** | ***62*** |
| ***А. Курушка*** | ***60*** |
| ***М. Дэмковіч*** | ***50*** |
| ***Я. Завістовіч*** | ***50*** |
| ***Я. Запруднік*** | ***50*** |
| ***А. Сецька*** | ***50*** |
| ***М. Скіба*** | ***50*** |
| ***Я. Барысевіч*** | ***35*** |
| ***А. Груша*** | ***30*** |
| ***Ю. Лісоўская*** | ***30*** |
| ***М. Швэдзюк*** | ***30*** |
| ***М. Баяроўскі*** | ***25*** |
| ***А. і В. Дубяга*** | ***25*** |
| ***А. Копат*** | ***25*** |
| ***А. і П. Рыжыя*** | ***25*** |
| ***М. Сьнежка*** | ***25*** |
| ***О. Яскевіч*** | ***25*** |
| ***Л. Бакуновіч*** | ***20*** |
| ***С. Будкевіч*** | ***20*** |
| ***К. Ворт*** | ***20*** |
| ***М. Данілюк*** | ***20*** |
| ***А. і В. Кабяка*** | ***20*** |
| ***Ю. Лапіцкі*** | ***20*** |
| ***Ц. Ліякумовіч*** | ***20*** |
| ***М. Прускі*** | ***20*** |
| ***У. Ракуць*** | ***20*** |
| ***А. Сёмуха*** | ***20*** |
| ***М. Тарашкевіч*** | ***20*** |
| ***М. Касьцюк*** | ***15*** |

*Шаноўныя сябры! Дзякуючы Вашай зацікаўленасьці і ахвярнасьці сталася магчымым гэтае выданьне. Усім Вам асобнік альманаху будзе дасланы ў першую чаргу адразу ж пасьля выхаду з друку.*

*Далейшы выхад літаратурнага альманаху ў сьвет будзе абумоўленамі двума  чыньнікамі: прысутнасьцю ў замежжы беларускіх літаратараў, што хацелі б надрукаваць свае творы ў гэтым выданьні, а таксама зацікаўленасьцю і падтрымкаю чытачоў. Мяркуючы па той зацікаўленасьці, якую меў гэты нумар "Беларуса", ёсьць надзея на тое, што ў наступным годзе альманах выйдзе ня меншым накладам, чым сёлета.*

***Марат КЛАКОЦКІ***

-------------------------

Набыць сёлетні выпуск альманаху “**БЕЛАРУС**”, а таксама нумары за папярэднія гады (2007–2010), можна наведаўшы старонку ў Інтэрнэце: **www.e-krama.com**
Аплата можна зрабіць крэдытнымі карткамі.
Дасылка па ўсім сьвеце.

Свае пытаньні, заўвагі ці прапановы адносна выданьня альманаху “**БЕЛАРУС**” ці яго распаўсюду дасылайце на наступны электронны адрас: **zamova@e-krama.com**

Допісы таксама можна слаць на паштовы адрас:
**BIELARUS**
**P. O. Box 3225**
**Farmingdale, NY 11735**
**USA**

-------------------------



**БАРАВЫ Лявон** — нарадзіўся ў 1928 годзе ў Беларусі. У Амэрыцы жыве з 1950 году.

# ВЕРШЫ

## Сустрэча

Ты прыйшла у мой сьвет нечакана,
Распаліла у сэрцы пажар,
Абудзіла сьветлыя мары
І ачысьціла неба ад хмар.

Голас твой нібы рэха
Чую я уначы і удзень.
Ты ласкала душу маю сьмехам,
Ты заўсёды са мной, нібы цень.

На пагляд вачэй тваіх мілых
Я здаюся бясьсільна ў палон.
Сэрца б'ецца ў грудзях з усёй сілы,
Я даю табе нізкі паклон.

Вобраз той і той вечар
Буду ў сэрцы я вечна насіць.
Нашай хуткай сустрэчы
Буду ў малітвах прасіць.

Ты прыйшла у мой сьвет нечакана,
Распаліла у сэрцы пажар,
Абудзіла сьветлыя мары
І ачысьціла неба ад хмар.

*09. 05. 10*

## Летні вечар

Ціхі летні вечар
На зямлю зыйшоў,
Я ў начной сінечы
Супакой знайшоў.

Думак цэлы шэраг,
Нібы тыя караблі
Плывуць ў далёкі бераг
Беларускае зямлі.

Там, дзе сіні Нёман,
Пушча Белавеж,
Дзе вясковы гоман
Дамоў мяне заве.

Ў полі жыта сьпее,
Васількі цьвітуць,
Чуцен голас жнеяў,
Песеньку пяюць.

Ціхі летні вечар
На зямлю зыйшоў,
Я ў начной сінечы
Супакой знайшоў.

*07. 11. 10*

## Гарачы дзень

Гарачы летні дзень.
Зямля пражыцца на сонцы,
Жывое цягнецца к вадзе,
А сонца пячэ бясконца.

Вянуць кветкі і кусты,
Прырода прахалоды просіць.
З дрэваў падаюць лісты,
Нібы гэта ўжо восень.

Кажуць, клімат зьмяняецца,
На поўначы лёд растае.
Вада ў акіянах цяплее,
Віной гэтаму ёсьць чалавек.

*08. 30. 10*

* * *

Не люблю я разьвітаньняў,
Гарачых сьлёз і плачу.
Не люблю я хмарных раньняў,
Ветру бураў, дзён гарачых.

* * *

Няхай жывуць нядоўга
Ўспаміны прошлых дзён.
Жыцьцё – цікавая дарога,
Мы ўсе рознымі ідзём.

Ў дарогах шмат ёсьць паваротаў,
Крывых і роўных сьцежак.
Жыцьцё – гэта радасьць і турботы,
Як мы жывём – ад нас залежа.

* * *

Сеў я за сталом
Верш кароткі напісаць.
Думкі напралом
З галавы пачалі ўцякаць.
Як я ні стараўся
Рытмы падбіраць,
Верш мой не вязаўся,
І стаў я музу праклінаць.

## Восень

Апошнія дні лета...
Птушыны сьпеў заціх.
Летняя песьня сьпета,
Цёплы край кліча іх.

Дрэвы скідаюць летні ўбор
Пад музыку ветраў асеньніх.
Холадам дыхае сонны прастор,
Доўгімі робяцца цені.
Заціхла страказа-сакатуха,
Схавалася дзесьці ў куток.
Хутка зіма – завіруха
Засьпявае песьню на іншы тон.

*09.12.10.*

## Каханьне

Ты ня ў сілах пазьбегчы каханьня,
Пакуль месяц глядзіць на зямлю.
Ты ня вернеш ўчарашняга раньня.
Каханьне зловіць цябе ў пятлю.
Каханьне – гэта моцная сіла –
Забярэ тваё сэрца ў палон.
Вызваліць можа толькі магіла.
Гэта ведаюць яна і ён.

*10.10.10.*

## Міхасю Кавылю на 95-ы год

“Міжагнёўе”[1] – шлях паэта,
Яго жыцьцё і яго творы.
Ён прайшоў амаль паўсьвета
Ды пазнаў людзкое гора.

Сягоньня першы дзень сьнежня,
Марозам закута зямля.
Усё пакрыта сьнегам сьвежым –
Сягоньня народзіны Міхася Кавыля.

Давайце ўздымем чаркі высока,
Прасьпяваем гучна яму “многа год”!
Няхай пачуе Пакрашаў[2] ў Беларусі далёкай
Ды ўвесь беларускі народ.

*12.01.10*

[1] “Міжагнёўе” – назва зборніка твораў паэта.
[2] Пакрашаў – назва вёскі на Случчыне, дзе нарадзіўся паэт.

## Вецер

Вецер танцуе ў чупрынах дрэваў,
Сьвішча свой дзікі напеў,
Гне дрэвы ўправа і ўлева,
Стогне і цяжка сапе.

Лісьце зрывае зь зялёных чупрынаў
Ды злосна кідае на дол.
Заціхні! Прашу, каб ты згінуў!
Усё трашчыць і гудзе навакол.





**ВАРАБЕЙ Ірына** — празаік, журналістка, майстрыха-дызайнер, фатограф. Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў з 2008 году. Сябра Канадыйскай Асацыяцыі Вышывальніц з 2005 г.

Нарадзілася ў 1959 годзе ў Менску. Ад 1999 году жыве ў Таронце (Канада).

Піша па-беларуску й па-ангельску, перакладае. Публікуецца ў “Дзеяслове”, “Нашай Ніве”, “Беларускім слове” (Канада), “Беларусе” (ЗША).

У 2005 годзе ў сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” выдадзена ейная кніга “Там, дзе сэрца маё”. У 2008 — у ейным перакладзе з ангельскай — раман К. Акулы “Заўтра ёсьць учора”.

У 2008 годзе заснавала мастацка-дызайнэрскі брэнд “Spirit of Belarus”.

З 2009-га — у якасьці майстрыхі-дызайнэра супрацоўнічае пад пэрсанальным брэндам “Spirit of Belarus” з часапісам “A Needle Pulling Thread” (Канада).

У 2011 годзе з брэндам “SoB” прынятая ў Гільдыю Канадыйскіх Дызайнэраў Вышыўкі.

У 2008 і 2009 гадах была пераможцай штогадовых фотаконкурсаў нацыянальнага часапіса “Canadian Geographic” (Канада).

Пэрсанальная старонка ў інтэрнэце: *www.iv.belaruscanada.com*

# ПЕРАКЛАДЫ

*Говард Норман*

## Адвечны вандроўнік, адвечны свавольнік

Першую гісторыю пра яго — “Мудрагель кажа праўду Чубатай Сойцы” — я пачуў позьняй вясной 1974 году ад індзейца народу Кры, якога звалі Альбэрт Сэндзі. Было гэта ля возера Фэмілі ў паўночнай Манітобе (Канада), у краі белых бяроз, ялін і сосен сярод азёраў і шматлікіх рэк. Альбэрту было, я думаю, гадоў пяцьдзясят пяць. Ягонай роднай была мова Кры, што належыць да групы моў Алгонкінг, на якіх гавораць скрозь ад прэрый правінцыі Альбэрта да берагоў Лабрадору. Байкі пра Мудрагеля расказваюць сярод народаў Алгонкінг стагодзьдзямі. Альберт называў яго Вісчагік, але ў іншых плямёнах Кры мне даводзілася чуць і Вісацэчак, і Вічыкапачы ды іншыя варыяцыі ў залежнасьці ад вымаўленьня. У сваёй кнізе я называю яго проста Мудрагель, бо гэтак найлепш яго ведаюць па-ангельску.

У тую вясну, калі я пазнаёміўся з Альбэртам, ён запрасіў мяне пагасьціць пару тыдняў да сябе і да ягонага кузэна Джона Рэйна.

Адной халоднай, імжэлай раніцай, калі мы вярталіся з рыбалкі, Альбэрт спыніў свой пікап на нейкай закінутай прасёлкавай дарозе, сказаўшы:

– Вып’ем кавы ды перакусім крыху.

Дастаў з кошыка бутэрброды, працягнуў нам. Джон раскрыў тэрмас з кавай. Альбэрт адкрыў бакавое вакно, і толькі ён зрабіў пару зацяжак цыгарэтай, як раптам, адкуль узялася, села на бакавое люстэрка птушка, якую клічуць тут чубатай сойкай (яшчэ яе называюць дваровай падбіралай, бо яна любіць сноўдацца вакол рыбацкіх ды паляўнічых намётаў, выпрошваючы ды цягаючы драбкі ежы). У той жа момант гэная сойка выдала такі пранізьлівы крык, нібыта нейкая іржавая помпа, за якім пацягнуўся і сьмешны, даволі паскудны канцэрт зь енкаў, ляманту, ікалак, ёкалак, шчокалак ды іншых дзіўных гукаў, падобных да ляскату зубцаў шчаўкунка. От, нахабная шкодзіна!

– Не давай ёй ні скарынкі! – папярэдзіў Альбэрт, і яны разам з Джонам зарагаталі. – Бо тады гэтая чубатая будзе цягацца за намі цэлы дзень!

Альбэрт націснуў гудок пікапа, і сойка адскочыла, але адно дзеля таго, каб адразу ўладкавацца на капоце. Альбэрт пацягнуў глыток кавы ды паволі сказаў:

– Чубатая Сойка ўвесь час скардзілася – от, скардлівая птушка!

Тады адразу выдаў гісторыю, у якой Мудрагель намагаўся навучыць упартую Чубатую Сойку, як ёй зрабіцца лепшай у гэтым сьвеце. Гісторыя цягнулася хвілін дзесяць. Аднак, дзякуючы свайму праставатаму гумару ды дыялёгам жывёлін (пры гэтым Альбэрт шыкоўна падрабляў голас Чубатай Сойкі), гісторыя гэтая спарадзіла адчуваньне бясконцасьці. І хаця гэта было маё першае знаёмства з Мудрагелем ды Чубатай Сойкай, але адчуваньне было, нібыта я сустрэўся са старымі сябрамі. Мне не хацелася пакідаць іхны сьвет. Але, на жаль, Альбэрт скончыў яе, сказаўшы:

– Ну, вось гэтак яно было.

Джон проста кіўнуў галавой і скончыў свой бутэрброд. Альбэрт урэшце завёў матор, чубатая сойка зьляцела зь пікапа, і мы накіраваліся далей па дарозе.

Наступным днём я наважыўся спытацца Альбэрта, ці не расказаў бы ён мне гэтае байкі яшчэ раз.

– Ну, чаму б не, – адказаў Альбэрт. – Але я магу ўзгадаць нешта яшчэ, што там было, і дабавіць у аповед.

І вось кожны з наступных дзесяці дзён мы з Альбэртам правялі седзячы разам ці ў намёце, ці побач зь ім. Я раскрыў мой сшытак, Альбэрт высыпаў коўш цукру ў сваю чорную каву.

– Дык вось, гэта пра Чубатую Сойку,.. – пачынаў ён.

Або:

– Гуляў неяк Вісчагік па лесе...

Або:

– Чубатая Сойка надта скардзілася на сваё пер’е...

...і мы працягвалі справу.

Па праўдзе сказаць, тэмп нашае працы выглядаў звонку нібы ў запаволеным руху. Альбэрт вырашыў, што, пакуль мы тут сядзім разам, ён можа

даць мне заадно пару лекцыяў па мове і выявіўся невымерна цярплівым да маіх ашаламляльна ўбогіх ведаў слоўніка кры. Спачатку ён расказваў гісторыю на сваёй роднай мове, тады патрабаваў, каб я паўтарыў некаторыя фразы, пры гэтым увесь час падтруньваючы над маім каравым вымаўленьнем, і толькі тады казаў:

– Ну, цяпер запісвай як мага лепей, – і расказваў мне тую ж байку па-ангельску, ужываючы некаторыя словы з кры ды з францускай. З самага пачатку ён бачыў, што мае здольнасьці да мовы кры былі сьмехатворныя. І тым ня менш, мы ўпарта прытрымліваліся ўсталяванай Альбэртам праграмы. Мы паўтаралі гісторыю зноў і зноў, роўна як выхавацелька дзіцячага садка навучала пяцігадовых дзетак чытаць: “Вось ідзе Джэйн. Вось ідзе Том”.

Урэшце рэшт, я запісаў пяць вэрсіяў байкі пра тое, як Мудрагель казаў Чубатай Сойцы праўду.

Памятаю, Альбэрт расказваў мне:

– Калі я быў малым, я звычайна чуў гісторыі пра Вісчагіка ўзімку. Пасьля вячэры, бач? Ішоў па крузе барабан... а тады – байкі. І Вісчагік зьяўляўся ў хаце. Проста прыходзіў да нас.

У той ці іншай форме вобраз Мудрагеля разьвіўся ў кожным рэгіёне, дзе жывуць першасныя плямёны, няхай гэта сярод абарыгенаў Аўстраліі ці ў нетрах сыбірскае тундры, або сярод індзейцаў ракі Арынока ў Вэнэсуэле. Па ўсёй Паўночнай Амэрыцы найбольш папулярнымі Мудрагелямі выступаюць Крумкач ды Каёт, але ім могуць быць яшчэ і норка, павук, блакітныя сойкі ды шырокае кола іншых жывёл-мудрагеляў. Вісчагік – найбольш ачалавечаная катэгорыя, але ў алгонкінскай вуснай народнай творчасьці вы ня знойдзеце дакладнага апісаньня ягонай зьнешнасьці. Што вы знойдзеце, дык гэта абсалютова дакладнае апісаньне таго, кім ён можа перарабляцца, няхай чалавекам, няхай жывёлай. Але зьмены формаў – гэта, баюся, адзінае, чым Мудрагель нас забаўляе. Як пісалі Рычард Эрдас ды Альфонса Ортыз у сваёй выдатнай кнізе “Байкі амэрыкана-індзейскага Мудрагеля”: “Гэта Мудрагель запальвае першую іскру ў ланцугу падзей – вечна прагны да дабаўкі ды выгнаны з чужой кухні, вечна гатовы зацягнуць чужую жонку ў ложак, вечна ласы атрымаць нешта надурніцу, але, злоўлены на месцы, ніколі не раскайваецца”.

Ва ўсіх і кожнай байцы Мудрагель выяўляецца першым штукаром на ўсякія пракуды, карыстаючыся ўсімі спадручнымі сродкамі – цікаўнасьцю ці хітрасьцю, сьмеласьцю ці баязьлівасьцю, сквапнасьцю ці юрлівасьцю, досьціпам ці пыхай – усё, каб перавярнуць сьвет дагары нагамі, потырч галавою. І чалавеку, і жывёлам даводзіцца прыцягнуць на паверку кожную унцыю свайго ўмельства, задзейнічаць кожную цалю сваёй кемлівасьці ды мудрасьці, каб супрацьстаяць яму.

Гэткім быў старажытны шлях абмену байкамі пра Мудрагеля. Але і ў нашыя часы яны ніколі не бываюць нуднымі. У іх можа быць шмат спрэчак, выхваленьняў ды абразаў. Можа нехта памерці, а нехта – ажаніцца. Усякае можа здарыцца, насамрэч. Але адное будзе пастаянным: калі Мудрагель недзе побач, заўсёды застаецца небясьпека, што ўсё пойдзе шыварат-навыварат. Мудрагель можа задаць цэлую жменю праблем або ўперці адну вялікую калатню ў вёску. І гэтак жа, як раптоўны парыў навальнічных хмараў або таўкатня камарынага воблака ля вашага вуха, альбо якая іншая за-

сада Прыроды, Мудрагель патарабуе вашае неадкладнае ўвагі – ён любіць быць у гушчы падзей. Кловун, злодзей, чарадзей, палюбоўнік, лекар, хлус, баюн – у Мудрагеля даволі шмат мітычных пакліканьняў. То абаяльны, то страшэнна эгаістычны, Мудрагель быў – і заўсёды будзе – поўным супярэчнасьцяў.

Час ад часу Мудрагель можа паспрабаваць жыцьцё альбо чалавека, альбо крумкача, альбо мядзьведзя, ён можа нават гадаваць дзяцей, але ўрэшце рэшт абернецца назад Мудрагелем. Бы чароўны пустэльнік, ён прызначаны жыць па-за цывілізацыяй, бо канчатковы ягоны лёс – гэта быць адвечным вандроўнікам. Адвечным свавольнікам. Гэтак адбываецца ўжо сотні гадоў, і гэтаму ня бачна канца! Мы мусім быць удзячнымі гэтаму, бо пакуль Мудрагель блукае па Поўначы, за ім сьледам ходзяць і байкі. “Мы расказваем пра Мудрагеля, – заўважыў аднойчы Альбэрт, – таму, што ён увесь час недзе побач”.

Я працаваў яшчэ з чатырма індзейцамі Кры, чые байкі меў ласку ўлучыць у гэтую кнігу, даволі на той жа спосаб, як і з Альбэртам...

Я меў гонар быць сьведкам незьлічонай колькасьці расповедаў пра Мудрагеля па ўсёй Поўначы. Мае сшыткі поўныя фрагмэнтаў, як і цэльных гісторыяў. Я захапляюся і шмат чаму навучаюся з выдатных дасьледаваньняў вуснай творчасьці Алгонкінг. У Канадыйскім музэі цывілізацыі вам прапануюць, напрыклад, цэлую калекцыю перакладных баек аб Мудрагелі ды шмат этнаграфічных, лінгвістычных, гістарычных матэрыялаў па вуснай народнай творчасьці народаў Кры.

Вядома, існуе шмат спрэчак па пытаньнях перакладу з адной мовы на іншую, не гаворачы ўжо пра пераклад з вуснай мовы на пісьмовую. Наколькі аўтэнтычным ён можа быць? Наколькі дакладна могуць быць “перанесеныя” арыгінальнасьць паглядаў, гукаў, смаку ды водару жывой мовы старадаўніх народных казаньняў? Адказу на гэтыя істотныя пытаньні ў мяне няма. Што тычыцца майго сьціплага ўдзелу ў прэзэнтацыі кнігі “Мудрагель і непрытомныя птушкі” дзеля англамоўнай аўдыторыі, я намагаўся пабудаваць мову аповеду так, каб яна паклікала і вуснае, і пісьмовае слова. Гэтая мая мадэль арыентавалася не на лінгвістычную ці этнаграфічную тэорыю, але на аддрукаваную на ксераксе калекцыю “Гісторыяў, расказаных дзядулямі”, якую мне падарыў падлетак адной індзейскай суполкі з Саскачэвану. Для мяне гэты самавыданы буклет, сшыты стужачкамі, з усімі ягонымі артаграфічнымі памылкамі ды іншай неафіцыяльшчынай, – сапраўдны прыклад духу трываласьці літаратуры Кры. Кожная кароткая байка (а некаторыя зь іх былі анэкдотамі толькі з двух сказаў) літаральна выскоквала са старонак! Запісы (пэўна, гэта былі пераклады; там не было пазначана) былі самаадвольныя, але прытым дасканалыя, і менавіта таму буклет зрабіўся крыніцай майго натхненьня пад час працы над кнігай “Мудрагель і непрытомныя птушкі”.

Цешу найбольшую надзею, што вы знойдзеце ў Мудрагелі добрага спадарожніка ў вашых вандроўках, што ягоныя дзівацкія выхадкі будуць падсілкоўваць вашую фантазію й прымушаць вас рагатаць ад душы. Яшчэ спадзяюся, што гэты зборнік зробіцца вашай спадручнай валізкай, зьмесьціва каторай будзе для вас нечаканым штораз, як вы яе адчыніце. Чаму? Таму што Мудрагель – гэта сьвята жыцьця.

Адылі, памятайце, што Мудрагель захоўваўся самотным празь вельмі, вельмі, вельмі доўгі час. Так што па прыкладу герояў гэтага зборніка – калі Мудрагель раўкне вам: “Шкыньдзёхай адсюль!”, то ... запрасіце яго да сябе ў госьці.

## Мудрагель ды рукавы з бразготкамі

Камусьці шчасьціць на рыбу,
камусьці – не.
А вёска з назвай Выдрына Возера мела шчасьце надзвычайнае.
Рыбы было процьма:
рыба была ў супе,
рыба вісела сушаная на кратках,
рыба смажылася на агні.
Прыемны пах вэнджанай рыбы расплываўся за вёскай па лесе,
дзе яго й злавіў Мудрагель ды раптам адчуў, які ён галодны.

“Я адно завітаю ў вёску ды пад’ем крыху”, –
падумаў сабе Мудрагель і пайшоў да вёскі.
– Ці ня знойдзецца ў вас і для мяне крыху рыбы? –
запытаўся ён там.
І тут жа найстарэйшая кабета ў вёсцы
прынесла Мудрагелю вялізную фарэліну.
Мудрагель пад’еў.
– Ты можаш заставацца тут да ночы, –
сказала кабета. – А тады – сыходзь.

Калі сьцямнела, Мудрагель выправіўся зь вёскі,
але не пайшоў, а схаваўся ў лесе.
Дачакаўшыся, пакуль усе заснуць,
ён пракраўся назад
і паеў усю, якая ёсьць, рыбу.

Ён пазрываў яе з кратак для вэнджаньня.
Ён падняў гаршчок з супам, перакуліў яго ў рот,
і выхлябтаў да самага дна.
Ён зьеў усю да апошняй рыбу.

Толькі ён сабраўся пакінуць вёску,
як тут выходзіць са сваёй хаты найстарэйшая кабета:
– У якім накірунку зьбіраесься пайсьці, Вялікі Брат?

– На ўсход, – адказаў Мудрагель.

– Ну, тады шчасьлівай дарогі! – сказала старая.

Яна сабрала рыбіныя галовы, хвасты, шкілеты,
уселася пасярод вёскі
ды давай шыць зь іх сьвітку.
– Так, шчасьлівай дарогі!
Але мой крумкач-вястун паведаміў мне, што там,
на ўсходзе,
нешта страшэннае робіцца.

Мой крумкач кажа, там пяскі варушацца, гойдаюцца
ды могуць зацягнуць і засмактаць у сябе, як у балота –
гэта ўсё там, на ўсходзе.
Шмат людзей ужо засмактала там.
Шмат каму абдрапала пяткі пяском.
Шмат людзей прапала ў той бруднай багне.
Пэўна, там прайшлі страшэнныя дажджы.

– Ды ты проста злуесься, што я паеў усю рыбу, – сказаў Мудрагель. –
І хочаш напалохаць мяне.

– Ну што ж, мой крумкач ніколі ня хлусіць, –
старая зноў занялася сваёй рыбінай сьвіткай.

А Мудрагель накіраваўся на ўсход.
Неба было чыстым, блакітным –
і раптам яго апанавалі чорныя хмары.
Тут Мудрагель і кажа:
– Нешта я чуюся, нібы я ніжэйшы.

Аж ён быў па самую шыю засмоктаны ў дрыгво!

Прыляцеў крумкач-вястун і закаркаў зьверху:
– Крррахxx! Ну, што, Вялікі Брат, дапамагчы табе?

– Сорам мне, каб мне дапамагала нейкая варона! –
адказаў Мудрагель. – Ты ж будзеш усюды хваліцца потым!

Крумкач узяў ды выцягнуў Мудрагеля за карак.
Абцякаючы брудам, той вярнуўся да Выдрынага Возера.

– Цяжка мне давялося, – сказаў ён старой. –
Мяне ратавала варона!
Як я стаміўся! Хачу есьці!
Дай мне рыбы!

Старая працягнула яму рыбін хвост ды крыху касьцей:
– Вось усё, што ты нам пакінуў.

Тым часам у старой быў ужо гатовы рукаў
сьвіткі-з-рыбных-костак-ды-галоў.
Мудрагель сабраўся ісьці.

– Куды цяпер накіраваўся, Вялікі Брат?

– На захад.

– На захад! – кажа старая. –
Мой крумкач расказвае, што там увесь рот забівае попелам усім –
людзям, жывёлам – там, на захадзе.
Страшэнныя пажары там. Няма чым дыхаць, адзін попел.
Але шчасьлівай дарогі, Вялікі Брат!

– Ну, адна твая пужалка аказалася праўдай. Але двойчы так не бывае!
І Мудрагель выправіўся на захад.

Ён ішоў пад чыстым, ясным небам.
Ніякага ветру, нават слабенькага.
Але вось ён пераходзіў ручай
і ўбачыў попел у вадзе.

Бачыць, ажно вакол – сухая зямля.
У паветры кружыцца попел;
агонь тут і там –
выглядала так, нібы тут
прайшоў лясны пажар.
Чуе, кхеркае ліса.
Чуе, кхеркае бабёр.
Чуе, кхеркае чапля.
Чуе – ён сам ужо кхеркае!
Ён задыхаўся попелам.
Попел лез у горла, вушы, нос, вочы,
аж пакуль ён не закрычаў:
– Я задыхаюся! Нічога ня бачу! Нічога ня чую!

Тут прыляцеў крумкач, сеў ля Мудрагеля дый крычыць:
– Вялікі Брат, давай дапамагу!
Крумкач павыскрабаў попел Мудрагелю з вушэй.
– Цікавае месца, – кажа крумкач. –
Попел, кхерканьне, дым...
Даволі вусьцішна ўжо пасьля таго, як агонь прайшоў.
Я бачу, табе тут недабрыцца, Вялікі Брат.
Задыхаесься попелам.

Вось ліса кхеркае, але ж не задыхаецца.
Бабёр кхеркае – а не задыхаецца.
Чапля кхеркае – а не задыхаецца.
Але цябе праняло аж да сьмерці.
Давай-ка я табе дапамагу.

Крумкач набраў вады ў дарожную торбу,
выліў на Мудрагеля
й змыў зь яго попел.
Зноў напоўніў торбу
ды даў яму піць, піць, піць.
Мудрагель выпіў пяць торбаў вады.

– Мяркую, ты будзеш выхваляцца, што ратаваў мне жыцьцё, –
сказаў Мудрагель. – Людзі пачнуць зваць мяне
“Двойчы-Ратаваны-Нейкай-Варонай”.

І Мудрагель вярнуўся да Выдрынага Возера.
Старая тым часам закончыла сьпіну ў сьвітцы.
– Добрага вяртаньня, Вялікі Брат! – кажа яна.
– Ты пэўна ўжо хочаш есьці.
Мудрагель адкусіў кавалак ад рукава:
– Вось які я галодны!

– На шчасьце, вецер прынёс крыху попелу з захаду,
– кажа старая, –дык я зрабіла табе попелавага булёну.
Можа, яшчэ дабавіць крыху рыбінай лускі?
Гэта ўсё, што мы тут маем есьці,
пакуль вяскоўцы змогуць зноў налавіць рыбы.

Мудрагель выправіўся ў дарогу.
– Бачу, ты зьбіраесься на поўнач, – кажа старая.

– Дакладна, – адказаў Мудрагель.

– Ну, шчасьлівай дарогі! Шчасьліва, шчасьліва, – кажа старая. –
Бо тут мой крумкач казаў мне, што з поўначы, недалёка ўжо,
ідзе страшэнны аблівень.
Мой крумкач кажа, што калі там трапляецца вандроўнік,
аблівень проста кідаецца на яго.
Немагчыма нават вочы расплюшчыць.
Ён шпурляе мокрым сьнегам вандроўніку ў твар ды рукі,
што немагчыма яго пераадолець.

– Першая твая пужалка аказалася праўдай, – сказаў Мудрагель. –
І другая аказалася праўдай.
Але цяпер ты брэшаш!
І твой крумкач-вястун таксама брэша!

І пайшоў на поўнач.

Цудоўнае, чыстае неба.
Добрая дарога... і раптам – кепская дарога.
Цішыня аж зьвініць: “ззззз...”
– Аблівень яшчэ далёка, – думае Мудрагель,
і раптам, як з засады, яму ў вочы як шпурне сьнегам!

Умомант!
Той самы аблівень!
Марозны вецер са сьнегам закусаў Мудрагелю твар ды рукі.
– Не! Спыніся! – закрычаў Мудрагель.
Але ягоны голас патануў у сьвісьце завірухі.
– Гэны аблівень – мая пагібель! – заплакаў Мудрагель.

І тут яму на плячо ўсеўся крумкач.
Калі нечый голас можа пераадолець выцьцё завірухі,
дык гэта – крумкачовы.
Крумкач утыкнуў дзюбу Мудрагелю ў вуха:
– Гэй, кррахххх, Вялікі Брат, давай дапамагу!
Гэта самы жахлівы аблівень, які я толькі бачыў.
Давай дапамагу!

Крумкач падняў Мудрагеля вышэй за буран,
прывалок яго назад у вёску ды скінуў побач са старой.
А яна тым часам скончыла другі рукаў у рыбінай сьвітцы.

– Добрага вяртаньня, Вялікі Брат!
Сядай тут, ля вогнішча.
Патры над ім рукі. Пагрэйся.
Уладкоўвайся выгодна.
Хутка й вочы зможаш расплюшчыць.

Мудрагель з распухлымі вачыма ўсеўся ля вогнішча.
Ён чуў, як старая шыла сьвітку.
Чуў, як бразгаталі рыбіны косткі адна аб адну.
Але праз цэлую ноч так і ня змог
расплюшчыць зьмерзлых вачэй.

На досьвітку прачнуліся вяскоўцы.
Старая кажа ім:
– Мудрагель зьеў усю нашую рыбу!
Тыя адразу пайшлі на рыбалку.
Камусьці пашчасьціла, камусьці – не.

Мудрагель усё яшчэ ня мог расплюшчыць вочы.
Але ён чуў пах рыбы, што вэндзілася на кратках.

Ён чуў пах юшкі.
Ён чуў пах смажанай рыбы.

Урэшце рэшт, старая накінула на Мудрагеля
Сьвітку-з-рыбіных-костак-ды-галоў.
– Ну вось, Вялікі Брат, калі ласка, прымі наш падарунак.
Насі яго, не зьнімаючы. Ён дапаможа табе памятаць нашую вёску!

Мудрагель падняўся.
Цяпер ён змог расплюшчыць вочы.

І тут раптам збрасьнелыя рыбіны галовы пачалі клацаць сківіцамі!
З кожным крокам, што рабіў Мудрагель,
ягоныя рукавы дзіка клацалі – клац, клац, клац, клац!
Ён паспрабаваў выкруціцца з гэтай сьвіткі,
але так і ня змог ад яе пазбавіцца.
Клац, клац, клац, клац, клац!

– Як толькі ты дойдзеш да першае вялікае ракі ў паўднёвым накірунку, – сказала яму старая, – ты зможаш зьняць сваю сьвітку.

Яна падала Мудрагелю дарожную торбу,
поўную толькі што злоўленай рыбы.

– Шчасьлівай табе дарогі! – сказала старая,
і вяскоўцы выпхнулі Мудрагеля са двара.

Мудрагель пайшоў.
Неба было чыстым –
а зь ягоных пятак адкалупваліся кавалкі старой гразі.
Стаяла пагода –
а ён выграбаў з валасоў кавалкі попелу.
Надвор’е было раскошным –
а ён расьціраў свае навярэджаныя вочы.
І пры гэтым – клац, клац, клац, клац, клац!
Гэныя рукавы не змаўкалі праз усю дарогу да ракі!

Мудрагель скінуў сьвітку ды перайшоў раку.
Калі ён завярнуўся паглядзець назад,
то ўбачыў крумкача-вестуна – шмат варон, насамрэч, –
усе яны сядзелі на сьвітцы.

Вецер данёс да Мудрагеля абрыўкі іхняе размовы:
– Паглядзі, там за ракой той самы,
каго мы клічам Вялікім Братам! – кажа адна варона.

– А я клічу яго – Тройчы-Ратаваны-Варонай, – сказаў крумкач-вястун.

# Мудрагель кажа Чубатай Сойцы праўду

Чубатая Сойка ўвесь час скардзілася – от, скардлівая птушка!
Пырхае з дрэва на дрэва, скача туды-сюды па зямлі
і скардзіцца, і скардзіцца сваім пранізьлівым голасам.
Узімку яна скагатала: “Як тут холадна!”
Улетку яна лямантавала: “Як тут горача!”

Аднойчы, недзе паміж зімой і летам,
Мудрагель разьбіў свой лягер ля аднаго падталага балота.
Лёд быў ужо вельмі крохкім.
Зусім хутка мусілі прыляцець з выраю птушкі.

Не пасьпеў Мудрагель разьвесьці агонь,
як побач на купіне ўладкавалася Чубатая Сойка.
– У мяне такое гора, – загаманіла Чубатая Сойка. –
Што гэта за хвост у мяне – ён жа такі кароткі!
Што гэта за крылы ў мяне – яны ж такія маленькія!
Ніхто ніколі мне ня скажа:
“Гэй, Чубатая Сойка, ты такая прыгожая!..
Гэй, гэй, Чубатая Сойка, хадзі сюды, давай пажэнімся!”
А галава ў мяне такая завялікая для майго цела. Бяда, бяда...

– Чубатая Сойка, ты змоўчыш калі-небудзь? – крыкнуў Мудрагель. –
Я ўжо наслухаўся, якая ты няшчасная.
І ведаеш, што я аб гэтым думаю?
Я думаю: мне няма справы!
Бывай!

Мудрагель загасіў агонь ды падняўся йсьці далей.
Ён хацеў абыйсьці балота,
паглядзець, як крышыцца лёд,
як ляцяць з выраю птушкі.

– Ты што, зьбіраесься сыйсьці? – закрычала Чубатая Сойка –
Я ж яшчэ ня скончыла!
Паслухай, гэта ж жах, як я лётаю!
А што гэта за голас у мяне!
А што за пер’е! Жах, жах...

Мудрагель спыніў шлях, завярнуўся:
– Чубатая Сойка, а чаму б табе не пазычыць пер’я?
Хутка наляціць тут птушак з выраю.
Хутка яны зьбяруцца на вялікую бяседу.
Ідзі да іх на бяседу. Папрасі ў іх пер’я.

І Чубатая Сойка паляцела ў лес, каб абмазгаваць гэтую думку.

Прайшлі дні.
Шмат дзён.
Яшчэ прайшлі дні.
Мудрагель ішоў, ішоў ды йшоў.
Ён ішоў дакладна кругом балота.
Калі ён прыйшоў на тое ж месца, дзе разьбіваў лягер,
ужо было лета.
У небе над балотам  лётала процьма птушак.

Тут прыляцела Чубатая Сойка, села Мудрагелю ля ног.
– Час для вялікай птушынай бяседы, –
сказаў Мудрагель. – Ну, як,
ты зьбіраесься пазычыць пер’я?

Раней Чубатая Сойка саромелася іншых птушак.
Яна была занадта баязьлівай – заўсёды хавалася.
І зараз яна давай вываліваць на Мудрагеля ўсе свае трывогі:
– А раптам яны будуць кпіць з маёй дзюбы?
А раптам засьмяюць мае крылы?
Мае пёркі на хвасьце?
Як я лётаю?
Ой, яны ж будуць зьдзеквацца з майго галасу!

– Зрабі ўжо ласку, ідзі ты папрасі сабе пер’я, – раўкнуў Мудрагель.
Хапіў яе ў жменю ды шпурнуў у паветра.

Чубатая Сойка адляцела
ды плюхнулася наўпрост пасярод птушынага натоўпу.

І адразу наляцела на чырка:
– Ой, ці не пазычылі б вы мне пару пёрак для хваста?
– Так, так, так, – чырок пацягнуўся назад, выскубнуў крыху пер’я
ды працягнуў яго Чубатай Сойцы.
Тая ўтыкнула іх сабе ў задок.

Цяпер ужо харобрая Сойка падыйшла да куліка:
– А ці не пазычыў бы ты мне пер’я для крылаў?
– Чаму ж не, – адказаў кулік.
Ён расправіў крыло,
і Чубатая Сойка вышчыпнула колькі пёрак
ды ўтыркнула іх сабе ў крыло.

– Гэй, гэй, ці не пазычыш ты мне пер’я са сваёй шыі? –
крыкнула Чубатая Сойка гусі. – У цябе іх і так шмат.
Мне трэба ўсяго пяць ці шэсьць  на маю шыйку.
Гусь выцерабіла цэлы пук з сваёй шыі

ды працягнула Чубатай Сойцы.
Тая ўтыкнула гусінае пер'е сабе.
І пайшла Чубатая Сойка пазычаць тое пер'е, як шалёная.

Дык вось, сабраліся ўсе птушкі на птушыную бяседу.
Як жа яны зьдзівіліся,
калі Чубатая Сойка вышпацыравала ў круг.
– О, якая ж ты прыбраная! – сказаў журавель.
– Ты ж заўсёды пазьбягала нас раней, – зьдзівілася чапля.
А Чубатая Сойка, глядзі, выхажвае сабе гогалем,
прычэсвае сабе пёркі, выхваляецца строем.
– Я такая гладзенькая, – кажа Чубатая Сойка. –
Такая прыгожанькая.
Паглядзіце, якая я! Паглядзіце! Паглядзіце!
І так яна ўяўляла сабе, што здабыла сабе файную фігуру.

Але. Бяседа мелася ўжо пачацца.
А Мудрагеля там не было.
Гэта была чыста птушыная зборка.
Бо там перадавалася шмат сакрэтаў,
і ніхто, акрамя птушак, ня мог іх чуць.
Гэтак было заўсёды.
Людзі могуць глядзець адно здалёк.
Лосі, ваўкі, мядзьведзі, рысі, зайцы,
жабы, чарапахі, мышы, расамахі, норкі –
усе могуць глядзець адно здалёк.
Адныя летнія птушкі бяруць удзел у гэтай бяседзе.

– Гэй, давайце ўжо пачынаць! – закрычала Чубатая Сойка.
Я ж ужо тут, пачынайце!
Дайце ж мне пачуць усе кулікoвы сакрэты.
Дайце мне пачуць усе жураўлёвы сакрэты.
Давайце пагамонім пра гусіныя сакрэты.
Давайце, давайце, выдавайце свае сакрэты!
І як яшчэ наконт чапліных ды качыных сакрэтаў?

Але калі бяседа пачалася,
Чубатая Сойка нават ня ведала, што рабіць.

Раптам птушкі са сполахам узьняліся на крыло
ды рушылі на поўнач, тады рэзка завярнулі назад.
Іншыя пакружылі над балотам высока ў небе,
Тады нырнулі глыбока ў ваду, потым панесьліся па вадзе.
Адусюль да Чубатай Сойкі даносіліся
крык, гогат, енкі, галашэньне.

Птушкі насіліся ўдоўж ды ўпоперак,
з поўдня на поўнач, з усходу на захад.

Поўная мітусьня!
А сакрэты паразьляталіся туды-сюды,
Але Чубатая Сойка не злавіла ніводнага.
І ніхто і не пагаманіў зь ёю.
І яна цалкам была зьбянтэжаная.

А тут і бяседа скончылася.
Птушкі ўзялі ды паляцелі да дальняга балота.
І засталася Чубатая Сойка сама.

Тут выходзіць з трысьнёгу Мудрагель:
– Ці не наладзіць нам бяседу на дваіх?
Як ты здабыла новы хвост, шыйку, крылы,
Давай паглядзім, як ты паляціш!

Чубатая Сойка сабралася зь сіламі,
узьнялася ды паляцела.
Але нешта з палётам не задалося,
І яна кульнулася на галіну дрэва.
Паваліліся. Галава кругам.

– Ой, якая я няшчасная! – пачала яна скардзіцца.
– А ты паспрабуй павыкідаць усе свае пазычаныя пёры, –
кажа Мудрагель. –
Праўда ў тым, што ты выглядаеш проста сьмешна зь імі.
Праўда ў тым, што ўсе астатнія птушкі наогул цябе ня любяць.

Чубатая Сойка адно за адным пачала зрываць пер’е,
Кожнае пёрка зь енкам: “Ой! ...Ой! ...Ой!”,
аж пакуль яны ўсе да аднаго не зьляцелі па ветры.
А тады Чубатая Сойка паляцела ў лес.
Але і там яна працягвала выдурняцца сярод дрэваў!
“Ой, як мне балюча! Ой, кружыцца ў галаве!
Ой, не магу падняцца!
Я стукнулася аб дрэва!
Ну што за дзень такі!”

– Спыніся лётаць на час, – крыкнуў ёй Мудрагель. –
Ты ж заб’есься! Зараз я падумаю, як табе дапамагчы.
Пасядзі крыху ціха.

Чубатая Сойка праседзела ў задуменьні некалькі дзён.
Тады Мудрагель знайшоў яе ды кажа:
– Чубатая Сойка, дурная ты птушка!
Я ведаю, у чым твая бяда.
Гэта таму, што ты – самотная.
Толькі страшэнна самотныя птушкі могуць рабіць тое,
што робіш ты – калаціцца галавой аб дрэвы.

Ведаеш што:
Я скажу людзям, што жывуць тут побач,
каб яны запрасілі цябе да свайго жытла.
Яны дазволяць табе падбіраць драбнінкі.
Яны нават могуць запрасіць цябе папляткарыць.
Але май на ўвазе: яны будуць кідацца камянямі ці сьнегам,
Калі ты будзеш зашмат скардзіцца за раз!

Чубатая Сойка ўзьляцела ў неба.
– О, я бачу, ты зноў файна лётаеш, – сказаў Мудрагель. –
Ну, як, галава ня кружыцца?

– Гэтыя птушкі з выраю – такія сьвінтухі! – кажа Чубатая Сойка. –
Цяпер у мяне ёсьць сакрэт, які я нізашто ім не скажу,
як бы яны ні прасіліся!
А некаторыя зь іх так сьмярдзелі!
Здаецца, зьбіраецца навальніца?
Чаму я мушу мокнуць пад дажджом?
Я не люблю быць мокрай!

Мудрагель больш ня вытрымаў.
Ён схапіў Чубатую Сойку ды занёс яе ў суседнюю вёску.
– Шчасьліва! – сказаў ён Чубатай Сойцы.
– Шчасьліва! – сказаў ён вяскоўцам.

І Мудрагель пабег да балота
паназіраць на суклоньні, як лунаюць у небе птушкі.

Вось так гэта было:
як Мудрагель дапамог Чубатай Сойцы.
Да самае гэтае пары Чубатая Сойка лётае крыва,
ейнае пер’е ўскудлачанае,
яна не бывае там, дзе іншыя птушкі.
Але яе заўсёды можна знайсьці побач з чалавечым жытлом,
асабліва, калі там ядуць.
Чубатая Сойка прыляціць за драбнінкамі,
тут падзяўбе хрусткае, там схопіць кавалак тлустага.
Ды адляціць.
Седзячы на дрэве ці страсе жытла, яна будзе скардзіцца:
– Гэй, і гэта ўсё, што вы мне пакінулі?
А можа, яшчэ крыху?
Я ж тут. Я тут. Я тут.
Гэй, чуеце вы,
я з вамі размаўляю!

# Мудрагель ды “танец заплюшчаных вачэй”

Мудрагель зь Лісам сядзелі прыгнуўшыся
ў трысьнягу на краі балота.
Яны сачылі за качкамі.
Яны сачылі за качкамі ўжо цэлую раніцу.

— Ты памятаеш, Ліс? — кажа Мудрагель. —
Набярыся цярпеньня і чакай.

І тут Ліс як скочыць з трысьнягу!
Качкі як паразьлятаюцца!

— З гэнымі качкамі табе ня зладзіць! — кажа Мудрагель. —
Мінулы раз ты ня ўправіўся з гусямі.
Перад тым — з качарамі.
Ня зловіш ты вадзяных птушак такімі падскокамі.
Трэба прыдумаць нешта іншае.

Калі качкі прываднiліся далёка ля другога берага,
зь імі быў ужо вялікі Гусак Лун.

А Мудрагель зь Лісам, галодныя, цягаліся ўжо цэлую раніцу
па трысьнягу, намагаючыся падкрасьціся да качак.

Але папоўдні, калі качкі ляніва плавалі на сонцы,
адныя спалі,
другія прыхарошваліся,
тыя гаманілі,
Мудрагель зь Лісам падабраліся бліжэй.

— Гэны Гусак ахоўвае качак, — кажа Мудрагель.
Бачыш, Ліс, зараз ветру зусім няма.
Таму, што б ты ні рабіў,
рабі так, каб трысьнёг не варушыўся.
Бо качкі зноў узьнімуцца ды зьляцяць прэч.

І тут Лісу ў пысу ўпіўся камар,
і той — ляп! — сабе па пысе лапай.
І трысьнёг заварушыўся.
— Ветру няма, — крыкнуў Гусак, —
а трава варушыцца!
І ўсе качкі адляцелі прэч.

— Якія яны хітрыя,.. — замаркоціўся Ліс. —
А давай тады прыгатуем што-небудзь з гэтага трысьнягу.

Давай прыгатуем салату з кары
ці зварым булёну
з чароту, кары, з качынага пер’я.
Што маўчыш? Я галодны!

– Не, – кажа Мудрагель. – Я нешта прыдумаў.

Цэлы вечар у сутоньні
і цэлую ноч,
і ранкам, калі Ліс яшчэ спаў,
Мудрагель сплятаў з трысьнягу хатку-для-танцаў.
Ён быў добрым штукаром у той справе
і зрабіў файную хатку.
Хатка была даволі вялікая,
каб у ёй зьмясьцілася шмат вадзяных птушак.
Да таго ж, яна мела моцную дзьвярную засоўку.
Мудрагель скончыў хатку-для-танцаў
І пацягнуў Ліса за хвост:
– Падымайся! Падымайся!

Яны схаваліся ў трысьнягу, пільнуючы качак.

– Калі доўга глядзець на качак, – кажа Мудрагель, –
хочацца іх зьесьці.
Ты мусіш яшчэ нешта даведацца
ў такую раніцу, як гэта.

– Ведаю, ведаю, – кажа Ліс, –
Я гляджу на качак – і я хачу іх зьесьці!

Мудрагель узяў сваю дарожную торбу
і кажа Лісу:
– Накапай крыху камякоў моху.

Ліс прынёс купкаў моху Мудрагелю,
той запхаў іх у торбу.

– Цяпер паціху, – кажа Мудрагель, –
мы выйдзем на адкрытае месца,
і яны нас убачаць!
І калі тыя качкі з Гусаком вылупяць на нас вочы,
усунь сваю пысу ў торбу
ды крыкні ў яе.

– І што мне крыкнуць?
– Крыкні проста: “Хачу зьесьці качак!”
– Добра, – кажа Ліс.

Мудрагель зь Лісам, хлюпаючы, выйшлі з трысьнягу –
Гусак як закрычыць:
– Увага! Увага!
Некаторыя качкі паляцелі прэч.
Але калі Ліс закрычаў у торбу,
ім усім зрабілася цікава.

– Гэй, Вялікі Браце, што там Ліс крычыць у торбу? –
пытаецца адна качка. – Мы не разьбярэм ніяк, што ён кажа.
Што там, у гэнай торбе?

Мудрагель выхапіў торбу ад Ліса
ды хуценька завязаў яе.

Качкі падплылі бліжэй –
Гусак замітусіўся паміж Мудрагелем ды качкамі,
гамонячы: “Засьцерагайцеся! Засьцерагайцеся!”

– Кажы, што там, у торбе! – патрабавалі качкі.

– А,.. там нашыя песьні, – кажа Мудрагель. –
Нашыя лепшыя, самыя моцныя песьні.

– О, а можна іх паслухаць? – запыталіся разам качкі.

– Дарагія качкі ды Лун, сябры, – кажа Мудрагель, –
вядома, вы можаце іх паслухаць!
Я пабудаваў адмысловую хатку-для-танцаў.
Хадзем туды. Яна вам спадабаецца.
У ёй даволі месца хадзіць і нават танцаваць там.
Я сплёў яе з вашага роднага трысьнягу.
Будзеце пачувацца, як дома.

– Я люблю танцаваць адно ўначы,
адно пасярод возера, – кажа Гусак.

– Тады чаму б табе не застацца тут? – кажа Мудрагель. –
Качкі пасьля танцаў вернуцца,
і плывіце сабе далей.
Яны раскажуць табе, як ім добра танцавалася.

– Не, я пайду з вамі, – кажа Гусак.
Але танцаваць ня буду.
Я не танцую ні з кім побач, акрамя іншых гусей.
Я не танцую ў хатках.
Я танцую адно пасярод возера.
Уначы ці на сьвітанку, ці ў сутоньні.

– Ну, тады хадзем, – кажа Мудрагель.
І качкі з Гусаком пайшлі за Мудрагелем ды Лісам да хаткі.

Калі яны прыйшлі да хаткі, Гусак кажа:
– А чаго гэта засоўка на дзьвярах звонку, а не знутры?
А што як качкі захочуць выйсьці самі?

– Гэта, пэўна, нейкая памылка, – кажа Мудрагель. –
Ну, адарві ты гэтую засоўку. Давай, рві.
Тады заставайся звонку й глядзі сабе, як мы танцуем.

– Ну, добра, – кажа Гусак
і пацягнуў засоўку дзюбай.
Засоўка была зроблена з туга зьвязаных цыбукоў
ды падрапала Гусаку дзюбу, але той не зьвяртаў увагі.

– Усё, засоўкі няма, – кажа Гусак.
– Я буду ахоўваць хатку сам.

– Пэўна што качкі будуць пачувацца ў бясьпецы, ведаючы гэта, –
сказаў Мудрагель.

І качкі прайшлі за Мудрагелем ды Лісам у хатку.
Гусак зачыніў дзьверы за імі.
І стаў на каравул.

А ў хатцы Мудрагель разьмеркаваў качак па крузе:
– Пачынаем "танец заплюшчаных вачэй".
– Гэта што яшчэ такое? – кажа адна качка. –
Што яшчэ за "танец заплюшчаных вачэй"?

– Проста заплюшчыце вочы, – кажа Мудрагель. –
ды скачыце вакол.
Я адкрыю сваю торбу,
Нашыя лепшыя, самыя моцныя песьні вылецяць,
і вы можаце танцаваць пад іх.

– Гатовы? – кажа Ліс.
– Гатовы! – закрычалі качкі разам.

– Заплюшчвайце вочы, – сказаў Мудрагель,
і ўсе качкі зрабілі так.

– Якое цудоўнае відовішча! – кажа Мудрагель.
– Дзьве рэчы мне падабаюцца асабліва, – кажа Ліс, –
гэта як калышацца балотны трысьнёг па ветры,
і чарада качак, што танцуе з заплюшчанымі вачыма.

– Ну, цяпер засьпявай, і паграмчэй, – кажа Мудрагель.
І Ліс засьпяваў.

І тады качкі пачулі: скккууууўаккккххххккк! –
Нейкі прыдушаны гук. Дзіўны, жахлівы задушлівы гук,
здаецца, упіваецца ў самае сэрца!
– Гэта што, гэта вашая песьня з такімі гукамі? –
закрычала адна качка.
– Так, так, гэта нашая песьня, – кажа Мудрагель.

– А на якой мове Ліс сьпявае? – пытаецца другая качка. –
Мы такой ня чулі.

Зразумела, што Мудрагель толькі што задушыў качку,
але ён адказаў:
– Гэтая мова з далёкае даўніны,
яшчэ калі вас, качак, не было на зямлі,
яшчэ да таго, як я, ваш Вялікі Брат, вынайшаў вас, качак.
Я ведаю, яна гучыць для вас неяк прыдушана,
але такая яна, старадаўняя песьня, дый годзе.
Не перайтмайцеся.
Танцуйце сабе далей з заплюшчанымі вачыма.

Тады Мудрагель узяў, закапаў задушаную качку ў зямлю,
Але лапамі ўверх над зямлёй.

А Ліс усё гучна сьпяваў.
Танцоры з заплюшчанымі вачыма ўсё скакалі ды кружылі –
некаторым нават закружыла ў галаве,
і яны пачалі бухацца ідзін у аднаго,
але тут жа сьмяяліся, забаўляліся –
і вельмі ганарыліся сабой,
што ўправіліся з новым танцам так добра.

А тады – скккууууўаккккххххккк!
Потым – кккччччуууўіііўкхкххх!

І Мудрагель закапаў яшчэ дзьве сьляпыя качкі,
адно лапы ад іх засталіся над зямлёй.

А звонку – Гусак прыставіў вуха да хаткі:
– Нешта ў вас там пацішэла.
Я чую! Чаму так мала качак танцуе?

Гусак расчыніў дзьверы ды бачыць –
Мудрагель душыць качку!
Як падляціць да яго са сваёй парэзанай дзюбай,
як дзёўбне яму ў самы лоб!

Мудрагель аж адляцеў, зьбіты з ног,
і качка выскачыла зь ягоных рук.

— Качкі, качкі, расплюшчыце вы свае вочы! — зароў Гусак. —
Вялікі Брат зь Лісам ужо гатуюць з вас сабе вячэру!

І астатнія сьляпыя танцоркі парасплюшчвалі вочы.

— Бяжыце! Уцякайце! Ляціце адсюль! — раве Гусак.
І качкі павылятали з хаткі прэч.

Калі ж сам Гусак ужо выбягаў зь дзьвярэй,
Мудрагель выцяў яму па нагах —
вось чаму, кажуць, ад таго часу
ва ўсіх гусей такая пляскатая лапа.
А Ліс лупянуў Гусаку ў зад — ггахх! —
і таму, кажуць, цяпер у гусей
такое ўскудлачанае пер'е на хвасьце.

Ускудлачаны, з болем у лапах, Гусак хутка паляцеў
на другі бераг балота да астатніх качак.
Усю ноч яны плакалі, плакалі, аплаквалі
сваіх таварак, загубленых Мудрагелем.
— Гэта мая правіна, — казаў Гусак. —
Я ня мусіў вам дазваляць танцаваць зь ім.

— О, не, не, гэта нашая правіна, — казалі качкі, —
Што мы паверылі гэтаму Вялікаму Брату зь Лісам.

— Такія вясёлыя былі танцы...
Пакуль не пачалося тое мардаваньне, —
сказала адна маладая качка.
— Мушу прызнацца, гэта праўда, — кажа другая качка. —
Але будзе нам навука: будзем цяпер танцаваць адно нашыя танцы,
схаваўшыся ў трысьнягу ці далёка ў балоце,
і галоўнае — з расплюшчанымі вачыма!

— А я лічу за лепшае танцаваць пасярод возера, — сказаў Гусак. —
Уначы. Ці часам можна на сьвітанку ці ў сутоньні.

А ў хатцы ўсё яшчэ кружыліся качыныя пёркі
ды слаліся долу.
— Ну, што ж, — кажа Ліс, — прынамсі ў нас ёсьць тры качкі на вячэру.
Тры пары качыных лапак тырчэлі зь зямлі.
— Давай засмажым іх ды паямо,
ды ўтрэм качыны тлушч сабе ў поўсьць
на памяць аб ягоным смаку на доўгі час.

– Чакай, – кажа Мудрагель, – нельга ж іх зьесьці проста так.

– Гэй, гэй, – запратэставаў Ліс, –
Калі ты танцуеш “танец-заплюшчаных-вачэй” з качкамі –
ты хочаш іх зьесьці!
Давай, выцягвай гэтых качак за лапы ды будзем банкетаваць!

– Што ты так сьпяшаесься? – кажа Мудрагель. –
Спачатку нам патрэбна смачная з-другога-краю-балота траўка,
каб пасыпаць на мяса пад час гатаваньня.
Ліс, схадзі набяры той смачнай з-другога-краю-балота траўкі.

– Дзе ж яе шукаць? – пытаецца Ліс.

Мудрагель кажа:
– Яна ж завецца – “смачная з-другога-краю-балота траўка”.

– А, усё... зразумеў, – кажа Ліс.

– Ну, дык ідзі ды нарві крыху.
І калі ты вернесься, я нарэжу яе як сьлед
ды пасыплю на мяса.
А я тым часам абскубу качак для смажаньня.

І Ліс пайшоў уздоўж трысьнягу
на пошукі смачнай з-другога-краю-балота траўкі.

Зараз хуценька-хуценька Мудрагель распаліў агонь,
павыцягваў за лапы качак,
пасмажыў іх
ды добра пад’еў.
Тады патушыў агонь.
Павыкідаў галавешкі ў кусты
ды раскідаў попел.
Утыркнуў качыныя лапкі назад у зямлю так,
каб выглядала, што качкі ўсё яшчэ закапаныя.
Прылёг, прысунуўшыся да сьцяны хаткі,
ды давай храпці ды храпці, нібыта ён сьпіць.

Калі Ліс дабраўся да другога краю балота,
пачаў спрабаваць на смак кожную травіну.

– Не, гэтая нясмачная.
Гэтая крыху лепей.
Гэтая паскудная.
Пакуль што нічога смачнага.
Гэтая добрая, каб сьвісьцець у яе,
але нясмачная.

Ліс накаштаваўся сьцяблін, лістоў, струкоў.
І нічога смачнага.
Ніводная зь іх не была смачнай з-другога-краю-балота траўкай.

І тут побач, з пырскамі, прывадняецца Гусак.
– Дурань ты, Ліс, дурань!
Ты столькі напрацаваўся, каб злавіць на вячэру качак,
але ты ўсё яшчэ галодны, хіба не?
А здагадайся, што?
Ажно наш Вялікі Брат ужо сыты па самае горла!

Ліс як скокне на Гусака, але той лёгка адляцеў прэч,
гігікаючы ды гагочучы ад сьмеху.
Ліс выбраўся на сухое ды пабег назад да хаткі.

Калі Ліс уварваўся ў дзьверы, убачыў,
качыныя лапкі тырчаць зь зямлі.

– Дружа, Вялікі Брат, прачніся!
Мудрагель прыкінуўся, што прачынаецца.
– А дзе ж смачная траўка?

– Нічога я не знайшоў.
Давай так паямо, безь ніякіх смачных травак!
Я ня супраць. Я такі галодны!

– Я тут падумаў, – кажа Мудрагель, –
ты так добра дапамагаў у паляваньні на качак...
Я бадай пакіну іх усіх табе.

– Што ты кажаш! Дзякуй табе, Вялікі Брат.

– Але не пачынай іх есьці,
пакуль я ня зьнікну з вачэй, – кажа Мудрагель. –
Бо, ведаеш, я таксама галодны,
і калі пабачу, як ты ясі гэных качак,
пачую, як яны пахнуць, смажаныя, – магу перадумаць!

– Так, гэта слушна. Я пачакаю, – кажа Ліс. –
Добрай табе дарогі, Вялікі Брат.

І Мудрагель пайшоў.
Не адыйшоўшы далёка, так, каб Ліс мог яго яшчэ бачыць,
ён завярнуўся паглядзець назад.
Праз адчыненыя дзьверы трысьнёгавай хаткі ён убачыў Ліса.
Ліс сядзеў побач з трыма парамі качыных лапак,
утыркнутых у зямлю.

– Бедны Ліс, – ціха сказаў Мудрагель. –
Калі так доўга сядзець з качынымі лапкамі –
вельмі хочацца іх зьесьці.

Мудрагель пасьпяшаўся –
яму не хацелася быць недзе побач,
калі Ліс выявіць, што качак няма.

Пасьля таго весткі пра здраду Мудрагеля
разьнесьліся сярод лісаў.
З тае пары лісы ніколі больш не вандруюць разам з Мудрагелем.
Гэтак кажуць.





*Фота © Ксенія Яновіч.*

**ВОРАНАЎ Віталь** — нарадзіўся 18 сакавіка 1983 году ў Менску. Літаратар, перакладнік і выдавец.

# АПАВЯДАНЬНІ

## Экспэрымэнт

На ўскраіне Эўропы аднойчы пастаноўлена правесьці ці не самы дзёрзкі ў навуковай практыцы экспэрымэнт, які заключаўся ў тым, каб у межах адной прасторы сабраць самыя непатрэбныя ў сьвеце стварэньні і надзяліць іх супольнай, натуральна, самай непатрэбнай у сьвеце мовай. Мэтаю экспэрымэнту было давесьці магчымасьць захаваньня любой, нават самай непатрэбнай мовы, пры ўмове наяўнасьці як мінімум трох самых бескарысных карыстальнікаў. Для экспэрымэнту выкарыстаны наступныя самыя непатрэбныя стварэньні ў сьвеце: баршчавік (Heracleum), каларадзкі жук (Leptinotarsa decemlineata), муха цэцэ (Glossina). Мовай экспэрымэнту была абраная, зразумела, самая непатрэбная мова ў сьвеце — беларуская, сапраўдных носьбітаў якой да часу правядзеньня экспэрымэнту ў прыродзе не ўстаноўлена. Цягам экспэрымэнту выяўлена, што баршчавік, каларадзкі жук і муха цэцэ не карыстаюцца самай непатрэбнай на сьвеце мовай — беларускай. Таксама ўстаноўлена, што на тэрыторыі правядзеньня экспэрымэнту баршчавік авалодаў вялікімі абшарамі зямлі, выцесьніўшы многія мясцовыя віды расьлінаў, каларадзкі жук нанёс вялікія шкоды бульбоўніку, спрычыніўшыся да значнага паніжэньня ўраджайнасьці бульбы, а муха цэцэ сталася прычынаю пашырэньня шматлікіх вірусаў сярод людзей і быдла. Адна з заключных высноваў сьцьвярджала, што баршчавіку, каларадзкаму жуку і мусе цэцэ проста няма аб чым паміж сабой размаўляць...

# Не

На парозе стаялі двое зь белымі надпісамі на чорных майках. Адзін зь іх зь ветлівай усьмешкай і поўным захапленьня голасам прамовіў:

– Скажы – не сьмяротнаму пакараньню!

Другі адной рукой працягнуў аркуш, на якім стаяла ўжо некалькі подпісаў, а другой – асадку, якая мела форму пісталета. Запала нязручная, доўгая цішыня. Першы, каб прагнаць канфузнае маўчаньне, адкірхнуў. Другі па-ранейшаму трымаў асадку і аркуш у выцягнутых руках.

– Не, – прагучала нечакана як асуджэньне.

– Не? – амаль машынальна, але з пэўным недаверам сказаў першы.

– Не! – паўтарыў адказьнік.

– Не? – здавалася, дзеля нейкай фармальнасьці перапытаў другі.

– Не, – прагучала ў адказ яшчэ раз.

– Не, дык не, – ужо пратакольна сказаў першы і кіўнуў другому.

Другі ўрэшце апусьціў руку, у якой трымаў аркуш, а другой рукой нацэліў асадку ў голаў нязгоднага, зграбна адбясьпечыў і спусьціў курок.

# NOTEбук і НАТАТnick

У маім дзяцінстве, калі кампутар ня быў яшчэ неад’емным сямейнікам, я ведаў пра яго існаваньне толькі па кніжцы з прыгожай чырвонай вокладкай. Тая кніжка ў даступнай форме апавядала пра часткі кампутара і пра іх паасобныя функцыі. У канцы кнігі быў малюнак для выцінаньня, зь якога можна было скласьці свой уласны, хаця і папяровы кампутар. З таго часу шмат зьмянілася. Кампутары значна паменшалі, а дзеці значна падрасьлі. Сёньня ледзь ня кожны жэўжык сябруе з кампутарам з маленства, але рэдка які зь іх здагадваецца, што кампутар гэта ня проста прылада для працы і забавы, але таксама складаны арганізм, з жывых частак. Гэтыя часткі ў нечым вельмі падобныя да нас, людзей: яны разумныя і наіўныя, вясёлыя і панурыя, задзірлівыя і лагодныя. А некаторыя зь іх нават ведаюць, што такое сапраўднае каханьне і ня менш праўдзівае расчараваньне! Дзеля таго каб вам пра ўсё гэта апавесьці, я паспрабаваў прыгадаць і перадаць тых некалькі гісторый, якія калісьці прачытаў у кніжцы з прыгожай чырвонай вокладкай. Прыгадаўшы, я ўжо на свой лад, з дапамогай notebука, запісаў іх вось у гэты натаtnick, каб вы таксама маглі іх каму-небудзь перадаць. Бо хоць кампутары, як і ўсё ў сьвеце, няспынна мяняюцца, але іхная сутнасьць застаецца нязьменнай.

# Клявіятура

Клявіятура ад кампутара была старой, якой старой толькі магла быць клявіятура ад кампутара, а магчыма, яна была нават самай старой з усіх і перажыла не адзін у сваім доўгім жыцьці кампутар. Сьпярша на ёй сьцёрся

адзін, пазьней другі, а з часам пасьціраліся ўсе гузікі. Іх давялося пазначыць адмысловымі налепкамі. Хаця, магчыма, рабіць гэта было неабавязкова. Па сваёй старой клявіятуры пальцы ходзяць самі. Зусім ня так, як па чужой, калі заўжды зьбіваесься і націскаеш ня той гузік, што трэба. І хаця вочы бачаць, што гузік ня той, то пальцам не загадаеш. Цалкам іншая справа, калі гузік адваліцца альбо пачне заядаць. У старой клявіятуры такіх гузікаў было нямала. Пачыналася звыкла зь лёгкага недацісканьня, якое пераўтваралася ў хранічнае, ажно ўрэшце гузік заклінваў ці проста адвальваўся. Дыягназ можна было паставіць, зазірнуўшы пад хворы гузік. Часта прычына была ў валасах, якія забіліся ў нутро, або ў костачках ад яблыкаў, якія ўсе гэтыя гады зьядаліся за клявіятурай. Часам дастаткова было толькі пачысьціць спод і ўставіць гузік назад, але бывала, што гэтага было ўжо недастаткова. Даводзілася ці то кляцаць непасрэдна па гумовай падушачцы, якая ад гэтага ўсьцяж адскоквала ў розныя бакі, ці мяняць гузікі. З гадамі замененых гузікаў было столькі сама, колькі арыгінальных, і паўстала вострае пытаньне аб поўнай замене старой клявіятуры. Хтосьці даводзіў, што старую клявіятуру мяняць няможна, што якой цудоўнай клявіятурай чалавек бы ні карыстаўся на працягу жыцьця, свая клявіятура заўжды мілей за чужую. А хтосьці – што глупства гэта ўсё і звыклыя сантымэнты, што клявіятура мае быць зручнай і прыгожай, як у людзей. Былі і такія, хто перасьцерагаў ад гэтага і заахвочваў да замены ўсяго кампутара, а старую клявіятуру прапаноўваў пакласьці ў музэй. Новая клявіятура, казалі яны, са старым кампутарам не ўжывецца. Была таксама група людзей, якія стаялі ад гэтых размоваў убаку і чакалі, што будзе пастаноўлена іншымі. Трэба сказаць, што іх, як ні дзіўна, было найболей. Яшчэ варта ўзгадаць аднаго ці двух, якія казалі, што калі старая клявіятура будзе заменена, яны будуць працягваць ёй карыстацца, хоць і без кампутара, а таксама трох ці чатырох, якія заявілі, што ў такім выпадку ніколі больш ня будуць карыстацца ні адной, ні другой клявіятурай і замаўчаць назаўсёды. Жыць усё ж неяк трэба, і ў канцы сыйшліся на тым, што клявіятуру мяняць трэба, на такую, як у людзей... І што вы думаеце, ніякай катастрофы не адбылося. Новая клявіятура сапраўды была зручнай і прыгожай, ды пальцы зьбіваліся зусім ня так доўга, як яно магло б здавацца напачатку. Не абыйшлося, вядома, і бяз стратаў. Хто замаўчаў, хто ўпарта працягваў карыстацца старой клявіятурай, аднак для большасьці яна ўсё ж стала музэйным экспанатам. Свая клявіятура ёсьць свая, не чужая...

## Мышка

Жыла сабе аднойчы маленькая шэрая мышка з доўгім шэрым хвосьцікам. Ні аб чым не турбавалася, бо была ў дастатку і выгодзе, качалася на сваім дыванку, што той сыр у масьле. Мышку пастаянна гладзілі і цiскалі. А як жа – безь яе нікуды ня сунесься. У пэўным сэнсе безь яе можна было абыйсьціся, але было гэта як безь языка ў роце. І хоць была яна маленькай мышкай, але прыносіла вялікую карысьць. За гэта яе дужа любілі і шанавалі. Ідыліі ўсё ж прыйшоў канец, калі зьявіўся ён – датыковы экран.

Ён умеў рабіць усё тое, што ўмела рабіць мышка. Для гэтага яму быў непатрэбны ні доўгі шэры хвосьцік, ні дыванок. Напачатку мышку не турбавала зьяўленьне новага жыхара. Ён быў такі дзівосны і таямнічы. Аднак з часам, калі яго ўсё часьцей і часьцей пачалі выкарыстоўваць замест яе, мышка надта засмуцілася і, здавалася, яшчэ больш ад гэтага смутку пашарэла. Бывалі дні, што да яе амаль зусім ужо не дакраналіся, амаль зусім ня гладзілі, амаль зусім ня ціскалі. Яе доўгі шэры хвосьцік усё менш цешыў, а ўсё больш перашкаджаў, а ейны ўтульны дыванок наогул забралі і паставілі пад вазон, і ад гэтага няшчасьця мышка сшарэла дашчэнту. Прыйшоў дзень, што ад яе цалкам адмовіліся, адарвалі доўгі шэры хвосьцік і кінулі ў сьметнік. Цяпер датыковы экран стаў мышкай, у пераносным сэнсе, вядома, бо ж ён, як і раней, заставаўся датыковым экранам. Адзінае, чаго ніхто не прадбачыў, было тое, што датыковы экран меў досыць фанабэрыстую натуру. Ён проста адмаўляўся, бывала, выконваць сваю працу. Зь цягам часу гэта набрала рэгулярны характар. Здараліся нават цэлыя дні прастою. І вось тады ўспомнілася маленькая шэрая мышка з доўгім шэрым хвосьцікам, і ўсе кінуліся шукаць яе ў сьметніку, аднак там яе не было. Пасьля перавярнулі ўсё, што было навокал, зазірнулі ва ўсе дзірачкі, паднялі ўсе дошчачкі, аблазілі ўсе куточкі. Дарэмна – маленькая шэрая мышка зьнікла назаўсёды-назаўжды.

## Батарэя і адаптар

Батарэя і Адаптар былі неразлучнымі каханкамі. Ну і што, што імёны ў іх менш мілагучныя, чым у Рамэа і Юліі ці Трышчана і Іжоты. Шчасьця хочацца ўсім, нават тым, каго клічуць Батарэя і Адаптар. І ў іх яно было. Да часу...

Адаптар заўважыў, што ўсё сваё цяпло ён цалкам аддае Батарэі, а тая астывае да яго ўсё болей і болей. Раней ён, мусіць, гэтага не заўважаў, думаў сабе Адаптар, раней іхныя пачуцьці былі такія гарачыя і энэргічныя. Цяпер жа жыцьцё ў іхныя адносіны ўносіць толькі ён адзін. Гэтая думка адбірала ў Адаптара ўсю моц, не давала яму спакою ні ўдзень, ні ўночы. Яна бяз сэрца, паўтараў сабе Адаптар, халодная як камень. З кожнай хвілінай гэтае ўсьведамленьне рабілася мацнейшым, а з часам засланіла ўсё астатняе, што было паміж Адаптарам і Батарэяй. Урэшце Адаптар зразумеў, што калі не ўладкаваць гэтую праблему цяпер, то заўтра можа быць ужо запозна. Ён наважыўся і сказаў аб усім Батарэі. Батарэя ў адчаі расплакалася і з горыччу ў голасе выцадзіла Адаптару, што калі ён лічыць яе халоднай, то хай пакіне яе ў спакоі ды ідзе да сваёй гарачай Рызеткі. Дык вось у чым справа – закрычаў разьюшаны Адаптар, – вось дзе чорт схаваўся! Думаеш, я ня ведаю, што ў цябе на баку з гэтым праклятым Блёкам? У такім больш-менш тоне праходзіла спрэчка Батарэі і Адаптара, якая праз момант замянілася ў сварку, трохі пазьней – у бойку, а ў канцы – у поўны разрыў. У выніку іхнага расстаньня Батарэя цалкам зьледзянела, а Адаптар пераграэўся і каханкі хутка памерлі, так і не зразумеўшы, што каханьня ў ізаляцыі не бывае.

Кожнай Батарэі і Адаптару патрэбны свой уласны Пачатак і Канец.

# Манітор і Працэсар

Аднойчы Манітор пасварыўся з Працэсарам за тое, хто галаўнейшы. Працэсар даводзіў, што ён сэрца.

– Ну, – казаў Манітор, – калі ты сэрца, тады я душа, у якой адлюстроўваецца ўсё нутро.

– Душа памерам у дваццаць дзьве цалі, – іранізваў Працэсар.

– Ці можаш ты назваць штосьці, чаго ня можна пабачыць у гэтых дваццаці дзьвюх цалях? – рытарычна пытаўся Манітор.

– Дваццаці трох цаляў, – ізноў падкусваў Працэсар.

– Затое ўва мне месьцяцца цэлыя кніжкі, – не супакойваўся Манітор.

– Наадварот, месьцяцца яны ўва мне, а ад цябе толькі вочы чырванеюць і сохнуць.

– Тады чаму цябе пастаянна мяняюць, а я застаюся на сваім месцы? – выклаў казырную карту Манітор.

Працэсар задумаўся і першы раз ня ведаў, чым гэты аргумэнт адбіць. Але ён трохі паднатужыўся і тут жа зрабіў шах каралём.

– А чаму ж, калі выбіраюць ноўтбук, перш за ўсё згадваюць пра мяне? – кінуў Працэсар, цяпер ужо ўпэўнены, што перамога за ім.

Аднак Манітор здавацца не зьбіраўся.

– Калі ты такі разумны – спраўляйся безь мяне, – і, сказаўшы гэта, Манітор адключыўся.

Працэсар у даўгу не застаўся і, пагардліва пыхнуўшы, таксама адключыўся.

Спрэчка Манітора з Працэсарам працягвалася нядоўга, таму што ноўтбук выкінулі на сьметнік. Там спрачацца было бессэнсоўна. Там трэба было ўжо выжываць.

# Калёнкі і Мікрафон

Жылі-былі дзьве блізьнючкі-калёнкі – Левая і Правая. Усё яны рабілі ў жыцьці аднолькава – аднолькава апраналіся, аднолькава гаварылі, аднолькава сьмяяліся і нават плакалі аднолькава. Найдзіўнейшае было тое, што ўсё пералічанае яны рабілі адначасна. Калі сястрычкі падрасьлі, то адначасна залюбіліся ў аднаго і таго ж кавалера. Гэтым шчасьліўцам, як можа падумаць значная частка мужчынаў, быў Мікрафон. Яму сьпярша іхныя залёты і праўда падабаліся, але з часам, што таксама можна зразумець, надакучылі, ажно ўрэшце зусім збрыдлі. Усё ж заляцаньні былі ўсяго толькі звычайным падваеньнем аднаго і таго ж. Таму Мікрафон пастанавіў раз і назаўсёды вызначыцца, каторая сястра мілей ягонаму сэрцу. Ён доўга думаў, што рабіць, ажно прыдумаў, каб замяніць іх месцамі. Магчыма, калі Левая будзе гаварыць у правы бок, а Правая – у левы, то ўсё стане на свае месцы. Аднак гэтага, на ягонае расчараваньне, не адбылося. Усё засталося як раней – словы Левай надалей зьліваліся са словамі Правай. Тады ён прыдумаў адну сястру паставіць ззаду другой у спадзеве, што іхная гаворка ня будзе накладацца адна на другую. Сапраўды, словы не накладаліся,

але замест падваеньня яго пачало перасьледаваць дражлівае рэха, якое мянялася ў залежнасьці ад таго, на якой адлегласьці ў стасунку да яго і ўзаемна да сябе стаялі сёстры, ды мучыла яго незалежна ад таго, каторая сястра стаяла бліжэй. Амаль спаняверыўшыся ў магчымасьці знайсьці сярод іх дзьвюх сваю родную, Мікрафон прыдумаў па чарзе затыкаць то правае вуха, то левае. Аднак гэта, як і ўсе папярэднія спробы, нічога не дало. Урэшце, прыйшоўшы да высновы, што справа цалкам бездапаможная, ён кінуў абедзьвюх і стаўся поўным пустэльнікам. Магчыма, Мікрафон на сваёй нямой пустыні так ніколі і не даведаецца, што дастаткова было адну сястру сьцішыць, а другой даць загаварыць на ўвесь голас, каб зразумець, якая зь іх была найбліжэйшая ягонаму сэрцу, а якая была ўсяго толькі аднолькавая з другою.

## Цьвёрды Дыск

Памяць у мяне выдатная – выхваляўся Цьвёрды Дыск усім сабраным вакол часткам ноўтбука. Памятаю сваю прапрапрапрапрабабулю Пэрфакарту. Ейная ўлюбёная фраза была: “Не складаць, ня скручваць, не псаваць”. Выдатна памятаю сваю прапрапрапрабабулю Пэрфастужку, дзень, гадзіну і сэкунду, калі прыйшла тэлеграма пра ейную сьмерць. Мой прапрапрадзед Сэлектрон не пажыў доўга, і я, мабыць, адзіны, хто яго наогул памятае. Выдатна памятаю Шпульку – маю прапрабабулю і ейныя вялікіявялікія вочы. На памяць ведаю кожную прасьпяваную ёю калыханку. Ейная дачка Касэта, мая прабабуля была нашмат драбнейшая. Яна цэлыя дзьве гадзіны магла апавядаць мне свае казкі, а пасьля, трохі адпачыўшы, працягваць другія дзьве гадзіны. Магу вам з ходу, слова ў слова, перадаць іх хоць бы зараз. Найболей я сачу свайго дзеда Магнітнага Барабана. Ён меў выдатную памяць і ведаў тысячы гісторый, адно што некаторыя зь іх ён мог расказваць з ходу, а другія мусіў прыгадваць цэлымі гадзінамі. Я ж усе гэтыя гісторыі мог бы расказваць адначасна, ды хоць ззаду наперад, ці нават дагары нагамі. У мяне самая выдатная памяць на сьвеце. Я памятаю ўсё. Колькі зораў на небе, колькі літраў вады ва ўсіх акіянах, колькі людзей на плянэце, і гэта, уявіце сабе, пастаянна ўлічваючы тое, што іх безупынна прыбывае – ганарыста працягваў сваю гісторыю Цьвёрды Дыск. Часткі ноўтбука, паадкрываўшы раты, уважна лавілі кожнае слова Цьвёрдага Дыска, а слова „памятаю”, якое ў аповедзе паўтаралася найчасьцей, ужо зьвінела ім у вушах. Цьцёрды Дыск якраз зьбіраўся пачаць гаварыць, як ён выдатна памятае свайго бацьку, калі сярод слухачоў зьявіўся невядомы. Мінаючы ўсіх прысутных, ён памалу наблізіўся да самога Цьвёрдага Дыска, а калі быў ужо зусім блізка, кінуўся яму на шыю і выгукнуў „Дзеда!”. Цьвёрды Дыск аслупянела паглядзеў на сваіх слухачоў і больш сам да сябе, чым да іх, сказаў: „Але ж я цябе зусім ня памятаю”.


VITAL VORANAŬ
PIORUN
ORZEŁ CZY RESZKA
AROŁ CI REŠKA
KIDAJ!
ŁAVI!






ČESKA-MARAŬSKAJA CHARUHVA, HAVORYĆ: JAN ŽYŽKA.
BRATY ČECHI!
I MARAVAKI!
SIOŃNIA DAVIADZIEM, ŠTO MY SŁAVIANIE!
MUSIM DZIEŚCI PAČURAĆ.


PRYDAŬSIA B JAKI PRARECH...
ŁUP!


PSSSSS..
CO JE TY VOLE!!?
LOS, AUF!


TRITT INS GLIED! SCHNELLER!
ČO ŽE?


RICHT'T EUCH!!!
WAS MA- CHEN !?


NACH LINKS!
JEŽIŠ...
KLIK
PAC!
2


15. 07. 1410




ČESKI LAHIER PAŚLA BITVY.
CUDOŬNA! U NAS JOŚĆ PAŁONNY!
JA JAHO PAZNAJU, HETA Ž ADZIN Z NAŠYCH!
ZARAZ TRESNU!
NU I ŽARTAŬNIK!
VYZVALIĆ!
!
ALE NAVOŠTA PIERAAPRANUŬSIA Ŭ KRYŽAKA?


TYMČASAM U LITOŬSKIM LAHIERY KNIAŽ VITAŬT ŽVIARTAJECCA DA SVAICH TATARSKICH CHAŬRUŠNIKAŬ.
ŠTO, DURNI, ČECHA AD KRYŽAKA ADROŽNIĆ NIA MOŽACIE?!!!
VYZVALIĆ!
?










JAK PADAJE JAN DŁUHAŠ, PIERAD PAČATKAM BATALII TRYSTA NAJOMNYCH ČESKICH I MARAŪSKICH ŽAŪNIERAŪ ADŁUČYLISIA Z POLA BITVY BIEZ PAVIEDAMLEŃNIA KARALA JAHIEŁŁY. VIADOMA, ŠTO NA PLAC VIARNUŁASIA TOLKI ČASTKA RYCARAŪ. DA TAHO, ACHVOTNIKI Z ČECHII Z SAMAHA PAČATKU ZMAHALISIA NA BAKU KRYŽACKAHA ZAKONU. NAŽAL, U BUDUČYNI PADOBNY LOS, PA ŪŁASNAJ I PA NAKINUTAJ VOLI, SPATKAŪ ŠMATLIKIJA SŁAVIANSKIJA NARODY...



KANIEC

SCENAR VITAL VORANAŪ RYSUNAK PIORUN




# PAHONIA NA GRUNWILD

VITAL VORANAŬ
UŁADZIMIR BLUDNIK






RYCARY LITOŬSKAJ, TO BOK RUSKAJ, TO BOK BIEŁARUSKAJ, CHARUHVY SPJAĆ U LESIE, U ČAKAŃNI BITVY Z KRYŽAKAMI.




RAPTAM PRAČNUŬŠYSIA ZAŬVAŽAJUĆ ŠTOŚCI U LASNYM HUŠČARY.









BI KRYŽAKA!
HRYZI KRYŽAKA!!
NIŠČY KRYŽAKA!!!


FIU...

TRZASK


BUM!!!

NU I RYŁA!
DA KRYŽAKA NIEPADOBNY!
DA VIKINHA TAKSAMA NIE NADTA...

NIEVIADOMA KOLKI PRACIAHVAŁASIA PAHONIA ZA KRYŽAKOM, TO BOK DZIKOM... ALE KALI RYCARY ŬREŠCIE VYJŠLI Z LESU, TO JAKRAZ... ADBYVAŁASIA VYRAŠALNAJA SUTYČKA Z KRYŽAKAMI. PAŹNIEJ NIEKATORYJA HISTORYKI HETY MANIOŬR NAZAVUĆ UCIOKAMI LITVINAŬ, INŠYJA PRYCHA-VANYMI ŬCIOKAMI...



...POLSKI KAROL UŁADYSŁAŬ U PIERASCIAROZIE, KAB JAHONAJE VOJSKA ABPIŬŠYSIA VINOM NIE STAŁASIA NIASPRAŬNYM I ASŁABLENYM... ZAHADAŬ ŹNIŠČYĆ I PARAŹBIVAĆ BOČKI Z VINOM. IENAVITA NA HETYJA BOČKI, U KRYŽACKIM LAHIERY, PAŚLA DOŬHAHA MARŠU Z PAŁONNYM NA PLAČOCH, TRAPILI TROJE RYCARAŬ.










# PAVUCIŃNIE

VITAL VORANAŬ
UŁADZIMIR BLUDNIK
















**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер** нарадзіўся ў горадзе Менску 21 студзеня 1978 году ў сям'і выкладчыкаў. Бацька, Давыдзенка Леанід Мікалаевіч, — прафэсар, доктар эканамічных навук, нарадзіўся ў вёсцы Залатаміно Кармянскага раёну Гомельскай вобласьці, цяпер там зона адчужэньня. Маці, Давыдзенка Тацьцяна Зьмітраўна, родам зь Менску, выкладае інфарматыку ў недзяржаўнай ВНУ — Менскім інстытуце кіраваньня.

Вершамі захапляўся зь дзяцінства, але пісаць іх пачаў толькі ў 17 гадоў.

У 1995 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт на юрыдычны факультэт. Скарыстаўся магчымасьцю ажыцьцявіць сваю мару — вывучаць міжнароднае права й міжнародныя зносіны ў ВНУ з адпаведнымі сталымі традыцыямі, паступіў у Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных зносін (МГИМО) на міжнародна-прававы факультэт. Пасьля закончыў там асьпірантуру па спэцыяльнасьці "міжнароднае прыватнае права".

Зараз жыве ў Маскве і працуе ў недзяржаўным Інстытуце міжнароднага прыватнага й параўнаўчага права (www.iurisprudentia.ru) і ў Калегіі адвакатаў.

# ВЕРШЫ

## Нараджэньне

*Натхнёна Якубам Коласам*

Не сядзіцца ў Мілцы
Хлопчыку малому,
Моцна мітусіцца
Ў сваім першым дому,

Ножкамі варушыць,
Выгінае дупку,
Моцна знутры цісьне
Мамачку-галубку.

“Вось жа жвавы хлопчык! –
Дзівіцца Людміла, –
Дужа пхаць ахвочы,
Немалая сіла!”

“Вылязай, Багданка, –
Шчыра просіць Міла, –
Ўжо дзявяты месяц,
Як ты тут, мой мілы.

Сьвет цябе чакае
Не малы – вялікі,
Там і сонца зьзяе,
І дзівос ня зьлічыш.

Мы цябе чакаем
Вечарам ды ранкам.
Зноўку ты штурхаеш –
Вылязай, Багданка!”

І адчуў хлапеча:
“Час мне нарадзіцца!
Болей у матульцы
Нешта не сядзіцца!”

...Шчасьце прываліла
Бацьку маладому,
Болей не зайздросьціць
Хлопцу халастому!

## Уражаньні ад гарадоў

**М**оцы,
**А**мбітнасьці
**С**талёвае
**К**ола
**В**іруе:
**А**галомшвае.

* * *

**М**арудна
**І**дзе ў
**Н**ябыт
**С**авецкі
**К**алярыт...

* * *

**Б**яздонная
**Р**адасьць:
**А**зёраў
**С**пакой і
**Л**агоднасьць
**А**глядаю
**Ў**важліва.

* * *

**Б**руеньне
**Э**ўрапейскай
**Р**азнастайнасьці,
**Л**аду,
**І**мклівасьці,
**Н**язмушанасьці.

* * *

**Г**андлем
**А**двеку
**М**арскім
**Б**агаты.
**У**ражваюць
**Р**эгаты
**Г**ожыя.

* * *

**П**омнік
**Р**удольфу.
**А**лхімія –
**Г**ораду
**А**дметнасьць.

* * *

**І**мпэт
**С**ултанаў
**Т**урцыі
**А**сманскай,
**М**ячэт
**Б**лакітны
**У**зьнёсла
**Л**унае.

* * *

**С**тала
**Т**рымае
**А**двечную
**К**аралеўскую
**Г**однасьць.
**О**дум:
**Л**ёгка ці
**М**ажна?





**ЖВАЛІКОЎСКІ Юры** — нарадзіўся ў 1951 годзе ў прыгожым, маляўнічым горадзе Пружаны ў вялікай і вельмі дружнай сям'і Лаўрыся Жвалікоўскага. Старэйшы брат і сёстры далі яму імя. Зь першых дзён маці Зіна далучыла яго да музыкі сваімі калыханкамі. Прайшоў час, і ён сам пачаў пісаць музыку. Ёсьць песьні на словы Карызны, Харкова, Ясеніна, Гамолкі. Вось ужо больш як паўстагодзьдзя музыка крочыць разам з гэтым чалавекам. Ён таксама захапляецца музэямі, тэатрамі, падарожжамі; закаханы ў лес: грыбы, ягады, фотапаляваньне, тэлеперадачы пра рыбалку.

З 2004 году стаў прафэсійным падарожнікам: душа пазнаёмілася з словам "свабода", а вочы ўбачылі, якая прыгожая нашая плянэта. З гэтага часу пачаў актыўна пісаць вершы.

Жыве ў горадзе Таронта ў Канадзе.

## Роздум

Кожны раз, калі я трапляю ў горы, будзь гэта Арызона, Каліфорнія ці Новая Мэксіка, то адчуваю неабходнасьць нешта напісаць. Пакуль не перанясу свае думкі на паперу, душа ня можа супакоіцца. Я прыкмеціў, што натхненьне, як выбух, прыходзіць у адных і тых жа мясьцінах і часьцей у першай палове ночы альбо раньнім ранкам.

Мясьціны гэтыя прыгожыя ў любую пару году, асабліва ўлетку. Веліч гор падымае твае думкі. А з вышыні і ў простым, і ў пераносным сэнсе бачыш больш, адчуваеш вастрэй усе жыцьцёвыя абставіны.

Мне прыйшло такое параўнаньне: горны арол жыве цікавейшым жыцьцём, чым яго сабрат певень ля сваіх нясушак.

І яшчэ адна думка. Музыка ў далёкім падарожжы дае чалавеку такую энэргію, якую нельга атрымаць ніадкуль. Яна і акумулятар, і генэратар. Яна, як глыток вады ў пустэльні. Часам, праехаўшы тысячу вёрст, адчуваеш, што сілы пакідаюць цябе. І калі знойдзеш музыку, якая табе па душы, то сілы вяртаюцца, і ты, абноўлены, з добрым настроем, едзеш яшчэ гадзіны дзьве а то і тры...

## Музыка

Музыка. Музыка. Музыка...

Ты і толькі ты падтрымліваеш сілы ў маіх сухіх і тонкіх жылах.

Прайшла праз пласт вякоў, каб перадаць для нас пачуцьці і энэргію дзядоў.

І, як крынічная вада (тым, хто сапраўднай музыцы дае ўвагу) з тваёй душы адпусьціць смагу...

Паэту прынясе натхненьне, калі прыходзіць да паэта творчае імгненьне.

Калі ў наш няпросты век станіўся чалавек, то дзе б ні апынуўся ён (на караблі ў акіяне, у касьмічным падарожжы, ну а часьцей, працуючы на сушы), музыка з малітваю разам лечыць яму душу.

## Песьняры і Багдановіч

Бяры ўсё тое (калі ты здольны браць),
Што майстар нам дае у час натхненьня.
Ня кожны мае шанц пасьпець адчуць
І разам з майстрам перажыць “маланкі” моцнае,
Хоць і кароткае імгненьне.

Сем нот, якімі карыстаўся і Арфей, і Моцарт Амадэй,
Вялікія Музыкі зноў ператварылі ў Дзіва.
Пра Вераніку Максім ды Ігар напісалі так праўдзіва.
Здаецца, сам ты сёньня ў садзік той прыйшоў.

І зноў, і зноў гармонія дзівосных гукаў
Нас падымае, а потым з Вышыні раптоўна адпускае.
Гармонія палётам гэтым адчуваць нам асалоду дазваляе.

Гучыць ў паветры: “Вераніка... Вераніка...”
І на адну хвіліну – цішыня,
Марская хваля падхапіла: “Валя... ”
Хто слухаў Музыку, сам ведаў, якое ж даражэйшае яму імя.

Ці чуеш, як Шапэн дае натхненьне піяністу.
Музыку гэтага я параўноўваю з Магутным Фэрэнцам Лістам.

У якім стагодзьдзі сёньня ён для нас іграе?
Таленавіты піяніст ў хвіліну гэтую ні слухачоў не заўважае,
Ні час, ў якім знаходзіцца, не адчувае.

Я слухаў музыку і не заўважыў, як падала за небасхілам сонца.
Бо сэрца хоча ў казцы вечнай жыць бясконца!

*25 жнівня 2009 г., Таронта.*

# Гукі Музыкі

Шапэн, Агінскі, Лучанок.
Я кожны дзень гляджу ў той бок.
Як пазаўчора, ўчора, так і сёньня Музыка мяне не пакідае,
Душа у гуках Прыгажосьць шукае...

Стагодзьдзі, як адна хвіліна, праляцелі,
А зоркі ў небе над стагодзьдзямі віселі.
І сёньня зоркі, як і ў даўніну, над намі ўсё вісяць.
Для тых, хто закаханы, дзівосным ізумрудам зіхацяць.

Прыйшоў да нас у госьці 21-ы век,
На розных мовах размаўляе сёньня просты чалавек.
Стары касьцёл і Музыка, і старажытныя іконы,
І я у "Вечнай Музыкі" – шчасьлівы, бестурботны і палонны.

*Жнівень 2009 г., Атава.*

## Закаханы Райманд

*(Пераклад песьні "Подберу музыку")*
*Муз. Райманда Паўлса*

Ты прыйшла сёньня да мяне.
Я іграў Музыку табе.
Слухала Музыку маю.
Я табе сэрца аддаю...

Адчыніў вокны ў белы сад –
За вакном бачны сьнегапад.
Дзьве сьлязы бачу у вачах.
Дзьве рукі у маіх руках.

*Прыпеў:*
Танцавалі двое уначы.
Нам каханьне трэба зьберагчы.
Пацалункі сёньня не лічы.
Не лічы – лепей памаўчы.

*Пройгрыш...*

За вакном студзень ды мароз.
Я табе зноў свой верш прынёс.
А душа полымем гарыць,
Голас мой уначы дрыжыць.

Я маўчаў – нам ня трэба слоў.
Так маўчаць вечнасьць я гатоў.
Позірк свой, духмянасьць валасоў
Сёньня ты дорыш мне... бяз слоў.

*Прыпеў:*
Ад мяне табе ўжо не ўцячы.
Я каханьне буду берагчы.
Хай гучыць нам Музыка ўначы.
Я маўчу...і ты, прашу, маўчы.

*Пройгрыш...*

*Кода:*
Падбіраў Музыку да губ,
Падбіраў – да тваіх вачэй...
Хай гучыць Музыка для нас.
Веру, будзе... Гэта ўсё ўвесь час!

## Пачуцьці

*(Прыгажосьць гучаньня слова нашага)*

Мне так патрэбна беларусам сябе адчуваць,
Зь людзьмі сустракацца,
І нашай прыгожаю мовай усіх частаваць.

Часам пачуеш увечары трэлі бясконца прыгожыя
Ад сьвістуна-салаўя
Такая ж чароўна-непаўтаральная любая мова мая.

Улетку ля возера хлопцы зь дзяўчатамі песьні на мове сьпяваюць.
Шчыра, з пачуцьцямі кожнае слова яны вымаўляюць,
Тонкасьць пачуцьцяў у песьнях адзін аднаму дасылаюць,
Душу сваю беларускую, вобразы мілыя людзям яны адкрываюць.

Рэха на возеры з словамі дзіўнымі доўга гуляе
І для сябе, і для нас словы гэтыя мноства разоў паўтарае.

*24 верасьня 2010 г., Цынцынаці, Агаё*





**ЗАЙКА Віталь** – нарадзіўся ў Беларусі, жыве ў Нью-Ёрку. Шукае забытыя выявы і схаваныя сэнсы. Зьбірае моманты, што насьвятляюць штодзённасьць.

# Лысы

Тэлефон у вітальні ажыў заліхвацкай мэлёдыяй, да якой Лысы так і не прызвычаіўся. На таблё – нейкі нязнаны нумар. Пэўна, тэлемаркетэры. Няма спакою. Лысы націснуў гузік, рыхтуючыся сказаць: “Не зацікаўлены”. Але аднекуль з электронных вантробаў пачулася гаварэньне па-расейску. “Алік? Лысы, гэта ты? Здароў, гэта Дзіма Манах. Разам вучыліся!”

Адначасна аднекуль з глыбіняў памяці пачаў нібы ўсплываць той школьны час, так раптоўна і так недарэчы. “Дзіма... Дзяга?!”

– Во-во, Дзяга! Добра, што пазнаў.

Лысы добра памятаў былога аднаклясьніка, хоць ніколі не былі сябрамі. Дзяга атрымаў мянушку, калі прывёз аднекуль зь вёскі, ад дзеда з бабай, стары вайсковы рэмень з зоркай. Паказваў, як у клюбе перад танцамі моладзь гуляла ў “дзягу” – выбіралі сабе партнэрку або партнэра.

– Лысы, я тут, у Нью-Ёрку. Трэба дапамога. Сур’ёзная праблема – я на Райкерсе.

– Дзе-дзе? Дай спэл, я запішу.

– Гэта турма, Райкерс-айлэнд. Падазраюць на забойства, але я чысты. Падставілі. У мяне часу паўхвіліны, ты прыедзь у гэтую суботу, на 11 гадзіну. Падвязі паесьці. Блёк А, Манах Дзьмітры. Дапамажы, братка. Буду чакаць!

У 9-й клясе Дзяга патрапіў у выцьвярэзьнік і стаў знакамітасьцю школы. Жумяра з малодшых клясаў крычэла: “Дзяга! Давай па малінькай! Сабразім утрох!” Старэйшыя, хлопцы з 10-й клясы, паважна пыталіся на перакурах за школай, ці моцна б’юць мілітоны, і частавалі цыгарэтай.

І вось тут гэты клёўн і шлімазл, раптоўны прыбыш з Лысавага мінулага нечакана набыў вагу і моц сьведкі жыцьця, удзельніка дзяцінства і маладосьці Лысага.

Мінулае гэтае Лысы сьпісаў быў даўно ў нябыт, нават забараніў сабе думаць пра тыя часы. Школа, Палітэх, Інстытут парашковай мэталюргіі – вяртаўся да гэтага ў думках выпадкова. Ня меў настальгіі, віды й згадкі пра мясьціны маладосьці не давалі яму, як тут кажуць, “імжы ў вачох”.

Прычына таго была досыць важкая. У Беларусі Лысы пакінуў літаральна ўсё, калі ажаніўся з прыгожай маладзейшай габрэйкай. Перад тым ён, скандальна разьвёўшыся з жонкаю і пасварыўшыся з бацькамі, адцяў бы нажом сваё мінулае. Амэрыка стаяла наперадзе, як зьзяючая Невядомасьць. А таксама адзінае месца, дзе варта было жыць. Рэгіна, маладая жонка, была апантаная ідэяй пераезду. Бацька яе каля пяці год прабыў у “адмоўніках”, дазвол на выезд атрымаў ужо ў незалежнай, Кебічавай, Беларусі. Цесьць быў упраўцам будтрэсту, што ўзводзіў розныя “чульлівыя” аб’екты – турму на Ангарскай, новы корпус КГБ на Камсамольскай. Меў добры блят у гандлёвых колах, і дзеля гэтага нэндза пачатку дзевяностых амаль не закранула ягоную сям’ю.

Дзяга. Дзя-га. Што цяпер... Кідаць усе свае справы? Пляны на выходныя? І займацца Дзягам... Халера. Не хапала для поўнага камплекту. Пасьля справы аб разводзе, праблемаў з працай. З markings рознымі дробнымі й буйнымі праблемамі штодзёншчыны. Адаслаць у суд апеляцыю пра ўмовы наведваньня дзяцей. Забраць машыну з рамонту, выбіць тысячу доўгу з колішняга калегі па працы. Далячыць зуб. Дамовіцца з жонкай наконт – калі й наколькі ўзяць дзяцей.

Хай яно трэсьне. Кінуць з тым Дзягам, плюнуць. Расьцерці....

Не, ня пойдзе. Бо так ужо яно. Бо потым будзеш накручваць думкі вакол таго, яно будзе тачыць, сьвідраваць. Не дапамог земляку, не дапамог аднаклясьніку. Дакоры, згрызоты.

Як ні круці – у суботу трэба ехаць. Ды куды – на злавесна вядомы турэмны востраў.

У суботу раніцай Лысы патросься ў сабўэі, перасеў на аўтобус.

Дзень прыемны, пяшчотная смуга ў паветры. Цяплынь. Сонца аблізвае промнямі, лянотна-ўсьмешліва. Цяпер каб на якія шашлыкі, на мора. Але няма нават з кім. Сябрукі паперабраліся хто ў Джэрзі, хто ў Стамфард...

За вакном аўтобуса – дамы ды хаткі, палісаднікі, вуліцы Кўінсу. Затым перасеў на другі аўтобус, што па доўгім мосьце перавёз на Райкерс, востраў зь вялізнай турмой. Турэмны комплекс – бы мурашнік, шмат паверхаў, прыбудоваў. Нагадвае нечым архітэктуру Дому ўраду ў Менску.

Чэргі, рэгістрацыя. Прайсьці праз “аэрапорт” – і чакаць, пакуль выклічуць. Пасьля – перагляд рэчаў на перадачу, і зноў “аэрапорт”, рамка. Прылёт... Чарнуха з Дэпартаманту карэкцыяў пальцамі ў празрыста-блакітных пальчатках пора ў гарбату – “Што тут?” Адставіла ўбок бляшанкі са згуш-

чаным малаком і вязаны швэдар – “не дазволена”. Пакруціла бохан чорнага хлебу, зьдзіўлена паглядзела на Лысага. Прапусьціла яшчэ раз праз рэнтген. Званіла некуды раіцца. “Нельга. Хлеб – толькі нарэзаны”.

Засталіся гарбата, печыва, блёк “Мальбара”. Лысы сьцягнуў сваю марынарку, паклаў на стол. Чарнуха вылупіла вочы: “Жакет? Ды там сьпёка! Там у майтках ходзяць!” Лысы, падумаўшы, перагледзеў кішэні, падсунуў жакет да яе: “Хай будзе”.

Чаканьне. Невядома чаго, Лысы раптам стаў хваляваецца – ці добра падумаў пра ўсё, ці чаго не забыўся, самага патрэбнага. “Ат, на маю галаву”.

На таблё – ягоны нумар. Пайшоў да дзьвярэй, у якіх перад тым разпораз зьнікалі людзі з суседніх лаваў. Гішпанік з кучаравай галавой і з падзёўбаным воспай цёмным тварам глянуў нумар на паперцы, махнуў рукой – правы бок, модуль два.

Уздоўж даўгой празрыстай сьцяны парамі, падзеленыя шклом, стаялі людзі. Твар у твар, з прыціснутымі тэлефоннымі слухаўкамі, узіраліся адзін у аднаго. Пры самай сьцяне чарныш ва ўніформе прамармытаў правілы спатканьня, тыцнуў пальцам – туды.

За шклом стаяла цёмная постаць, якая пры набліжэньні стала набываць і знаёмыя, і незнаёмыя рысы Дзягі. Сёньняшняга, невядомага пакуль. Ягоны твар быў пазнавальны, толькі што з маршчынамі, сівізной і запалымі вачыма. Касаваты рот у знаёмай паўусьмешцы. Паднятыя бровы, адтапыраныя вушы – покліч зь мінулага, зь дзяцінства.

Дзяга замахаў рукой, стаў паказваць на тэлефонную слухаўку. Лысы паднёс яе да вуха, падсунуўся да шкла.

“Ну, здароў! Братка, прабач што такія справы. Тэлефон з інтэрнэту, ведаў, што ты недзе тут. Як у цябе, што робіш?” Голас Дзягі быў знаёма рэзкі і незнаёма новы – з блатным самаўпэўненым раскатам.

“Здароў. Я – так сабе, патроху. Развод, двое дзяцей. Праца пад пытаньнем. І так далей. Лепш кажы, што і як у цябе”.

“У мяне праблема. Трэба семдзесят тысяч на заклад. Ты не падумай чаго. Па-дурному наляцеў на падставу, шыюць замах на рабунак і забойства. Цяжка, браток. Тут такое... Як толькі трапіў сюды, вядуць мяне па калідоры – чарната з-за кратаў цягне рукі. Выюць, б’юць у пруты нагамі: “Мяса! Крэкер! Мяса! Будзе гулянка!” Я пакуль у транзітным боксе. Робяць мэдагляд. Заўтра ўвечары пераводзяць у звычайны блёк – камэра з чорным вар’ятам. Ратуй, братка. Трэба сабраць на заклад”. Запалыя Дзягавы вочы напружана мітусіліся сюды-туды, сюды-туды, па вачох Лысага.

“Дзяга, ты здурнеў. Семдзесят тысяч!”

“Слухай, Лысы. Ты – на волі. Тут жа ж я дакладна не зьбяру! Той чорны, Містэр Джы – расіст. Аўтарытэт, крымінальны бос. Ён згвалціў і задушыў ужо некалькі чалавек. Гара біцапсаў! Ён мяне заб’е, разумееш?! Лысы, ратуй...”

“Я не знайду, Дзяга! Я ў даўгах кругом! Патрабуй іншую камэру, нахалеру табе да таго Джы”.

“Наіўняк. Каб патрабаваць – мусіш быць пры нейкай бандзе. Або лацінасаў, або чорных, або белых арыйцаў. Дык вось арыйцы сказалі, што хай “рускі гарбіч” здохне. Ратунак – толькі выйсьці пад заклад, там будзе бачна”.

“А дзе ж зьбярэш за два дні?”

“Я ўсё прадумаў. Пакуль зацягну на пару тыдняў – або ўскрыю сабе жывот, або каўтану які аловак ці асадку. Зьбяры грошы! Дзеля нашага мінулага, дзеля прайшоўшых тых гадоў”.

“Не магу нічога абяцаць. Але зраблю ўсё, што змагу”.

“Больш спадзявацца няма на каго”.

Лысы разьвітаўся, перадаў чарнышу намоклую ў руцэ паперку і валізку зь перадачай. Дзяга махнуў здалёк і зьнік.

Лысы, нібы ў сьне, прайшоў праз вантробы залі-пачакальні, выйшаў на волю. Сьвятло, паветра. Сонца.

Натоўп круціўся ля аўтобуса, што акурат адыходзіў назад у горад. Лысы ўціснуўся, ухапіўся за парэнч. У галаве круціліся Дзягавы вочы. Зялёна-жаўцявыя, з чорным беражком. Вочы хлуса.

“70 тысяч. Вар’яцтва”.

Лысага працяла: “Плюнуць, кінуць гэтую лухтацень. Ніколі не сябраваў з тым Дзягам. Нічога ня меў супольнага. І нічым не абавязаны. Усё, капцы. Хай выграбае сам. Яшчэ невядома, што за справа, за што заляцеў. Можа, забіў каго. Зараз так: супакоіцца. Выкінуць з галавы. Забыцца”. Прытуліўся ілбом да шкла.

Добра. Усё. Забыліся. Цяпер пайсьці разагнаць хмары. У кіно? Можа, у які бар... Ці рэстаран. Не, бар лепей.

Аўтобус падыходзіў да прыпынку, дзе Лысы перасядаў. Далёка ад дому, але ня дужа. Галоўнае, што тут не натрапіш на якога суседа або іншага знаёмага і на непатрэбныя гутаркі. Лысаму цяпер зусім не хацелася размаўляць. Проста сесьці, адкінуцца, узяць у жыцьця перапынак на гадзіну.

А во, нейкі бар – ірляндзкія колеры, нэонавая заечая капустка, мігцелка “гінэс” у вакне.

Паўцёмна, падміргвае пад стольлю тэлік, пара цёмных постацяў пры стойцы. Што ўзяць? Піва – не, дзе будзеш шукаць прыбіральняў па дарозе.

“Бурбон-дубль, безь нічога”.

“Но праблем”, – стараватая кабеціна за стойкай забаўна ашчэрылася ва ўсьмешцы, па-лайдацку плёхнула з бутэлькі ў цяжкую рабрыстую шклянку, разьліўшы крыху “паліва”.

– Уупс...Нічога, падальем. Ты паляк? – Не. – Рашэн? – Н-не. Не зусім. – Гэта як? Украіна? – Беларусь. – О! Guess what, я ведаю дзе гэта. Я бачыла кіно “Go and See”. – Я таксама. – Гэта праўда, тое, што там зьнята? – Мо і праўда. Мяне тады не было. – Канешне. Прыемнага трунку.

Пуставатая дробная гутарка. Якая табе справа, хто я. Лысы скінуў на стойку грошы: “Рэшту пакінь”. Адыйшоў да століка, сеў на мяккую лаву пры сьцяне, пад фотамі ў рамках.

Месяц назад быў суд, Лысы разьвёўся з жонкай. Праз тры тыдні – слуханьне аб наведваньні дачок, якіх суд прызначыў жонцы. Усё жыцьцё паракулілася, страціла мэту. Лысы спадзяваўся, што меншая, Клярыса, захоча быць з бацькам. Але дзе там, цешча, пэўна, начэй ня спала, вынаходзячы спосабы, каб мацней уквэцаць зяцька, выкачаць у брудзе перад дзецьмі. Не адставала й жонка: “Паламаў жыцьцё, пабурыў будучыню”.

Амбулетны бізнэс Лысага ляснуў паўгады таму, калі адзін ягоны кіроўца пабіў амбулетку і пераламаў ногі старому, што ехаў на ёй дахаты з

клінікі. Усе наяўныя сродкі пайшлі на кампэнсацыю, якую адсудзіў стары, ці, дакладней, ягоныя дзеці. Пагарэла ўсё, што ашчаджалася на дом, на будучыню. Для жонкі гэта стала неадольнай перашкодай для сумеснага жыцьця. Усе размовы скруціліся ў перабрэх і сваркі.

Старэйшая, Карэн, крычэла: "Досыць! Задзяўблі... Разводзьцеся!" Малая Клярыса то нэрвова сьмяялася, то плакала. Калі ўдома была цешча – яны ўдвух па чарзе, як па нотах, закідвалі Лысага вінавачаньнямі й дакорамі. Ат, што ўспамінаць... Талстой усё сказаў 120 год таму.

Лысы адпіў бурбону, утаропіўся ў тэлік, дзе на полі купкамі тузаліся гульцы ў амэрыканскі футбол. Дурная гульня. Але хоць зразумелая. Ня тое што бэйсбол. У ім так і не разабраўся, хоць спрабаваў чытаць правілы. Прасіў знаёмых тубыльцаў патлумачыць тэрміны. А вось у футбол нават гуляў неяк з суседзямі на школьным стадыёне. Дзяўчаты ягоныя сядзелі на трыбуне...

Нейкі фацэт, што сядзеў непадалёк, стаў галёкаць і скакаць – перамагала ягоная каманда. "Усім па крузе, грошы на мне", – гукнуў да бармэнкі. Лысы даў шклянку даліць дармовага бурбону і адыйшоўся да більярду.

"Згуляем?" Ззаду падыйшоў гэны Крыкун, стаў церці крэйдай дзюбку кія. Невысокі й пульхны, намазаныя брыялінам кучаравыя валасы, італьянскага выгляду. Ядвабная цыганская кашуля, строй з бліскучай воўны. Вочы ўважлівыя і нейкія калючыя.

"Окэй." Лысы стаў складаць пасярод зялёнага стала піраміду. "І дзякуй за трунак". – "Калі ласка... А ведаеш, хто першы сам складае піраміду? Хто слабейшы характарам! Прабач, жартую". – "Нехта ж мусіць. Ну пабачым. Разьбівай". Крыкун нахіліўся з кіем над сталом: "Аб што закладаемся?" – "Аб пяцёрку".

"Добра, пакоцім". Крыкун разьбіў піраміду і паклаў шара ў лузу, але потым згубіў чаргу, і Лысаму надзіва лёгка ўдалося яго абставіць.

"Шэнціць табе". Крыкун выцягнуў вялікі скрутак банкнотаў, перацягнуты гумкай, як у гандляроў наркатой. Ён падаў купюру Лысаму і злавіў позірк на скрутку. "Не пераймайся! Грошы чыстыя. Хадзем, кульнем яшчэ па адной і тады працягнем".

Ля стойкі Крыкун гукнуў да бармэнкі: "Яшчэ круг!" Тая з паўусьмешкай наліла Лысаму таго ж бурбону. "Безь нічога! Ну, як мая памяць? – гульліва калыхнула клубамі, цягнучы словы. Нахіліўшыся бліжэй, шэптам сказала: – Будзь зь ім асьцярожны".

"Асьцярожны?! Што за мутацень. Асьцярожны ў більярдах?"

Лысы глынуў трунку і падыйшоў да дзеўкі ці жанчыны год 25, тут жа пры стойцы. Спытаў, ці вольна сесьці побач. Тая пераклала на другое крэсла сваю торбіцу. "Калі ласка". Лысы ўпадабаў такі кшталт жанчынаў – нешта ад Джэніфар Лав-Гьюіт, нешта ад Аўдры Гэпбэрн. "Некага чакаеце?" Заўсёная барная гавэнда. – "А вы?"

"Я... Ну – хіба чакаю! Прухі. Каб посьпех. У справах". – "Вось і я таксама. Посьпеху. У справах". – "Якое супадзеньне. Нешта замовіце? Аплата на мне". – "Зрабіце ласку: пэпсі". – "А мацней?" – "Тады мацней чаканьні". – "Ого! Нічога, дамо рады!" – "Хопіць пэпсі".

Потым Лысы зноў гуляў у більярд з Крыкуном, танчыў зь дзеўкай. Гутарка зь ёю круцілася вакол трункаў, бараў і клюбаў. Пра хто яна і што, у

памяці амаль нічога не засталося. Крыкун таксама зь ёю танчыў і, здаецца, яна ўжо была знаёмая зь ім. Сядзелі ўтрох, і Лысы адчуваў, што час ужо спыніцца. Але Крыкун распавядаў пра свае колішнія спартовыя дасягненьні, пра гульні й братэрства між гульцамі.

"Аддаць усё за сяброў і каманду. Можа, нават жыцьцё". Крыкун узіраўся ў Лысага сваімі пранізьлівымі вачыма, раз-пораз замаўляў яшчэ выпіць. Вочы былі нейкага незразумелага, ваўчынага колеру. Як у Дзягі. Дзяга! Лысы раптам пачуўся няўтульна. Трэба ісьці. Але дзеўка прыязна глядзела на Лысага, а Крыкун прапаноўваў выпіць за братэрства... Замест таго каб сыходзіць, Лысы па п'яным ужо розуме стаў распавядаць пра сябе і свае праблемы.

"Сябрам не дапамагаць – найбольшы грэх". Крыкун нахіліўся бліжэй да Лысага: "Давай выйдзем на цыгарэту". На вуліцы прыемная цішыня і прахалода. Цёмна, ліхтары. Лысы ўжо даўно не паліў, але выцягнуў цыгарэту з прапанаванага Крыкуном пачку.

"Семдзесят – вялікая сума. Такія грошы на дарозе ня знойдзеш. Але я магу дапамагчы. Калі ты мне дапаможаш". Лысы хацеў быў спытацца, што за дапамога патрэбна, але Крыкун ужо ўсадзіў яму ў руку паперку з тэлефонам: "Пазвані заўтра".

Назаўтра, лежачы ў сваім ложку, Лысы перабіраў дэталі размовы ў бары. "Нахалеру я ляпнуў тое? Забыцца на гэнага чортавага Дзягу". У памяці праплыло: "Сябрам не дапамагаць – найбольшы грэх". Сябрам. Дзяга – сябар?

Але потым успомніліся словы Дзягі падчас сутрэчы. Лысы паспрабаваў уявіць сабе, як гэта каўтаецца асадка і йдзе ўніз, у вантробы. Цьху, халера.

Успомнілася чытанае недзе пра хітрыкі савецкіх зэкаў, як нехта каўтануў на мэдаглядзе градусьнік, каб застацца ў шпіталі. Крый Божа.

Перад вачыма паўстала школа, вуліцы дзяцінства. Чамусьці прыпомнілася Дзягава маці – відная, нафарбаваная кабета, з закручанымі валасамі, ногі ў празрыстых панчохах з швамі ззаду, на "лодачках". Успомніў і сваіх маці з бацькам.

Няшмат пра каго хочацца ўспамінаць, няшмат на каго можна абаперціся, чакаць дапамогі.

Лысы падняўся, адшукаў паперчыну з нумарам Крыкуна. Стаяла імя: Rick і нумар цэлюлярнага тэлефону.

"О, Алекс! Як маесься? Трэба пагутарыць. Прыяжджай на ўчорашняе месца, а другой гадзіне".

Лысы глянуў на гадзіньнік: дванаццаць. Зусім мала часу.

І вось зноў той самы бар і тыя самыя вочы. Ваўчыныя вочы Крыкуна.

"Выпіць?"

"Я сам. Джын-тонік, калі ласка". За стойкай – новы бармэн, малады хлопец з вузенькай бародкай-шнуром, зь пірсінгам у губе і брывах.

Адыйшлі з напоямі ў кут, у самае сутоньне. Крыкун выплюнуў пад стол жуйку. "Помніш усё, што казаў учора?" – "Думаю што... так". – "Я ня буду размазваць. Маю грошы, калі зробіш мне паслугу." – "Слухаю". – "Трэба прывезьці нешта з Карыбаў. Ты разумееш?" – "Не зусім". – "Ты едзеш на тыдзень за мой кошт, адпачываеш, папраўляеш здароўе. І прывозіш мне назад... сёе-тое. Табе ня трэба ведаць што. Але мусіш падумаць,

перад тым як адказаць”. – “Колькі можна думаць?” – “Да заўтра. Пазвоніш мне, і проста адно слова – так ці не”.

Далей адбылося тое, што нібы як адмыслова робіцца больш драматычным і кінагенічным у жыцьці, чымся ў фільмовай віртуальнасьці. Вось так на памяці Лысага абсоўваліся долу вежы Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру, гарэла крама цацак “Той Зараз” праз вуліцу, глядела чорнай дзюркай проста ў вока руля пісталета рабаўніка, калі Лысы спыніўся на сьветлафоры ў Браўнзвілі, вяртаючыся ноччу з працы.

Запалілася сьвятло, паўцёмны перад тым бар стаў асьветленай сцэнай. І нібы на сцэне пасьля спэктаклю, вакол іх з Крыкуном сталі паўколам моцныя хлопцы і дзядзькі ў цывільным.

“Паліцыя! Ня рухацца! Паказаць рукі! Рукі!”

Лысы ўсьлед за Крыкуном выцягнуў рукі перад сабой, далонямі ўверх. Нехта збоку па-майстэрску, з прафэсійнай, амаль што пяшчотнай, спрактыкаванасьцю зашчапіў на запясьцях кайданкі. Клац-клац. “Вы пад арыштам!”

Аднекуль ззаду ж амаль у самае вуха нябачны паліцай прамармытаў Мірандавыя правілы, што можна нічога не адказваць, усё будзе скарыстана ў судзе.

На стале засталіся два келіхі. Непрыгублены джын-тонік. Шкада...

Недарэчныя думкі.

Едучы ў машыне паміж двух паліцаяў, Лысы ўзіраўся ў кайданкі, абводзіў вачыма падрэпаныя канты й кароткі ланцужок. Аб што яны так абшорганыя? Колькі людзей да яго пачулі гэткае ж іх клацаньне?

У пастарунку ўзялі адбіткі пальцаў і пасадзілі фатаграфавацца. Лысы ўсьміхнуўся ў камэру – такая іронія. Ратуючы, не ўратаваўся. Нейкі сон. Ён жа нічога не зрабіў. Нічога ня вырашыў. Але ці ўдасца даказаць?

Раптам зрабілася горача, прабіла потам. Саколка стала мокрай.

Райкерс-айлэнд!

Далі пазваніць былой жонцы – яна паабяцала адваката.

На Райкерсе шок зрабіўся мацнейшым. Лысы азіраўся наўкола нібыта з батыскафу, што спусьцілі глыбака ў падводнае царства.

Ён у боксе з кратамі замест адной сьцяны, са зробленымі зь нержавейкі ўмывальнікам і ўнітазам, з тоўстым блёкам паралёну замест ложка. Пах сцулёў, спартовай залі і казармы. Як у маладосьці. А таксама як у дзяцінстве – прыбіральні ў дзіцячым садку.

Доўгія гадзіны мэдытацыі, шэры бэтон падлогі. Кароткая сустрэча з адвакатам. Жвавы бухарац сярэдняга ўзросту, чарнявы, з густымі брывамі паўкругам. “Калі ўсё было, як ты пераказаў, – няма праблемы! Трэба адказваць толькі кароткімі сказамі. “Так” або “не”. Не называць новых абставінаў або асобаў. Трымаць у памяці сказанае раней, зноў казаць дакладна тое самае. Удачы!”

У камэру падсадзілі нейкага невялічкага філіпінца або малайца. Той, пэўна, ня ведаў мовы – не адзываўся на пытаньні, нерухома сядзеў на сваім месцы. Празь некалькі гадзін, нібы ідучы да ўмывальніка, кінуўся да Лысага, паваліў на сьпіну і стаў сьцягваць ягоныя чаравікі-макасіны.

“Так, першае знаёмства мусіць быць памятнае”. Лысы перакруціўся, з усяе сілы ўсадзіў філіпінцу пад дых. Зь нейкім зьвярыным гукам той адкінуўся ўбок.

Заскрыгаталі дзьверы-краты: “Хто Алекс? Рукі наперад! Выходзь на праверку”. Чорныя наглядчыкі ў шэра-блакітных уніформах.

Лысы бокам прасадзіў абедзьве рукі – зноў кайданкі. Прайшлі калідорамі, паўз камэры з постацямі розных колераў і позаў.

“Праверка” аказалася допытам. Двое сьледчых па чарзе распытвалі, хто і адкуль. Сям’я, праца. Ці кантактуе зь землякамі з Расеі. “Ты не з Расеі? Добра, хай не з Расеі – былога Савецкага Саюзу”. Некалькі разоў перапытвалі пра Крыкуна і пра дзеўку, зь якой яго бачыла бармэнка. Лысы некалькі разоў пераказаў тое ж, што распавёў адразу.

Калі вярнуўся ў камэру, філіпінца ўжо не было, замест яго сядзеў нейкі вусаты нацмэн у гадох, у белай кашулі і цёмным строі. Ці то араб, ці турак. Таксама не гаварыў па-ангельску, але ўсьміхнуўся, паказаў пальцам на сябе, назваўся нейкім Хамідам ці Вахідам.

“Алекс”. Ён быў насамрэч Алікам – так звалі яго бацькі й настаўнікі. Але ў школе імя замяніла мянушка – Лысы. Маці зь сястрой памылі яму неяк галаву пэрсідзкай хной – “ад перхаці”. Валасы сталі ярка-рудыя, і Алік не наважыўся ісьці ў гэткім выглядзе ў школу, папрасіў у цырульні, каб пастрыглі пад нуль. З таго часу ён Лысы.

Хамід ці Вахід прапанаваў жуйку, Лысы падумаў і выцягнуў лустачку жуйкі з прапанаванага пачачка “спэармінту”, засунуў у кішэню абгортку.

Потым нацмэн маліўся, гледзячы на паднесеныя да твару рукі, ставаў на калені, датыкаўся ілбом падлогі. Жартам падумалася: “Не баіцца гэтак адстаўляць зад у турме”.

Вячэра – канапкі з сочывам і арахісавым маслам, банан і плястыкавая бутэлька вады. Мэдытацыя – зноў шэры бэтон падлогі.

Прачнуцца ў турме – такой раніцы не пажадаеш і ворагу. Сьнеданьне – тое, што было на вячэру. Зноў допыт, зноў амаль тыя самыя пытаньні. “Пра што дамаўляліся з Крыкуном?” – “Ён прапаноўваў працу, але так і не растлумачыў, што менавіта”. Добра, што нідзе ня ўсплыў Дзяга, гэтага толькі не хапала б. Лысы жыва ўявіў сабе, як ствараюцца зь нічога гэткім вось чынам крымінальныя справы, і праўда робіцца сваёй супрацьлеглась-цю.

Сустрэча з былой жонкай – у той самай залі, дзе Лысы гутарыў праз шкло зь Дзягам. Праўда што “ад сумы ды турмы не заракайся”.

Рэгіна, здаецца, памякчэла, спрабавала ўсьміхнуцца. Шкадавала яго, відаць. Як усё лёгка – варта толькі патрапіць у турму. Перад тым усе ягоныя гутаркі пра цяжкасьці, пра абставіны, пра тое, што дзеці ў іх, – былі марныя. Цяпер вось пашкадавала. Добра і гэта.

Нарэшце Лысага выпусьцілі.

Два тыдні жыцьця.

Хіба гэтымі тыднямі аплочанае збліжэньне з былой жонкай, вяртаньне дачок?

Усе разам зьезьдзілі, як некалі, у забаўляльны парк “Сыкс флэгс”, у каторы ўжо раз пабывалі ў Музэі прыродазнаўства – у залях дыназаўраў.

Што дакладна было з аднаклясьнікам Дзягам, Лысы так і не дазнаўся. У даведачным аддзеле Дэпартамэнту карэкцыяў паведамілі толькі, што “сп. Дзьмітры Манах перададзены іміграцыйным уладам і дэпартаваны за межы Злучаных Штатаў”.

Свабода. Як няшмат трэба для шчасьця. І як часта бракуе гэнага “няшмат”.

Чаму прыйшоў у гэты сьвет, чаму пойдзеш зь яго – невядома. Можа проста, каб стаць маленькай парушынкай у вялікай купе, узыйшоўшы на якую, нехта некалі адгадае гэтую таямніцу.

А пакуль у пакоі дзяўчаты глядзяць тэлік, жонка завіхаецца на кухні. А ён, Лысы, тут, у ваньне. Якая гэта раскоша – вада. Сонца на кафлях. Дзьверы, якія сам можаш адчыніць і выйсьці.





**КАВАЛЕЎСКІ Віктар** нарадзіўся 11.01.1956 году ў раённым пасёлку Радашкавічы Маладэчанскага раёну Менскай вобласьці. У 1973-м скончыў менскую сярэднюю школу № 72, а пасьля — Краснаярскае вайсковае радыётэхнічнае вучылішча. Служыў камандзірам тэхнічных аддзелаў у Кыргыстане і Казахстане. У 1981 годзе аддаў у палітаддзел партыйны білет. Пасьля звальненьня з арміі працаваў інжынэрам, тэхнікам, фатографам. Скончыў у 1989 курсы дакумэнтальнага кіно.

З 1992 году жыве разам зь сям’ёй у Аўстраліі. Выбраны на пасаду сакратара Беларускага Аб’яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі ў 1997 годзе, а праз два гады — на пасаду старшыні аб’яднаньня. У 1999 годзе разам з айцом Міхаілам (Бурносам) арганізаваў Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі. Аўтар кніг: “Беларусы ў Адэляйдзе”, “Янка Ролсан і яго творы”, “Беларуская эміграцыя ў Паўднёвай Аўстраліі”, “А хто там ідзе?”. Аднавіў друк часапіса “Новае Жыцьцё” з 2003 году.

# Залатыя пялёсткі аднаго з двух дажджоў

Ала Цуканава, што скончыла сярэднюю школу № 72 гораду Менску на год пазьней за мяне, напісала мне, што ў пачатку 2010 году памёр мой аднаклясьнік Манухін. І я спыніўся, наткнуўшыся на гэтую навіну. Мой год пайшоў...

І вось зноў восень. Зноў пад бліскучым Паўднёвым Крыжом. У розьніцу ад Палярнай зоркі, Крыж большы. Магчыма, крыху ярчэйшы. Для вандроўнікаў, якія шукаюць у цемры сваёй дарогі гэта неабходна.

Ну...

Вядома, толькі для тых, у каго не працуе джы-пі-эс ці зламаўся сэкстант.

Так бывае. Неабходныя прыстасаваньні ламаюцца, і застаецца надзея толькі на дапамогу бліскучай зоркі. Каб знайсьці шлях дадому.

А дома...

Дома ідуць дажджы.

Адзін зь іх паволі сыпле на адэляйдзкія вуліцы свае малыя кропелькі. А другі трасе лісьцем. Прыгожа-кручаным і лятучым. З дрэваў пад назваю голдэн-рэйн.

Dust to dust. Прах да праху.

Вясёлыя залацінкі павольна плывуць да долу вальсам прыпаздалага лета.

Але…

Вось першы дождж сыпануў мацней.

Спачатку над хвалямі заліву Сьвятога Вінцэнта загойсалі маланкі. А потым на цёмную пасьцілку раніцы грузна паляцелі сьцюдзёныя кроплі. Аднекуль зьверху, з-пад набраклага вадой Паўднёвага Крыжа.

І ўсё раптоўна сьціхла.

Спынілася вальсовае кружэньне лісьця. Змоўк вецер. І толькі ўсплёскамі скрозь шум раніцы горада, што прачынаецца, мне чуліся гукі наехаўшых на невялікія яшчэ калюжыны колаў машын. Шых…. Шых….

Загаманілі ўздоўж бровак ручайкі вады. І па іх, спачатку неяк марудна, а потым усё хутчэй, паплылі залатыя пялёсткі.

Dust to dust.

Адзін дождж змываў другі.

І гэтае жыцьцёвае кружэньне груба разанула мне ў вочы сваім жорсткім рэалізмам. Я спыніўся, тармазнуўшы ля дарогі. Стаў глядзець скрозь уздутае белымі жыламі шкло на плывучыя пялёсткі. Спрабуючы пачуць іх жалобны плач… Гэтых фарбаваных золатам прыгажунь. На маіх вачах яны ператвараліся з залатых пырскаў у бура-карычневую масу. Лятучую ў прыдарожныя пасткі нястрымным патокам часу.

І потым далей… У мокрыя магілкі хваль заліву. Dust to dust.

На маіх вачах паміралі кавалачкі жыцьця.

Адыходзілі ў забыцьцё.

Адным днём мяне змые падобны дождж.

Ён панясе мяне нябачным патокам туды, дзе на мяне ўжо чакаюць мільёны матэрыяльных адзінак быцьця. Тых, хто быў тут да мяне. Сярод якіх ужо прысвоіўся гаварлівы Манухін. І бязьлічная колькасьць іншых асобаў. Калісьці думаючых, чакаючых, кахаючых…

Мяне кіне ў цемру сьцюдзёнай вады сьмерці, і я сьціснуся, разумеючы апошнюю хвілінку майго жыцьця, спрабуючы няўмела здаць назад, адкінуцца, адсунуць рукамі ўбок свой немінучы крок у небыцьцё.

Спрабуючы ўспомніць…

Успомніць…

Успомніць моманты майго ранейшага жыцьця, зорачкі шчасьця, вясёласьці жыцьцёвага палёту. Веруючы ў сваю недадатковасьць да гэтага няспыннага жыцьцёвага патоку. Спрабуючы зноў адчуць на сваіх вуснах крышталікі каханьня, маладосьці. Не сэксуальнага эліксіру, не, але… чаканьня ў вачах, нэрвовасьці рук, невядомасьці адчуваньняў. Кроку ў іншае. У тое, што адбываецца толькі раз.

Толькі раз.

Як зараз адбываецца гэтае падзеньне.

Але...

Dust to dust.

Запозна, сябра...

Нехта ззаду пхае мяне, і я нягегла валюся ўперад, у цёмна-бурую масу чорнага патоку.

Апошні ўздых...

І разам са мною адыходзіць і мой маленькі сьвет. Ён валіцца туды, дзе супэргалактычным спляценьнем міргаціць блакітны мрок іншых плянаў, адбыўшыхся і неадбыўшыхся мэтаў, доўгага і кароткага жыцьця. Дзе нікому не цікава ведаць, ці Палярная зорка ярчэй за Паўднёвы Крыж, ці наадварот. Туды, дзе ёсьць толькі dust. Нябачны і нячутны. Як пыл Сахары над хвалямі акіяну.

Разьвіднела...

Дождж спыніўся, і я выйшаў з аўта.

Няспынна бягуць ручайкі паўздоўж броўкі. Нясуць на сябе залатыя пялёсткі ў іншы сьвет. Дзе небагата залатых фарбаў. Дзе ўсё пішацца нябачнымі нам, тутэйшым, формуламі адчуваньняў.

Куды адзін дождж змывае другі.

Ну і што апасьля? Хто ўздымецца ўверх? Хто засохне маленькаю галінкаю на пачатку жыцьця? Ці будуць яны шчасьлівейшыя за мяне? Ці зацягне іх у сваё жэрла быцьця бег па крамах, жаданьне матэрыялізму, неабходнасьць быць каля некага, ці камусьці быць ля іх саміх?

Але так ужо было.

І што?..

Так будзе?

Заўжды?

Ці гэта ж праўда?

Стоячы, я ўспомніў, як пад час вучобы ў вайсковай навучальнай установе наш другі аддзел перабіраў бульбу ўвесну з прыхваченых марозам буртоў. Хтосьці, магчыма, Пчала, кінуў прысыпаны сольлю жарт. І па закавулках вучэльні пакаціўся сьмех. Я тады ад гэтага сьмеху ня мог дыхаць. Я паваліўся на яшчэ халодную ад сыбірскай зімы зямлю і плакаў, выціраючы сьлёзы.

Па адэляйдзкіх вуліцах няспынна коціць жыцьцё, кідаючы на мяне з-пад колаў вадой.

Вось і сонца.

Але... я затрымаўся ва ўспамінах, недзе ў мінулым часе. У далёкай, неверагодна далёкай ад мяне сёньняшняга Сыбіры. Дзе я кружыўся над зямлёю зялёным пялёсткам. Ня думаючы аб тым, што ў 2010 годзе я буду стаяць на вуліцы Чэрчыля і глядзець на памытыя вуліцы Адэляйды. Там, у Краснаярску, усё жыцьцё бачылася перада мной яркай сьцяжынаю сярод залітых макамі палеткаў. Калі не адыходзілі ў іншы сьвет твае аднаклясьнікі. Калі ты раптоўна не спатыкаўся аб гэтую падзею, адчуваючы сябе малым, нязначным, плывучым у прыдарожную пастку жыцьця пялёсткам.

*7.05.2010*

# ПЕРАКЛАД

**Tim Chappell, The Persian blanket.**
**The life of Janina Milek**
**Fremantle Arts Centre Press, Australia, 2004**

*Дазвол на пераклад часткі кнігі атрыманы асабіста ад доктара Чапэля.*

## Ад перакладчыка

Доктар Чапэл знайшоў час напісаць і потым надрукаваць кнігу пра жыцьцё няроднай яму польскай імігранткі ў Аўстраліі, жанчыны, што пад час дзявочай красы была вырваная сталінска-камуністычнай агрэсіўнай палітыкай з хутару бацькоў, кінутая разам зь іншымі тысячамі бязьвінных людзей на пустынныя прасторы Сыбіры, каб выконваць цяжкую, зусім не жаночую працу.

Чаму я зацікавіўся гэтай кнігай? Яніна ж не беларуска, яна полька. Справа ў лёсе. Незалежна ад нацыянальнасьці шмат людзей прайшлі адной і той жа сталінскай дарогай выпрабаваньняў і цяжкасьцяў. Тысячы беларусаў з Заходняй Беларусі, ці Крэсаў Всходніх былі побач зь Янінаю, хаваючы сваю беларускасьць і для выратаваньня стаўшы на час палякамі. На жаль, я зь імі не сустрэўся. А можа, яны, як мой дзядзька Віктар, так ніколі нікому і не прызналіся ў сваёй беларускасьці? Таму дазвольце мне глянуць на незвычайны лёс Яніны.

Яніна Мілек.

Навакол яе гінуць людзі, але Ён падараваў ёй моцны характар і добрае здароўе. Яніна праходзіць праз гэтыя жудасныя выпрабаваньні не схіліўшы галавы, знаходзячы моц дапамагаць сваім родным у любы час. Пасьля сьмерці бацькі Яніна становіцца галоўнаю ў сям'і, да апошняга часу даглядае маці. Сувязь з маці не спыняецца нават пасьля раптоўнага ад'езду той у Польшчу. Яніна шле ёй грошы і мэдыкамэнты з Аўстраліі.

Чытаючы кнігу, мы бачым, што нават моцная любоў Яніны да свайго краю ня можа перасіліць у ёй жудасьці да камуністычнага рэжыму ў Польшчы і Савецкай Украіне, дзе застаўся яе дом. Яе можна зразумець. Таго, праз што яна прайшла, больш чым дастаткова для адной асобы. Таму яна так ніколі і не змагла вярнуцца ў раскіданае камуністамі гняздо, у паптаптаны чырвонымі калябарантамі край.

Працуючы ў Аўстраліі на фізычнай працы, Яніна ніколі ня скардзілася на свой лёс, а наадварот, глядзела з надзеяй наперад, нават змагла купіць уласную хату.

Жыцьцё Яніны толькі падкрэсьлівае той факт, што дыктатары могуць спаліць родны кут, кінуць у ГУЛАГ цябе і тваіх сяброў, зьняважыць чалавека голадам і холадам, але ніяк ня змогуць вырваць з сэрца любоў да сваёй радзімы, шанаваньне сваіх бацькоў, жаданьне прыносіць дабро, хоць і на чужыне.

# Пэрсідзкая коўдра. Жыцьцё Яніны Мілек

Я нарадзілася ў 1921 годзе на хутары ў Польшчы, недалёка ад нямецкай мяжы. Калі мне было каля году, бацькі пераехалі на іншы бок Польшчы, пад мяжу з Украінай. Пасьля Першай сусьветнай вайны на гэтай зямлі жыло мноства ўкраінцаў і ў большасьці мова была ўкраінскаю.

Найбольшасьць палякаў, што пераехалі ў гэтую мясцовасьць, былі былымі польскімі вайскоўцамі. Яны атрымалі зямлю ад польскага ўраду. Мой жа бацька, зарабіўшы грошы ў Амэрыцы, купіў свой кавалак зямлі за свае. Ён хацеў застацца жыць у Амэрыцы, але маці была супраць.

На хутары мы жылі з гэтай зямлі і куплялі ў краме толькі запалкі, цукар, соль і дрожджы. Зімою, калі працы было менш, у бацькоўскай хаце зьбіралася шмат польскіх мужчынаў, многія зь іх некалі працавалі ў Амэрыцы, Канадзе, Мэксіцы і Францыі.

Жыцьцё дзяцей у гэты час было напоўнена працаю, вучобаю і рэлігійнымі сьвятамі. У лютым мы ядналіся з прадстаўнікамі грэка-каталіцкай царквы ў сьвяткаваньні хрышчэньня Ісуса ў Іарданскай рэчцы. Наш касьцёл быў у пяці кілямэтрах ад вёскі, таму ў траўні мясцовая школа ператваралася ў храм. Таксама ў траўні шмат людзей зьбіралася на сьвяткаваньне нацыянальнага дня, прыходзілі да нас і жыды з украінцамі. Граў аркестар, людзі махалі польскімі сьцяжкамі. Я вельмі любіла гэтыя падзеі.

28-га чэрвеня сьвяткавалі дзень Сьвятых Пятра і Паўла. У царкву, што стаяла даволі далёка, прыяжджалі прадстаўнікі розных вераваньняў: пратэстанты, грэка-каталікі, нават рыма-каталікі. Толькі не прыходзілі жыды. Шмат хто з хрысьціянаў дабіраўся за сотні кілямэтраў. Яны начавалі на траве нашага хутара і ўвечары сьпявалі рэлігійныя песьні. Я любіла іх слухаць.

Вядома, сьвяткавалі і іншыя сьвяты: 25-га кастрычніка, сьвята ў лістападзе, калі ішлі на могілкі, 6-га сьнежня дзецям давалі падарункі. Ну і Каляды. У гэты дзень маці рабіла сьвяточнае сьнеданьне і пірог. Бацька даваў нам трохі грошай, на якія мы куплялі кавалачкі шакаляды.

У 1938-м пачаліся праблемы. Чакалі на вайну з Чэхаславаччынай, чаго ніхто не хацеў. Паміж Польшчай і Нямеччынай таксама былі праблемы. Усходняя Прусія існавала на краі Балтыйскага мора, і Польшча мела доступ да гэтага мора праз так званы “польскі калідор”.

Усё пачалося ў пачатку верасьня 1939-га. На Варшаву пасыпаліся бомбы. Загінула шмат людзей. Але немцы прыйшлі пазьней. Калі яны дайшлі, то мноства палякаў ужо там не было, бо іх пасьпелі вывезьці.

Да прыходу немцаў, аднак, спакойнага жыцьця не было, зьявіліся ўкраінскія банды, бо не было паліцыі і войска. Украінцы патрабавалі ад палякаў назад свае землі. Пачалі гарэць хаты і гінуць людзі.

Мы спалі ў полі, бо ня ведалі, калі да нас прыйдуць. І яны прыйшлі. Мой брат казаў ім: “Чаму вы ўсё забіраеце? Калі гэтыя землі належалі Польшчы, мы да вас па начах не хадзілі і не рабавалі”. Яны пачалі страляць, але ён уцёк. Але яго дагналі і білі. І прыйшлі праз два дні і зноў забралі Юзіка. Калі ён прыйшоў дадому, то быў чорны ад пабояў. А потым яны прыходзілі вольна кожную ноч і нешта забіралі.

У гэты час у нашай мясцовасьці пачалі зьбірацца палякі з таго боку. У каго хата згарэла, хто ўсё кінуў і ўцёк ад вайны. Мы давалі ім хлеба, але людзі ішлі больш і больш, і хутка даваць ужо не было чаго.

У мястэчку была адзіная крама. Яна належала жыдам. Яны прадавалі хлеб, каву, гарбату, соль і іншае. Па вайне ўсё зьнікла, таму што яны пахавалі многае, ды й не маглі рабіць замовы на тавар і давозіць яго.

Раптоўна прыйшла навіна – расейцы перайшлі мяжу. Украінцы ўпрыгожылі свае вёскі. Сустракалі расейцаў словамі – дарагія браты, мы чакалі на вас дваццаць гадоў, каб вы нас вызвалілі ад польскага ўраду. Адзін з пажылых расейскіх вайскоўцаў адказаў украінцу – ты дурны, мы чакалі на вызваленьне ад расейскай рэвалюцыі. Прайшло дваццаць гадоў, і мы ўсё ня вольныя...

Вядома, Гітлер зрабіў дамову са Сталіным на падзел Польшчы. Што магла зрабіць Польшча? Расейцы прынесьлі свой парадак. Рабілі ўсё па свайму разуменьню. Усё было перайначана на расейскі капыл. Але яны і ня ведалі іншага жыцьця, бо толькі і жылі, што пад Леніным і Сталіным.

Разам з расейцамі прыйшлі сходы. Яны ўвесь час зьбіралі людзей на сходы. Аднойчы, калі мы ішлі з такога сходу дадому, то ўкраінцы пачалі страляць па нас з-за кустоў.

Расейцы падзялілі нашую вёску на тры часткі. Мы трапілі ў частку, што складалася з васьмі хатаў і належала да аднаго мястэчка. Іншыя ж хаты належалі да другога. Не было ніякага сэнсу ў гэтым рашэньні. Рабілася нейкая дурніца.

У пачатку лістапада ўкраінцы зрабілі мітынг бязь ведама расейцаў і загадалі нам пакінуць нашыя хаты. Калі не пакінеш, то ноччу заб’юць. Па шчасьцю, мы мелі добрых знаёмых у мястэчку. Гэта былі беларусы, ці старыя рускія, якія прынялі нас на час.

Хутка паклікалі ўсіх на мітынг, на якім нам казалі адну хлусьню, але ўсё ж дазволілі вярнуцца дахаты. Адтуль усё вычысьцілі. Пабілі ўсе шыбы, разьбілі бочкі з прыпасеным на зіму, шмат што параскідалі па зямлі. Што папалілі. Студню закідалі гноем. Гэты дзень стаў чорным у нашым жыцьці. Было 12 лістапада 1939 году.

Бацька, аднак, загадзя зрабіў двайную столь і змог схаваць нешта зь ежы. Ён выратаваў нас ад галоднай сьмерці.

Хутка расейцы ўвялі свае грошы. На абмен далі толькі адзін дзень. Тыя, хто жыў у мястэчку, дазналіся раней, а жыхары вёсак – са спазьненьнем. Але і гэты прызначаны дзень ператварыўся толькі ў паўдня, бо расейцы ня мелі дастаткова грошай. Праз адну ноч людзі згубілі свае ашчаджэньні. Нас абрабавалі, таму мы ня мелі нічога, каб прадаць і здабыць грошай. Толькі і прадалі, што пару курэй. Купілі трохі цукру і солі. Пасьля мы ня бачылі ні таго, ні другога доўгі час. Крамы пад расейцамі былі пустыя.

Яны ўвялі купоны. Але ніхто ня ведаў, дзе гэтыя купоны можна ўзяць, бо не было ніякай сувязі, ніякага радыё. Зьявіліся чэргі. Было і такое, што мы стаялі ў чарзе, нават ня ведаючы, што там даюць. Калі ж чарга падыходзіла, то нам казалі, што ўвесь тавар выйшаў і больш нічога няма.

Зноў клікалі на мітынгі. Пачалі рэгістраваць людзей, пісалі, зь якога хто году, колькі маюць зямлі. Мой бацька купіў зямлю за грошы, але расей-

цаў гэта не цікавіла, і яны забралі ў нас зямлю, якую перадалі ўкраінцам. Мы засталіся з хатай і ежай, толькі каб пераджыць зіму.

Недалёка ад нас існавала нямецкая калёнія. Немцы нікому ніколі не рабілі шкоды, нават пасьля пачатку вайны. Але 6-га студзеня ўсім немцам было загадана ехаць у Нямеччыну. Яны пазьбіралі, што змаглі і, пакінуўшы нажытае, праз пару дзён прайшлі вёскаю, дзе мы жылі. Коні цягнулі вазы. Скрыпеў сьнег. Гэтыя людзі нікому не рабілі шкоды.

Да нашай хаты расейцы прыйшлі 10 лютага 1940 году. Было вельмі ціха і сьцюдзёна. Было шэсьць расейскіх вайскоўцаў і дзесяць украінцаў. Ды конь з возам. Далі нам дваццаць хвілінаў на зборы. Мяне ахапіла паніка. Я ня ведала, што мне трэба ўзяць. Ці яны вязуць нас на расстрэл? Я ўзяла туфлі, коўдру і што з адзежы. Захапіла і некалькі сямейных фота. Дазволілі нам узяць мукі. Адзін з вайскоўцаў знайшоў збожжа. Я думала, што ён забярэ ўсё, але ён загадаў бацьку ўзяць з сабою. Сказаў, што спатрэбіцца.

Бацька ў той час ужо хварэў. Яму дапамаглі апрануцца і вывелі на вуліцу. Я аглянулася на нашую хату: мой дом, мая вуліца. Маё туташняе жыцьцё зьнікала за дрэвамі. Мне было толькі васямнаццаць гадоў.

Шэсьць кілямэтраў ішлі пехам. Памятаю, што было вельмі холадна, і я адчувала вялікі страх за невядомую будучыню.

На чыгуначнай станцыі ўжо стаяла многа палякаў. Мы пачалі чакаць. Чакалі ўвесь дзень на марозе. Калі сьцямнела, падыйшоў цягнік з вагонамі для быдла. У вагон нас так напакавалі, што, каб павярнуцца, трэба было гэта ўсім рабіць адначасова.

Нашую вёску раней падзялілі на тры часткі. Зараз вяскоўцаў заганялі ў розныя вагоны. Падзялілі і нашую сям'ю. Мая сястра Галіна, мой брат Юзік з жонкаю і дзецьмі трапілі ў іншы вагон.

Потым вагоны пазамыкалі, і ніхто ня ведаў, што будзе далей. Людзі плакалі. Ці маліліся. Нехта сьпяваў рэлігійныя песьні. Але паступова ўсе заціхлі. Апоўначы цягнік крануўся, але хутка зноў спыніўся, і мы чулі, як у вагоны пакуюць больш людзей. На станцыі былі і расейцы, і ўкраінцы, і беларусы. Хацелі дазнацца, куды нас гоняць. Яны давалі нам праз шчыліны хлеб, але вайскоўцы іх адганялі. Хлеба мы трохі мелі, але ня мелі вады. Мне вельмі хацелася піць. Нарэшце, расейцы адчынілі дзьверы і дазволілі жанчынам існці па ваду. Ніякай прыбіральні ў вагоне не было. Адзін паляк, які меў сякеру, прарубаў дзірку ў падлозе, што і стала прыбіральняй. У сярэдзіне вагону стаяла печачка, але дроў мы ня мелі.

Цягнік соваўся ўзад-уперад, зьбіраючы людзей, нарэшце, нас павезьлі да расейскай мяжы. Гэта было ў суботу вечарам. Пачалі там пераганяць з польскага цягніка ў расейскі. Нехта падлічыў, што каля васьмі тысяч палякаў сабралі. Расейскія вагоны былі шырэйшымі, мелі насьцілы і невялікія вакенцы ўверсе.

А трэцяй раніцы цягнік крануўся зь месца. Мы ўжо ведалі, што нас не расстраляюць, бо калі б хацелі, то расстралялі б у Польшчы. Таксама мы ведалі, што ніхто з нас больш ня ўбачыць сваёй краіны. Шлях быў у Сыбір, туды, куды расейцы і раней гналі людзей. Я не хацела думаць, не дазваляла сабе думаць пра будучыню, не хацела нават ведаць, ці я выжыву там. Засталіся ззаду Менск і Кузьнецк. Пераехалі Волгу, Уральскія горы, Омск, Новасыбірск.

Сесьці можна было толькі ў сярэдзіне вагону. Ля насьцілаў месца не было. Людзі мяняліся, каб мець магчымасьць пасядзець. На працягу трох з паловаю тыдняў нам выпадкова давалі 400 грамаў хлеба на чалавека і трохі супу. Калі давалі, а калі не. Кіпень мы звалі расейскай гарбатай, бо пілі яго без настою. Па ваду пускалі толькі жанчын. Пад час гэтага пераезду зь пяці дзетак майго брата Юзіка засталося толькі чатыры.

У Томску нас трымалі дзень на станцыі. Нам загадалі памыцца. Загналі нас усіх разам з мужчынамі ў адзін вялікі пакой і загадалі стаць у розныя бакі. Ніякай загарадкі. Ніякай сьцяны. Расеец сказаў, што калі мы нарадзіліся голымі, то можам і жыць голымі.

Стаім мы голыя, а вады няма. Забегаў тут маленькі мэханік, нешта там правіў. Вось так. Апрануліся ў Польшчы, а распрануліся ў Сыбіры. Здалі адзежу ў парылку ў клумках, а атрымалі ўсё мешанае. Ходзяць голыя людзі і шукаюць сваё. Але пасьля мыцьця мне трохі палегчала.

Нам сказалі, што накіроўваюць нас у працоўны лягер. Яны раскіданыя былі адзін ад другога на сотні кілямэтраў. Старых пасадзілі на машыны, а нам загадалі ісьці пешшу. Мы тры з паловаю тыдні ляжалі ў цягніку і тут раптоўна ісьці сотні кілямэтраў. Так цёпла прыняла нас Сыбір.

Ніякіх дарог. Усё занесена сьнегам. Аднойчы спыніліся ля барачка, дзе нам далі трохі кіпню і хлеба.

Раніцай 11 сакавіка 1940 году мы прыйшлі ў лягер. Нам далі трохі мыла, і я другі раз змагла памыцца. Праз некалькі дзён трыццаць чалавек, уключаючы мяне з маім бацькам і Франакам, перакінулі ў іншы лягер, дзе быў адзін барак. Ніякіх матрасаў на нарах. На адныя нары клаліся два чалавекі. Я спала разам з маці. У гэтым бараку я пазнаёмілася з блашчыцамі, якія няспынна цягнулі зь мяне кроў, пакуль я не пакінула Сыбір.

На дзень давалі 400 грамаў хлеба. Але хлеб трэба было зарабіць. Мужчыны валілі лес. Жанчыны чысьцілі сьнег, секлі дровы. Маладзейшых ганялі на працу. Ніякай цёплай вопраткі нам не далі, толькі валёнкі, якія выратавалі шмат каго ад абмарожваньня ног.

24-га красавіка памёр мой бацька. Я даглядала яго, мыла, бо ён найбольш ляжаў. У апошнюю суботу ён сказаў мне: “Яніна, сёньня ты мяне мыеш у апошні раз. На наступным тыдні я пакіну Сыбір. Палячу над Кіевам у Польшчу”.

Я тады не паверыла ягоным словам, але ён ужо знаў пра свой лёс.

Расейцы паказалі нам, дзе яго можна пахаваць. Мы пачалі дзяўбці замёрзлую зямлю, паліць вогнішча і зноў дзяўбці, пакуль ня выкапалі добрую яму. Прыйшло некалькі палякаў і расейскі доктар, які быў сасланы ў Сыбір, бо ў Маскве нехта хацеў усіх людзей перамяшаць. Ніякага сьвятара, ніякай службы, толькі некалькі чалавек, што маліліся. Мы пахавалі бацьку і пайшлі назад у лягер.

Летам 1940 году нас перавезьлі ў іншы лягер, дзе мы павінны былі хадзіць па лесе і рэзаць сосны, каб сьцякала смала, якую мы зьбіралі. У адзін дзень да нас прыйшоў брат Юзік, які зьбег без дазволу, каб даведацца, як мы жывем. Я бачыла яго толькі дзесяць хвілінаў і нават ня памятаю, аб чым мы гутарылі, бо я была такая напружаная. Нехта з палякаў данёс расейцам пра Юзіка. Але яму пашанцавала, бо ён пасьпеў раней вярнуцца ў свой лягер.

Навокал памірала шмат людзей, але я ня думала пра сьмерць. Толькі цяжка працавала. Мела ўжо трохі грошай. Я працавала заўсёды разам з маім братам Франакам, бо ён бараніў мяне ад дурных хлопцаў.

На адным зь мітынгаў у лягеры сказалі, што пасьля таго, як будуць зьнішчаныя Амэрыка і Англія, зьнікне капіталізм, і паўсюль паўстане камунізм. Будзе адзін вялікі шчасьлівы камуністычны сьвет. Як Юзік ненавідзеў гэтыя мітынгі!

Летам 1941-га Нямеччына напала на Расею. Між імі пачалася вайна. Аб гэтым нам сказалі на мітынгу. Сказалі, што раней Расея вельмі сябравала зь Нямеччынай, давала шмат збожжа, але немцы зрабілі раптоўную атаку. Пазьней я даведалася, што Сталін меў шмат праблемаў, бо немцы пасьпяхова захапілі вялікія тэрыторыі. Мы ня ведалі ў той час, што паміж Сталіным і генэралам Сікорскім вяліся перамовы аб стварэньні польскага войска на расейскай зямлі. Дамова была падпісаная 30.7.1941 у Лёндане. Выклікалі арыштаваных палякаў. Але нас сабралі на мітынг толькі 8.9.1941. Зноў перапісалі і паведамілі навіну, у якую ніхто спачатку ня мог паверыць. Ніхто ня мог паверыць! Мы чакалі на нейкі падман ад расейцаў. Потым даведаліся, што мы павінны перабірацца некуды на поўдзень. Да Касьпійскага мора... На Бухару. На Ташкент. Там ствáралася польскае войска. Усіх цывільных і вайсковых палякаў вывезуць з Расеі.

Людзі пачалі выяжджаць імгненна. Але мы засталіся. Нам пачалі добра плаціць. Было што есьці і дзе жыць. Шмат хто ня мог паверыць, што расейцы вось так возьмуць і адпусьцяць людзей зь лягераў. Маёй маці было 62 гады, гэта таксама нас спыняла. Не хацелася новай рызыкі, новых праблемаў. Мы шмат гутарылі аб гэтым, многія спрачаліся, аднак у адзін дзень мы таксама вырашылі ехаць. Можа, і праўда, думалі мы, нас адпусьцяць з Расеі.

Чыгуначная станцыя была за 50 кілямэтраў ад лягеру. 23.11.1941 сямёра нас: маці, брат Франак, Юзік з жонкай Аленай, яе маці і я пайшлі з гэтага лягеру. З намі была маладая дзяўчынка Юзэфа з нашай вёскі. Яе маці з братам памерлі ў Сыбіры, таму яна вырашыла ехаць з намі. Нам трохі пашанцавала, бо, заплаціўшы шафёру машыны, мы змаглі пасадзіць туды маці. Даплацілі, каб ён пакінуў яе ў сваёй цёткі, дзе маці нас дачакалася.

Першы дзень мы прайшлі толькі дзесяць кілямэтраў. Спыніліся ля дарогі, запалілі вогнішча, але было холадна, і мы не змаглі паспаць. Потым ішлі цэлы дзень і спыніліся ля барачка, дзе жыў стары. Там мы змаглі адпачыць.

На наступны дзень дайшлі да станцыі. Расейскі начальнік сказаў, што Ташкент знаходзіцца ў зоне вайны, туды ідуць эшалёны са зброяй, і трэба чакаць не адзін дзень, а можа, тыдзень, каб падалі цягнік для цывільных. Параіў нам ісьці назад у лягер. Нават даваў машыну. Пасьля вайны, кажа, мы можам ехаць у Польшчу.

Але мы вырашылі ехаць далей. Бо калі б мы пайшлі назад у лягер, то маіх братоў хутка забралі б у расейскае войска. Мы заплацілі 60 рублёў за квіткі і пачалі чакаць цягніка.

На трэці дзень, 27.11.1941, прыйшоў цягнік, у які мы залезьлі як мага хучэй. Праз два дні прыехалі ў Новасыбірск. На станцыі было некалькі тысячаў розных людзей: палякі, расейцы, узьбекі, манголы, афганцы; зэкі,

вайскоўцы, бежанцы. Мы спалохаліся, бо сярод нас – трох жанчын і дзьвюх бабуль – было толькі два хлапцы. Хацелі купляць квіткі, але даведаліся, што прадаюць толькі на ўвесь вагон. Сабралі на ўвесь вагон, але тады сказалі, што ў Ташкент плаціць ня трэба. Сотні людзей паляцелі да вагонаў, палезьлі адзін аднаму на карак. Хто ня меў клункаў, залез першым, заняў месца. Мы толькі змаглі заняць месца на падлозе. Так першага студзеня 1941 году мы пакінулі Новасыбірск. З сабой мелі трохі хлеба, але больш нічога. Неяк куплялі ежу, бралі на прыпынках ваду. Праехалі Барнаўл, Рубцоўск, Сяміпалацінск. У Алма-Аце сталі. Па хлеб чакалі ў доўгай чарзе. Але тут сказалі, што цягнік крануўся. Кінуліся да вагонаў. Пасьпелі назад усе, за выключэньнем брата Франака. Яму ў тым годзе споўнілася 17. Мы ведалі, што калі ён трапіць да расейцаў, то яго забяруць у войска. Але на наступнай станцыі ўбачылі сіняга ад марозу Франака. Ён пасьпеў скокнуць на счэпку між вагонамі.

Прыехалі ва Ўзьбекістан 14 сьнежня 1941 году.

У Ташкенце нас трымалі замкнутымі ў вагонах, бо на станцыі было зашмат народу. Далей павезьлі ў Самарканд і Бухару. Раптоўна на станцыі Каршы нас павыганялі з вагонаў. Прайшоў дождж, і паўсюль была гразь.

Ніякага Польскага Войска там не было. Ніхто нічога ня ведаў. Ніякай ежы нікому ня выдалі. На чацьвёрты дзень прыйшоў караван: сотні вярблюдоў, коней, аслоў. Так мы дабраліся ў Бешкет.

Там нас зарэгістравалі і накіравалі да месца жыхарства. Мяне з раднёй накіравалі на хутар ў кілямэтры ад Бешкету. Нам далі дом, зроблены з гліны, безь ніякай мэблі, з адным толькі пакоем. Падлога засыпана саломаю, ад якой патыхала гнільлю. Юзэфу спачатку накіравалі на іншы хутар, але мы дабіліся, каб нас аб'ядналі.

Узьбекі не хацелі мець столькі палякаў, не хацелі дапамагаць у стварэньні нейкага польскага войска. Было мала ежы, яшчэ менш будынкаў для жыцьця. Але расейцы ім загадалі, тыя выконвалі. Мы павінны былі працаваць для ежы. Бяз працы нікога не кармілі. Шмат памерла там ад голаду і хваробаў. Дроў не было. Муку выраблялі, круцячы жорны, бо пра электрычнасьць там і ня чулі. Памыцца не было дзе. Ваду бралі з бочак. Кожны пачаў думаць, ці трэба было сюды прыяжджаць, каб жыць у гэтым стойле пад назвай калгас?

Таму мы вырашылі ехаць назад у Сыбір. Але нам загадалі прайсьці вакцынацыю і дэзынфэкцыю, што каштавала вялікіх грошай. І мы засталіся. Праз тыдзень навіна – едзе польская камісія і будзе рэгістрацыя ў польскае войска. Вайскоўцаў павязуць у Пэрсію. Разам зь імі і сем'і таксама. У гэта немагчыма было паверыць!

Камісія прыехала 10 лютага 1942 году. Франак зь Юзікам пайшлі на рэгістрацыю. Пачулі там, што ў красавіку ўсіх павязуць далей ад Расеі.

Але становішча навокал было цяжкае. У гэтым Узьбекістане пачалася эпідэмія тыфу. Людзі паміралі. Эвакуацыю палякаў затрымалі. Адзінкі толькі ад'яжджалі. Так паехала Юзэфа.

Працы на полі было няшмат. Больш ежу не давалі. Узьбекі былі добрымі людзьмі, надзейнымі, але вельмі беднымі.

Польскі камітэт узяўся за дастаўку прадуктаў. Грошы даваліся з розных арганізацыяў, уключаючы Чырвоны Крыж.

У жніўні 1942 году прыйшла навіна: мы можам купляць квіток. На квітку было напісана – дазволена аднаму: Іран.

Згубіць такі білет значыла толькі адно – застацца ў Расеі.

Я працягвала працаваць некалькі тыдняў аж да дня, пакуль мы не пайшлі на чыгунку. Апоўдні прыйшоў цягнік са знаёмымі лаўкамі. У нашым вагоне сабралося 95 асобаў, уключаючы дзетак без бацькоў, пажылыя палякі. Мая старэйшая сястра Алена не пасьпела на гэты цягнік і засталася там з чатырма дзецьмі.

На трэці дзень мы прыехалі ў Краснаводзк. Ля станцыі знаходзіўся польскі лягер, дзе я шукала сваіх братоў, але не знайшла. Пад вечар нам паведамілі, што трэба ісьці шэсьць кілямэтраў да марскога порту. Ніхто не спрачаўся, бо гэтыя шэсьць кілямэтраў былі апошнімі ў нашым жыцьці па Расеі. Людзі сьпявалі гімны, рэлігійныя песьні, сьпевы маладосьці.

У порце з трохпавярховага карабля разгружалі параненых расейскіх вайскоўцаў. Пасьля абеду дазволілі ісьці на карабель. Як і на чыгунцы, людзей напакавалі, што няможна было ступіць. Рэчаў з сабою шмат браць не дазволілі. Я пакінула нешта, аб чым ніколі не шкадавала.

Польскія музыкі спачатку гралі расейскія маршы, але потым, калі шмат палякаў зайшло наверх, пачалі граць польскія. Людзі пачалі плакаць. Мноства людзей пагубляла сваякоў, пахавала родных у Сыбіры і Узьбекістане.

А пятай вечара карабель адыйшоў ад берага і ўзяў напрамак на Пэрсію. Мы знайшлі сабе месца на палубе. Ніякай ежы нікому не давалі, толькі што было вады на ўсіх. І ніякіх прыбіральняў. Каму трэба было, то садзіліся на парэнчы і, трымаючыся за сваіх людзей, каб не зваліцца, рабілі сваю справу.

Пасьля двух дзён і начэй мы прычалілі ў порце Палаві, што ў Пэрсіі.

Пэрсія.

Мы вырваліся.

Мы прайшлі праз усё.

Мы выехалі з Расеі!

Мы пакінулі гэты сьмярдзючы карабель і пайшлі на сухую зямлю з надзеяй на лепшую будучыню.

Імгненна рэчы сталі лепшымі. Нам усім далі хлеб і каву. У лягеры былі толькі будыніны бязь сьцен, але стала зразумела, што жыцьцё тут добра арганізавана. Людзей пачалі карміць. Арганізавалі лазьню з паркай адзеньня. Праверылі на вошы. Хто іх меў, адразу згубіў свае валасы. Не шкадавалі нікога. Выдалі новае адзеньне з Чырвонага Крыжа. Далі коўдры. Я і да сёньня маю тую, дадзеную мне ў Пэрсіі коўдру.

Увечар далі мяса і пазьней зеляніну. Мяса! З самым сапраўдным салам! Мы забыліся, што гэта такое – сала! Людзі пачалі есьці, як быццам заўтра ўжо ня будзе. І шмат хто за гэта заплаціў сьмерцю.

На працягу цэлага месяцу прыяжджалі новыя бежанцы. Але 15.09.1942 прыйшоў апошні карабель. Пазьней я чула, што каля мільёну палякаў засталіся на тым баку Касьпійскага мора. Што зь імі? Дзе яны?

У лягер прыбылі машыны. Нам загадалі сесьці на іх, і мы паехалі ў напрамку на Тэгеран. У першым горадку далі ежу, але спалі мы ля дарогі. У Тэгеране пабудавалі баракі на 50 асобаў са сьценамі, зробленымі зь меш-

кавіны. Тут мы дазналіся, што над намі трымае апеку польскі ўрад разам з брытанцамі. Магу сказаць, што ўсё было добра арганізавана. Мне далі алюмініевы посуд, у якім нават можна было мыць бялізну. Далі адзежу, абутак. Мужчынскія чаравікі, але вельмі добрыя. Я хадзіла па вуліцах Тэгерану і ўсім паказвала свае новыя чаравікі.

Хутка, 2.11.1942, нас павезьлі на чыгунку. Упершыню ніхто нас не падганяў, не заганяў на нары. У вагонах можна было сесьці! Кожны атрымаў сваё месца. Далі хлеб, бісквіты і пірог. Цягам трох дзён цягнік ляцеў скрозь тунэлі. То рабілася цёмна, то сьветла. У Ахвазе быў вялікі лягер. Шмат польскіх, брытанскіх, амэрыканскіх і арабскіх вайскоўцаў. Тысячы і тысячы людзей. Нам далі былы нямецкі блёк – па 650 цывільных у блёк. Але папярэдзілі, што праз тры дні рушым далей. Але гэтага не адбылося, бо зрабілі каранцін з-за нейкай хваробы. Да гэтага зьнішчылі ўсіх клапоў умомант: адміністрацыя прыгнала вялікі грузавік, які зрабіў дэзынфэкцыю.

Тут мы атрымалі ліст ад Алены, якая пісала, што браты Юзік і Франак памерлі ад тыфу ва Ўзьбекістане. Гэтая навіна разьбіла нашыя сэрцы. Таксама мы даведаліся ад Алены, што яна з дачкою і маці выяжджае ў Індыю.

А мы ўжо ведалі, што нас вязуць у Афрыку.

Вывезьлі нас 25.01.1942 цягніком у порт, дзе пасадзілі на вялікі акіянскі ляйнэр. Там два шкоцкіх вайскоўцы пачалі граць на сваіх трубах. І зноў людзі плакалі. Плакала і я. Думала аб сваіх братах, аб бацьку і многіх іншых.

Спачатку мы ішлі ў складзе канвою, але хутка аддзяліліся ўбок. Спыніліся на некалькі гадзін у Мамбазе, потым рушылі ў напрамку на порт Бейра, што ў Мазамбіку, што раней зваўся Радэзіяй. У порце было мала людзей, але нас прыйшоў сустракаць ксёндз. Некалькі чорных афрыканцаў дапамаглі нам дабрацца да чыгуначнай станцыі. У цягніку мы даведаліся, што сядзячыя месцы можна перарабіць у спальныя.

Паехалі мы скрозь Булаваў і Лівінгстон. Дзень я ня памятаю, але добра памятаю час – пяць раніцы. Я пачула нейкі гул і роў. Нам сказалі, што недалёка так гудзіць вадаспад.

Усё было прыгожа. Вялікая рака. Як тое мора. У патоках вадаспаду я налічыла дваццаць вясёлак.

Цягнік спыніўся ля маленькай станцыі зь вялікім гатэлем, дзе жылі палякі, якія змаглі зьбегчы з Польшчы да пачатку вайны. Мы ім бачыліся беднымі бежанцамі з Расеі. Наш лягер быў у дваццаці кілямэтрах ад Лусакі. Багатая ангелька аддзяліла частку сваёй зямлі пад наш лягер.

Хаткі былі зробленыя з гліны. У кожный жылі чацьвёра. Было чатыры ложкі, чатыры невялікіх шафкі і чатыры крэслы. Быў пакой для праньня і кухня.

Нараніцу я ўбачыла, што белыя мурашкі зьелі мае цудоўныя чаравікі.

Пачала працаваць на кухні, за што плацілі два фунты на месяц. Хоць нас і добра кармілі, але пасьля галоднай Расеі нам усё не хапала, таму кожны нешта дакупляў.

Мы былі першаю групай польскіх бежанцаў у Лусацы. Потым пачалі прыяжджаць новыя і новыя групы, уключаючы дзетак. Вельмі хутка наш гарадок налічваў дзьве сотні дарослых з трыма сотнямі дзетак. Мы мелі

сваю гаспадарку, пачатковую і дарослую школы. Англія давала грошы на школы, але настаўнікамі былі палякі.

Менавіта ў Лусацы я зразумела, што змагу сама пабудаваць сабе хату, калі куплю кавалак зямлі. Я буду жыць у гэтай хаце, і ніхто ня будзе загадваць мне, куды ісьці і дзе мне жыць.

У 1945-м прыйшла вестка – канец вайне!

Людзі пачалі пакідаць наш лягер, ехаць да сваёй радні. Многія эмігравалі ў Канаду, Амэрыку і Аўстралію, асабліва ў Тасманію. Наша сяброўка Юзэфа запісалася ў Амэрыку. Яна паехала, і я, на жаль, ніколі больш аб ёй ня чула.

Прыйшла новая вестка, што тыя асобы, хто мае мужчын у ангельскім ці польскім войсках, могуць ехаць у Англію, каб яднацца зь імі. Аленін муж Людвіг ваяваў у Італіі, выжыў і зараз быў у Англіі. Алена з мужам пакінула Сыбір раней за нас, таму Людвіг выехаў з Узьбекістану да пачатку эпідэміі тыфу. Але сама Алена працавала ва Узьбекістане да канца вайны. У 1946-м яна вярнулася ў Польшчу.

Я адмовілася ехаць у Англію. Не магла ехаць і ў Польшчу. Нават вырашыла, што калі прымусова вернуць у Польшчу, то скокну з карабля ў мора. Але не паеду. Там трэба будзе адказваць на пытаньні: так ты ня замужам? Няма дзетак? Калі пойдзеш да споведзі? Ды і хто схоча жыць у камуністычнай краіне?

У 1948-м кіраўніцтва пачало закрываць лягер. Нас перапраўлілі ў Тэнгуры. Я там баялася, што нас па-расейску прымусова накіруюць у Польшчу. Але гэтага ня здарылася.

Лягер стаяў ля гары Кіліманджара. Кожную раніцу сонца іскрыла сьнег на вяршыні. Раней у лягеры жыло да пяці тысячаў бежанцаў, але зараз засталося з тысячу, так што я з маёй маці мелі цэлую хаціну на дваіх.

Нам сказалі, што доўга мы там ня будзем і павінны думаць, куды ехаць. Шмат там было дзетак без бацькоў. Польшча іх брала, але ніхто не пагаджаўся ехаць. Дзеці хаваліся, калі прыходзілі машыны па іх. Нарэшце, дзетак прыняла Швэйцарыя.

Потым прыехала камісія з Канады, але канадыйцы хацелі толькі здаровых і самотных. Кожны мусіў прайсьці мэдычны агляд. Я магла паехаць у Канаду, але не выпадала, бо павінна была пакінуць маці.

Раптоўна мая маці вырашыла ехаць назад у Польшчу. Бо хацела да сьмерці пабачыць сваіх. Я сказала маці, што знайду месца ў сьвеце, дзе пабудую хату і буду ў ёй жыць. І мы зможам жыць разам. Але маці пакінула лягер 20.8.1949.

Я ніколі ня думала, што застануся адна.

У лістападзе прыехала камісія з Аўстраліі. Я запісалася. Як і канадыйцы, аўстралійцы хацелі сабе толькі людзей з добрым здароўем. Муж маёй знаёмай не прайшоў камісію з-за туберкулёзу, які дастаў у Сыбіры. Так яны засталіся ў Афрыцы.

Спачатку мы павінны былі ісьці морам у Мэльбурн, але потым нешта перайначылася і нас накіравалі ў Фрымантл, што ў Заходняй Аўстраліі.

Мы пакінулі Тэнгуры ў напрамак на Мамбасу 26.1.1950, пакідаючы ў лягеры каля дзьвюх тысячаў людзей. Я аж да самага ад'езду працавала на кухні.

Пасьля трох дзён у Мамбасе мы адыйшлі ад Афрыкі параплавам "Гэнэрал Лангфіт" а дзясятай вечару.

Я стаяла на палубе і глядзела на міргаючыя на вадзе аганькі порту. Цудоўны краявід.

У каюце было каля 50 асобаў. Нейкі дзівак вёз з сабою часнык, і я не магла спаць. Ніколі ня меўшы марской хваробы, я гэтым разам амаль нічога ня ела і няспынна ванітавала, нават калі не было чым.

У Фрымантл мы прыйшлі 14.02.1950. Стаяла ціхая раніца. Ля трапу нас сутракалі вельмі прыгожа апранутыя аўстралійскія дзяўчынкі, якія давалі нам кветачкі. Адна зь іх ветліва ўсьміхнулася мне і сказала: "Welcome to Australia". Я паглядзела на кветачкі і глянула на яе. Ведаючы толькі некалькі ангельскіх слоў, я прашаптала: "Thank you".

Я ніколі ня бачыла такіх шчасьлівых людзей у такіх прыгожых убраньнях. Што гэта за краіна, якая так прымае да сябе бежанцаў? Я пачала плакаць. Нехта падыйшоў да мяне і працягнуў шклянку гарбаты.

Нас запрасілі на цягнік да лягеру ў Кандэрдзіне, што быў у сотні кілямэтраў ад порту. Па дарозе я бачыла толькі сухую траву, некалькі хутароў і, можа, зь дзясятак зялёных дрэў.

З чыгуначнай станцыі да лягеру нас давезьлі на машынах. Папрасілі пачакаць ля будынку. Было вельмі горача. Навакол лёталі мухі. Дзеці прасілі піць. Усе адчувалі стомленасьць. У будынку арганізавалі праверку, і кожны паказваў свае рэчы. Потым нас павялі да нашых пакояў. У кожным стаяла чатыры ці шэсьць ложкаў. Усё было чыста прыбрана. Ложкі былі засланыя прасьцінамі і коўдрамі. Стомленыя людзі пачалі скардзіцца на мух і сьпякоту. Я не сьцярпела і сказала: "А вы чакалі на мяшкі з золатам? Можа, на пасаду прэм'ер-міністра? На што вы чакалі?" На мяне пачалі крычаць, але я ведала, што ў гэтай краіне я нарэшце здабуду сабе дах над галавой.

Мы мусілі працаваць, куды пашлюць. Шэсьць тыдняў давалі на вывучэньне ангельскай мовы, але я згубіла гэтыя тыдні, таму што мяне ўзяў на працу фармэр. Я пачала гатаваць яму ежу і прыбіраць у хаце.

Пад час абеду я павінна была сядзець разам зь дзецьмі фармэра за адным сталом. Я не магла зразумець, чаму, бо служыла ім за грошы. Калі яны мелі вечарыны, то пасьля сьнеданьня госьці ішлі да мяне на кухню і дапамагалі мыць посуд. Я спачатку думала, што гэта з-за таго, што я нешта раблю ня так. Бо чаму такія госьці, як доктар і ягоная жонка, разам са мной мылі посуд на кухні? У Польшчы доктар ніколі ня пойдзе на кухню дапамагаць служанцы мыць.

Я потым зразумела, што яны ня бачылі ўва мне служанку, а толькі часьцінку іхняга жыцьця, якая патрабуе дапамогі.

На Каляды мне давалі падарункі. Чаму? Я ж працавала ім за грошы. Тады я не разумела і толькі казала: "Thank you".

Але праца на фарме мне падабалася. Хутка я захварэла на туберкулёз, але пасьпяхова выпаўзла з гэтай хваробы. Пасьля таго так і засталася жыць пры шпіталі.

Ну і аднойчы мне пашанцавала ў лятарэю, і на выйграныя грошы я наведала Польшчу...

## Пасьляслоўе доктара Чапэля

Прайшло амаль сорак гадоў з таго часу, калі расейская армія забрала Яніну разам зь яе сям'ёю з родных мясьцінаў. Яніна зараз купіла свой дом, стала аўстралійкаю. У 1977-м яна паехала ў Польшчу. Аднак там яна пераканалася, што гэтая паездка так і застанецца адзінаю. Больш яна туды ня зможа паехаць. Бацькоўскі хутар стаў часткаю Савецкай Украіны. Яе родныя сталі ёй чужымі, сябрам дзяцінства пераваліла за сярэднія гады. Родная сястра Алена пастарэла і стала вельмі слабой. Кожны зьмяніўся, уключаючы саму Яніну. Пазьней я зразумеў, што ў Польшчы на Яніну глядзелі як на частку заходняга сьвету. Яе радня думала, што, дасылаючы ім грошы з Аўстраліі, Яніна багатая, што ў Аўстраліі ня трэба працаваць, толькі што не ленавацца падбіраць з дарог багацьце. Усім Яніна бачылася асобаю, якая мае неабмежаваныя рэсурсы і бясконцую магчымасьць ахвяроўваць і ахвяроўваць. Сама Яніна ўбачыла рэчы інакш, калі ўваходзіла ў іх пакоі з багатай мэбляй і каляровымі тэлевізарамі. Ходзячы па гэтых пакоях, Яніна думала пра сваё цяжкае жыцьцё ў Аўстраліі, пра сваю адзіноту.

Там стала бачна, што нікога не цікавяць яе перажываньні, яе змаганьне за жыцьцё. Ніхто ніколі не запытаў, як яна жыла ўсе гэтыя гады. Як яна выжыла адна. Як яна змагла купіць на свае грошы дом.

Калі Яніна вярнулася ў сваю краіну Аўстралію і пачала зноў размаўляць на прынятай ангельскай мове, зноў улілася ў прынятае жыцьцё, то зразумела, што вярнулася дахаты.

Польшча не змагла залячыць Яніціны раны. Гэта адбылося ў Буэнас-Айрэсе, куды яна паехала на запрашэньне жонкі брата. Таксама Алены. Яніну там прынялі даўно згубленай часткай сям'і, любімаю сяброўкаю, прасілі застацца жыць у Аргентыне. Менавіта там, у Паўднёвай Амэрыцы, Яніна, седзячы разам з Аленаю, магла адкрыта сьмяяцца і плакаць аб праміналых гадах, думаць пра будучыню. Нават пасьля сьмерці Алены яе дзеці пішуць Яніне лісты.

Я думаў, што Яніна зможа пераехаць. Але не. Яна шмат плянуе. Шмат працуе. Трэба мяняць дах на хаце, ісьці на парад АНЗАК...

Аўстралія стала для Яніны домам..





**КУЗЬМІЧ Аліна** — студэнтка Акадэміі музыкі імя І. Я. Падэрэўскага, г. Познань (Польшча). Нарадзілася ў 1987 годзе ў Горадні.

# Калі вецер

*Алегу Завадзкаму*

## Калі вецер

Там, дзе ўначы
кветкамі
квітнеюць зоры,
дзе адвеку
згорблены небасхіл
перад вачыма —
няма мяне.

Не для раю я:
зямная занадта.
Грахоў скарб —
мая страта неба.
Не для пекла
я, аднак:
сьвятая.

Адкуль ведаю?
У анёлаў пытала.
Ці ў чарцей,
хто быў на варце.

Куды ж мне цяпер:
на мапе
няма адмецінаў,
да цябе хіба?

Хіба да цябе:
калі вецер – ты мой.
Калі вецер.

## Анёл

Век цэлы еду да Айчыны.
Цягнік дзьвярыма
крылы мае анёльскія прышчаміў:
пух белы, ці то сьнег
на маім плячы,
ці то з жылаў адчыненых
кроў у ручнікі цячэ.

## Размова з восеньню

Восень
прытуліла мяне
жоўтымі далонямі,
так негаспадарліва
параскіданымі навокал,
аблокі расхіліла
у адбітках вокнаў,
кудзеры, галінамі завіўшы,
вятрам раздорвае:
– Навошта яны табе? –
пытае, – у моры
я прывяжу імі ветразі:
па далонях маіх
парассыпаных
паплывуць...

Будзь са мной:
будзь вятроў смагай,
будзь дальлю ў белі,
будзь пакуль

далоні мае кляновыя
не абдыме зіма:
пакуль у парку ізноў
не пажоўкнуць
пад намі алеі.

* * *

Каб напіцца цішы тваіх рук,
мне ня трэба далёка бегчы:
ты – як смак,
ты – як пах,
ты – як гук,
што праліў у гэтым парку
вечар.

## Тэлеграма

Лісты да Цябе у сэрцы пісала –
пішу дагэтуль
кувэртаў бракуе лістам тым:
хутчэй самі параскідаюць
крылы паперу,
чым подпіс пры атрыманьні
паставіць адрасат.

Зьнямелыя вусны,
пальцаў расьпяцьце –
чырвона-чорна-белымі буслаамі
ляцяць лісты думак маіх:
ці шляхі ведаюць?
ці за жыцьця
дагнаць ім ветру вейнага?
ці у Беларусь ляцяць.

## Шкло

Далоньмі сваімі – дарогамі,
як плюшчу лістамі,
чало мне абві,
віно вуснаў налі ў прыгаршчы,
бутылі ў кошыках з лозаў
горламі вузкімі
да вуснаў маіх нахілі:
русыя ліўні паплывуць у іх
ды крылы галубіныя –

воскам шыі іхныя засмалі,
росамі акрапі,
бутылі мядовыя
вачэй нерасплюшчаных
у долы зьнясі пчаліныя:
хай чмялі алівы надояць,
хай агнём троль начыніць,
хай у блакітнае шкло вачэй маіх
аблокі закуе.

## Вочы Твае

Я б магла нарадзіцца калісь
У спрадвечнай радзіме скалаў,
Толькі лес свой адзіны спаткала,
Закляла у айчыннай зямлі;
Я б магла адпусьціць караблі
У буйныя дзявочыя мары,
Толькі вочы твае, бы ліхтары,
Мне адмрочваюць ночы і дні;
Я б магла кукаваць ураньні,
Як раней ураньні кукавала,
Толькі ўночы на Йвана Купалу
Ты жалейку маю ўпусьціў.

## Навальніца

Заплыла зямля,
горы заплылі –
горад белы ад ліўня:
у вокны, дзьверы
з вока свайго
Бог неба ліў
ці веру ў яго
хіба.

* * *

*Я. Лель*

Я аддала табе радкі,
Ненапісаныя ў вершы.
На стромых схілах даўняй вежы
Табе таксама аддала
Усю смагу ссохлых берагінь

Ды стан свой сорамна хлапечы,
Калі разораю сардэчнай
Ты зор разгорнуў на мурах
Сівыя руны.

Луны карункавыя сьцежкі
Ляжалі гурбамі між хваль,
Ды пацалункамі зьнялі
Ад паясоў да ланцугоў
Мае пурпурныя адзежы,
Што ўпалі, згубленыя, зь вежы,
Што хвалі гуртам плаўнікоў
Панесьлі ў хмурныя віры.

Я аддала табе свой сьпеў,
Сваё нямое кукаваньне
Па берагах залеж-дуброў.
У дзявочым мроіве начы
Ты ўсё скасіў з маіх лугоў,
Ты ўсё сабраў у садох каханьня.
І толькі сіп маўклівай кані
Сачыў, ды ўгледжвацца ня сьмеў.

## Шацёр

Неба, што
патануць толькі:
грудзь табе распрану,
замест збруі лясоў
над купалам сэрца
шацёр уздыму
валасоў сваіх –
сум мой, сон мой.

## Цырульня

Нарадзіцца
проста зь зямлі
пялёсткамі
колеру, якога
няма ў вясёлцы,
насаджваць хмары
на лясоў шпілі,
стрыгчы ды галіць
гор нажніцамі
неба воўну.

## Нічога больш

Заплюшчы вочы.
Ведаю, далоньмі сваймі
не спаталю смагу
дый боль твой не змагу,
ня прагну, аднак,
(толькі на момант
твар крану, калі дазволіш)
нічога больш,
толькі ў травах
галоў тваіх патануць
далоньмі.
Ніводным словам
водаў дум тваіх
не хлыну,
ні водарам
тумаяоў вольных
не зьняволю:
нічога больш,
толькі човен свой
вольна цягнуць
ля твайго,
калі ходзяць
яшчэ тыя чоўны,
калі ходзіць каханьне
чаўном
у сукне тканым,
калі дазволена нам
у адное сукно
адным чаўном
шчасьце сваё
саткаці.

## Сад верасьня

Пакліч мяне,
калі вернесься зноў,
як лісток зморшчаны
на плячы ўпадзе:
ружамі шчокі заквітнеюць,
верасы вачэй маіх
зноў зьбіраць зможаш
у начы верасьнёвай,
бы ў садзе.





**ЛАПАТКА Якуб** нарадзіўся 16 верасьня 1944 году ў вёсцы Аўсюкова Расонскага раёну Віцебскай (тады Полацкай) вобласьці. Скончыў вясковую беларускую дзесяцігодку. Спэцыяльнасьць перакладчыка атрымаў на гішпанскім факультэце Менскага дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту замежных моваў. Дваццаць гадоў працаваў настаўнікам у наваполацкай сярэдняй школе № 5, дзе стварыў вучнёўскі гурток перакладчыкаў на беларускую мову. Некаторыя дзіцячыя пераклады друкаваліся ў пэрыёдыцы. Склаў першы гішпана-беларуска-расейскі слоўнік для школьнікаў. Надрукаваў саматугам, некалькі гадоў слоўнік ужываўся вучнямі і настаўнікамі Беларусі.

У 1989 годзе на запрашэньне Саюзу перакладчыкаў Фінляндыі быў на стажыроўцы ў Гельсынках. Скончыў пяцісяместравы курс фінскае мовы і дыялекталёгіі ў Гельсынскім унівэрсытэце, куды, пасьля адпаведных іспытаў, быў прыняты адразу на апошні пяты курс.

Некалькі гадоў працаваў у Гельсынскім унівэрсытэце, выкладаў беларускую мову на факультэце славістыкі. Працаваў у бюро перакладчыкаў. Неаднаразова атрымліваў стыпэндыі для перакладу фінскае літаратуры на беларускую. Усяго выдаў шэсьць кніг перакладаў на беларускай мове і некалькі на расейскай.

Пераклады друкаваліся ў розных альманахах і часапісах.

Сярод аўтараў: Мігель дэ Сэрвантэс, Рафаэль Альбэрці, Мігель Эрнандэс, Томас Мур, Катры Вала, Арна Турціяйнэн, Вэё Мэры, Міка Валтары, Пэнтці Хаанпяя, Маю Ласіла, Вяйнё Лінна.

Наступныя творы выдадзеныя асобнымі кнігамі:

Маю Ласіла. Басяк з таго сьвету. Мінск. Мастацкая літаратура, 1990.

Пэнтці Хаанпяя. Боты дзевяці салдат. Мінск. Мастацкая літаратура, 1994.

Марві Яла. Дзівосная ноч (Казачная аповесьць). Мінск. Беларускі гуманітарны адукацыйна-грамадзкі цэнтр,1994.

Маўна Койвісто. У школе і на вайне (успаміны). Мінск. Энцыклапедыкс, 2003.

Вэйё Мэры. Маршал Фінляндыі Карл Густаў Манэргейм. Мінск, 2004.

Міка Валтары. Сінухэ эгіпцянін. Мінск, 2006.

Ня выдадзеная на беларускай мове “Калевала”, пераклад якой скончаны ў 2008 годзе, а таксама граматыка фінскае мовы для беларусаў ды гішпана-беларускі слоўнічак (у супольнасьці зь Міколам Буслам). Пераклад “Калевалы” ёсьць першы наўпросты пераклад эпасу (Леанід Бельскі на расейскую перакладаў з моваў-пасярэдніцаў, Яўген Цімчанка на ўкраінскую — таксама).

# ПЕРАКЛАДЫ

*Гіём АПАЛІНЭР*

## Тры аповяды пра Божыя кары

Пераклад зроблены з выданьня:
Guillaume Apollinaire
L`Hérésiarque et Cie

ÉDITION STOCK
DELAMAIN ET BOUTELLEAU
6, rue Casimir Delavigne - Paris 1910

### Ліёнская пачвара, або Пажадлівасьць

Жыў некалі ў Ліёне фабрыкант шоўку, прозьвішча ягонае было Гарэн, а вельмі богабойныя бацькі назвалі яго Гаэтанам, таму што ён нарадзіўся якраз у той дзень, калі папа ўцёк у Гаэту[1].

Гаэтан Гарэн вырас добрым каталікам. У спадчыну ад бацькі ён атрымаў вялікае багацьце і ўзяў у жонкі такую ж багатую дзяўчыну.

Багацьце ягонае ўзрастала, ён быў шчасьлівы ў сям'і, але шчасьце ягонае было няпоўнае. Пасьля трох год шлюбу ў яго ўсё яшчэ не было дзяцей.

Спадзеючыся абзавесьціся дзіцём, ён прымусіў жонку выконваць усе прадпісаньні самых славутых лекараў. Ён вазіў яе на воды, славутыя тым, што цудадзейнай сілай вылечвалі жаночую няплоднасьць – усё было марна.

Нарэшце ён пераканаўся, што ўсе людзкія сродкі тут бясьсільныя, і, у поўнай згодзе з жонкаю, зьвярнуўся да рэлігіі. Ён слухаў усе парады, якія даваў яму жончын спавядальнік. Дарэмна яны хадзілі маліцца да самых славутых сьвятыняў, не прынесьлі карысьці самыя гарачыя малітвы сьвятароў.

Ліёнскі фабрыкант прамаліўся аб літасьці незьлічоную колькасьць дзён, але ягоная жонка па-ранейшаму заставалася няплоднай. Ён пачаў блюзьнерыць, ганьбаваць нябёсы, ён зьняверыўся ў рэлігійных ісьцінах і канчаткова адступіўся ад веры сваіх бацькоў. Гэты перакананы чалавек ня мог нават і падумаць, што Госпад ня ў стане сатварыць цуд дзеля яго. Ён болей не хадзіў да споведзі і да прычасьці, не наведваў багаслужэньні і перастаў рабіць ахвяраваньні на дабрачынныя справы, якія падтрымліваў да гэтае пары.

Ён перачытаў гісторыю Напалеона і нават думаў пазбавіцца ад няплоднай жонкі, якая ў адрозьненьне ад яго заставалася пабожнай. І тут знайшоўся адзін высокавучоны лекар, хаця і безь вялікай славы, які, даведаўшыся пра няшчасьце багатага заводчыка, правёў лячэньне і нейкім чынам вярнуў неўрадлівай глебе здольнасьць узрасьціць семя.

Гаэтан Гарэн ажно задыхнуўся ад радасьці, калі жонка аднойчы паведаміла яму, што, мяркуючы па розных неабвяргальных прыкметах, яна зацяжарыла і далей ня думае спыняцца на адных родах. Такім чынам, фабрыкант яшчэ болей пераканаўся ў сваім панявер'і і адкрыўся жонцы з тым, каб адбіць яе ад багамольных звычак.

Жанчына была добрай хрысьціянкай і расказала аб усім свайму спавядальніку.

Гэта быў дзябёлы манах квітнеючага ўзросту, укамянелы вернік, перакананы, што дазволена ўсё, каб наблізіць прыход царства Божага. Ён з болем успрыняў грахоўны скандал, выкліканы бязьвер'ем фабрыканта, і было яму вельмі прыкра бачыць, што ягоныя самыя шчырыя, добрыя парады не далі жаданага выніку. Разумеючы, што ў сувязі зь цяжарнасьцю жанчыны Сатана яшчэ болей умацаваў свае пазыцыі, манах усё ж вырашыў паспрабаваць вярнуць аблудную авечку ва ўлоньне царквы.

На справе ж, неба падрыхтавала страшэнную помсту Гарэну Гаэтану за ягонае панявер'е. Прамаліўшыся ноч, мніх натхніўся на выхадку, якая ўрэшце скончылася ўдала.

Аднойчы ўлетку, ведаючы, што муж быў у Ліёне па справах, а жонка – на лецішчы, ён скінуў сутану, апрануўся ў самае горшае рызьзё, якое толькі мог знайсьці, каб стаць падобным да бадзягі, вандроўнага дробнага гандляра, жабрака, гэткага прайдзісьвета, валацугі-абарванца – асобаў, якіх можна бачыць на любой дарозе.

Апрануты такім чынам, ён скіраваўся ў тую вёску, дзе цяжарная жанчына сумавала адна, седзячы каля вакна. Быў сьпякотны летні поўдзень, той самы час, калі Пан[2], схаваўшыся ў цяністых зарасьніках, сымбалізуе нястрыманую пажадлівасьць. Ілжэвалацуга падыйшоў да сьцяны, якраз пад вакно, каля якога маркоцілася жанчына. Там ён справіў натуральную патрэбу, называць якую ня варта, і паказаў таўкач, пастуховы посах, чароўную флейту, а лепей сказаць, таго салаўя[3], ад якога многія жанчыны захацелі б засьпяваць Kyrie eleison – “Зьлітуйся, Божа!”. Гэтая дама, нягледзячы на ўсю сваю пабожнасьць, не засталася абыякавай і адчула жаданьне стаць ступкаю для таго таўкачыка, клеткаю для салаўя. Аднак яна была чэснай жанчынай і не змагла задаволіць сваё жаданьне. Тым ня меней, нейкі сьверб яна адчула і пачасалася.

Вядома, што аб фэнамэнах, зьвязаных з капрызамі цяжарных жанчын, даўно спрачаецца мноства вучоных, а мне здаецца пэўным тое, што гэтая дама зацяжарыла ад дзяўчыны. Таму што праз некалькі месяцаў, калі яна радзіла, і муж захацеў даведацца, якога роду ягонае дзіцё, акушэрка ўскінула рукі да нябёсаў і выгукнула: “Гэта пачвара!”, а лекар, які дапамагаў ёй, дадаў: “Гэта ж гермафрадыт!”

Пасьля гэтага жахлівага здарэньня багацей ледзь не звар'яцеў ад гора. Прызнаўшы, што ўсё накіроўваецца рукой Божай, ён утаймаваўся, зноў стаў багаверным і добрапрыстойным, ахвяраваў вялікія сумы на дабрачыннасьць і стаў павучальным прыкладам для ўсіх вернікаў.

Манах, даведаўшыся аб тым, зарагатаў, закруціўся, заскакаў, закашляў і, нарэшце, пайшоў да споведзі. Але кюрэ[4] адмовіўся адпусьціць яму грахі, і ён мусіў вымольваць адпушчэньне ў архібіскупа.

Андрагін[5] у хуткім часе памёр, нановадабрапрыстойны Гаэтан жыў шчасьліва са сваёю жонкаю, і ў іх было шмат дзяцей.

### Заўвагі і тлумачэньні перакладчыка

[1] ...калі папа ўцёк у Гаэту... – У 1848 годзе ў Рыме выбухнула паўстаньне, і папа ўцёк у Гаэту, прыморскі ўмацаваны горад, прыкладна ў 150 км ад Рыма. Ён жыў там з 25 лістапада 1848 году па 4 верасьня 1849.

[2] Пан — старажытнагрэцкі бог пастухоў, жывёлаводзтва, урадлівасьці і дзікай прыроды. Апоўдні Пан засынаў, разам зь ім засынала і ўся прырода пад сьпякотным летнім сонцам. Пажадлівы і вясёлы таварыш німфаў ды гермафрадытаў.

[3] ... таўкач, пастуховы посах, чароўную флейту, а лепей сказаць, таго салаўя... — францускія паэтычныя сінонімы пеніса, мужчынскага палавога органу.

[4] Кюрэ — тут: ігумен, настаяцель кляштара. Звычайна — прыходзкі сьвятар.

[5] Андрагін — у прынцыпе, тое ж, што і гермафрадыт. Зараз жа андрагіннасьць займаецца болей псыхасацыяльнымі, чым анатамічнымі праблемамі андрагінаў. Сучасны сынонім андрагіна — інтэрсэксуал.

## Хлопец-утрыманка

Быў ён сынам небагатага крамніка, які гандляваў алеем у Ніцы, і звалі яго Луі Жыян; ён ніколі не выказваў аніякай богабойнасьці, у адрозьненьне ад іншых дзяцей, а яны, прынамсі, пад час сваёй першай прычасьці, рабілі гэта з кранальнаю добрапрыстойнасьцю.

Аднойчы, калі дзеці вывучалі катэхізыс, кульгавы вікары зь Сен-Рэпараты сказаў яму, праціраючы акуляры крысом сваёй бруднай сутаны:

– Во што, Луі! Цябе чакаюць вялікія няшчасьці, таму што ты наскрозь фальшывы. З выгляду ты сапраўдны анёлак. А напраўдзе? А напраўдзе ты гідкі, як расьцінуты клоп. Ты насьміхаесься нада мною. Я гэта ведаю, можаш сьмяяцца і далей. Але пакінь блюзьнерыць, не зьневажай Бога! Паміж іншым, усё гэта ты спазнаеш сам, і спазнаеш зарана, скарыўшыся сваёй пажадлівасьці.

Луі Жыян стаяў пануры і пакорліва слухаў натацыю вікарыя. Але як толькі той павярнуўся сьпінаю, блюзьнер адразу ж перадражніў ягоную няроўную хаду і засьпяваў:

– Пяць ды тры будзе восем! Пяць ды тры будзе восем!

Малады нісар[1] не зьмяняўся да лепшага. Яшчэ да чатырнаццаці гадоў ён вельмі рэдка наведваў школу, замест таго ён распусьнічаў пад мастамі Пальёна[2] і ў парку Шато – спачатку з хлопчыкамі-аднагодкамі, а потым – з малымі дзяўчынкамі.

Калі яму споўнілася чатырнаццаць, яго аддалі да гандляра кашулямі, і ён пакінуў старую Ніцу, дзе духмень садавіны зьмешвалася з вострым водарам сырога мяса і кіслага цеста, з пахам траскі і смуродам прыбіральняў, зьмяніўшы ўсё гэта на краму ў новым горадзе. З самых першых дзён гаспадар і гаспадыня надавалі яму вялікую ўвагу і як добрыя нісары не давалі навучэнцу спачыну ні ўдзень, ні ўначы.

Гаспадыня была ружовенькая, нібы той апельсін, затое гаспадар быў ні рыба, ні мяса. Луі Жыян зьбег пад час карнавалу да аднаго вяльможнага расейскага пана, год так пяцідзесяці, да якога зьвярнуўся: "Мой генэрал!", а той назваў яго Ганімедам[3].

Пераканаўшыся, што расейскі пан быў занадта патрабавальны і скваплівы, ён абакраў яго і ўцёк.

Затым ён аддаўся турку, грубаму і пражэрліваму.

Турка, які праматаўся ў Монтэ-Карле, зьмяніў амэрыканец. Луі Жыян зразумеў, што ягоная фартуна – ягоны зьнешні выгляд, зь якім ён асуджаны на посьпех ва ўсім сьвеце, у любой нацыі. Аднак, разбагацеўшы, ён ня змог зьберагчы тую лагодную добразычлівасьць, якая ўласьцівая толькі высокапрыстойным людзям. Ён з пагардаю ставіўся да сваіх былых таварышаў і нават не сьцішаў крокаў, каб зірнуць на іх. Тыя адказвалі яму пагардаю на пагарду. Пры сустрэчы яны не прапускалі магчымасьці паслаць яму непрыстойны жэст, паклаўшы левую руку на локцевы згіб правай, ківаючы сьціснутым кулаком. Апрача таго, яны паказвалі яму літару Z з алфавіту для нямых, гэта быў пахабны жэст, якім ахвотна карысталіся нісары, манегаскі[4] , турбіяскі[5] і ментанаскі[6].

Нарэшце Неба жахнулася распусты Луі Жыяна, як і ягоных старых прыяцеляў. Той, хто сцыць супраць ветру, толькі намочыць кашулю; і Бог пажадаў узнагародзіць хлопца-утрыманку па грахах ягоных, як таго патрабуе закон адплаты.

У адказ на вокліч старога сябра Луі Жыян абразіў яго. Сварка перарасла ў бойку з абяцаньнем помсты.

Чатыры маладзёны, амаль нічым ня лепшыя за Луі Жыяна, аднойчы ўвечары згледзелі, што ён пайшоў у тэатар адзін. Яны напіліся карсіканскага віна, рэпутацыя якога моцна ўпала ад XVI стагодзьдзя, і уладкаваліся падпільноўваць підара насупраць вілы, дзе той жыў з вычварэнцам-аўстрыякам.

Ужо мінула поўнач, калі Луі Жыян вяртаўся дадому; мсьціўцы накінуліся на яго, заткнулі рот і пацягнулі да кратаў гарадзкой агароджы, дзе пасадзілі яго на жалезны кол, потым, стукнуўшы некалькі разоў, каб кол увайшоў глыбей, разьбегліся.

Насаджаны на кол, напэўна, ён і памёр са звычнай асалодай. Ён быў прыгожы, як Атціс[7]. І сьветлячкі віліся вакол яго...

### Заўвагі і тлумачэньні перакладчыка

[1] Нісар – жыхар Ніцы

[2] Пальён – невялічкая рэчка (каля 36 км), што працякае з Альпаў празь Ніцу.

[3] Ганімед – паводле грэцкіх міфаў – хлопец незвычайнай прыгажосьці, з-за чаго Зеўс забраў яго да сябе на Алімп.

[4] Манегаскі – жыхары княства Манака.

[5] Турбіяскі – жыхары камуны і мястэчка Ла-Турбі непадалёку ад Ніцы.

[6] Ментанаскі – жыхары горадка Ментона. Славуты курорт у 30 км ад Ніцы.

[7] Атціс – пэрсанаж старажытнагрэцкай міталёгіі. Вельмі прыгожы юнак.

## Танцаўшчыца

Некалі ў аднаго старадаўняга аўтара я прачытаў, можа, праўдзівы аповяд, а можа, легенду пра сьмерць Саламеі. Я не магу аздобіць сваю аповесьць словамі старажытнага іўрыту, дэталёвым апісаньнем вопраткі ды палацаў, цытаваньнем мудрых выказваньняў, каб надаць ёй тагачасны мясцовы каларыт, які сёньня так імкнуцца адшукаць. Праўду кажучы, зрабіць гэ-

та мне не дазваляе маё невуцтва, а таму я пакінуў сваім пэрсанажам тыя самыя імёны, якімі іх называюць у нашых эвангельлях.

Усе, вінаватыя ў сьмерці сьвятога Іаана Хрысьціцеля, былі пакараныя.

Змарнелы сухарэбры вяшчун, які заклікаў людзей да купаньня, зрабіў на Ірадыяду спакушальнае ўражаньне. Але гэты пажыральнік саранчы трымаўся так, як той Йосіф[1] у доме Пуціфара; ён, безумоўна ж, пакутаваў ад цялесных спакусаў, але задавіў іх вельмі рана для ўсіх, хто жадаў яго. Ірадыяда ўступіла ў крывазьмяшальны, паводле габрэйскага закону, шлюб з сваяком Ірадам Анціпам[2], які адчуў нейкую рэўнасьць у адказ на папрокі Хрысьціцеля. Узбуджаючы ў Ірадзе жаданьне на падвойны інцэст, чароўна спакусьлівая, у сваіх дзівосных стракатых строях, добра нафарбаваная, Саламея танцавала перад царом, каб здабыць галаву Сьвятога, які адрынуў яе матку.

Ірадыяда атрымала на залатой талерцы валасатую галаву з барадатым тварам. Нечакана яе страсьць абудзілася зноў, і яна пачала горача цалаваць пасінелыя вусны адсечанай галавы Хрысьціцеля. Але злосьць перасіліла. Прагу помсты яна задаволіла, пракалваючы іголкай язык, вочы ды іншыя месцы скрываўленай галавы. Гэткі блюзьнерскі зьдзек скончыўся са сьмерцю Ірадыяды, магчыма, ад разрыву анеўрызмы, калі яна забаўлялася такім чынам зь любай галавой.

Гэтая гордая жанчына не знайшла прытулку ў пекле. Яна стала адною з часьцінак ад той гурмы незьлічоных духаў, што насяляюць атмасфэру, і якіх я зь лёгкім сэрцам называю багамі, калі гэта добрыя духі. Вядома, за Бога я маю тую сілу, над якою ў чалавека няма аніякай улады, а ня тую сусьветную душу, якой, на недасканалую думку Сьпеўсіпа Афінскага[3], можна кіраваць, не спазнаўшы сусьвет. Бурнымі навальнічнымі начамі Ірадыяда ўчыняе фантастычнае паляваньне па-над нашымі лясамі, і ўзьвяшчаюць аб ёй сваім галёканьнем совы, і жахаюцца зьвяры.

Ірад Анціпа, чыя ўлада была гэткай жа самай, што і ўлада туніскага бея ў нашыя дні[4], быў сасланы Тыберыем[5] у Ліён, дзе бедалага і памёр.

Саламея, асалода царскіх вачэй, памерла танцуючы; гэта была незвычайная, на зайздрасьць усім балерынам, сьмерць.

Аднойчы яна танцавала на аздобленай сэрпантынам мармуровай тэрасе пад час балю ў праконсула[6], што потым мусіў ехаць з Іўдзеі ў нейкую варварскую правінцыю на Дунаі і узяў яе з сабою.

Здарылася так, што адным днём, выйшаўшы на праходку па беразе замёрзшай ракі, яна заблудзілася і засталася адна; бліскучы лёд зачараваў яе, і яна кінулася ў скокі на ягонай блакітнай паверхні. На ёй былі, як заўсёды, багатыя строі, залатыя ланцужкі з драбнюткіх зьвёнаў, падобныя да тых, што рабілі потым венецыйскія ювеліры, сьлепнучы ад такой працы ва ўзросьце трыццаці год. Яна танцавала доўгі час, імітуючы каханьне, сьмерць і шаленства. Здавалася, што ў яе вытанчанай грацыі ды прыгажосьці і сапраўды крыецца нешта вар'яцкае. Жэсты рук выказвалі тыя ж пачуцьці, у адпаведнасьці з паставамі яе лёгкага зграбнага цела. Настальгія апанавала яе, і павольнымі рухамі яна расказвала пра Іўдзею, пакрытую аліўкавымі дрэвамі, прыгнутымі пяшчотным грузам сьпелых пладоў. Потым, напалову заплюшчыўшы вочы, яна паспрабавала аднавіць амаль забытыя крокі таго ганебнага танца, якім яна калісьці выйграла галаву

Хрысьціцеля. Раптам лёд пад ёю праламаўся, і яна правалілася ў Дунай, але так, што цела апынулася ў вадзе, а галава – над паверхняй зноў сыйшоўшыхся ільдзін. Ад страшэннага крыку ўзьляцелі напалоханыя вялікія цяжкія птушкі, а калі бедалага змоўкла, дык здалося, што яе адрэзаная галава ляжыць на вялікім срэбраным блюдзе.

Надыйшла ноч, сьветлая і халодная. Зіхцелі сузор'і. Дзікія зьвяры падыходзілі, каб абнюхаць паміраючую, і яна з жахам глядзела на іх. Нарэшце, апошнім намаганьнем яна адвяла вочы ад мядзьведзяў зямных, узьвяла позірк да Мядзьведзяў нябесных і сканала.

Доўгі час яе галава ўзвышалася над гладкім ільдом, быццам неапрацаваны каштоўны камень. Драпежныя птушкі і дзікія зьвяры пашкадавалі яе. І зіма прайшла. Потым, пад велікодным сонцам лёд растаў, і шыкоўна апранутае цела ў каштоўных аздобах выкінула на бераг дагніваць.

Некаторыя равіны лічаць, што душа Адама ўсялілася ў Майсея і Давіда. І я схільны думаць, што душа Саламеі ўсялілася ў дачку Іефая[7], дый потым ніколі не заставалася бязьдзейнай, яна прыжылася ў Гішпаніі, у Турцыі, ці можа ў дунайскіх правінцыях, усяліўшыся ў цела адной з танцаўшчыц кола[8] – гэтага пахабнага карагоду, які можна назваць танцам сракі.

## Заўвагі і тлумачэньні перакладчыка

[1] Йосіф – біблейскі пэрсанаж. Пад час палону эгіпецкага быў рабом Пуціфара, высокапастаўленага афіцэра пры двары фараона. Ягоная жонка, спакушаная прыгажосьцю Йосіфа, захацела, каб той пераспаў зь ёю. А калі Йосіф адмовіўся, зьберагаючы вернасьць гаспадару, разьюшаная жанчына імітавала згвалтаваньне, у выніку чаго Йосіф трапіў у вязьніцу, хаця мог бы і апраўдацца.

[2] Ірад Анціпа – тэтрарх Галілеі ды Пэрэі 4–39 гг. н.э. Адвергнуўшы законную жонку, Ірад сыйшоўся з жонкаю свайго зводнага па бацьку брата. Ірада ганьбілі за гэтую сувязь.

[3] Сьпеўсіп Афінскі – старажытны грэцкі філёзаф, пляменьнік і вучань, аднак не пасьлядоўнік Плятона, пасьля сьмерці якога кіраваў Плятонаўскай акадэміяй.

[4] ... улада туніскага бея ў нашыя дні... – на пачатку васьмідзясятых гадоў XIX стагодзьдзя Францыя зрабіла Туніс пратэктаратам у складзе сваёй каляніяльнай імпэрыі. Да 1956 году ўлада туніскіх беяў была чыста намінальнаю. У 1956 годзе Туніс атрымаў незалежнасьць, манархію скасавалі ў 1957 годзе, зараз рэспубліканскае праўленьне.

[5] Тыберы – ( Tiberius Julius Caesar Augustus) другі рымскі імпэратар (праўленьне 14–37 г.г. н.э.). Паводле Эвангельля, у час ягонага праўленьня Хрыстос прыняў сьмерць на крыжы.

[6] Праконсул – ( proconsul, от pro – замест і consul – консул) – дзяржаўная пасада ў старажытным Рыме. Праконсулы кіравалі правінцыямі старажытнарымскай дзяржавы як у часы рэспублікі, так і ў часы імпэрыі.

[7] Іефай – біблейскі пэрсанаж. Перад бітваю з аманіцянамі даў абяцаньне Богу прынесьці ў ахвяру першага, хто сустрэне яго ў час вяртаньня. Гэта была ягоная дачка. Яна папрасіла бацьку адпусьціць яе на два месяцы ў горы, каб там зь сяброўкамі аплакаць свой лёс. Пасьля чаго вярнулася, і яе прынесьлі ў ахвяру.

[8] Кола – сэрбскі, харвацкі і, магчыма, мадзярскі карагодны танец.

*Калі гаворка заходзіць аб літаратуры Лацінскай Амэрыкі, дык у першую чаргу ўспамінаюцца імёны Габрыэля Гарсіі Маркеса, Пабла Нэруды, Рубэна Дарыя ды іншых сусьветнавядомых паэтаў і пісьменьнікаў. Я прапаную пачытаць пакуль толькі пару вершаў паэта і пісьменьніка з Дамініканскай Рэспублікі — далёкай выспы ў цёплым Карыбскім моры. Мануэль дэль Кабраль (Manuel del Cabral) нарадзіўся ў 1907 годзе. Шмат жыў у ЗША ды іншых краінах Новага сьвету. Разам са славутым кубінцам Нікаласам Гільенам лічыцца найадданейшым прыхільнікам мурынскай паэзіі Лацінскай Амэрыкі. Памёр у 1999 годзе ў сталіцы Дамініканскай Рэспублікі горадзе Санта-Дамінга.*

## *Мануэль дэль КАБРАЛЬ*

### Літара

Літара:
шкілет майго крыку,
я кладу сваё сэрца на тваю сьмерць,
я кладу свае самыя таемныя вартасьці пялёстка,
я кладу...
нявесту, якую зьберагаў паміж ветрам і сваім
целам,
сваю хваробу й загану анёлка з кінжалам,
адсутнага таго кабальера, калі надкусваю
яблыкі,
і дзіцёнка, які жыве ўва мне, дзіцёнка,
які выйдзе адным днём, днём,
калі амаль зьнясіліцца ад працы рука,
тым днём, калі бясхітрасныя мае
ногі патопчуць грызэт зрасянелы,
страсаючы маладое нядзельнае золата.

Усё я ўкладаю ў цябе,
а ты заўсёды нязьменная, нібы
майго дыханьня стодзіва-помнік,
дамавіна нябачных існасьцяў,
ты, марная літара.

Усё,
Усё я ўкладваю ў цябе, у тваю згубу
Ніяк нам зь літарай не паразумецца.
А ўсё ж...

## Слова

Слова, чаго ты хочаш яшчэ?
Чаго хочаш болей?

Я прыйду шукаць тваю зьнямеласьць,
якая ў намаганьнях спадзеву
робіцца ўсё болей цьвёрдай...
ператвараецца ў помнік...
каб загаварыць.

Слова, ты бачыш, слова,
Параненае ты і без узросту...

Што зробіць з табою салдат?
Што зробяць з табою кайданы? А што
зробіць векавечнасьць
на вастрыні ляза?

*З гішпанца Гарсіі Лоркі адразу нам успамінаюцца цыганскія раман-сэры і асабліва славуты “Самнабулічны раманс”. А былі ж і іншыя. У дадатак да выдатных перакладаў Рыгора Барадуліна — яшчэ два вершы славутага гішпанца.*

*Фэдэрыка Гарсія ЛОРКА*

## Душы маёй змрок

Душы маёй змрок уцякае
ад морака алфавітаў,
ад мроіва кніжак зьбягае,
ад словаў, туманам спавітых .

Душы маёй змрок!

Я дайшоў да апошняй мяжы,
дзе канчаецца настальгія,
дзе чорныя сьлёзы душы
яе беласьнежнасьцю мыюць.

Душы маёй змрок!

Спрадзена болю майго
кудзеля,
ды застаюцца розум і сутнасьць
вуснаў поўдня майго былога,
позіркаў поўдня майго
былога.

Далёкіх задымленых зорак
лябірынт, імглой набрынялы,
нератам ловіць морак
маіх ілюзіяў зьвялых.

Душы маёй змрок!

Памрока мне розум сьцямніла
і выпіла зрок мой дазваньня.
Мне бачыцца: страціла сілу
і вартасьць слова “каханьне”.

Гэй, салавей мой!
Гэй, салавей!
Ты ўсё яшчэ сьпяваеш?

## Восеньскі сьпеў

Сёньня сэрцам усім адчуваю
подых неба дрыготкі і зорны,
ды сьцяжынка мая ўсё блукае
у душы тумаоў смужна-чорных.
Ад сьвятла паламаліся крылы,
і зь нязнаных думных глыбіняў
боль маёй скрухі панылай
ліецца ў паток успамінаў.
Сьнежна бялеюць ружы,
як бялеюць мае пакуты,
не самі зьбялелі ружы:
яны белым сьнегам сагнутыя.
Раней там касачы квітнелі.
Ды сьнегам душу замятае.
На душы ў засьнежанай белі
сьняжок пацалункаў ня тае,
у ценю ўспаміны зьнямелі,
а думкі ў сьвятле патанаюць.

Сьнег з ружаў спадае далоў,
а ў душы сумёт застаецца,

і бязьлітаснай лапай гадоў
саван ружовы сатчэцца.

Ці сьнег растане і зьнікне,
як сьмерць забярэ нас, нядужных?
Ці выпадзе новы, і ўзьнікнуць
яшчэ прыгажэйшыя ружы?
Ці нас агорне навечна,
як вучыць Хрыстос, спакой?
Ці можа ня знойдзем адвечнай
загадкі рашэньне такой?

Калі нас падмане каханьне?
Хто тады хоць часьціну жыцьця
нам ажывіць сваім дыханьнем,
бо ў пякельны змрок забыцьця
нас заводзіць сумнеў і пазнаньне
існаваньня Дабра ды Зла існаваньня?

А калі надзея згасае,
то ў вавілонскай цямрэчы
паходня асьвеціць якая
шлях на Зямлі чалавечы?

А калі блакіт толькі сьніцца,
што тады будзе з цноты?
І як тады сэрца сьцясьніцца
калі няма стрэлаў ў Эрота?

А калі сьмерць – непрытомнасьць,
што ж з паэтамі станецца,
а рэчы ніхто ня ўспомніць,
і ўсё забытым застанецца?
О сэрца нашых спадзеваў!
Маладзік! І вады чысьціня!
Дзіцячыя сэрцы, дзе вы?!
Шурпаты дух камяня?!
Сёньня сэрцам усім адчуваю
подых неба дрыготкі і зорны,
і ружы ад белі ўзгараюць,
бялеюць ад скрухі чорнай.

*Гішпанскія тэксты ўзятыя з Інтэрнэту.*





**ЛІЯКУМОВІЧ Цімох** – літаратуразнаўца, перакладчык, доктар філялягічных навук, прафэсар. Пераможца літаратурнага конкурсу беларусаў замежжа "Нашчадкі Скарыны" (намінацыя "Проза"). Нарадзіўся на Палесьсі. Настаўнічаў на Бабруйшчыне. З 1974 году працаваў у Берасьцейскім унівэрсытэце імя А. С. Пушкіна, з 1980 па 1998 год узначальваў катэдру расейскай і замежнай літаратураў. Выдаў кніжкі "Потомки Пушкина в Белоруссии", "Янка Купала и русская литература: Многообразие творческих взаимосвязей" і інш. Адзін з аўтараў чатырохтомных "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных узаемасувязей", вучэбнага дапаможніка "Русская литература XX века. 1895 – 1917" і іншых калектыўных прац. У беларускім друку выступае з 1961 году. Ягоныя артыкулы таксама друкаваліся ў навуковых зборніках, часапісах і газэтах Расеі, Украіны, Польшчы, у энцыкляпэдычных даведніках. З 1999 году жыве ў Чыкага, ЗША, дзе працягвае творчую і публіцыстычную дзейнасьць, вядзе старонку "Беларускія зарніцы" у двухтыднёвіку "Земляки", на якой асьвятляюцца грамадзкія падзеі і праблемы культурнага жыцьця на роднай зямлі. У ЗША выдаў кнігі "Белорусские сполохи", якую склалі ягоныя пераклады твораў выдатных беларускіх празаікаў і паэтаў, а таксама артыкулы пра іх жыцьцё, творчасьць, і "Прописаны в сердце" – усебаковы нарыс аб адметнасьцях сучаснай Беларусі. У 2009 годзе ў выдавецтве "Кнігазбор" (Менск) выдаў кнігу навэлаў і апавяданьняў "Настальгія".

# Споведзь

Прайшло ўжо больш за пятнаццаць гадоў з таго часу, як Рыма Сямёнаўна з Маркам Давідавічам выехалі зь Беларусі на сталае месца жыхарства ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пасяліліся яны ў адным з утульных чыкагскіх прыгарадаў, прыжыліся тут, звыкліся з новымі для сябе ўмовамі жыцьця.

Але сувязей з Радзімай муж і жонка не гублялі. Перапісваліся з былымі калегамі: ён – па заводзе, на якім працаваў інжынэрам, яна – па школе, у якой прапрацавала настаўніцай матэматыкі каля сарака гадоў – да

самага выхаду на пэнсію, на якую яе доўгі час не адпускалі. Рыма Сямёнаўна лічылася адной зь лепшых “матэматычак” у раённым цэнтры. Яе выхаванцы нязьменна займалі прызавыя месцы ня толькі на гарадзкіх, але і на абласных, і на рэспубліканскіх алімпіядах. Трывалыя веды, атрыманыя пры яе дапамозе, адкрывалі ім дарогу ў прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны, былі спрыяльнай базай для вучобы ў інстытутах і ўнівэрсытэтах. Нават яе калегі, матэматыкі зь іншых школ, да зьдзіўленьня жыхароў гарадка, зьвярталіся да яе з просьбаю пазаймацца з сваімі дзеткамі, якія рыхтаваліся да паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Таварыская, добразычлівая да вучняў, спагадлівая да калег, чулая да чужога гора, Рыма Сямёнаўна ўмела падтрымаць чалавека ў непагодны дзень ягонага жыцьця, дапамагала знайсьці выхад зь цяжкага становішча, зь неспрыяльных абставінаў, калі такія ўзьнікалі. Да таго ж яна валодала рэдкім дарам шчыра ўспрымаць чужую радасьць як сваё ўласнае сьвята.

Быў да пары сваёй жонцы і яе муж Марк Давідавіч, які нейкім цудам уцалеў у полымі вайны, спазнаў і гаротныя гады эвакуацыі, і злашчасныя пасьляваенныя нягоды. Зусім малым ён застаўся без бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Марк Давідавіч славіўся як таленавіты інжынэр ды нястомны рацыяналізатар. Ён здолеў зрабіць нямала вынаходніцтваў, што ўдасканальвалі і палягчалі рабочы працэс. Ягоныя карысныя прапановы забясьпечвалі паніжэньне сабекошту прадукцыі, якая выпускалася заводам, спрыялі атрыманьню дадатковых прыбыткаў прадпрыемствам. Зь ім лічылася кіраўніцтва, а падначаленыя душы ня чулі за разумныя парады, за паважлівыя адносіны да кожнага рабочага.

Хоць цяпер Кельціны знаходзіліся далёка ад роднай зямлі, яны разумелі, што многія з былых таварышаў па службе, суседзяў, сяброў, што выйшлі, як і яны, на пэнсію, жылі нялёгка ў наш сумбурны час, калі на пакінутай Радзіме амаль ня думалі аб умовах існаваньня простых працаўнікоў, тым больш пра тых, хто аказаўся, як там гучна заяўлялі, на заслужаным адпачынку. Нічога сабе адпачынак, калі канцы з канцамі не ўдавалася зьвесьці! Цэны на прадукты першай неабходнасьці павышаліся з шалёнай хуткасьцю, расьлі шпарчэй, чым грыбы на добрай глебе ў спрыяльную восень, а заработныя платы і пэнсіі, нягледзячы на пэрыядычныя павышэньні, фактычна рэзка паніжаліся: інфляцыя прагна праглынала тыя вартыя жалю надбаўкі, што на самай справе аказваліся хітрым памяншэньнем працоўных даходаў...

Муж і жонка, пра якіх нядрэнна паклапацілася амэрыканская дзяржава, стараліся ашчадзіць дзясятак-другі даляраў і пры магчымасьці пераслаць, а лепш перадаць, калі быў выпадак, бо перасылка, калі зыходзіць з дапамогі, якую яны атрымлівалі, каштавала значных грошай, да таго ж апошнім часам у Беларусі надумаліся абкладваць паштовыя пераводы дадатковымі падаткамі, і мала што заставалася ад тых ашчаджаных і адпраўленых грошай тым, хто цярпеў нястачы. Пасільная падтрымка замежных землякоў дапамагала людзям набыць неабходныя лекі, прыдбаць нешта з адзеньня ці своечасова разьлічыцца за камунальныя паслугі.

Рыма Сямёнаўна ў апошнія гады няньчылася з унукамі. Дачка і зяць былі занятыя на працы ад цямна да цямна. Старэйшаму ўнуку споўнілася

восем гадоў, ён ужо хадзіў у школу, а нядаўна нарадзілася і доўгачаканая ўнучка. Наймаць выхавацельку, бэбісітэра, як яны тут называюцца, для бацькоў было не па кішэні, гэта азначала б цярпець значную страту пры іхняй невысокай зарплаце. Ды і Рыма Сямёнаўна запратэставала: "Пры жывой бабульцы, – абуралася яна, – ды каб чужыя людзі глядзелі маіх унукаў. Нядобра так рабіць!"

Уранку Рыма Сямёнаўна сьпяшалася на аўтобус, каб пасьпець да адыходу дачкі і зяця на работу. Выпраўляла ўнука ў школу, а дзень бавіла з унучкай. Завіхалася на кухні, гатавала абеды, мыла, прасавала бялізну, поркалася на лапіку зямлі ў панадворку, дзе высаджвала кветкі і вырошчвала з трох-чатырох флянсаў памідоры, некалькі кусьцікаў суніц, чаму зьдзіўляліся суседкі амэрыканскага паходжаньня, якія не прызнавалі ля сваіх дамоў ніякіх агародаў і толькі песьцілі травяныя лужкі, над якімі трэсьліся ня менш, чым іншая маці над сваім дзіцём.

Часам з мужам заставалася начаваць у дзяцей, аднак у большасьці выпадкаў увечары вярталася дамоў, дзе пасьля тлумнага дня хацелася трошкі адпачыць, набрацца новых сілаў на наступныя клопаты. Да таго ж заўсёды хапала нейкіх неадкладных хатніх гаспадарчых спраў.

І сёньняшні дзень выдаўся ў Рымы Сямёнаўны насычаным. Штосьці ўнучцы нездаровілася, капрызьнічала. Унук вярнуўся са школы і адмовіўся абедаць: два аднаклясьнікі адзначалі дні народзінаў і нанесьлі ў клясу ледзь не мяшок цукерак. Дзеці бязь меры наглыталіся салодкага, ад чаго ўнука занудзіла.

Калі Рыма Сямёнаўна вярнулася дамоў, яна знайшла ў паштовай скрынцы ліст ад сваёй неразлучнай беларускай сяброўкі – калегі па школьнай працы, настаўніцы біялёгіі Марыі Максімаўны Лагуновіч, такой жа, як і яна, у свой час завадатаркі, запявалы ва ўсіх школьных справах. Разам яны арганізоўвалі школьныя вечары, ранішнікі, КВЗ, капусьнікі, маглі пры неабходнасьці і вершаваныя радкі скласьці, і музыку да іх падабраць, разам сьпявалі ў зводным гарадзкім настаўніцкім хоры, зь якім пабывалі бадай ва ўсіх раённых цэнтрах і сёлах вобласьці. Яны былі неразлучнымі сяброўкамі, такімі, пра якіх гавораць, што іх і вадой нельга разьліць. Звычайна, калі іх сустракалі разам, таварышы па працы жартавалі вядомым радком зь дзіцячага вершыка: "Мы з Тамарай ходзім парай".

Рыма Сямёнаўна вырашыла спачатку дарабіць хатнія справы, прыгатаваць вячэру да вяртаньня мужа з нарады кіраўнікоў беларускага зямляцтва, актыўным сябрам якога ён быў, а потым ужо ў спакойных абставінах разам зь ім з задавальненьнем прачытаць ліст ад сяброўкі, – жаданую вестку з роднай зямлі, якой ён узрадуецца ня менш, чым яна, – даведацца пра навіны ў роднай школе, пра падзеі, якія адбыліся ў жыцьці агульных знаёмых, пра гарадзкія прыгоды – адным словам, адчуць дыханьне мілай сэрцу Беларусі, зноў перанесьціся ў сьвет сваёй маладосьці, аднавіць ў сэрцы мінулыя гады зь іх радасьцямі і нягодамі...

Пасьля вячэры Рыма Сямёнаўна памыла посуд, прыбрала пакой, а потым зручна ўселася ў крэсла, надзела акуляры. Раскрыла зь цікаўнасьцю ліст, загадзя маючы асалоду ад таго, што зноў быццам апынецца ў да болі знаёмай атмасфэры, далёкай і непаўторнай, ня выкрасьленай з памяці і сэрца. Марк Давідавіч таксама падрыхтаваўся ўважліва слухаць, адклаў у бок

мясцовыя расейскамоўныя газэты, якія звычайна вычытваў ад вокладкі да вокладкі.

Рыма Сямёнаўна прабегла вачыма першыя радкі ліста, рука, што трымала яго, нечакана здрыганулася – і напісаны выразным настаўніцкім почыркам аркуш неяк бездапаможна апусьціўся на часапісны столік.

Марк Давідавіч з трывогаю паглядзеў на пабялелы твар жонкі.

– Што здарылася? Благія навіны?

Рыма Сямёнаўна, калі апамяталася, адказала мужу:

– Хутчэй нечаканая, ашаламляльная вестка, калі гэта праўда. Паслухай, што піша Марыя Максімаўна: “Добры дзень, дарагія Рыма Сямёнаўна і Марк Давідавіч! Здагадваюся, што мой ліст зьдзівіць вас і ўразіць. Але мне даўно хацелася перад кімсьці выспаведацца, адкрыцца, хто я ёсьць насамрэч. Ня буду вас доўга стамляць: я – габрэйка!”

Рыма Сямёнаўна перапыніла чытаньне і запытальна зірнула на мужа. Ад нечаканай навіны рот ягоны прыадкрыўся, а ягоныя і без таго вялікія вочы, здавалася, вылезьлі з вачніцаў. Але працягваўся такі зьдзіўлены стан толькі адно імгненьне, потым ягоны твар прыняў звычайны выгляд, ён нават усьміхнуўся і заўважыў:

– Відаць, Марыя Максімаўна вырашыла напярэдадні Новага году з намі пажартаваць, прыдумала нейкую забаўную штучку, як гэта звычайна яна любіла рабіць... Лёгка здагадацца, што яна нешта выдумала. Мы ж знаёмыя зь яе маці – Вольгай Фёдараўнай. Неаднаразова прыяжджалі да яе ў вёску Падлесьсе на тыдзень, каб пакінуць убаку гарадзкія клопаты, адпачыць на сьвежым паветры, палавіць рыбу, па лесе паблукаць, а ўвосень дапамагалі ёй бульбу выкопваць. Ды і яна нас часьцяком наведвала разам з Марыяй Максімаўнай. Тыповая беларуская сялянка: і тварам, і гаворкай, і па паводзінах. Штосьці нашая сяброўка выдумляе. Відаць, гэта яе чарговы розыгрыш, на якія яна такая здатная. Цікава, які забаўны выбрык яна на гэты раз надумала? Чытай далей.

Рыма Сямёнаўна падняла лісток са століка і працягвала чытаць. Па ходу чытаньня жартаўлівы настрой як рукою зьняло з Марка Давідавіча, зь ягонага твару зьнікла ўсьмешка, а ў Рымы Сямёнаўны з вачэй пакаціліся сьлёзы.

“Так, так. Не зьдзіўляйцеся і не ўсьміхайцеся! Маё прызнаньне – гэта зусім ня жарт у духу 1 красавіка, а жывая рэальнасьць. Я здагадваюся, што вы зараз усьміхаецеся і думаеце пра сябе: “Бабуля зьехала з глузду на старасьці гадоў. Пайшла на пэнсію і пачала выдумляць усялякія глупствы. Маўляў, дзясяткі гадоў ведалі адзін аднаго, жылі па суседзтве, працавалі ў адной школе, разам зьелі не адзін пуд солі – і раптам такое адкрыцьцё. Але я зусім не жартую, расказваю, як на споведзі, хоць яшчэ ні мой муж, ні мае дзеці не здагадваюцца аб маёй прыналежнасьці да габрэйства. Вам першым я рашыла адкрыцца. Магчыма, таму што людзям, што знаходзяцца на далёкай адлегласьці ад цябе, лягчэй штосьці ня тоячыся расказаць, адкрыта прызнацца ў самым патаемным, чым тым, хто знаходзіцца побач з табой...

А зараз, калі вы наладзіліся ўважліва выслухаць мяне, паведамляю па парадку пра ўсё, што здарылася са мной. Справа ў тым, што я ўсё жыцьцё пражыла пад чужой мэтрыкай, пад чужым прозьвішчам, пад чужым імём і, натуральна, з чужой нацыянальнасьцю.

Я добра памятаю, што паходжу зь вялікай габрэйскай сям’і. Памятаю сваю матулю. Быў у мяне старэйшы брат і сястрычкі, бабуля і дзядуля. Вобраз бацькі цьмяна ўспамінаецца. Аднак не забываецца, як ён, калі адыходзіў на фронт, разьвітваўся з намі, узьняў мяне высока над галавой.

Вайна ўсё пераблытала ў маім жыцьці. Не пасьпелі правесьці бацьку на фронт, як фашысты ўварваліся ў нашае мястэчка. Празь месяц-другі ўсіх габрэяў павыганялі з хат, хворых і тых, хто ня мог самастойна хадзіць, прыстрэльвалі на месцы, а астатніх пагналі ў горад Глыбокае. Як страшны сон, успамінаецца: сядзелі мы ў нейкай закінутай клеці – альбо ноч была, альбо проста цемра. Жанчыны плакалі, гаварылі, што нас зьбіраюцца спаліць. Старыя шыкалі на іх: не палохайце дзяцей!..

Нас не спалілі, а вывелі на расстрэл. Адбывалася расправа, як мне зараз уяўляецца, у канцы лета ці на пачатку верасьня. Той жах мне ўсё жыцьцё сьніцца. Імжэў дробны дожджык. Расстрэльвалі групамі на краі вялікай ямы, зь якой мясцовыя жыхары здабывалі белую гліну, альбо на краі рова. Гліна хутка зь белай ператварылася ў чырвоную крывавую калатушу. Мне было тады так страшна, што і цяпер пры ўспамінах мурашкі па сьпіне бегаюць.

Немцы і паліцаі сьпяшаліся як мага хутчэй зрабіць сваю чорную справу. Ім не карцела доўгі час знаходзіцца пад дажджом. Паміж дарогай, на якой тоўпіліся асуджаныя на сьмерць людзі, акружаныя паліцаямі, і ямай, каля якой расстрэльвалі няшчасных, знаходзіўся невялічкі лужок, па якім асуджаныя да сьмяротнай кары рабілі свае апошнія крокі ў жыцьці. З правага боку лужка расьлі невысокія кусьцікі. Калі мы параўняліся зь імі, мама мяне раптам штурхнула туды з шэптам: “Уцякай, дачушка! Магчыма, Дора, табе пашчасьціць выратавацца!” Вось пры якіх абставінах я моцна запомніла сваё імя. У сапраўднасьці я зусім не Марыя, я – Дора!

Што было далей?.. На ўсё жыцьцё ўрэзаўся ў памяць той злашчасны дзень. Я была перапалоханая. Памкнулася хутчэй кінуцца да мамы, але ўбачыла яе адчайны погляд, адчула яе мальбу схавацца і цішком, дзе паўзком, дзе прыгнуўшыся, а потым бегма аддалілася ад страшнага месца. Доўгі час не магла прыйсьці ў сябе. Дрыжэла як асінавы лісток. Заплаканая, я валаклася куды вочы глядзяць. Апынулася ў лесе. Колькі дзён блукала па ім – ня памятаю. Колькі жахаў перажыла – не пералічыць, не пераказаць. Прайшлі дзесяцігодзьдзі – а часам сьняцца падзеі тых страшных дзён, і я прачынаюся ўся ў халодным поце.

Нарэшце, я натрапіла на нейкую вёсачку. Пастукалася ў дзьверы першай жа хаты, што стаяла каля лесу. Дзьверы мне адчыніла жанчына. У хаце за сталом сядзелі некалькі дзетак. Усе яны перапалохана глядзелі на мяне. Я была ў запэцканай хустачцы і, мабыць, выглядала як гаротная бабулька. Жанчына адразу здагадалася, што да чаго. Узяла зь міскі некалькі блінцоў, сунула іх мне ў руку: “Паеш, дзяўчынка, і хутка ідзі адсюль. Немцы ў вёсцы. Ні табе, ні нам не мінуць ліха, калі заўважаць”, – і ціхенька падштурхнула мяне да дзьвярэй.

Так, з блінамі ў руках, прагна адкусваючы кавалачкі, я пасьпяшала зноў схавацца ў лесе: ужо добра разумела, што немцы – гэта тыя, хто забівае людзей, і ад іх неабходна хавацца, не трапляць ім на вочы, бо яны, па нейкай невядомай мне прычыне, імкнуцца пазбавіць мяне жыцьця, – і павалаклася немаведама куды.

Празь некалькі дзён галодная, стомленая, зморaная, змучаная, ужо абыякавая да ўсяго, я зноў натрапіла на вёску. Адзеньне на мне падралася ў лахманы. Хустачка на галаве выцьвіла на сонцы. Сіл у мяне не было больш ніякіх. Ледзьве трымалася на нагах. Поўная абыякавасьць да ўсяго авалодала мною. Убачыла хату з ганачкам. Настолькі аслабла, што пастукацца ўжо не змагла. Змучаная страхам, голадам і бездапаможнымі блуканьнямі, прысела на прыступках і заснула...

Раптам адчула, як моцныя мужчынскія рукі прыпаднялі мяне з ганку і панесьлі ў хату. Я зь цяжкасьцю расплюшчыла вочы, бо павекі амаль не адкрываліся, убачыла перад сабою заклапочаны твар, ласкавыя вочы і вялікія жытнёвыя вусы, празь якія чалавек спачувальна ўсьміхаўся.

Як потым даведалася, апынулася я ў доме былога старшыні калгаса. На зьдзіўленьне сялян, немцы не расправіліся зь ім, ды яшчэ прызначылі старастам. Відаць, пранюхалі аднекуль, што два ягоныя сыны былі рэпрэсаваныя ў сталіцы рэспублікі савецкімі ўладамі. Немцы вырашылі, што такому чалавеку яны могуць даверыцца. А ён жа пазьней узначаліў партызанскі атрад і загінуў у адным з апошніх баёў з захопнікамі, калі ратаваў сваіх лясных братоў і іх сем'і з акружэньня.

Мне пашанцавала: я апынулася ў вёсцы, калі немцаў у ёй не было.

– Глядзі, якую мурзатую лясную фею знайшоў я на нашым ганку, – зьвярнуўся мужчына, што трымаў мяне на руках, да сваёй жонкі, якая, як пазьней мне стала вядома, працавала мэдсястрою пры сельскай амбулаторыі. – Адчуваю, што малеча зазнала нямала гора. Абмый яе, пакармі, а я пабягу па Вольгу Лагуновіч.

У хуткім часе былы старшыня калгасу вярнуўся з маладой жанчынай.

– Вось табе, Вольга, і дачушка, – зьвярнуўся ён да маладзіцы, і кіўнуў у мой бок. – Вазьмі да сябе і гадуй на здароўе!

– Бог з табою, Паўлавіч! Што ты выдумаў?! – запярэчыла незнаёмка. – Немцы даведаюцца – зьнішчаць нас. Ні мяне, ні сямімесячнага Сярожку не пашкадуюць.

– Ні аб чым яны не даведаюцца. У цябе чатырохгадовая Марылька памерла. Будзе дзяўчынка за тваю дачушку-нябожчыцу. Ніхто чапляцца ня стане. Ды яна зусім зьнешне на габрэйку не падобная. Ты ж, паглядзі, сама якой чарнявай урадзілася. Ды дзяўчынку мая жонка пасьпела астрыгчы дагала. Ды і ў Максіма твайго, што зараз б'е на фронце фашысцкіх гадаў, чупрына таксама ня русая.

– А як выдасьць нядобры чалавек?

– Веру, што ў нашым сяле такіх ня знойдзецца. Я сваіх людзей добра ведаю. Многа рознага давялося перажыць разам зь імі. Годна перажывем і фашыстоўскую навалу. Калгасьнікі перакананыя, што немцы ненадоўга прыйшлі, што немінуча схлыне гэтая чорная злыбеда з нашае зямлі. Не мінуць ім разгрому і пагібелі. Ды амаль у кожнай сям'і ёсьць ці бацька, ці брат, ці муж, што служыць у войску і б'е ненавіснага ворага. Не сумнявайся, будзе фашыстам ганебная пагібель, бясслаўны канец...

Так я замяніла памерлую дачку лепшай калгаснай даяркі, перад вайною нават узнагароджанай ордэнам за высокія ўдоі малака. І на самай справе я стала ёй замест дачкі. І дапамагала ёй чым і як магла. Глядзела маленькага Сярожку, зь якім мы здружыліся, калі ён падрос.

У 1943 годзе немцы вырашылі расправіцца з партызанамі і ўзяліся за зьнішчэньне цэлых вёсак, расстрэльвалі і вешалі людзей, палілі хаты. Разумелі, што ў іх на чарзе і нашая вёска, тым больш, што стараста выявіўся завадатарам народных мсьціўцаў. Камандзір атрада, мой выратавальнік, апярэдзіў фашыстаў, пасьпеў вывесьці ўсіх жыхароў сяла ў партызанскі лягер. Ашалелыя зьвяругі спалілі вёску, ператварылі яе ў суцэльнае папялішча...

Пасьля вайны я так і засталася жыць у сям'і сваёй новай маці. Муж яе загінуў на фронце. Яе сёстры раілі аддаць мяне ў дзіцячы дом. Яна магла лёгка расстацца са мною, бо тады было яшчэ шмат сьведкаў майго выратаваньня, але Вольга Фёдараўна не паслухала іх парады: "Марыйка мне як родная дачушка – перажылі разам жудасьці вайны, так што ў мірны час неяк пратрымаемся".

Пазьней я даведалася, што мая новая маці і новы старшыня калгасу расшуквалі майго бацьку. Выявілася, што і ён загінуў на фронце сьмерцю храбрых. Мне тады аб гэтым нічога не сказалі.

Так я расла і вырасла як беларуска Марыя Максімаўна Лагуновіч.

Па мэтрыцы сапраўднай Марыйкі настаў час атрымліваць мне пашпарт, хоць дакладна і па сёньняшні час ня ведаю ні году, ні дня свайго нараджэньня. У савецкім пашпарце, нягледзячы на тое, што галасна абвяшчалася, што ўсе людзі роўныя, неабходна было адзначыць сваю нацыянальнасьць. Мая новая мама засумнявалася: быццам нядобра чалавеку мяняць свой род, да якога ён належыць. Пайшла ў школу параіцца з настаўніцай гісторыі і настаўнікам фізікі. Яны былі габрэямі. А выпадала мне атрымліваць пашпарт па мэтрыцы нябожчыцы-дачушкі маёй выратавальніцы і выхавальніцы на канец вясны 1953 году. Краіна яшчэ не апрытомнела ад вынікаў барацьбы з надуманымі касмапалітамі, быў зьнішчаны габрэйскі Антыфашысцкі Камітэт, працягвалі яшчэ разыходзіцца кругі ад сфабрыкаванай бруднай "справы ўрачоў". Толькі некалькі месяцаў таму аддаў Богу душу натхняльнік, як зрабілася потым вядомым, усіх гэтых жудасьцяў.

Настаўнікі, да якіх зьвярнулася маці, добра ведалі аб усіх падзеях, што адбываліся ў дзяржаве, у якой усе лічыліся "раўнапраўнымі", але на сабе адчувалі, як уціскаюцца людзі габрэйскай нацыянальнасьці, нягледзячы на тое, што ўнесьлі важкі ўнёсак у абарону і разьвіцьцё няўдзячнага Савецкага Саюзу, хоць і многім іншым народам несалодка даводзілася сябе адчуваць пад ягоным імпэрскім крылом. Настаўнікі параілі запісаць мяне беларускай, што дазволіць ўсё-ткі адчуваць сябе паўнапраўным членам грамадзтва. Пераканалі Вольгу Фёдараўну ў тым, што баяцца ёй зусім няма чаго, бо ў гады вайны загінуў увесь Віцебскі абласны архіў і дакладана ўзнавіць ні маю нацыянальнасьць, ні мой год нараджэньня проста немагчыма. І ўвогуле, невядома, куды, у які бок, падзьме дзяржаўны вецер у далейшым, бо ва ўладзе засталіся сталінскія паплечнікі, выдрэсіраваныя ім у сваім д'ябальскім духу. Зразумела, настаўнікі настойліва раілі маме ўсё пакінуць так, як ёсьць, запісаць мяне беларускай, калі яна сапраўды хоча засьцерагчы мяне ад беспадстаўных і незаслужаных прыдзірак, уціскаў і зьнявагаў, калі сапраўды хоча шчасьця сваёй прыёмнай дачцэ, што зрабілася для яе роднаю.

Ну, а пра астатняе вы ўжо ведаеце. Паступіла вучыцца ў Віцебскі пэдагагічны інстытут на біялягічны факультэт. Вучылася выдатна. Што пра-

цавала добрасумленна, таксама ведаеце. Пры вас узнагароджвалася ганаровымі граматамі, надалі таксама званьне “заслужаны настаўнік Беларусі”.

У інстытуце я спадабалася беларускаму хлопцу, які “загіпнатызаваў” мяне сваімі вершамі, хоць паэтам ня стаў, а чалавекам і мужам аказаўся выдатным, ды і журналістам някепскім. Пасьля заканчэньня інстытуту працаваў у рэдакцыі раённай газэты, друкаваўся і ў рэспубліканскіх выданьнях. Ды навошта я гэта вам расказваю, вы ж самі яго добра ведалі і часта захапляліся ягонымі публікацыямі. Ня раз адзін у аднаго зьбіраліся на сьвяты і ўрачыстасьці ды і ў будні сустракаліся. Жылі душа ў душу.

Нарадзіліся ў нас хлопчык і дзяўчынка. Цяпер вы б іх і не пазналі. Зусім дарослыя. Свае сем’і маюць. Сын жа яшчэ пры вас ажаніўся. У яго дачка вучыцца ў МДУ імя Ламаносава. На якімсьці мудрагелістым факультэце, а хлопчык у дзявятай клясе. Таксама добра вучыцца. І яшчэ займаецца спортам. Прывабіла яго каратэ. Мае ўжо нейкія тры паясы-адзнакі і мэдалі.

У Дыяны маёй – дачушка. Нарадзілася ўжо пасьля вашага ад’езду. Алёнка. Ёй ужо 14 гадоў. Разумніца. Сьпявае так, што заслухаесься. Музыку піша.

Выспаведалася перад вамі першымі ў сваім жыцьці. Лягчэй на душы зрабілася. Цяпер чарга перад мужам і дзецьмі прызнацца...

Дарагія, мілыя мае сябры! Не крыўдуйце на мяне, што за многія гады (што там гады – дзесяцігодзьдзі!) нашага знаёмства не адкрылася вам. У жыцьці ня ўсё так проста, як нам хацелася б! Існуюць на зямлі нейкія цёмныя сілы, якім усё карціць прыносіць людзям толькі пакуты, якім дастаўляе задавальненьне ламаць людзкія лёсы. Хай будуць яны праклятыя на векі вечныя! Ці надыйдзе час, калі ўсякая погань зьнікне з твару зямлі, і людзі пачнуць жыць па чалавечых законах?!”

Рыма Сямёнаўна і Марк Давідавіч былі надзвычай узрушаныя незвычайным лёсам свайго вернага сямейнага сябра, зямлячкі. У адказ напісалі ёй цёплы, сардэчны ліст. Паведамілі таксама пра тое, што Нямеччына ў якасьці прабачэньня за прынесеныя пакуты выплачвае ахвярам фашызму – былым вязьням гета, а таксама людзям габрэйскай нацыянальнасьці, што нацярпеліся гора ад нямецкай акупацыі, – у кампэнсацыю грашовыя дапамогі. Раілі ёй падаць дакумэнты, каб законна атрымаць аднаразовую дабаўку да сваёй мізэрнай пэнсіі, што грошы дапамогуць у набыцьці патрэбных лекаў, у вырашэньні іншых тэрміновых патрэбаў.

А таксама яе, цяпер ужо замежныя, сябры зьдзіўляліся, чаму яе прыёмная маці пры жыцьці маўчала пра свой подзьвіг – выратаваньне габрэйскай дзяўчынкі ў гады акупацыі.

У адказ Марыя Максімаўна паведаміла чыкагскім сябрам, што прызналася ва ўсім мужу і дзецям. На зьдзіўленьне, муж даўно ведаў яе сапраўднае паходжаньне. Выявілася, што перад Марыйчыным вясельлем Вольга Фёдараўна, што баялася за далейшы лёс сваёй выхаванкі, знайшла магчымасьць пагаварыць па душах зь яе будучым мужам. Яна імкнулася забясьпечыць ёй трывалае шчасьце, засьцерагчы ад непрыемных нечаканасьцяў.

І дзеці, і ўнукі узрадаваліся, што ў іх цячэ кроў двух народаў, запэўнілі, што з гэтай пары пачнуць больш увагі аддаваць гісторыі габрэйскай нацыі,

дасягненьням габрэйскай культуры. Яна з годнасьцю паведамляла: “Я яшчэ больш пераканалася ў сапраўдным каханьні мужа да мяне, шчасьлівая, што выгадавала дзяцей прыстойнымі людзьмі. Так што ў маёй сям’і габрэйска-беларускія карані перапляліся самым цесным чынам”.

“На вашае пытаньне, – працягвала яна тлумачыць, – чаму Вольга Фёдараўна, што дажыла амаль да свайго дзевяностагадовага ўзросту і пераступіла ў дваццаць першае стагодзьдзе, так да самай сьмерці не заявіла ва ўвесь голас, што стала выратавальніцай габрэйскай дзяўчынкі, нават тады, калі пра гэта магчыма было абвяшчаць голасна, што па праву заслугоўвае званьня Праведніка сьвету і, натуральна, адпаведных ільгот і славы, тлумачу, чым яна кіравалася. Па-першае, шчырай заявай яна не хацела ламаць мой лёс. Па-другое, была і простая жыцьцёвая прычына: да нашага зь Сярожам паўналецьця яна атрымлівала на нас ад дзяржавы дапамогу за загінуўшага мужа. Доўгі час баялася, што мяне могуць пазбавіць адпаведнай дапамогі, а гадаваць нас у пасьляваенныя гады ў галоднай вёсцы зь яе парожнім працаднём было надзвычай нялёгка. Потым баялася, што могуць вылічыць атрыманыя грошы...

Нядаўна ўсёй сям’ёй у чарговы раз наведалі абноўленую пасьля вайны вёску, у якой добрыя людзі ратавалі мяне ад сьмерці. Усклалі сьвежыя вянкі на брацкую магілу партызан, на магілы Вольгі Фёдараўны і Сярожы, майго названага брата, які стаў лётчыкам-асам і быў накіраваны, як тады сьцьвярджалі, на выкананьне свайго інтэрнацыянальнага абавязку ў Аўганістан, дзе ён па-геройску загінуў. Прыбрала кветкамі і “ўласную” магілу. Спадзяюся, здагадаліся, што гэта магіла памерлай дзяўчынкі, але на помніку значацца маё імя і прозьвішча. Рэдка каму на долю выпадае падобнае: схіляцца над месцам “свайго” пахаваньня. Пачуцьцё, зразумела, настолькі сумнае, журботнае, што проста выць хочацца.

Дзякуй вам за ўвагу, дабрыню, за клопаты, за паведамленьне пра тое, што я за свае пакуты, за пагібель усіх маіх родных магу на старасьці гадоў атрымаць ад немцаў нейкую кампэнсацыю як ахвяра фашызму. Мне зараз цяжка даказаць, хто я ёсьць на самай справе. Узнавіць ісьціну амаль немагчыма. Архівы загінулі, ніводнага габрэя з нашага мястэчка не засталося ў жывых. Людзі, якія ведалі гісторыю майго выратаваньня, ці загінулі ў час вайны, ці ўжо памерлі. Год ужо прайшоў, як ня стала маёй другой матулі, дарагой для мяне Вольгі Фёдараўны. Вядома, і аднаразовая выплата спатрэбілася б. Да маёй жабрацкай пэнсіі была б неблагая надбаўка. З другога боку, дзьве-тры сотні эўра, якія прапануюць немцы, мяне ня выратуюць ад беднасьці, хоць, паўтараюся, не пашкодзілі б.

Ды і жыць мне няммнога засталося. Нашто мне новыя стрэсы пры маім слабым здароўі? Пражыла столькі гадоў бяз гэтых вартых жалю нямецкіх эўра, неяк пражыву бязь іх і рэшту свайго жыцьця.

І ўвогуле, калі шчыра прызнацца, ніякімі грашыма ня вымераць таго калясальнага чалавечага болю, тых пакутаў, якія давялося мне перажыць. Адкупіцца ад іх немагчыма ніякай міласьцю. І да апошніх хвілінаў жыцьця не змагу залячыць душэўныя раны, што нанесла мне гібель усіх родных, забыць штосэкундны страх сьмерці і тыя крывавыя падзеі, што скрывілі мой лёс, прымусілі хавацца пад чужым імём. Усё ж усьцешна ўсьведамляць, што цяперашняе нямецкае грамадзтва асэнсавала злачынствы сваіх прод-

каў, што яно зрабіла належныя высновы з горкага ўроку, што зразумела, як чалавеканенавісьніцтва разьядноўвае нацыю, прыводзіць яе да агіднага азьвярэньня, пазбаўляе пэрспэктываў нармальнага разьвіцьця. Ня ўтойваю, на сёньняшні час немцы выклікаюць да сябе больш павагі, чым народы з затуманеным усьведамленьнем, асьлепленыя ідэямі выключнасьці і перавагі над іншымі, якія нацысцкіх злачынцаў абвяшчаюць сваімі нацыянальнымі героямі і не ўсьведамляюць, што гэта ні да чаго добрага не прывядзе, што гэта вельмі небясьпечна для іх уласнага лёсу. На жаль, шавіністычным крэтынам нярэдка ўдаецца адурманіць цэлыя народы, якім даводзіцца потым жорстка расплачвацца за сваю сьлепату...

Маці змагла ахвяраваць званьнем Праведніцы, чаму ж я не магу адмовіцца ад нямецкай падачкі? Мяне прызнаў за сваю беларускі народ у нялёгкі час сваёй гісторыі, у найбольш цяжкія хвіліны майго ўласнага жыцьця – так што і я да канца сваіх дзён разьдзялю зь ім агульны лёс".

Калі Марк Давідавіч выслухаў новае пісьмо ад Марыі Максімаўны, ён некалькі разоў прайшоўся ў задуменьні па кватэры, потым павучальна выказаўся: "Ад бальшака палявой дарогі не шукаюць. У людзей, як і ў прыродзе: як гукнеш, так і адгукнецца".





**МАЎЧУН Анатоль** — нарадзіўся ў самым пачатку 1930-х гадоў у вёсцы Абруб на Глыбоччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны разам з бацькам выехаў жыць у Польшчу на "вернутыя землі" ў Памор'і. Зараз жыве ў Познані.

# Мы і прырода

Пра разумных зьвяроў — хітрую лісіцу, вынаходлівага вожыка ці клапатлівую вавёрку — мы многае чулі ў казках, вершах ці калыханках для маленькіх дзетак. А цікава было б ведаць, колькі праўды можа хавацца ва ўсім тым, што мы лічым прыдуманым нашымі бабулямі ці дзядулямі, а яшчэ і старэйшымі нашымі продкамі? Зьвяркі акружаюць нас усюды: у хаце, на двары, у лесе. А што мы пра іх ведаем? Безумоўна, тую карысьць, якую маем ад жывёлы ў гаспадарцы. А што больш?

Недзе ў шасьцідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя ў радыёперадачах прафэсар Жабінскі даказваў, што жывёльны сьвет падпарадкаваны выключна інстынктам. Я не з усімі ягонымі доказамі гатовы пагадзіцца. Зьвяры вельмі часта ўмеюць нас ня толькі разьвесяляць, але і зьдзівіць. І такое здараецца часта. На гэта сур'ёзна я пачаў зьвяртаць увагу, ідучы раз дарогаю, уздоўж якой з аднаго боку расьлі высокія дрэвы. Каля аднаго такога дрэва корпалася ў траве вавёрка. Я вырашыў ціхенька падыйсьці да яе, але яна гэта прыкмеціла і хуценька скочыла на дрэва. Затрымалася невысока і рабіла выгляд, быццам на мяне чакае. Калі падыйшоў да яе блізка, яна хуценька пабегла наверх кроны, адтуль скочыла на суседняе дрэва, там зноў затрымалася невысока, што можна б было да яе дакрануцца, і рабіла выгляд, што мяне чакае. Калі я да яе наблізіўся, яна імгненна апынулася ўжо на наступным дрэве... Гульня трывала да канца алеі. Там я вавёрку пакінуў. Яна доўга глядзела мне ўсьлед. Гэтыя паводзіны зьвярка прымусілі мяне задумацца пра многія пачутыя гісторыі, пра незвычайныя часам паводзіны зьвяроў, пра неверагодныя загадкі.

Калі ў 1939 годзе паляўнічага пана Чапоўскага (таго, што ў падарожжы браў з сабою ваду толькі з Доўгага возера, бо лічыў яе найздаравейшай) пазбавілі паляўнічай зброі, ён сваіх сабак аддаў сялянам. Мой дзядзька ўзяў сабе Рэкса. Сабака вельмі хутка прывык да сваіх новых абавязкаў вартаўніка панадворка. Хутка ён пазнаёміўся з жыхарамі хутара, а з часам і да суседзяў у хаты зазіраў. Ноччу пільнаваў ён ня толькі свой панадворак, суседзкія таксама, а хутары былі далёка раскіданыя. А вось гэтых жа суседзяў на свой панадворак без дазволу гаспадароў пусьціць не хацеў. Рэкс любіў мне дапамагаць кароў пасьвіць і з авечкамі ваяваць. Хай толькі маленькае ягнятка адлучылася ад авечак, ён яго ўжо гнаў. Са мною ён таксама ваяваў, калі хацеў хлеб адабраць, які я часам меў з сабою. Вядома, была гэта гульня, і зусім нядрэнна зьвярком прыдуманая. Бо калі я хацеў яго падмануць і кідаў замест хлеба камень (часам у возера), ён мог той камень адшукаць, пакласьці перада мною, а мяне схапіць за штаніну і цягнуць у ваду (здарылася, раз мяне ратаваў, калі я тапіўся).

Зрэшты, Рэкс займаўся таксама і крадзяжом. Наш сусед Іван Малько выкапаў на сваёй пожні студню (было ўсё гэта ў Абрубе на Псуеўшчыне), зрабіў невысокі зруб, а Параска, ягоная жонка, улетку на ноч ставіла ў студню малако, каб у халоднай вадзе сьмятана сабралася. Раз здарылася, што раніцай накрыўка ад пасудзіны ляжала на траве каля зруба, а сьмятаны ў малацэ ўжо не было. І паўтарацца гэта стала кожную ноч. Давялося гаспадару прытаіцца ў кустах і чакаць злодзея. Ноччу прыбег Рэкс...

Пазнаёміўся я некалі і зь яшчэ адным незвычайным сабакам, якога гаспадары трымалі ў вясковай хаце. Меў ён сваю пасьцель у кухні пад сталом. На двары бываў рэдка, як зімой, так і ўлетку. І раз давялося мне наведаць тую хату. У кухні я нікога не сустрэў і думаў, можа, у пакойчыку хто будзе. Калі і там нікога не аказалася, трэба было некага шукаць у двары. Але... я забыўся пра сабаку. Калі я вярнуўся ў кухню, той ужо ляжаў на парозе з мордаю на пярэдніх лапах і спакойна назіраў за маімі паводзінамі. Было гэта ўлетку, і якраз вакно ў кухні было адчынена. Я асьцярожна сеў блізка вакна, а за хвіліну спрытна скочыў праз вакно на панадворак. Уся хата трэслася ад брэху, і я пазьбегнуў сутычкі...

І тут насоўваецца пытаньне: адкуль у зьвяроў бярэцца хітрасьць? Нават тады, калі іх гэтаму ніхто ня вучыць? Быццам вопыт продкаў? Нядаўна ў тэлеперадачы гаварылася пра амэрыканскага дасьледчыка, што хацеў пераканацца, як рэагуе мядзьведзь, калі бачыць сябе ў люстэрку. Па-мойму, гэта лішні захад – жывёла ж бачыць сябе ў вадзе падчас вадапою. Я вось хацеў пераканацца, ці рэагуе наш кот на свой від у люстэрку. А ён нават і глядзець не хацеў на тое люстэрка. Аднак калі я хацеў злавіць яго, каб нанач закрыць у кладоўцы, ён вельмі пільна ўглядаўся з-пад ложка ў гладкія дзьверы шафы, дзе бачыў маё адлюстраваньне і мой намер, і хуценька хаваўся ў іншае месца.

Зрэшты, каты, як і сабакі, любяць гуляць. Наш кот часьценька лез на шафу, каб зьнянацку скочыць мне на плечы. У адно мне было цяжка паверыць, калі жонка гаварыла, што кот загадзя ведаў, калі я дамоў вярнуся. Ён тады сядзеў каля дзьвярэй, і калі я дзьверы адчыняў, па маёй вопратцы караскаўся, як па драбінах, а апынуўшыся на плячох, ператвараўся ў цёплы каўнер на шыі.

У кватэры ён кожныя дзьверы быў здольны адчыніць, усюды гатоў быў улезьці. Адно месца асьцярожна абмінаў – там стаяла піяніна. Кот любіць хадзіць паціхеньку, а клявішы – пагроза ягонай цішыні...

Жыў у нашай кватэры нейкі час і голуб. Той бегаў па клявіятуры піяніна і нават ахвотна... Здаралася, калі па радыё перадавалі музыку, голуб садзіўся на прыймач і слухаў. Птушкі – стварэньні сур'ёзныя, а таксама таленавітыя. Часам назіраю, як стая вераб'ёў ляціць не абмінаючы сеткі – быццам яе і няма – празь дзіркі. Значыць, ляцець праз вочкі ў сетцы трэба навучыцца...

Жывучы ўжо ў Чаплінку (мястэчка на "вернутых землях" у Польшчы), сустрэў я раз лесьніка, што ехаў на ровары, а за ім бег, стукаючы капытамі па асфальце, дзік. Бег спакойна, не зьвяртаючы ўвагі на чужых людзей. Умовы дазвалялі яму прывыкнуць, не баяцца. Значыць, мы ўсе маглі б у нейкай меры між сабою суіснаваць, разьвівацца, не перашкаджаць, быць патрэбнымі, асабліва мы, людзі? Аднак з пагрозамі мы сутыкаемся амаль штодзённа – пагражаюць нам і надвор'е, і насякомыя, і жывёлы, нават многія расьліны, бо безупынна парушаем раўнавагу ў суіснаваньні. Людзі зацікаўленыя найчасьцей у тым, што ў іх зьвязана з выбранай прафэсіяй, з тым, што прыносіць карысьць. Асабліва ў гарадах сувязь з прыродаю недастатковая. І пра навакольны сьвет, а і пра саміх сябе мала што сказаць умеем. А калі і гаворым, то, на жаль, часьценька недарэчнасьці, ускладняючы гэтым сабе і іншым жыцьцё штодзённае. Горш, калі людзі сьвядома намагаюцца сеяць пагрозу. Тут узьнікае пытаньне: чалавек – хто ён?

У ваколіцы таго ж Чаплінка ў 1946 годзе, значыць, год пасьля вайны, не было птушак. Усюды там панавала нязносная цішыня. Тады, магчыма, і зьвяроў у лесе не было, але ў гэтым ня дадзена было мне пераканацца. Затое на ніве мышыныя норы былі амаль адна ля другой. У хатах дык нават і ўдзень і ня толькі па падлозе, але і па стале, і па пасьцелі бегалі мышы. У падвалах пацукі гаспадарылі. Хапіла, што нейкі час пасьля фронту людзей не было.

У Псуеўшчыне (Беларусь) тады было інакш. Немцы, зьбіраючыся адступаць, наладзілі ўнутраны фронт. Перш, адтуль насельніцтва выгналі. Тых, хто не пасьпеў уцячы, везьлі ў Нямеччыну. Ваколіца апусьцела на некалькі месяцаў. Яе ўладарамі сталі ваўкі. Калі прыйшла савецкая армія, нават вінтоўкі гаспадарам пазычалі, а за застрэленых ваўкоў узнагароды прызначаліся.

Улетку 1945 году Івана Навойчыка з Псуі і мяне старшыня Вуглянскага сельсавету (тав. Макаток) прызначыў для падрыхтоўкі дадзеных для "заключнай справаздачы аб выніках сяўбы пад ураджай 1945 году". Калі мы дзеля гэтага пайшлі ў вёску Драчына (сёньня Заазёрная) і затрымаліся ў хаце першага гаспадара, празь некалькі хвілін на панадворку пачуўся крык: "Воўк, воўк!" За вакном мы ўбачылі сапраўды ваўка, які ўцякаў з авечкаю на хрыбце. Навойчык меў у кішэні пісталет, выбег на двор і пачаў страляць. Воўк спалохаўся і пакінуў авечку, але сам уцёк.

Сусьветная вайна скончылася, але ці на нашай зямной кулі бывае час бяз войнаў? Зрэшты, шмат прычынаў для эмоцый сама прырода дастаўляе безупынна: землятрусы, паводкі, эпідэміі... Мільёны людзей паміраюць з гэтых прычынаў. А за гэта адныя высокапастаўленыя другіх абвінавачва-

юць, павялічваючы сваё багацьце. Дык хто стварае пагрозу для існуючага пакуль што сьвету? Чалавечыя неўтаймаваныя інстынкты? Недальнабачнасьць? Ненасытная хцівасьць?

Каля Доўгага возера – самага глыбокага ў Беларусі – знаходзіцца вёска Доўгае. Каля гэтай вёскі захаваліся сьляды могілак тысячагадовай даўніны. Цікава, ці нашая зямля і жыцьцё на ёй пратрываюць наступнае тысячагодзьдзе, калі зь ейнага нутра выцягваюць усё, што там знаходзіцца?

Быццам наіўнае пытаньне, а дзе доказ, што наіўнае? Ці ж не існавалі гарады і велізарныя краіны, якія з часам апынуліся на дне акіянаў?





**РЫЖЫ Эмігідыюш** (архіяпіскап Юры) нарадзіўся 5 жніўня 1933 году на хутары паблізу вёскі Латыгала Пастаўскага павету Віленскага ваяводзтва (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласьці). Зь сям'і "ворагаў народу". У 1946 годзе быў фактычна дэпартаваны ў Польшчу. Ад 1976 году жыве ў ЗША. У 1977 пачаў душпастырскую службу.

У 1993 упершыню пасьля амаль паўвекавога выгнаньня наведаў Беларусь. Затым прыяжджаў у родны край кожны год. Рабіў гэта 10 гадоў запар. З ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле ўладыкі Юрыя на Бацькаўшчыне адрадзілася і дзейнічае Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная (Народная) Царква. Так, у 1994 годзе пачаліся богаслужбы ў менскім прыходзе сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. У 1995 — у Менску высьвячаецца япіскап, выходзіць з друку першы нумар царкоўнага інфармацыйнага бюлетэню "Голас царквы Беларускай". 1996 — пераход ва ўлоньне БАП(Н)Ц прыходу сьвятога вялікапакутніка і лекара Панцеляймона зь Ліды. Пачатак дзейнасьці прыходу і адбудовы старажытнага храму ў гонар найсьвяцейшай маці Божай у Сёмкавым Гарадку. Адкрыцьцё прыходу ў старадаўняй Пакроўскай царкве вёскі Строчыцы пад Менскам. 1997 — у новазбудаванай капліцы адчыняе дзьверы прыход сьвятога Кірылы Тураўскага ў Слоніме. 1999 — пачатак службы і будаўніцтва свайго храму ў прыходзе сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у пасёлку Пагранічны на Гарадзеншчыне. 2000 — утвараюцца царкоўныя суполкі ў Гародні і Зэльве. 2002 — пачынае дзейнічаць прыход сьвятога Юр'я ў вёсцы Шчомысьліца Менскага раёну.

На жаль, сёньня бальшыня гэтых беларускіх хрысьціянскіх асяродкаў зьнішчаная ўладамі або існуе ў глыбокім падпольлі.

Эмігідыюш Рыжы ў 2003 годзе напісаў і выдаў кнігу ўспамінаў і разважаньняў "Мой крыж". У 2010 годзе альманах "Беларус" апублікаваў ягонае апавяданьне "Тры суботы".

# Шосты запавет

*"Не забівай."* (*Сых. 20.13*)

## Споведзь

Божа мой, як жа тут хараша! Якая прыгажосьць! А як жа ж жыць хочацца!..

Сонца новага дня паволі падымалася над Бугам, залівала ўсё наваколле ўрачыстым чырвона-залатым сьвятлом. Ягоныя цёплыя промні, быццам ласкавыя рукі маці, песьцілі і саграvалі прыхвачаныя восеньскімі начнымі прымаразкамі разнастайныя прыбярэжныя расьліны. А яны, ад танюткіх трысьцінак да магутных дубоў, нібыта выказваючы падзяку за такія пра іх клопаты, сустракалі сонца, прыбраўшыся ў свае найлепшыя бурштынавыя строі. Трава, якою шчыльна абрасло рэчышча, месцамі выходзіла на шырокі прастор паплавоў. Здаля гэтае неабсяжнае, хвалюемае ветрам мора асакі ды чароту нагадвала вялізную, сьпелую жытнёвую ніву, гледзячы на якую адчуваецца цяплей, быццам улетку.

Побач, між кустоў яшчэ зялёнага бэзу ды дзікіх парэчак, узьбярэжжа займалі абвітыя хмелем старыя разгалістыя дрэвы. Каля самай вады сумавалі, апусьціўшы свае даўгія косы, павіслыя вярбіны. Далей, акурат у шахматным парадку, усталяваліся векавыя дуплістыя ліпы, шапацелі лістамі-зоркамі патрыярхі-клёны. Было відавочна – гэта даўно закінуты старадаўні парк, які нагадваў усімі пакінутага сталага, але высакароднага чалавека. І ад яго, хоць і зарослага, недагледжанага, працягвала зыходзіць не падуладная часу і жыцьцёвым абставінам шляхетная годнасьць і самавітасьць.

Крыху ўверх па плыні вады, пасярод ракі ўзвышалася значных памераў выспа. Яна, густа зарослая доўгай жоўтай травой і вербалозам, над якім дзе-нідзе тырчэлі рудаватыя вольхі, уся патанала ў полымі ранішняга сонца. Падавалася вачам вялізнай, смачнай, шчодра напханаю разынкамі, падрыхтаванай да выпяканьня велікоднай булкай на прыпечку. Міжволі наляталі сьветлыя ўспаміны пра дзяцінства ды родны дом.

Уздоўж той “смачнай” выспы, на супрацьлеглым беразе цёмна-зялёнай стужкай да вады падступаў велічны хваёвы лес. Ягоную мужчынскую строгасьць, нібы ўсьмешкай, зьмякчалі вясёлымі жоўта-барвовымі ўкрапінамі бярозы ды асіны.

Але, бадай, галоўнымі дамінантамі прыгажосьці гэтай восеньскай раніцы былі вада і неба. Вады, куды вокам ні кінь – багата. Якраз насупраць да Буга далучаецца ягоны левы прыток Лівец – рака не шырокая, але досыць паўнаводная. Фактычна, з-за выспы, якая падзяліла Буг на два рукавы, атрымалася, што ў гэтым месцы сыйшліся аж тры ракі. Таму вада бурліла, пенілася, закручвалася ў шматлікія віры. Яе вясёлы шумлівы гоман пад акампанэмэнт лёгкага бадзёрага ветрыка нагадваў нястройны пацешны дзіцячы хор. Сьпевы дзетак, вядома ж, не мудрагелістыя, але зазвычай шчырыя, прасякнутыя радасьцю і дабрынёй.

Асабліва ж уражвала і захапляла рачная вада найдакладнейшым адлюстраваньнем усёй прыгажосьці і мастацкай дасканаласьці навакольнага пэйзажу. Тут і строгі лес з усьмешкаю, і старадаўні шляхетны парк, і выспа-булка, і залатое мора прыбярэжнай травы, здаецца, нават водар сьвежага паветра можна пабачыць. Але больш за ўсё на гэтым шэдэўры красавалася неба. Пурпуровае на ўсходзе каля сонца, далей пунсовае, залацістае, жоўтае, белае, блакітнае і на самым захадзе нават шэра-сіняе. І чыстае-чыстае – ані воблачка. Яно панавала ў водным люстры, яно панавала над усім...

– Божа! Можа, адсюль пачынаецца рай? І я ўжо бачу “*...чыстую ваду ракі жыцьця, сьветлую, як быццам крышталь...*” *(Адкр. 22.1)* – пранеслася думка ў маёй галаве.

Узьнёслыя пачуцьці перапаўнялі сэрца. А душа, мая душа, якая належыць Госпаду, птушкаю ірвалася ў неба, ірвалася да Яго – свайго Гаспадара. Хацелася выпрастаць крылы, але...

Крылы, мае рукі, нібы спаралізаваныя, заставаліся нерухомымі. Яны, з хрустам заламаныя за сьпіну, скручаныя да крыві сталёвым дротам, нават не балелі. Здавалася, што жыцьцё ўжо пакінула іх.

– Крууу-гом! – зарычэў на мяне ззаду, як галодны крыважэрны леў, сьмершаўскі лейтэнант па прозьвішчы Рынатаў, які кіраваў расстрэльнай камандай. (Галоўнае ўпраўленьне контрвыведкі “СЬМЕРШ” Народнага камісарыяту абароны СССР. Пераўтворана з Упраўленьня асабовых аддзелаў НКВД 19 красавіка 1943 г.)

Стоячы на самым краі крутога падмытага вірамі абрыву, я зь цяжкасьцю адарваў вочы ад краявідаў і павярнуўся да ракі сьпіною.

– Ну што, Пыск? Шлёпнем мы цябе зараз. Усьміхаесься? Ад страху звар’яцеў? І дзе ж твой Бог? Чаму не бароніць цябе? – зноў падаў голас палкавы асабіст.

– На ўсё воля Божая. А Бог тут ёсьць. Ён усюды. Ён ва ўсім. Няўжо вы ня бачыце?! Ня можа быць безь Яго такой велічнай прыгажосьці навокал. Безь Яго ўвогуле нічога ня можа быць, – адказаў я.

– Ну хопіць разводзіць сваю рэлігійную прапаганду! Аніякі Бог, ані чорт цяпер табе не дапаможа. Хочаш жыць – аўтамат у рукі і на прысягу, – заткнуў мне рот лейтэнант.

– Свой выбар на карысьць Бога я зрабіў яшчэ да вайны, і Яму ня здраджу! – выказаўся я ў адказ.

– Ну што ж, заставайся са сваім Богам. Нам, камуністам, каб біць ворага ні Ён, ні ты непатрэбныя, – падвёў рысу ў кароткай палеміцы Рынатаў.

– У шарэнгу станавіся! Увага! Па здрадніку радзімы адзіночным! – скамандаваў лейтэнант жаўнерам і ўзьняў руку.

Наступіла працяглая паўза. На мяне глядзелі дулы трох аўтаматаў. Людзі маўчалі. Весела гаманіла вада зь ветрыкам. Прайшла хвіліна, другая. На душы ў мяне было надзіва спакойна. Усе нібыта забыліся, чаго сюды прыйшлі, і раптам...

– Агонь! – выгукнуў камандзір, рэзка апускаючы далоў руку.

Навакольле страсянуў стрэл. Напалоханая ім, з паркавых дрэў з крыкам узьнялася вялізная, падобная да хмары, зграя варонаў. З-за гэтага вакол нават пацямнела. Вайскоўцы, апусьціўшы зброю, пачалі гучна рагатаць. Асабліва вышчараўся лейтэнант. Іхны гістэрычны рогат зьліваўся з карканьнем спужаных птушак у нейкую жудасную какафонію. Здавалася, разьюшаная нячыстая сіла шалела і лютавала побач.

І сапраўды, бушаваць у д’ябла нагода была. Прыклаўшы праз сваіх памагатых бязбожнікаў са СЬМЕРШу процьму намаганьняў і страціўшы час, ён так і ня здолеў атрымаць у свае брудныя кіпцюры маю хрысьціянскую душу.

Расстрэл аказаўся імітацыяй. Кулі наўмысна праляцелі над маёй галавой. Мяне прывялі назад у полк і зноў замкнулі ў склепе. Дзякуй Богу – я застаўся жывы. Значыць, патрэбны яшчэ Яму на гэтым сьвеце, сярод гэтых людзей.

Назаўтра, недзе пад абед, я, падпераханы і ў наваксаваных ботах стаяў перад Рынатавым. Побач зь ім за адным сталом сядзеў польскі паручнік.

Лейтэнант кіўнуў, і паляк пачаў задаваць мне пытаньні. Яго цікавілі падрабязнасьці маёй вайсковай падрыхтоўкі 1928 году ў Войску Польскім, мая адукацыя, месца народзінаў і жыхарства. Падавалася, праўда, што ўсё гэта ён ужо ведаў ад савецкіх асабістаў і гутарыў са мною з-за патрэбнай фармальнасьці. А можа, яго цікавіла якасьць маёй польскай мовы?

– Ну, а сьмерці пан сапраўды не баіцца? – пасьля паўзы спытаў з усьмешкаю польскі афіцэр.

– Галоўнае – быць заўжды з Богам. Калі ты верыш у Яго, любіш Яго, жывеш па Ягоных запаветах, то баяцца ня трэба нічога і нікога. Хрыстос уваскрос пасьля сьмерці, паказаўшы, што і мы, дзеці Божыя, уваскрэсьнем таксама.

– Добра, Пыск. Нашыя савецкія сябры кажуць, што ты не бярэш у рукі зброю. Будзеш у нас санітарам! – скончыў загадам паручнік. Дарэчы, паручнік той, як я пазьней даведаўся, толькі ў красавіку вызваліўся з савецкага канцлягеру.

Празь дзьве гадзіны я ўжо пераапрануўся ў польскую вайсковую форму.

У пачатку студзеня 1945 году савецкія войскі разам з польскімі вайсковымі аддзеламі, нарэшце, пасьля чатырох месяцаў падрыхтоўкі, пачалі супраць немцаў гэтак званую Вісьленска-Одэрскую апэрацыю. Гэта была крывавая бітва за канчатковае выгнаньне немцаў з Польшчы.

Выбухі снарадаў, роў танкавых і самалётных матораў, кулямётныя і аўтаматныя стрэлы не маглі заглушыць крыкі і стогны тысячаў параненых байцоў. Не адную сотню зь іх я выцягнуў на сабе з-пад агню. Ратаваў як мог. Перавязваў раны і апёкі, накладваў шыны на перабітыя ногі, імкнуўся да кожнага данесьці эвангельскую вестку – далучыць да Бога. Шмат хто каяўся. Са сьлязамі ў малітвах прасіў Госпада дараваць грахі, прыняць у лік дзяцей Божых. За тыя франтавыя пропаведзі асабліва былі мне ўдзячныя цяжкапараненыя. Яны ж у любы момант маглі памерці. Так я і "ваяваў" аж да самага канца вайны. Маёй зброяй былі насілкі, санітарская сумка ды Слова Божае. І я перамог.

А за ўсё гэта вялікаму і міласьціваму Богу слава і падзяка на вякі вечныя. Амін.

## Пачатак

А пачалася гэтая трагічная гісторыя са шчасьлівым канцом у заходнебеларускай Вялейцы. Жыў тут са сваёй жонкай Натальляй мой сваяк Міхась Пыск, чалавек сьціплы, добры і вельмі набожны. Быў ён сынам царкоўнага панамара з навакольнай вёскі Більцэвічы. Таму і мянушку меў – Папкоў. На хлеб зарабляў сумленнай шавецкай справай. (Дарэчы, з роду більцэвіцкіх Пыскаў паходзяць праваслаўныя сьвятары – Нічыпар Пыск (1905 – 1995 гг., БАПЦ) і Сяргей Пыск (нарадз. у 1988 г., РПЦ) – унук роднага брата Міхася).

Перад вайною сям'я Пыскаў далучылася да суполкі хрысьціянаў-баптыстаў, якая і цяпер існуе ў Вялейцы. Муж і жонка штотыднёва наведвалі багаслужбы, вывучалі Біблію, чым маглі дапамагалі бедным, прытулілі дзяўчынку-сірату. У гэты час ярка праявіўся талент Міхася як музыкі і мас-

така. Ён ствараў духоўныя гімны, кіраваў царкоўным хорам і аркестрам, вучыў музыцы дзяцей і выдатна маляваў пэйзажы.

Напрыканцы траўня 1944 году, калі немцы пад націскам саветаў адступалі па ўсіх напрамках, па Вялейцы чорнай хваляй пракацілася аблава. Людзей хапалі з раніцы да вечара. Папаўся і Міхась з жонкаю. Без усялякіх камэнтароў усіх запхнулі ў таварныя вагоны. Ноччу цягнік рушыў на захад. Ехалі марудна. Гадзінамі прастойвалі.

На трэці дзень, недзе пад вечар, вагоны здрыгануліся ад рэзкага тармажэньня. Яшчэ ня сьціхла скрыгатаньне жалезных колаў аб рэйкі, як цягнік з усіх бакоў апынуўся пад шчыльным аўтаматна-кулямётным абстрэлам. Людзі ў вагонах-цялятніках застылі ў напружаньні. Праз хвілін дзесяць стрэлы заціхлі. Звонку чулася польская гаворка. Дзьверы пачалі адчыняцца. Вялейчукі высыпалі з вагонаў.

Гэты напад на цягнік зьдзейсьнілі польскія партызаны. А адбылося гэтае вызваленьне каля ўзарванага моста праз рачулку Брок, непадалёк ад Вострава Мазавецкага. Нашым людзям было загадана хутчэй уцякаць з таго месца.

Блізу тысячы чалавек праз якія чвэрць гадзіны так разьбегліся па лесе, што побач зь Міхасём і Натальляй ужо нікога не было. А яны ішлі, як кажуць, куды вочы глядзяць. Выйшлі да хутара. Затаіліся. Немцаў не відаць. Убачылі, жанчына завіхаецца па гаспадарцы. Аглядаючыся, падыйшлі да яе.

Пані Зося аказалася добрым і спагадлівым чалавекам. Прытуліла сям'ю Пыскаў аж да прыходу савецкіх войскаў у канцы жніўня. Дарэчы, жанчына моцна рызыкавала. У гэтым раёне знаходзілася некалькі канцэнтрацыйных лягераў, у тым ліку і сумнавядомы “Шталаг-324”. Часта здараліся аблавы на лягерных уцекачоў, немцы прачэсвалі лес, аглядалі хутарныя пабудовы.

Чатырнаццатага верасьня Міхась з жонкаю пачалі зьбірацца дамоў. Гаспадыня сабрала ім у дарогу невялічкую торбачку зь ежай, наліла бутэлечку малака. Не пасьпелі разьвітацца, як убачылі, што хутар акружаюць савецкія жаўнеры. Іх было чалавек каля трыццаці. Трое з аўтаматамі наперавес падскочылі да Пыскаў і пані Зосі, загадалі падняць да гары рукі. Груба абшукалі, вывернулі на зямлю ўсё з торбачкі. Выхапіўшы дакумэнты, пагналі, тыцкаючы аўтаматамі ў рэбры, да машын, якія былі схаваныя ў лесе.

– Хто яшчэ ёсьць на хутары? – было першым пытаньнем старэйшага лейтэнанта, які кіраваў гэтай, як цяпер называюць, зачысткай.

Атрымаўшы адказ і зразумеўшы, каму належыць гэтая сялянская сядзіба, гаспадыню адпусьцілі. Пані Зося ціха плакала, убачыўшы, які вэрхал нарабілі вайскоўцы ў ейным доме. Павыкідалі бялізну з шафы, дзе-нідзе паднялі падлогу, нават вазоны перавярнулі. Хлеў быў расчынены, у склепе ўсё параскідана. Адно добра – нічога не прапала.

А Міхасю з Натальляй загадалі лезьці ў кузаў і пад канвоем прывезьлі ў адзін з былых нямецкіх канцлягераў. У гэта цяжка паверыць, але тое горкая праўда. На тэрыторыі Польшчы і Нямеччыны шмат фашыстоўскіх лягераў сьмерці працягвала функцыянаваць і пасьля заняцьця гэтых краінаў савецкімі войскамі. Цяпер яны працавалі пад эгідаю СЬМЕРШу, выконваю-

чы ролю фільтрацыйных устаноў і турмаў. У іх зьмяшчалі савецкіх грамадзянаў, якія вярталіся дамоў з палону і прымусовай працы ў Нямеччыне. У далейшым жа там трымалі і катавалі ідэалагічных праціўнікаў камуністычных марыянеткавых рэжымаў, што атрымалі ўладу ў Варшаве ды Бэрліне. Так, у вядомым на ўвесь сьвет Бухенвальдзе ўжо пасьля вайны за кратамі пабывала звыш 60 тысячаў гэткіх вязьняў.

Пыскаў хутка зарэгістравалі і разьвялі па розных бараках. Яны ня ведалі, што ў наступны раз пабачацца толькі праз год – у верасьні 1945.

Барак, у якім аказаўся Міхась, быў перапоўнены. На ніжніх нарах людзі сядзелі па двое, па трое. Шмат хто ляжаў на зямлі, падаслаўшы ахапак старой саломы. Звычайна ў турмах вязьні цікавяцца папаўненьнем, пытаюцца ў новага зэка – хто такі? Адкуль? За што? Што робіцца там – за калючым дротам? Гэтыя ж толькі глянулі скоса і працягвалі моўчкі сядзець, хто ляжаць, на сваіх месцах, нібыта баючыся іх згубіць.

Людзі, канешне, праглі любой інфармацыі з волі, але вельмі баяліся сьмершаўскіх агентаў, што маглі быць побач. Любы, нават неабгрунтаваны данос, любое нязначнае падазрэньне ў супрацоўніцтве зь немцамі часта прыводзілі да стандартнага тэрміну зьняволеньня – 25 гадоў папраўчых лягераў у Сыбіры ці ўвогуле да расстрэлу. Як сьцьвярджаюць некаторыя гісторыкі, праз “чысьцілішча” СЬМЕРШу за гады вайны прайшло звыш чатырох мільёнаў чалавек і каля чвэрці зь іх было расстраляна.

Назаўтра ўначы Міхася адканваіравалі ў суседні барак. Уздоўж адной сьцяны таго будынка ішоў даўгі змрочны калідор, а на другім баку знаходзілася зь дзясятак загарадак, утвораных дашчанымі перагародкамі. Увялі ў адну з такіх загарадак. За сталом, што ўяўляў зьнятыя з завесаў і пакладзеныя на скрыні дзьверы, у паўцемры сядзеў лейтэнант. Уваход у загарадку закрыў сабою адзін з канваіраў. З суседніх перагародак чуліся расейскія мацюкі, енкі і стогны. Пачаўся допыт.

– Прозьвішча?

– Пыск.

– Імя?

– Міхась.

– Імя па бацьку?

– Мікалаевіч.

– Год нараджэньня?

– 1907.

Далей асабіста цікавіла партыйнасьць, месца жыхарства, род заняткаў і, галоўнае, зь якой нагоды затрыманы і ягоная жонка апынуліся ў Польшчы. Міхась без утайкі падрабязна распавёў сваю гісторыю.

– Ай-яй-яй! Міхаіл Мікалаевіч! Просты шавец, а хлусіць вы, мусіць, ад немцаў так добра навучыліся?!

– Я ніколі не гавару няпраўду. Гэта грэх.

– Грэх?! Ну дык, лічы, твая жонка саграшыла, сказаўшы, што вы, як пасобнікі фашыстаў, уцякалі на захад ад справядлівай кары савецкага народу.

– Вы жартуеце. Натальля такога ніколі ня скажа.

– Ну глядзі – мы ўсё праверым.

Зноў нары. Пацягнуліся дні і ночы трывожнага лягернага жыцьця.

Кожны дзень некага дапытвалі, некага адпраўлялі ў Сыбір, а каго, проста пад сьцяною барака, і расстрэльвалі.

Недзе праз тры тыдні Міхася разам з дванаццацьцю зэкамі пасадзілі ў крытую машыну і павезьлі зь лягеру. Усіх палохала невядомасьць. За паўгадзіны прывезьлі на тэрыторыю нейкай вайсковай часткі. Як потым даведаліся, гэта быў стралковы полк. Выдалі абмундзіраваньне, памылі ў лазьні і, самае прыемнае, далі есьці. Пасьля была гутарка з палкавым зампалітам. Падпалкоўнік расказаў, як пасьпяхова Чырвоная армія пад кіраўніцтвам мудрага і вялікага палкаводца Сталіна гоніць немцаў на ўсіх франтах. Павіншаваў усіх з тым, што і ім выпаў вялікі гонар прыняць удзел у канчатковым разгроме ворага і далучыцца да вялікай перамогі.

– Ну, а празь некалькі дзён, таварышы, вы ўрачыста, са зброяй ў руках, прымеце перад строем палка вайсковую прысягу. Пытаньні ёсьць? – скончыў свой выступ зампаліт.

– Ёсьць, таварыш падпалкоўнік, – выгукнуў Міхась.

– Слухаю.

– Я, як хрысьціянін, ужо прысягнуў Богу. Я не магу парушыць ягоны запавет “Не забівай”. Я не магу ўзяць у рукі зброю.

– Што за бязглузьдзіца?! Сярэдзіна дваццатага стагодзьдзя, а ён пра нейкага Бога. Няма Яго, гэта яшчэ Ленін казаў.

– Не! Бог ёсьць, быў і будзе заўжды!

– Калі кожны з вас заб’е хоць аднаго ворага, то і вайна хутчэй скончыцца, наступіць мірнае жыцьцё. Вось да чаго трэба імкнуцца.

– Ворагаў неабходна любіць, а не зьнішчаць. Так раіў Хрыстос. Калі б усе так думалі і дзейнічалі, то і войнаў аніякіх не было б.

– Ну ўсё, хопіць. Усім разыйсьціся! А ты, “божы чалавек”, пойдзеш са мною да Рынатава. Нашыя палкавыя сьмершаўцы пакажуць табе дарогу ў рай.

Асабовы аддзел месьціўся ў невялікім крытым чарапіцаю цагляным дамку. Вартавы на ўваходзе, прыклаўшы да скроні руку і выпнуўшы грудзі, застыў перад падпалкоўнікам. Зампаліт і Міхась зайшлі ў будынак і, зрабіўшы два крокі праз малюсенькі калідорчык, апынуліся ў вялікім сьветлым пакоі. Насупраць уваходу стаялі два грувасткія пісьмовыя сталы, жалезны сэйф у куце, канапа ля печкі і вялізны партрэт Сталіна на сьцяне.

З-за стала, як бы зь неахвотаю, прыўстаў лейтэнант. Гэта і быў той Рынатаў, якім страшыў Міхася зампаліт.

– Ну вось, Шаміль, разьбірайся. Радзіму бараніць не жадае – за Бога свайго схавацца хоча, – нават не павітаўшыся, выпаліў падпалкоўнік.

– А, мабыць, сяктант. Пазаўчора на сэмінары ў дывізіі нас пра такіх інструктавалі. Нічога, пасядзіць у склепе – адумаецца. А не, дык на той сьвет заўтра адправім. За намі не заіржавее, сьмеючыся адказаў лейтэнант.

Міхася пасадзілі ў склеп. Звычайны склеп, дзе сяляне захоўваюць садавіну ды гародніну. Аніякіх прыкметаў ежы там, зразумела, не было. Толькі сырасьць, холад ды апраметная цемра. Але ж ён ня зьмерз. Яму і есьці не хацелася. І страху не адчувалася. Бог падтрымліваў яго фізычна і духоўна.

Што робіць Хрысьціянін, калі ведае, што заўтра ягоны апошні дзень на гэтай зямлі?! Канешне, моліцца. І Міхась шчыра маліўся. За сябе, каб хапі-

ла духу вытрываць выпрабаваньні да канца. За братоў і сёстраў у Хрысьце. За блізкіх сваіх. За ворагаў сваіх прасіў падобна Ісусу: *“Войча, даруй ім, бо ня ведаюць, што робяць*” *(Лк. 23.34)*. Хацелася Міхасю жыць? Безумоўна, хацелася. І пра гэта казаў ён Богу. Але, як і Хрыстос перад Галгофаю, Міхась даверыў сябе Айцу Нябеснаму: *“Войча мой! Калі ня можа чаша гэтая абмінуць мяне, каб мне ня піць яе, няхай будзе воля Твая*” *(Мц. 26. 39-41)*.

А тым часам палкавыя сьмершаўцы пры ўдзеле намесьніка камандзіра палка па палітычнай частцы вырашалі складаную задачу – што рабіць з баптыстам. Забіць, канешне, было б прасьцей за ўсё. Можна і без трыбуналу прыдумаць якую-небудзь нагоду – за спробу ўцячы, напрыклад. Тым больш, што ў ваенны пэрыяд з тымі, хто па рэлігійных перакананьнях адмаўляўся прысягаць бальшавіцкай імпэрыі і браць у рукі зброю, доўга не цырымоніліся. Гэтых хрысьціянаў маглі без суду і сьледзтва ня толькі расстраляць, але, здаралася, закопвалі жыўцом, тапілі скопам разам з баржай у Чорным моры, палілі, закрывалі ў хлявах, запорвалі штыкамі. І прысуд у 25 гадоў сыбірскай катаргі выглядаў для такіх “адмоўнікаў” найменшым пакараньнем.

Тым ня менш, многіх вернікаў гэта не палохала. Яны працягвалі лічыць, што лепш памерці самім, чым забіваць іншых і жыць бяз Бога. Бо сапраўды, што такое чалавечая кара ў параўнаньні з Божаю?! Як напісана ў Слове Божым: *“Ня бойцеся тых, якія забіваюць цела, а душы забіць ня могуць. Але бойцеся больш таго, хто можа і душу, і цела загубіць у пекле*” *(Мц.10.28)*.

Дык што ж перашкаджала палкавым асабістам-камуністам разабрацца зь Міхасём неадкладна? Бога яны ж, вядома, не баяліся, а чалавека забіць для іх – што камара прыдушыць.

Справа ў тым, што на апошніх нарадах “зьверху” было рэкамэндавана больш гнутка і прафэсійна праводзіць ідэалягічна-выхаваўчую працу ў войску. І, самае цікавае, мякчэй, лічы, хітрэй, адносіцца да вернікаў, асабліва да прадстаўнікоў баптысцкіх, пяцідзясятніцкіх, адвэнтысцкіх і іншых падобных сэктаў. Як потым стане вядома, гэтага патрабавалі саюзьнікі.

На той час саветы атрымлівалі велізарную дапамогу ад Амэрыкі, краіны, дзе пратэстанты складаюць большасьць насельніцтва. А ў дадатак, амэрыканскія цэрквы штогод зьбіралі для Савецкага Саюзу на сотні тысячаў даляраў гуманітарнай дапамогі.

Таму вырашылі ў сьмершаўскім дамку пад чарапічным дахам упартага баптыста заўтра раніцай, калі за ноч не адумаецца, напужаць расстрэлам. А калі ўсё роўна будзе чапляцца за свайго Бога – паспрабаваць перадаць палякам, вайсковыя аддзелы якіх стаялі ў суседнім мястэчку. І падстава для гэтага была. Нарадзіўся ж Пыск у Польшчы, большую частку жыцьця там пражыў, вайсковую падрыхтоўку ў маладосьці атрымаў у Войску Польскім.

– Магчыма, ён і прысягаў панам. Дык хай зь ім пшэкі і разьбіраюцца! – паставіў апошнюю кропку на той працяглай вечаровай нарадзе палкавы зампаліт.

Ну а што было далей, дарагія чытачы ўжо ведаюць са “Споведзі” Міхася.

P. S. Узяць зброю ў рукі ў часе апошняй вайны было значна прасьцей, чым ня браць. Узяўшы зброю, ты меў шанец выжыць. Калі адмаўляўся – ты атрымоўваў амаль гарантаваную сьмерць для сябе і пакуты для сваіх блізкіх.

Адмова ад зброі ў той час – гэта ня слабасьць ці, як сёньня кажуць, "адкос", ад арміі. Тады гэта быў подзьвіг веры, прыняцьце вянца пакутніка.





**Міхась СКІБА** нарадзіўся на Зэльвеншчыне ў 1946 годзе. У Зэльве скончыў сярэднюю школу. У 1967 годзе паступіў ў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. У 1973 годзе скончыў юрыдычны факультэт. Працаваў у горадзе Слоніме на папяровакардонным камбінаце юрыдычным кансультантам, потым адвакатам. Сем гадоў працаваў па сваёй спэцыяльнасьці на Далёкім Усходзе на востраве Курыльскай грады Кунашыры і на Камчатцы.

З 1991 да 1999 году зноў працаваў у Слоніме адвакатам. З 2001 году жыве ў Бэльгіі.

# Квартэт

*Дэтэктыўная аповесьць*

*Беларусь-Бэльгія, жнівень 2003 году*

Надыходзіла Сёмуха. Васіль і Вера як ніколі рыхтаваліся да сьвята. Сёлета Сёмуха для іх была надзвычайнай – яны рыхтаваліся да вясельля. Выбраны быў гэты час з разьлікам на тое, што падрасьце бычок, якога прывяла іхняя карміліца ў лютым, падрастуць марцовыя парасяткі. Будзе сваё мяса. Гусей і курэй яны таксама мелі і ўжо вызначылі, якіх пусьцяць пад нож.

Быў разьлік і на агародніну. Да той пары павінны пасьпець свае агуркі, радыска, салата і цыбулька. Плянавалася паслаць хлопцаў на рэчку Зяльвянку налавіць рыбы, якой там вялося шмат і рознай. Але гэта ўжо ў самы апошні час, бо, злавіўшы рыбу хоць на адзін дзень раней, немагчыма было яе зьберагчы. Халадзільніка ў хаце не было. Іх, наогул, ня меў ніхто ў вёсцы. Абыходзіліся па-ранейшаму: сала салілі ў скрынях, зьбітых з дошак, мяса трымалі ў драўляных цэбрах у расоле. Усё гэта знаходзілася ў каморцы. Кумпякі, паляндвіцы і каўбасы віселі пад самай страхой на гары, ужо прасоленыя і ўздобраныя рознымі прыправамі і абгорнутыя кавалкамі ільнянога палатна. Таксама свайго вырабу.

З малаком не было праблемы. Трымалі яго ў склепе, а ў самую сьпёку, улетку, апускалі на вяроўках ці ланцугах у студню. З захоўваньнем харчовых прыпасаў клопату не было яшчэ і таму, што гэтых прыпасаў было няшмат. Вёска ніяк не магла падняцца. Але людзі былі задаволеныя і такім жыцьцём.

Галоўнае, каб не было вайны, пра пагрозу якой з шасьці гадзін раніцы да самай поўначы трубіла радыё. Не галодныя, дзякаваць Богу, казалі, хрысьцячыся, старэйшыя жанчыны, і ім ніхто не пярэчыў.

А вось такая падзея, як вясельле, раптоўна ўздымала шмат розных праблемаў. Галоўная зь іх – амаль поўная адсутнасьць грошай у вясковага жыхара. Калгасы яшчэ не плацілі за працу грашыма. Ды і разьлік з калгасьнікамі адбываўся пасьля завяршэньня гаспадарчага году, пасьля падліку таго, што засталося ад разьліку зь дзяржавай. Дзяржава павінна была атрымаць сваё ў першую чаргу.

Вясковыя жыхары ў той час жылі са сваёй гаспадаркі. Грошай зарабіць ня мелі магчымасьці. Са сваёй гаспадаркі і грошы здабывалі: выгадаваць жывёлу і прадаць, сабраць яек, зьбіць масла і таксама прадаць. Гэтак людзі, адрывалі ад сямейнага стала ўсё тое лепшае, што можна было прадаць, а грошы пускалі на адзеньне, абутак ды пакрысе адкладалі на ўсялякі выпадак, ці, як казалі, на чорны дзень.

І вось гэты дзень наступіў для Васіля зь Вераю. Але ён быў зусім ня чорны, а, наадварот, радасны, хоць ня менш клопатны. Перад Вялікаднем прыехала са Слоніма іхняя Аня, што там давучвалася апошнія месяцы ў мэдыцынскім вучылішчы. Дзяўчыне ўжо пайшоў дваццаты год, і ні для каго не было нечаканасьцю, а найбольш для маці, што дачка неўзабаве пойдзе замуж. Але усё роўна паведамленьне Ані стала і радасьцю, і смуткам.

Радаваліся Васіль зь Вераю, што дачка спаткала на сваім жыцьцёвым шляху добрага хлопца, адукаванага, што ўжо мае сродкі да жыцьця. Няхай хоць дзецям нашым Бог дасьць выйсьці ў людзі, ня жыць гэтак, як мы, сьвету белага ня бачачы за працай калгаснай за пустыя працадні, гаварылі між сабою Аніны бацькі.

Усё складалася вельмі добра. Мікалай, так звалі будучага зяця, служыў у вайсковай частцы ў Слоніме. Ён скончыў вайсковае вучылішча, праслужыў ужо тры гады, быў старэйшым лейтэнантам, а нядаўна быў прызначаны камандаваць танкаваю ротаю. Гэтым больш за ўсё ганарыўся Васіль. Падлічваў нават, праз колькі гадоў зяць зможа стаць палкоўнікам ці нават генэралам, якімі злучэньнямі будзе камандаваць. Толькі б Бог даў, каб не было вайны, думаў Васіль.

Мікалай Васілю падабаўся. Пазнаёміліся яны ў пачатку мінулай зімы ў час зімовых манэўраў. Адзін з танкаў узводу, якім тады камандаваў Мікалай, перапраўляючыся церазь невялічкую рачулку, што цячэ за агародамі вёскі, прадраў гусяніцамі бераг і улёгся на днішча. Мікалай ня стаў выцягваць гэты танк другою машынаю, а на практыцы вучыў маладых салдатаў, як трэба дзейнічаць, каб у кароткі тэрмін вызваліць баявую машыну. Яму гэта ўдалося зрабіць з дапамогаю бервяна за якіх-небудзь пяць хвілін.

Васіль працаваў у калгасе трактарыстам, таму танкістаў лічыў амаль сваімі калегамі. Дзеяньням Мікалая Васіль даў высокую адзнаку. Але яшчэ больш спадабалася тое, што Мікалай, зайшоўшы ў яго хату, вымыў рукі,

адмовіўся, падзякаваўшы, ад шклянкі самагонкі і гарачай ежы, тлумачачы сваю адмову тым, што ён ня можа быць у лепшых умовах, чым ягоныя салдаты. Васіль сам быў некалі салдатам і ацаніў гэта адпаведна. Вось тады Мікалай зьвярнуў увагу на Аніну фотакартку на сьцяне. Спытаў, хто гэта. Васіль сказаў, расказаў і дзе вучыцца Аня. Гэтага аказалася дастаткова, каб на Вялікдзень дачка зьявілася зь Мікалаем, які на гэты раз быў не ў танкісцкім камбінэзоне і ня з вымурзаным тварам, а ў парадным мундуры з бліскучымі гузікамі і пагонамі, чысты і гладка паголены.

Бацькі чакалі гэтага візыту. Аня папярэдзіла іх, што прыедзе на сьвята не адна. Да спатканьня рыхтаваліся. Вёска нічога ня ведала. Васіль і Вера нікому не казалі, што неўзабаве маецца адбыцца вясельле іхняй Ані. Яны былі асьцярожнымі і трымаліся прымаўкі: не кажы гоп, пакуль не пераскочыў, нават два сыны, малодшыя за Аню, нічога добра ня ведалі.

І тут – на табе, пад'ехала вайсковая машына, выйшаў зь яе малады прыгожы афіцэр, дапамог выйсьці з машыны Ані. За імі выйшла другая пара, старэйшая. Мужчына быў таксама вайскоўцам, меў званьне падпалкоўніка. З машыны дасталі вялікую кардонную скрынку, кветкі і накіраваліся ў хату. Суседзі, што былі на вуліцы, пазіралі на гэта, ня зводзячы вачэй. Тыя, што былі ў хатах, прыпалі тварамі да шыбаў. У вёсцы зьявілася сьвежая тэма для размоваў.

Васіль і Вера кінуліся адчыняць дзьверы перад гасьцямі. Гасьцей чакалі, але ўсё роўна ў апошні момант нешта задрыжэла ў іхніх грудзёх, абое разгубіліся, засаромеліся за свой просты вясковы выгляд, за тое, што ня ўмеюць па-гарадзкому размаўляць і трымаць сябе. Яны стаялі ў сенях перад адчыненымі дзьвярыма, а на ганку перад імі спыніліся падпалкоўнік з жанчынаю, а за два крокі – Аня і Мікалай. На імгненьне ўсталявалася цішыня. Невядома, колькі б яна доўжылася, каб не падпалкоўнік. Ён прывітаўся і папрасіў дазволу зайсьці ў хату. Тут ужо спахапіліся Васіль і Вера і, перабіваючы адзін другога, сталі запрашаць праходзіць у хату. У хаце госьці прывіталіся з гаспадаром і гаспадыняй за руку і назвалі свае імёны. Васіль і Вера з разгубленасьці сябе не назвалі, але гэта нікога не пакрыўдзіла. Госьці іх разумелі.

Жанчыну звалі Тамара, і яна адразу пачала расказваць Веры аб тым, што ўсё патрэбнае для сьвяточнага стала яны прывезьлі з сабою. Няма толькі фарбаваных і сьвянчоных яек, бо яна ня можа пайсьці ў царкву на ўсяночнае богаслужэньне па той прычыне, што яна жонка камандзіра батальёну і сама працуе, але яна хрышчаная і веруючая. Супраць гэтага нічога ня мае яе муж Пятро, які таксама хрышчаны. Гэтыя словы Тамары, гэтая даверлівасьць для Веры сталі нейкім паролем, што адчыніў яе душу. Зьніклі сарамлівасьць, страх зрабіць ці сказаць штосьці ня так. Перад ёю былі праваслаўныя хрысьціяне, роўныя ёй, а на ўсім сьвеце быў Вялікдзень.

У кароткі час Вера ўжо ведала, што бацькі Тамары жывуць у вёсцы пад Менскам, а яе Пятро з Далёкага Ўсходу, што ў яго адна толькі маці, бацька загінуў на вайне, што Тамара працуе настаўніцай у школе, што ёй трыццаць два гады, а яе Пятру на пяць гадоў больш, што яны маюць дзьвюх дзяўчынак, але Пятро гэтым незадаволены і хоча яшчэ хлопца ...

Ад Тамары Вера даведалася, што іх будучы зяць нікога з радні ня мае, выхоўваўся ў дзіцячым доме, хлапчуком быў узяты ў суворaўскае вучы-

лішча, потым стаў афіцэрам. Служыць пад камандаю яе мужа, які высока ставіць Мікалая як чалавека і афіцэра.

Тым часам Тамара раскрыла кардонную скрынку, дастала гарэлку фабрычнага вырабу, шампанскае і каньяк. Веры не даводзілася каштаваць гэтае пітво. Яна ведала, што і Васіль не каштаваў каньяку і шампанскага. Дастала цукеркі ў прыгожай скрыначцы. Вера бачыла нешта падобнае ў вялікай краме ў Зэльве, але купіць не адважвалася. Дорага. Дастала Тамара крамную каўбасу і рыбу, яблыкі і некалькі бутэлек ліманаду.

Калі прыйшла чарга недзе паставіць жывыя кветкі, высьветлілася, што ў хаце няма вазы, і Веры стала ад гэтага няёмка. Тамара стала гаварыць, што ў яе бацькоў таксама ў вёсцы няма вазы, што яна для кветак выкарыстоўвае шкляны слоік. І зноў Веры зрабілася прыемна на душы ад словаў Тамары, радасна за сваю Аню, што яна мае такіх добрых і чулых сяброў.

Тым часам паміж мужчынамі завязалася гаворка аб працы ў калгасе. Васіль казаў, што жыць можна. І Пятро, і Мікалай разумелі, што Васіль проста ня хоча чапаць гэтую тэму, скардзіцца на свой цяжкі лёс. Яны ведалі не з чужых слоў, а бачылі самыя, як жывуць калгасьнікі. Што яны маглі сказаць, а тым больш зрабіць? Нічога! Адное, што яны ўжо зрабілі, адпраўляючыся сватаць Аню, гэта прыехаць да яе бацькоў не на ўсё гатовае, а прывезьці з сабою і выпіць, і закусіць.

Вайна і пасьляваенны час многім людзям раскрылі вочы на стан калгасьнікаў. Першымі ўбачылі жыцьцё сялянства ў Эўропе вайскоўцы, якім давялося пабываць у Нямеччыне і іншых краінах. Пятро таксама служыў у Нямеччыне і меў з чым параўнаць хату і двор Васіля. Вынік параўнаньня быў далёка не на карысьць Васілёвай сядзібы. Але Пятро ў гэтым яго не вінаваціў. Ён усё добра разумеў. Там, на Захадзе, зямля была ўласнасьцю селяніна. Пятро пра гэта маўчаў, бо ведаў добра, пра што можна ґаварыць, а пра што не. А яму хацелася падтрымаць добрым словам гэтага калгасьніка, былога салдата, які сёньня стаяў разам зь ім і сваім будучым зяцем, саромеючыся свайго жабрацкага стану, ня маючы ні волі, ні долі. А тыя, хто давёў яго да гэтага стану, праз газэты, праз радыё, праз фільмы ўбівалі яму ў галаву, што быць хлебаробам – гэта вялікі гонар.

А гэты хлебароб ніколі ня змог бы адправіць дачку вучыцца ў горад, каб не сваячка, якая ня мела сваіх дзяцей і засталася ўдавою. Гэтая жанчына прапанавала Ані паспрабаваць свае веды на ўступных іспытах у вучылішчы і, зразумела, месца пад сваім дахам і за сваім сталом. І вось што з гэтага атрымалася.

Калі Пятро даведаўся пра Аню ад Мікалая, пра тое, як той ставіцца да яе, то адразу запрасіў іх абодвух да сябе ў госьці, як ён сказаў сваёй Тамары, "на экспэртызу". А пасьля "экспэртызы" яны з Тамараю ў адзін голас сказалі Мікалаю: жаніся, лепшай жонкі ты ня знойдзеш. Мікалая ўгаворваць не давялося, а Аня таксама дала згоду.

Яны маглі б проста пайсьці ў ЗАГС і расьпісацца ў той жа дзень. Але, пагаварыўшы паміж сабою, вырашылі зрабіць усё па-людзку, уважыць бацькоў Ані.

Вера, Тамара і Аня, якая далучылася да іх, хутка накрылі на стол. У Веры ў печы былі розныя прысмакі. Такі ўжо беларускі характар, што госьцю аддасьць усё лепшае, а сам потым пражыве як-небудзь. Тут была ўсмажа-

ная гусь, кумпяк і некалькі колцаў каўбасы. Утушаная ў чыгунку капуста са сьвінымі рабрынкамі і, пэўна, Велікодны пірог, які ўжо быў на стале накрыты ручніком.

Суседзі бачылі прыезд Ані ў суправаджэньні двух вайскоўцаў і жанчыны. Зразумелі – гэта сваты. Будуць заповіны. Ня трэба было быць вялікім мысьліўцам, каб здагадацца, у чым тут справа. Але здагадвацца гэта адно, а ведаць – зусім другое. У хату да Васіля зь Вераю прыйшла суседка. У той таксама была дачка на выданьні, але не было жаніха. А горш за ўсё тое, што не было нават надзеі, што жаніх можа адкуль-небудзь зьявіцца. Неяк атрымалася, што хлопцаў у вёсцы было значна меней, чым дзяўчат.

Суседзкая Жэня скончыла сем клясаў, далей не вучылася, працавала ў калгасе. Яна ўжо была дарослая, хацела куды-небудзь выехаць на працу, але ёй праўленьне адмаўляла ў выдачы даведкі аб тым, што адпускае яе з калгасу. Без такой даведкі не выдаваўся пашпарт, а бяз пашпарту, вядома, яна магла паехаць толькі ў госьці. Аб уладкаваньні на працу дзе-небудзь у горадзе не магло быць і гаворкі. Яна была калгасьніцай, і месца яе было ў калгасе! Аня вырвалася зь вёскі, дзякуючы паступленьню на вучобу. Але ня ўсе мелі старых і самотных сваякоў у горадзе.

У другой палове сямідзясятых гадоў была закончаная пашпартызацыя насельніцтва Беларусі. Але і пасьля гэтага, каб пакінуць калгас, патрэбна была даведка, што чалавеку даюць “вольную”, што ён адпушчаны і ня ёсьць калгасьнікам. Калі чалавек, што меў пашпарт, уладкоўваўся дзе-небудзь на працу не паведаміўшы, што раней працаваў у калгасе, то па пратэсту пракуратуры яго звальнялі з працы ў абавязковым парадку, з адпаведным запісам у працоўнай кніжцы. Колькі лёсаў, колькі жыцьцяў скламіся ня так, як маглі б!

Дык вось, увайшоўшы ў хату, маці Жэні нічога лепшага не прыдумала, як прасіць Аню ў другі прыезд дамоў прывезьці ёй лекаў “ад галавы”. Назвы лекаў яна ня ведала. Гаворачы пра іх, сама яна лыпала вачыма з аднаго мужчыны на другога, ловячы кожнае слова. Тут умяшалася Вера, сказала, што Аня сёньня ня едзе ў горад і можна будзе аб леках паразмаўляць іншым разам. Да стала суседку, як гэта прынята, гаспадары не запрасілі, хоць стол ужо быў накрыты. Так нічога канкрэтна не даведаўшыся, пайшла яна з хаты. Тут жа да яе далучыліся некалькі суседзкіх жанчын, распытваючы, што там дзеецца. А тая з таямнічым выглядам апавядала, больш выдумляючы.

Тым часам госьці ўжо сядзелі за сталом, і цякла размова. Дамовіліся, што маладыя замальдуюць шлюб у ЗАГСе ў Слоніме, а вясельле будуць гуляць тут, у бацькоўскай хаце. Вера, вінавата пазіраючы то на дачку, то на будучага зяця, то на Тамару, нібы шукаючы ў той падтрымкі, пачала гаворку, што добра было б адначасова з ЗАГСам узяць шлюб у царкве. Яна разумела, што з царкоўным шлюбам будуць праблемы, таму тут жа папраўлілася, што можна прывезьці бацюшку дамоў, і ён іх хуценька павянчае.

Казала так Вера, а ў самой было крыўдна на душы, сорамна за тое, што яе дачка ня мае права, як усялякі вольны чалавек, узяць шлюб адкрыта, не баючыся нікога, у царкве перад алтаром.

Васіль хацеў нешта сказаць, але тут пачаў гаварыць Пятро. Сказаў, што яны з Тамараю таксама павянчаліся, уступіўшы ўгаворам яе старых

бацькоў, што дзяцей таксама хрысьцілі, але гэта рабілася вельмі патаемна, у іншай мясцовасьці, і што не да ўсякага бацюшкі можна зьвярнуцца з такою просьбаю. Пройдзе некаторы час, Мікалай пойдзе ў адпачынак, і тады гэта можна будзе ажыцьцявіць, што ён ведае такога бацюшку. На гэта Вера пачала прычытаць, як гэта можна бяз шлюбу, бяз Божага дабраславеньня, легчы з мужчынам у пасьцель, што можа зачацца дзіця ня ў шлюбе, а гэта вялікі грэх. Гаварылася гэта для парадку. Усе разумелі, што шлюб у царкве браць нельга.

Тут Васіль спыніў сваю жонку, кажучы, што Пятро Іванавіч правільна мяркуе. Сьпяшацца са шлюбам ня трэба, калі гэта можа адмоўна адбіцца на далейшай службе Мікалая і працы іхняй Ані. Вера адразу згадзілася. На тым і парашылі.

Размова пайшла ўжо аб іншым. Канчаткова быў прызначаны тэрмін вясельля на Сёмуху, удакладнялася, колькі будзе гасьцей з боку жаніха і іншыя пытаньні. Цяпер можна сказаць суседзям, запрасіць Аніных сябровак на вясельле на ролю дружак. З гэтым праблемаў не было. Кожная вясковая дзяўчына жадала пагуляць на вясельлі, бачачы ў гэтым для сябе магчымасьць пазнаёміцца з хлопцам ды выйсьці замуж.

Васіль, ужо трохі падпіўшы, падаўся ў каморку за бутэлькаю самагонкі. Яму вельмі хацелася пачуць добры водгук аб ягоным прадукце. Ён прапанаваў адведаць сваёй, хатняга вырабу, хлебнай ды яшчэ падвойнага перагону. Гарэлка сапраўды была чыстая, не сівуха, і шмат мацнейшая за гарэлку з крамы. Мужчыны прадукт адобрылі, і Васіль гэта ўспрыняў як згоду на тое, каб на вясельлі была самагонка. Гэта вырашала ягоную грашовую праблему. Выгнаць гарэлку цяжкасьцяў не было. Жытнюю муку ён меў, дрожджы ў горадзе дабудзе Аня. У вясковую краму дрожджы не завозілі. Мабыць, каб вяскоўцы ня гналі самагонкі. У той час некаторыя людзі, што мелі магчымасьць купіць дрожджы, насілі іх па вёсках і ўпотай прадавалі, вядома, у шмат разоў даражэй, або мянялі іх на яйкі, сала, масла і гэтак далей.

Да Сёмухі час прабег хутка. Здаецца, усё зрабілі як у людзей. Ня будзе Ані сорамна за сваіх бацькоў – падводзілі такі вынік Васіль і Вера. Заўтра ўжо трэба зраньня быць у Слоніме, накрыць стол перад ад'ездам у ЗАГС. Так павінна быць. Усе так робяць. Іхняя Аня ня горшая за іншых. Трэба, каб усё было як у людзей, нібы запаведзь, паўтаралі Васіль і Вера.

Усё імі рабілася шчыра, ад усяго сэрца. Яны ня мелі шмат чаго, што ім было патрэбна, але яны былі людзьмі працы, гонару і стараліся, як толькі маглі. Ад прапанаваных Мікалаем грошай адмовіліся, гаворачы, што пасагу за дачкою яны даць ня могуць, а вось вясельле зробяць самі.

Заключэньне шлюбу ў ЗАГСе шмат часу не заняло. Пасьля афіцыйнай часткі працэдуры загучэў марш Мэндэльсона, пачулася хлопаньне коркаў шампанскага і уручана пасьведчаньне аб заключэньні шлюбу. На гэтым усё скончалася. Веры зрабілася прыкра на душы, што усё гэтак хутка скончылася, і яе Аня ўжо не яе, а мужняя жонка. Ёй хацелася, каб рытуал шлюбу быў даўжэйшым, больш урачыстым. Ёй падабаўся царкоўны шлюб-вянчаньне. Там гучалі сур'ёзныя, як здавалася Веры, словы аб вернасьці мужа і жонкі, аб змацаваньні шлюбнага саюзу царквою. Але нічога ня зробіш, супакойвала сябе Вера, трэба мірыцца з тым, што ёсьць. Трэба! Але ўсё роўна

Вера не разумела, каму трэба адрываць людзей ад шматвяковай традыцыі. Партыі, дзяржаве? Навошта? Вера гэтага проста не разумела, як не разумела большасьць беларусаў. Яна ад некага чула, што ў суседняй Польшчы камуністы ходзяць у касьцёл, і гэта нікога не зьдзіўляе. Гэта Вера лічыла правільным.

Няўжо камуністы ў СССР так моцна раўнуюць людзей да Бога? Тады атрымоўваецца, што не па-боску яны сябе поводзяць, адбіваючы людзей ад царквы, разважала Вера. І ад гэтых разважаньняў у душу закрадаўся нейкі неспакой.

Сват з боку маладога заклікаў усіх, хто едзе ў вёску, сядаць у аўтобус. Тым, хто застаецца на месцы, у Слоніме, сват параіў добра спаткаць маладых у нядзелю пад вечар каля афіцэрскага кафэ "Агеньчык", дзе будзе вясельле працягвацца. Усё ішло добра, але ў душу Веры закрадалася трывога, і яна нічога з гэтым не магла зрабіць. Смутнае прадчуваньне нечага нядобрага не давала ёй спакою. У думках Вера прасіла Бога заступіцца за Аню і яе Мікалая, адвесьці ад іх усякае ліха.

У вёску вясельле прыехала а чацьвёртай гадзіне папалудні. Пакінутыя ў хаце сваякі ўсё зрабілі дарэчы, і гасьцей адразу запрасілі да сталоў. Цяпер было ўжо сапраўднае вясельле: дзяўчаты імгненна пазнаёміліся з хлопцамі, прычапілі да іхніх пінжакоў штучныя кветкі, як сымбаль прыналежнасьці да вясельля ў ролі дружбантаў і згоды быць на вясельлі толькі зь імі, дружкамі. Такім чынам моладзь разабралася па парах.

Музыкі добра ведалі сваю справу. Адзін іграў на нямецкім акардэоне, другі – на скрыпцы, трэці адбіваў такт на бубне і медных талерках. А яшчэ, паклаўшы ў рот нейкае прыстасаваньне, ён выводзіў такія салаўіныя руляды, што нават старыя дзяды адабральна ківалі галовамі і казалі: "Во дае!" і гэта азначала зь іхняга боку вышэйшую пахвалу.

Па традыцыі Мікалай павінен быў даваць выкуп за Аню вясковым хлопцам. Гэты выкуп належала пытаць перад тым, як жаніх забіраў нявесту ад бацькоў, каб ехаць зь ёю да шлюбу. Тут жа склалася сытуацыя такая, што ў ЗАГС маладыя выбіраліся не з бацькоўскае хаты, а сюды зьявіліся ўжо мужам і жонкаю. Патрабаваць выкуп было ўжо позна. З гэтым вясковыя хлопцы згадзіцца не маглі і прыслалі да жаніха парлямэнцёра. Мікалай гатовы быў даць у якасьці выкупу рублёў сто ў новых грошах, але яго тактычна спыніў Васіль, паклікаўшы ў каморку, дзе была ўжо прыгатаваная гарэлка і закуска для гэтае мэты. Перадаўшы хлопцам літраў пяць ці болей гарэлкі і добрую торбу з закускаю, Мікалай канчаткова атрымаў правы на Аню.

Вясельле адбывалася ў хаце. Але на надворку, каля плоту, было пастаўлена некалькі сталоў з гарэлкаю, закускаю і посудам. Усё гэта было накрыта марляю ад мухаў. Кожны чалавек, які ня быў афіцыйна запрошаны на вясельле, мог зайсьці ў двор, узяць чарку, пакласьці сабе закусіць. Што людзі і рабілі. Выпівалі за здароўе і шчасьце маладых, за Васіля зь Вераю.

Якое вясельле бяз танцаў? А ніякага! Таму Васілю давялося вырашыць і гэтую праблему. Ён даўно зьбіраўся заліць бэтонам надворак, але ўсё ня мог на гэта выкраіць грошай. Цяпер ён гэта зрабіў. Для танцаў было месца дастаткова. Было прадугледжана і начное асьвятленьне.

Сёмуха будзе заўтра, у нядзелю, а вясельле пачалося ў суботу. Разьлік быў на два дні гуляньня. А ў нядзелю пад вечар маладыя з слонімскімі гась-

цямі, Васіль зь Вераю, сёй-той з радні і Аніныя сяброўкі, паедуць у Слонім. Сёньня будзе гулянка, віншаваньне маладых. Заўтра госьці зранку яшчэ будуць моцна спаць, а Васіль зь Вераю і сваякамі ўсё ў хаце прыбяруць, вымыюць, зьменяць настольніцы, посуд, усё прыгатуюць і гадзіне аб адзінаццатай зноў пасадзяць гасьцей за сталы.

Сват са свахаю мяркуюць заўтра папалудні пачаць урачысты рытуал паднясеньня падарункаў для маладых іх блізкімі і сябрамі, а пасьля гэтага пасьпяваць і паскакаць пад добрую музыку, потым зноў запрасіць гасьцей за сталы, каб выпіць на дарожку, ці, як той казаў, аглаблёвую. А потым музыкі сыграюць марш. Так плянавалася ўсё вясельле. Чалавек плянуе, а Бог гэтых плянаў ня чуе.

А сёньня сядзіба Аніных бацькоў нагадвала вулей. Усе былі падпітымі, але не было п’яных. Гаспадар з гаспадыняю ўжо некалькі разоў падлівалі і падкладвалі на сталы на надворку. Няхай людзі вып’юць і зьядуць на здароўе. Усе свае, аднавяскоўцы – паміж сабою размаўлялі яны.

У хаце вясельлем кіравалі сват і сваха. Там ужо некалькі разоў крычалі “Горка!”. Гэта значыла, што госьці адмаўляюцца выпіваць, пакуль жаніх з маладою не асалодзяць гарэлку пацалункам. Ужо быў прасьпяваны не адзін дзясятак песень, некалькі разоў госьці пакідалі свае месцы за сталамі і дружна кідаліся ў скокі на надворку.

Сьпявалі розныя песьні: пра Галю, якую казакі забралі з сабою; пра казакоў, што ідуць долам-далінаю ды іншыя. Тут гучэлі песьні з рэпэртуару Русланавай і Зыкінай. Былі беларускія, польскія і ўкраінскія песьні. Не абыйшлося і без “Кацюшы”. А нехта зацягнуў, а музыканты тут жа падыгралі, песьню пра Сямёнаўну – бабу хітрую, што любіла Сталіна, а потым Гітлера. Пасьля заканчэньня гэтай песьні сват сказаў, што болей ня трэба ўспамінаць гэтых людзей у сьвяточны для ўсіх дзень, яны ўжо ў мінулым, магчыма, разам, у адным лягеры ў пекле, чым выклікаў дружны рогат.

Танцавалі таксама розныя танцы. Гэта былі полька, кракавяк, вальсы, беларуская лявоніха і танга. Танга выконвалася чамусьці ня ў хуткім тэмпе, а павольна. Танга не любілі. Больш і часьцей даводзілася музыкам выконваць замовы на польку ці іншыя хуткія мэлёдыі.

Быў на вясельлі і брат Веры, што таксама служыў у войску на звыштэрміновай службе, меў званьне старшыны і быў загадчыкам нейкага важнага і сакрэтнага склада. Так ён казаў. Васіль ставіўся да швагра добра і ніколі ўслых не выказваў свае сумнівы, што ня можа чалавек зь няпоўнаю сярэдняю адукацыяй займаць такі важны пост. Няхай пахваліцца, думаў Васіль.

Адно было, без усякага сумненьня, праўдай – швагер служыў у ракетным палку, які дыслякаваўся ў лесе пад назваю “Воўчыя Норы”, недалёка ад вёскі Акунінава Слонімскага раёну. Вось і сёньня Аляксей, так звалі Анінага дзядзьку па маці, папярэдзіў: заўтра пад ранак пайду на станцыю Зэльва, каб цягніком даехаць да Слоніма. Яму трэба заўтра быць на службе.

Прыехаў на вясельле Аляксей адзін, бяз жонкі, што вось-вось чакала трэцяе дзіця. Прывёз маладым падарунак і адразу ўручыў, тлумачачы, што заўтра яго ўжо ня будзе.

Службу сваю Аляксей цаніў і трымаўся яе. Са сваімі абавязкамі ён спраўляўся добра. У мінулым годзе ў вячэрняй школе ён даволі пасьпяхова

вытрымаў іспыты за сярэднюю адукацыю, аб чым не казаў ні сястры, ні швагру, саромеючыся прызнацца, што быў вымушаны на чацьвёртым дзясятку жыцьця ўзяцца за падручнікі і сесьці за школьную парту. Вось калі ён скончыць Жыровіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум і атрымае дыплём мэханіка, тады іншая справа. Ён абавязкова прымацуе да мундуру значок аб набыцьці ім сярэдняй спэцыяльнай тэхнічнай адукацыі. Вучыцца Аляксею заставалася яшчэ амаль паўтара года, а жыць – некалькі гадзін.

Ён стараўся і служыць, і вучыцца, бо добра ведаў: грошы, паёк, адзеньне і абутак, кватэру ў Слоніме мае толькі дзякуючы службе. Нават заяву аб уступленьні ў КПСС напісаў, кіруючыся не сваімі ідэйнымі поглядамі, а таму, што пабаяўся адмовіць сакратару парткаму палка на прапанову стаць камуністам. Ён ужо ня раз лавіў сябе на думцы, што ад партыі людзям, грамадзтву наогул няма ніякай карысьці, калі не наадварот. Аб гэтых думках ня ведаў ніхто, нават ягоная жонка Зіна. Толькі аднойчы, седзячы з Васілём за бутэлькаю гарэлкі на нейкае сьвята і разважаючы аб пераменах у СССР пасьля сьмерці Сталіна, ён даверліва сказаў, што Хрушчоў ніякіх бачных рэформаў у гаспадарцы не зрабіў, што дыктат партыі да дабра не давядзе, што селянін павінен мець права ўласнасьці на зямлю, а калгас павінен быць для кожнага справаю добраахвотнаю.

Гэтыя думкі былі не ягоныя. Раней пра гэта ён ня думаў, а выпадкова пачуў нядаўна з размовы двух сваіх спадарожнікаў у цягніку. Мужчыны былі даволі адукаванымі людзьмі. Гэтыя словы яму спадабаліся, і ён іх запомніў. Але Аляксей добра ўмеў хаваць свае думкі. У яго было два “я” – адно службова-афіцыйнае, другое – ягонае роднае. Ён здагадваўся, што гэтак жывуць амаль усе ягоныя знаёмыя, што займаюць якія-небудзь пасады і маюць трохі вышэйшае становішча. За ўсё трэба плаціць. Ніякая балбатня па радыё ці на палітычных занятках аб свабодзе слова ў СССР, свабодзе асобы і правах чалавека не ўспрымаліся Аляксеем усур’ёз. Але ён аб гэтым маўчаў, думаў пра сябе: якая свабода, калі чалавек ня можа паехаць нават у Польшчу да сваякоў. Проста ўзяць купіць квіток і паехаць. Не, так не было. Даводзілася людзям да году чакаць дазволу і не заўсёды можна было яго атрымаць. Аляксей зрабіў для сябе выснову: пакуль галоўнаю мэтаю будзе пабудова камунізму ва ўсім сьвеце, датуль і будзе супрацьстаяньне двух частак чалавецтва, будзе усё ў краіне ісьці на ўзбраеньне за кошт дабрабыту людзей. Гэта дзяржаўная палітыка, а супраць яе нічога ня можна сказаць. Думай, разважай, але маўчы.

Аляксей добра разумеў і другое. Беларусь знаходзіцца ў страшэнным становішчы з той прычыны, што яе тэрыторыя проста нашпігаваная войскамі: ракетамі, авіяцыяй, танкамі і сродкамі сувязі. Ня дай Бог чаго, першы ўдар будзе нанесены па іх. Ад Беларусі нічога не застанецца. Зноў закрыюцца маскоўскія заправілы Беларусьсю, як гэта было ў мінулай вайне. Ён добра памятаў пачатак вайны і ведаў, што ніхто зь мясцовых людзей не зьбіраўся ісьці падрываць нямецкія цягнікі ці страляць у нямецкіх салдат. Людзі прыглядаліся да немцаў і параўноўвалі іх зь першымі Саветамі, чакалі, што будзе далей. Многія дапамагалі выратавацца габэям, хавалі іх. Дапамагалі і чырвонаармейцам, што трапілі ў акружэньне. І гэта рабілася зусім не таму, што беларусы, асабліва заходнія, былі прыхільнікамі савецкае ўлады, а па сваёй хрысьціянскай дабрыні, чалавекалюбству. Гэта ўжо

пасьля вайны пісалі, што беларусы, усе як адзін, усталі на барацьбу з ворагам. Хлусьня! Аляксей у такія размовы ня ўмешваўся, пазьбягаў іх.

Яму часам рабілася страшна, бо ён добра ведаў зьнішчальную сілу сучаснай зброі. А тут яшчэ абвастраецца карыбскі крызыс. Аляксею хацелася забраць усіх родных і блізкіх яму людзей і куды-небудзь уцячы, схавацца. Але аб гэтым ён мог размаўляць толькі са сваім шваграм Васілём.

Пасьля трэцяй гадзіны ночы Аляксей сабраўся ісьці на станцыю. Сястра паклала яму ў торбу гасьцінцы для дзяцей і Зіны. Вера не хвалявалася за брата, бо ведала, што ён чалавек сур'ёзны, тым болей, амаль не выпіваў. Да станцыі праз Барадзічы было ня болей за чатыры кілямэтры. Гэта гадзіна нясьпешнай хады.

Аляксей у дарогу заўсёды апранаў вайсковую вопратку. Так лягчэй было сесьці на папутку. Сёньня ён таксама быў у вайсковай форме. Форму насіць ён любіў. Яму нават падабалася насіць боты, чаго некаторыя вайскоўцы не цярпелі, асабліва ўлетку.

Вясельле сьціхала, каб, набраўшыся за астатак ночы і раніцу сілы, зноў адрадзіцца заўтра, а правільней кажучы, ужо сёньня. Мясцовыя госьці бралі прыежджых да сябе начаваць. Дружкі павінны былі ўладкаваць на начлег сваіх дружбантаў у сваіх хатах.

Аляксей дайшоў да шашы Ваўкавыск-Слонім хвілін за дзесяць. Ён ужо выйшаў на яе, каб рушыць далей у бок Барадзічаў. Ранак яшчэ не надыйшоў, але Аляксей ведаў, што пакуль ён зойдзе на станцыю, ужо амаль разьвіднее. А пакуль была ноч. Ён убачыў, што з боку Ваўкавыска паласнулі неба праменьні сьвятла. Гэта была аўтамашына. Вось тут Аляксей спыніўся, падумаў, што добра было б сесьці на гэты самаход і празь якую гадзіну быць ужо ў Слоніме. Там ён выйдзе перад мастамі праз Шчару і за пяць хвілін будзе дома. З гэтымі думкамі ён вярнуўся на край асфальту і стаў чакаць. Чакаць доўга не давялося. Машына ўжо наблізілася да таго месца, дзе праз рэчку Кіпятку будаваўся новы мост. Там быў аб'езд. Аляксей зьвярнуў яшчэ ўвагу на тое, што аб'яжджала машына будоўлю маста на даволі вялікай хуткасьці. Ці ня п'яны? Але вельмі хацелася сесьці ў гэтую машыну і за гадзіну быць дома. Пару гадзін яшчэ паспаў бы перад службаю.

Машына мінула мост, выехала на шашу і стала набіраць хуткасьць. Аляксей занепакоіўся. Праедзе, не заўважыць чаго добрага. Ён, узьняўшы ўгору правую руку, стаў падавацца ўперад, на праезную частку дарогі. Машына набліжалася, Аляксей ужо разумеў, што нічога не атрымаецца з гэтай машынай, што яна праедзе ня стаўшы. Але раптам машына ўзяла ўправа, туды дзе стаяў Аляксей. Ён не пасьпеў нават на гэта адрэагаваць, як правая пярэдняя частка машыны стукнула яго у левы бок. Аляксея раскруціла ад удару і кінула на абочыну, на пясок. Пяску там было шмат, бо за дваццаць мэтраў быў выезд зь пясчанага кар'еру. Самазвалы гублялі пясок. Паступова яго назьбіралася на абочынах шашы ў абодвух напрамках ад выезду.

Машына, праехаўшы, спынілася. Зь яе выйшаў чалавек і накіраваўся да ляжачага Аляксея, якому моцна балела левая нага і сьцягно. Устаць ён ня мог і нават не спрабаваў. Але ён быў жывы і ў прытомнасьці. Аляксей бачыў чалавека, што набліжаўся, бо недалёка, каля аўтобуснага прыпынку,

на слупе была электрычная лямпачка. Чалавек падыйшоў, і ў той жа момант нешта цяжкае і цьвёрдае апусьцілася зь сілаю на галаву Аляксея. Гэтак паўтарылася яшчэ два разы, але Аляксей гэтага ўжо не адчуваў. Першы ўдар імгненна пазбавіў яго жыцьця.

Вартаўнік драмаў у будцы каля будоўлі маста, чуў, як праехала машына. Па гуку матора ён зразумеў, што гэта легкавік, хутчэй за ўсё, “Волга”. Потым ён чуў нейкі глухі ўдар на скрыжаваньні дарог, чуў, што машына спынілася, але хутка паехала зноў. Невялікая адлегласьць, начная цішыня далі магчымасьць яму усё гэта добра пачуць. Ён чуў, але ня бачыў, і таму ня ведаў, што там здарылася.

Вартаўнік быў біты жыцьцём чалавек, вопытны. Ён мог з упэўненасьцю сказаць, хто праехаў на “Волзе”. Сну ўжо не было. Стала сьвятлець неба над узгоркам, за якім хавалася вёска Коньня. Пачуўся стук колаў цягніка, што з боку Ваўкавыска падыходзіў да прыпынка Лябяды. Шаша пуставала, бо была нядзеля ды яшчэ і Сёмуха. І тут ён зьвярнуў увагу на тое, што на белым пяску на абочыне шашы за скрыжаваньнем нешта цямнее. Ён пайшоў туды. Па меры набліжэньня ён ішоў усё хутчэй, бо перад ім вырысоўвалася постаць ляжачага чалавека.

Гэтага чалавека ён пазнаў, бо бачыў яго ўчора пад вечар на вясельлі. Сам на вясельле не хадзіў, але, праходзячы па вуліцы, заўважыў на Васілёвым надворку ягонага швагра, які выдзяляўся сярод іншых, бо быў апрануты па-вайсковаму.

Агледзеўшы месца вакол ляжачага Аляксея, вартаўнік прыкмеціў кавалкі шкла на краі шашы і абочыне. Шкла было няшмат. Ён падумаў, што шкло з выбітае правае фары.

Вартаўніка клікалі дзедам Ёзікам, а ягоныя аднагодкі ці блізкія да яго ўзросту людзі часам называлі Ёзубам. Ён ня меў у вёсцы мянушкі, як іншыя, таму што Ёзуб у вёсцы быў толькі адзін ён. Быў Ёзуб, мяркуючы па сёньняшнім часе, чалавекам яшчэ не старым. Сапраўдныя месяц і дзень нараджэньня ён ня ведаў. Маці казала, што нарадзіўся ён у пачатку зімы. Было холадна і ўжо ляжаў сьнег. Запісалі потым, што нарадзіўся першага студзеня. А вось з годам нараджэньня было гэтак. Маці добра ведала, што Ёзіку ўжо споўнілася шэсьць гадоў, калі пачалася Першая сусьветная вайна. Такім чынам, годам ягонага нараджэньня быў 1908 год. Пачатак той першай, вялікай вайны Ёзік і сам добра памятаў. Было доўгае падарожжа ў бежанства па чыгунцы ў Самарскую губэрню, аж за вялікую расейскую раку Волгу.

Уцякалі ад немцаў, а да немцаў прыехалі, часта казаў бацька. Недалёка ад вёскі, дзе разьмясьцілі прыехаўшых беларусаў, была нямецкая слабодка. Так называлі нямецкую вёску ў Паволжы. Людзям было дзіўна, што тут, далёка ад Нямеччыны, жывуць немцы. Хадзілі спачатку паглядзець на немцаў, але нічога дзіўнага ў іхнім выглядзе не было. Людзі як людзі. А вось іхняя слабодка, вуліцы, двары, хаты – усё адрозьнівалася нейкім незвычайным парадкам, чысьцінёй. Іхнія палі давалі большы ўраджай, у агародах было поўна ўсялякай агароднiны, каля хатаў былі сады і шмат кветак. Надворкі былі чыстыя. Немцы мелі сельскагаспадарчыя машыны. У час уборкі ўраджаю, яны ахвотна бралі на працу беларусаў, прыкмеціўшы іх працавітасьць. Так патроху завязаліся сувязі. Бежанцам царскі ўрад выплочваў

грашовую дапамогу. Але амаль усе дзе-небудзь працавалі, стараючыся трошкі заашчадзіць грошай, каб было з чым вярнуцца дамоў пасьля заканчэньня вайны. Так яно і было б. Але Расею перавярнула з ног на галаву рэвалюцыя, а потым грамадзянская вайна, тыф і голад. Людзі сталі імкнуцца дамоў, на Бацькаўшчыну. Там ужо была Польшча. Ёзік вярнуўся дамоў з двума братамі і сястрою. Бацькоў яны пахавалі па дарозе дамоў, недзе на Тамбоўшчыне. Тыф касіў людзей, асабліва бяздомных.

За сваё жыцьцё Ёзік меў некалькі разоў патрэбу называць свой узрост. Гэта як выпраўляў сабе паперы пасьля вяртаньня дамоў зь бежанства, калі прызывалі на службу ў польскае войска, пры першых Саветах, за немцамі і ўжо пры другіх Саветах – гэта значыць, пры цяперашняй уладзе. За сваё жыцьцё Ёзуб пераджыў шэсьць пераменаў улады: рэвалюцыю буржуазную, як пішуць у падручніках гісторыі; рэвалюцыю бальшавіцкую; пры вяртаньні дамоў ужо ў Польшчу ў 1922 годзе; у 1939, 1941 і 1944 гадох. Гэта ня лічачы, колькі разоў яму давялося быць сьведкам перамены ўлады там, у Паволжы, у часы грамадзянскай вайны. Цяпер гэта ўсё было ў мінулым. Але Ёзуб не стаміўся ад жыцьця, ён хацеў яшчэ пажыць, паглядзець, што адбудзецца на сьвеце. Ягоная жонка Тэафілія, у вёсцы проста Тахвіля або Ёзубіха, у апошнія гады, наслухаўшыся радыё пра магчымасьць і наступствы будучай вайны, пра тое, як партыя і савецкі ўрад змагаюцца за мір, берагуць яго, казала: “Ня дай Божа, дажыць, хопіць, нацярпеліся ўжо”. Ёзік зь ёю пагаджаўся.

Пасьля ўсяго пераджытага ім хацелася спакойна жыць і спакойна памерці ў свой час, нікому не дакучаючы. Ён і так быў удзячны Богу за сваё жыцьцё. У вёсцы яго аднагодкаў засталося няшмат. Хто проста не дажыў па прычыне хваробаў, няшчасных выпадкаў, а больш за ўсё забрала мінулая вайна.

У 44-м былі забраныя на вайну ўсе мужчыны ад 16 да 45 гадоў. І неўзабаве іхныя сем’і пачалі атрымоўваць весткі, што некаторыя ўжо загінулі. Калі ж пасьпелі іх абвучыць перад накіраваньнем на фронт? А можа, пагналі неабвучаных, як на бойню? Так разважалі між сабою мужчыны, аглядаючыся, каб хто ня ўчуў чужы. Многія зь іх калісьці служылі ў царскім або польскім войску і добра ведалі, колькі часу трэба, каб навучыць навабранцаў, зрабіць іх салдатамі.

Некаторыя нават гаварылі, што ўлада ня мае права заходніх беларусаў браць на вайну таму, што яны не грамадзяне СССР, а толькі жыхары мясцовасьці, гвалтоўна далучанай да СССР у верасьні 1939 году.

Дарэчы, кіруючыся гэтымі меркаваньнямі, заходніх беларусаў Захад адмовіўся выдаваць у СССР у прымусовым парадку пасьля вайны. Значыць, разважаньні вясковых мужыкоў мелі падставу!

Ёзуб не прайшоў мэдыцынскую камісію ў ваенкамаце. Быў камісаваны, як казалі тады людзі. Яму дасталося ўжо пасьля вайны. Быў асуджаны па знакамітым 58-м артыкуле як вораг народу. За што? За тое, што не пабег хутчэй данесьці ў міліцыю, што бачыў бандыта Вайшэўскага? Дык гэта мяне не датычыцца, не мая справа. А хто ж ён такі, гэты Вайшэўскі, як даўно ён зрабіўся бандытам? Ён жа ваш, савецкі чалавек. З партызанаў, камуніст, міліцыянер, падатковы інспэктар. Проста ён ня змог быць такім, як вы ў вашай воўчай зграі, ня змог апошняе адабраць у чалавека дзеля выка-

наньня вашых плянаў калектывізацыі, добраахвотнай пазыкі грошай дзяржаве жабракамі-грамадзянамі. Таму і давялі яго да бандытызму. Можа, ён ніякі і не бандыт. Гэта зь якога боку паглядзець. Так разважаў Ёзуб, лічачы сябе незаконна асуджаным.

Законна, незаконна, а адбыць у лягеры для палітзьняволеных давялося з сакавіка 52-га па жнівень 56-га году. Потым Ёзуб называў гэты час “паскораны курс вышэйшай партыйнай школы”. Гэта сапраўды была школа. Як палітычны, ён знаходзіўся сярод палітычных, а не сярод крымінальнай шантрапы. Там былі людзі вельмі адукаваныя, сур’ёзныя. Будучы чалавекам разумным ад прыроды, думаючым, Ёзуб шмат што зразумеў. Ягоныя суседзі па бараку і працы, бачачы што гэты вясковы мужык ловіць усё, як той казаў, на ляту, дапамагалі яму раскрыць вочы на розныя гістарычныя факты. Вярнуўся дамоў Ёзуб зь цьвёрдай упэўненасьцю, што камуністы самыя сябе зжывуць са сьвету. Захоп імі ўлады ў былой царскай Расеі, стварэньне імі Савецкага Саюзу – ня што іншае, як супярэчнасьць гістарычнаму разьвіцьцю. Ён мог адстойваць у спрэчцы свой пункт гледжаньня. Калі яму не хацелася аб гэтым больш гаварыць, Ёзуб завяршаў размову словамі: “Разьвеюцца бальшавікі як дым, зьнікнуць. Я не дажыву да гэтага часу, але гэта будзе неўзабаве”. Не дажыў якіх-небудзь трынаццаць гадоў.

Ёзубу хапіла толькі дакрануцца да рукі Аляксея, каб зразумець, што той ужо адыйшоў, і цела ягонае астывае. На галаве і на пяску бачна была кроў. Значыць, тая машына зьбіла чалавека. Чыя гэта машына, Ёзуб ведаў. Чаму ж гэтай машынай не адвезьлі параненага ў шпіталь, чаму самыя зьехалі? Гэтыя пытаньні імгненна пранесьліся ў галаве старога Ёзуба. Такія людзі не павінны былі так зрабіць. Тут нешта ня так. Ёзуб ужо быў ня рады, што апынуўся тут першы і адзін. Але перад ім ляжала цела чалавека, і Ёзуб, як хрысьціянін, ня мог ухіліцца ад чалавечага абавязку пайсьці і паведаміць Васілю аб сьмерці швагра. Ён разумеў, што ў такім разе будзе галоўным сьведкам. Супраць каго ён будзе сьведчыць? Ён, нерэабілітаваны вораг народу! Але тут ён убачыў сьвятло аўтамабільных фараў у перадсьвітальным змроку. Набліжаўся самаход.

Пад’ехаўшы да месца здарэньня, шафёр спыніў свой малакавоз. Ёзік назіраў за ім з-за тоўстай прыдарожнай вярбы. Ён добра ведаў і гэтага чалавека. Вось ён няхай кліча людзей, няхай потым дае паказаньні сьледчаму і ў судзе.

Шафёр малакавоза з паўхвіліны глядзеў на распасьцертае перад ім цела, потым хутка вярнуўся да машыны, але, падумаўшы, ня стаў сядаць у кабіну, а пабег у бок вёскі. Ёзуб таксама пакінуў сваё схованішча і хуценька падаўся да месца свайго вартаўніцтва.

Прайшло хвілін дваццаць, і зь вёскі сталі падыходзіць людзі, загаласіла Вера, сястра нябожчыка. Пайшоў туды і Ёзуб. Людзей было няшмат, чалавек дзесяць, ня болей. Толькі пачыналася раніца. Праз некаторы час з боку Зэльвы пад’ехалі дзьве машыны: хуткай мэдыцынскай дапамогі і міліцэйская.

Мужчына ў белым халаце падыйшоў да цела, праверыў пульс на руцэ, на шыі, зазірнуў у вочы і апусьціў нябожчыку павекі. Павярнуўшыся да чалавека ў цывільным адзеньні, што пад’ехаў у міліцэйскай машыне, сказаў, што ягоная дапамога тут ужо не патрэбная. Сьледчы Зэльвенскай пракура-

туры, якім быў чалавек у цывільным, моўчкі кіўнуў галавою, пагаджаючыся са словамі мэдыка. Машына “хуткай дапамогі” ад’ехала ў бок Зэльвы. Сьледчы і міліцыянты прыступілі да сваёй справы.

Перш за ўсё, яны адгарадзілі месца здарэньня дарожнымі знакамі, што прывезьлі з сабою. Сьледчы папрасіў усіх, акрамя Веры, Васіля, шафёра малакавоза і двух панятых, пакінуць месца здарэньня. Людзі адыйшлі далей, але не разыходзіліся. Зь імі стаяў і Ёзуб, назіраючы за дзеяньнямі міліцыянтаў, якія рабілі замеры нейкім прыстасаваньнем у выглядзе кола з ручкаю. Потым было сабранае шкло з шашы і абочыны.

Сьледчы крэсьліў схему дарожна-транспартнага здарэньня і заносіў туды вынікі замераў, свае дзеяньні тлумачыў панятым. Атрымлівалася ўсё вельмі проста: чалавек, цяпер ужо пацярпелы, быў зьбіты машынаю на праезнай частцы дарогі, у адным мэтры ад правага яе краю па ходу руху машыны з боку Ваўкавыска ў бок Зэльвы. Аб гэтым сьведчылі кавалкі шкла ад правае фары машыны. Праз 39 мэтраў ад месца сутыкненьня з пацярпелым машына рэзка спынілася проста на шашы. Склаўшы тут жа кавалкі шкла, сьледчы прыйшоў да высновы, што гэтаю машынаю была “Волга”. Было праведзена фатаграфаваньне месца здарэньня.

Заставалася толькі знайсьці машыну, што зьбіла гэтага вайскоўца. Сьледчы нават ужо ведаў яе колер. На металічнай частцы сумкі, якую нёс пацярпелы, застаўся сьлед фарбы. Сьледчы ўжо жыў гэтаю справаю. Ён ужо абдумаў пытаньні, якія паставіць перад судова-мэдыцынскім экспэртам: ад чаго наступіла сьмерць пацярпелага, паходжаньне цялесных пашкоджаньняў, ці жыў бы, каб своечасова была аказаная мэдыцынская дапамога, ступень алькагольнага ап’яненьня ахвяры.

Сёньня ён зробіць самае неадкладнае. Усё-ткі нядзеля, непрацоўны дзень.

Тое, што міліцыя адшукае “Волгу”, сьледчы не сумняваўся. Ужо па радыётэлефоне зь міліцэйскай машыны былі перададзеныя дзяжурнаму па міліцыі неабходныя зьвесткі. Дзяжурны па міліцыі ўжо тэлефануе ўчастковым, паведамляе ў Горадню, а адтуль будуць дадзеныя адпаведныя ўказаньні наконт вышуку машыны і ў іншыя раёны.

Сьледчы добра ведаў, што рабіць і чаго патрабаваць ад іншых. Яго ў пракуратуры, судзе і міліцыі лічылі добрым сьледчым і паважалі як чалавека простага і добразычлівага.

Пад’ехаў на матацыкле ўчастковы, чалавек гадоў пад сорак у форме малодшага лейтэнанта. Яго сюды, на месца здарэньня, не выклікалі, разумелі, што ён нічога ня ведае ў гэтай справе.

Цела ўжо было адпраўлена ў морг шпіталю, узятыя тлумачэньні ад шафёра малакавоза і швагра нябожчыка. Веру сьледчы ня стаў турбаваць. Быў падпісаны пратакол агляду месца здарэньня і знаходжаньня цела і выкананыя іншыя абавязковыя ў такіх выпадках дзеяньні.

Сьледчы ўжо зьбіраўся сесьці ў міліцэйскую машыну, як зьвярнуў увагу на пажылога чалавека, што стаяў недалёка пад дрэвам і паглядаў на яго. Сьледчы падумаў, што гэты чалавек не рашаецца па нейкай прычыне падыйсьці. Хутчэй за ўсё, ня хоча гэтага рабіць на людзях. Сьледчы з свайго вопыту ведаў, што далёка ня кожны чалавек, які што-небудзь мае сказаць аб абставінах справы, сам папросіцца быць сьведкам. Большасьць людзей

прытрымлівалася прымаўкі: мая хата з краю – нічога ня знаю. Гэты ж чалавек пільна глядзеў на сьледчага, а сустрэўшыся зь ім вачыма, лёгка кіўнуў галавой. Сьледчы затрымаўся, разважаючы, як пагаварыць ці хаця б запісаць прозьвішча гэтага челавека, не прыцягнуўшы ўвагі прысутных.

Сьледчы разумеў, што нялёгка мясцовым жыхарам, што пералілі за кароткі час столькі гвалту і турмаў, расстрэлаў і перасяленьняў без суду і сьледзтва, стаць грамадзянамі з актыўнай пазыцыяй і высокай сьвядомасьцю. Толькі партыйныя пісьменьнікі маглі спаборнічаць між сабою ў славаблудзтве, расьпісваючы прыгажосьць савецкага ладу жыцьця, ягоную перавагу перад заходнім, капіталістычным, малюючы літаратурныя вобразы новага, «крыштальна чыстага» савецкага чалавека – чалавека камуністычнай будучыні.

Гэтыя партыйныя пісакі зусім ня ведалі таго чалавека, аб якім пісалі. А калі і ведалі, то праўду не маглі напісаць, баючыся за сваю літаратурную кар'еру. Пісалі так, каб быць надрукаванымі, каб добра заплацілі. Ім плацілі, узнагароджвалі ордэнамі, давалі зоркі Герояў Сацыялістычнай Працы, рабілі акадэмікамі, нягледзячы на тое, што гэтыя акадэмікі падчас ня мелі вышэйшай адукацыі.

Сьледчы сам быў з народу, жыў і працаваў сярод гэтага народу. Трохі яго ведаў. Вучыўся ў юрыдычным інстытуце ў Менску ўжо пасьля разьвянчаньня культу асобы Сталіна, у часы, калі выкладчыкі ў інстытуце на занятках дазвалялі сабе вальнадумства, калі дух свабоды вітаў у аўдыторыях.

Сёньняшняя справа была зьвязана, як ужо цяпер было відавочна, зь неасьцярожным забойствам у выніку наезду машыны на пацярпелага. Ускладнялася справа тым, што шафёр уцёк зь месца здарэньня. Хто ведае, застаўся б ён на месцы, даў бы свае тлумачэньні, можа, і справы крымінальнай тут не было б. Два факты аб'ектыўна сьведчаць на карысьць шафёраўцекача. Гэта тое, што сутыкненьне машыны з чалавекам адбылося на праезнай частцы дарогі, і тое, што пацярпелы ішоў зь вясельля сваёй пляменьніцы і быў, безумоўна, выпіўшы. Колькі ён выпіў – высьветліцца ў ходзе сьледзтва і пакажа экспэртыза.

Тут сьледчы дадумаўся, як пагаварыць з чалавекам, які так пільна на яго глядзеў. Ён паклікаў да сябе ўчастковага і прапанаваў перапісаць прозьвішчы і адрасы прысутных на ўсялякі выпадак. Участковы накіраваўся да кучкі людзей, а сьледчы таксама падыйшоў да кагосьці, запісваючы кароткія зьвесткі. Зірнуўшы ў бок пажылога чалавека, сьледчы зноў спаткаўся зь ім вачыма і зразумеў, што паміж імі ўжо ёсьць узаемаразуменьне.

Сьледчы накіраваўся да гэтага чалавека. Ёзуб назваў сваё прозьвішча і адрас, сказаў пра месца працы і паказаў у бок моста. Што чалавек гэты нешта ведае, сьледчы ўжо не сумняваўся, як толькі пачуў пра месца працы. Не разумеў толькі, чаму такая сакрэтнасьць. Тым часам Ёзуб сказаў, што хоча гаварыць адзін на адзін і не для пратаколу, што гэта можна зрабіць і пазьней. Сказаў, калі сьледчага ягоныя ўмовы не задавальняюць, дык ён афіцыйна, для пратаколу, дасьць паказаньні, што нічога ня ведае.

Сьледчы быў трохі зьдзіўлены, што гэты, амаль стары ўжо чалавек, гаворыць зь ім, выстаўляючы свае ўмовы. Сьледчы згадзіўся, бо адчуў у гэтым чалавеку нейкую спакойную ўнутраную цьвёрдасьць, такі ня стаў бы

без патрэбы набівацца на размову. Нешта ведае. Няхай будзе, як ён хоча. Пагавару зь ім пазьней, вырашыў сьледчы.

Калі сьледчы падыйшоў да машыны, участковы працягнуў яму аркуш з прозьвішчамі людзей і сказаў, што вартаўнік з будоўлі маста – ня просты дзед. Знаходзіцца на волі толькі дзякуючы сьмерці Сталіна. У 52-м годзе атрымаў 25 гадоў, але лічыць сябе ні ў чым не вінаватым. Пасьля датэрміновага вызваленьня гадоў пяць пісаў усюды скаргі, дабіваючыся рэабілітацыі. Лішняга ня скажа, але ўсё вакол сябе бачыць. Упарты страшэнна. Ня п'е, не крадзе. Адкрыта насьміхаецца над уладаю, прадракаючы яе немінучы і недалёкі канец. На ягоным лексыконе "ўкрасьці" – гэта "скамунізьдзіць" і гэтак далей.

"Пакажа час, што гэта за дзед такі, сьпяшацца ня будзем рабіць высновы з чужых словаў", – падумаў сьледчы. Услых жа сказаў, што папярэджаньне аб крымінальнай кары за адмову ад дачы паказаньняў і за дачу заведама ілжывых паказаньняў зьмякчаць нораў старога антысаветчыка. Міліцыянт, здаецца, застаўся задаволены сабою.

Гэты ўчастковы ня быў беларусам, а тым больш заходнім. Ён служыў у адным зь лягераў у Мардоўскай АССР. Пасьля 56-га году шмат каму, і ў тым ліку яму пагражала беспрацоўе, але сыстэма "сваіх" людзей у крыўду не давала. Для яго знайшлося месца ў Зэльвенскім аддзеле міліцыі. Ён ведаў, што шмат такіх, як ён, былі тады накіраваныя ў Беларусь для ўмацаваньня кадрамі мясцовых органаў міліцыі. Гэтыя прышэльцы былі людзьмі вышэйшай кваліфікацыі ў сваёй справе, але часы былі ўжо іншымі, і тут быў ня лягер. Даводзілася цярпець і мірыцца з тым, што іх выкарыстоўваюць не зусім па іхняму профілю.

Была субота. У кабінэце першага сакратара Зэльвенскага райкаму партыі Бардакова прысутнічалі яшчэ трое чалавек: два старшыні калгасаў і начальнік дзяржаўнай інспэкцыі хлебанарыхтовак. Гэта была сталая кампанія людзей, якія разам праводзілі адпачынак. Усе яны былі прыблізна аднаго ўзросту – каля сарака гадоў. Цэлы дзень яны працавалі ад цямна да цямна. Стараліся. Іхні самы галоўны, самы найпершы сакратар Хрушчоў паабяцаў, што цяперашняе пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме. Удакладніў, што камунізм будзе канчаткова пабудаваны ў СССР за дваццаць гадоў, значыць, да пачатку васьмідзясятых. Трэба было старацца. Вось яны і стараліся кожны на сваім месцы. Цэнтральны камітэт партыі цяжкім прэсам ціснуў ніжэйстаячых, рэспубліканскія ЦК партыі ціснулі вобласьці, а вобласьці, у сваю чаргу, ціснулі раёны і гарады. Райкамы партыі ціснулі на непасрэдных кіраўнікоў гаспадарак, а тыя на калгасьнікаў і рабочых, самых перадавых і сьвядомых у цэлым сьвеце. У гэтым заключаўся прынцып дэмакратычнага цэнтралізму.

З рабочаю клясаю было цяжэй, бо той ужо даўно не было чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў. Даводзілася будаваць для яе жыльлё, даваць рэгулярна заработную плату, выплочваць пэнсіі па старасьці. Карацей кажучы, трэба было маніпуляваць ейным дабрабытам: каб ня даць многа і не давесьці да адчаю, да сацыяльнага выбуху. Рабочая кляса ўяўляла сабою сілу.

З калгасным сялянствам было значна лягчэй упраўляцца. У калгасьніка было яшчэ што губляць. Гэта ягоная хатняя гаспадарка. Тут можна было б сьмела душыць, не баючыся за той крытычны момант, за якім будзе вы-

бух. Адабраўшы ў селяніна ўсё падчыстую, сагнаўшы ў калгасы, партыя, што абвясьціла сябе гонарам, сумленьнем і розумам эпохі, не паклапацілася нават аб тым, каб калгасьнік меў кавалак хлеба ў старасьці. Да канца пяцідзясятых гадоў калгасьнікі ня мелі права атрымліваць пэнсію. Зямлю забралі, пэнсію старым не плацілі. Як жыць старому і зьнямогламу чалавеку? Сёньня пра гэта ўжо далёка ня кожны ведае. Але гэта было так! Ёсьць заканадаўчыя акты аб пэнсіях, што маюць даты і гавораць самыя за сябе.

А ці многія сёньня ведаюць, што такое дзяржаўная пазыка? Гэта адзін з спосабаў адабраць грошы ў чалавека, пры тым абставіўшы гэтае рабаўніцтва так, нібыта чалавек сам, добраахвотна пазычае грошы дзяржаве. Праводзілася дзяржаўная кампанія па зборы подпісаў аб пазыцы дзяржаве.

Дык вось гэтая чацьвёрка мужчын была з той сыстэмы, якая ўсе грандыёзныя пляны партыі ажыцьцяўляла адным спосабам – цiснула на ніжэйстаячых ці нават на ўкленчыўшых. Пасьля цяжкага працоўнага тыдня яны сабраліся адпачыць. З гэтаю мэтаю яны ўжо ня раз і ня два езьдзілі ў суседні Ваўкавыск, дзе іх чакала жаночая кампанія і багата накрыты стол. Пасьля застольля было дзе адпачыць, расслабіцца каля жаночага боку. Вось і ў гэты суботні вечар чацьвёрка адправілася на службовай “Волзе” першага сакратара ў Ваўкавыск. Павёз іх асабісты шафёр “першага”.

Старому Ёзубу, што вартаваў матэрыяльныя каштоўнасьці на будоўлі маста, былі бачныя ўсе перамяшчэньні на шашы. Тым болей, каля маста трэба было збавіць хуткасьць, а гэта дазваляла старому разгледзець, хто сядзіць у машыне. Прыкладна ў адзін і той жа час чацьвёрка мужчын суботнімі вечарамі ехала з дому, а ў нядзелю пад раніцу вярталася. Ёзубу было няцяжка здагадацца, чаго яны едуць далей ад дому, бо часам пры вяртаньні з машыны неслася дружная песьня. Ён мог толькі назіраць і здагадвацца, куды ўцякаюць грошы калгасьнікаў. Цяжка было глядзець на усё гэта, але вышэй самога сябе ня скокнеш. А яны, сытыя і чыстыя на фоне вясковай галечы і безнадзейнасьці, ехалі шукаць уцехаў далей ад дому, дзе можна не баяцца, што іх ведаюць і будуць потым пра іх ґаварыць.

Ёзуб не хацеў, каб яго афіцыйна дапытваў сьледчы, а потым суд, калі да гэтага дойдзе. Але ён ня мог дазволіць сабе маўчаць, калі здарылася такое. Ён разважаў, што ў жыцьці ўсялякае можа быць, але чалавек павінен застацца чалавекам заўсёды. Ён ня так быў уражаны гібельлю Аляксея, як абураны тым, што гэтыя людзі, як апошнія злодзеі, уцяклі, затаіліся. Вось уся іхняя мараль. Гавораць адно, а жывуць па сваіх воўчых законах. Нелюдзі! Хто намі кіруе, куды нас вядуць гэтыя і падобныя ім бездухоўныя людзі? Яны адракліся ад хрысьціянскай маралі, а што далі людзям замест яе, што ўзялі ад сваіх барадатых заснавальнікаў? А вось гэта і ўзялі! Ня без удзелу першага сакратара райкаму было вырашана выкарыстаць Зэльвенскі касьцёл пад склад хімічных угнаеньняў. Ёзубу давялося самому быць там і бачыць, што алтар і лаўкі былі зламаныя, выбітыя вокны. У храм заяжджалі коньмі і трактарамі, туды забягалі сабакі. Ён гэта бачыў сваімі вачыма, бо быў накіраваны туды гэтыя угнаеньні насыпаць у скрыні, запрэжаныя коньмі. Угнаеньні развозілі на палі. І гэта было ўжо пры Хрушчове. Вядома, Хрушчоў не даваў загад на гэты акт вандалізму, але, учыняючы яго, ніхто не баяўся быць пакараным уладаю, а тым больш партыяй.

Нават Батый і Чынгізхан, як сьведчыць гісторыя, забаранялі сваім воінам нішчыць цэрквы на Русі і забіваць сьвятароў. А тут што робіцца! Не, ня будуць гэтыя нелюдзі доўга правіць. Прыйшлі яны да ўлады па-бандыцку, сыграўшы на нізкіх пачуцьцях нікчэмных людзей. Згінуць, пойдуць, як чорная хмара, але бяды ўжо нарабілі болей, чым хто іншы. Так разважаў сам з сабою стары Ёзуб.

У "першага", як некаторыя звалі Бардакова, у той вечар сапсаваўся настрой. Для гэтага была прычына. Настаўніца вясковай школы Чэся, зь якою ён пазнаёміўся, падвёзшы на сваёй машыне, сёньня сказала яму, што цяжарная. Нічога страшнага, супакоіў яе "першы", партыі падпарадкуецца і мэдыцына. Але ягоныя словы нічога ня значылі для Чэсі. Яна хацела мець дзіця. Чэся не патрабавала разьвесьціся з жонкаю і ажаніцца зь ёй, не разыгрывала ніякіх сцэнаў з гістэрыкай. Наогул, нічога ад яго не хацела, а проста хацела стаць маці. Гэта яна сказала "першаму", калі яны засталіся ўдвух. Але "першы" хваляваўся, лічачы, што яе сяброўкі таксама ўсё ведаюць. Значыць, кола асобаў, каму стане вядомая гэтая таямніца зь ягонага жыцьця, будзе пашырана. Гэта ж жанчыны, яны хутка ўсё разьнясуць. А можа, ужо разьнесьлі. Цяпер яму здавалася падазроным тое, як зь ім павітаўся нядаўна ў Горадні, у абкаме партыі, начальнік міжраённага аддзяленьня КГБ. Аддзяленьне знаходзіцца тут, у Ваўкавыску. Магчыма, да падпалкоўніка Данілава ўжо дайшлі якія размовы, мала што пры спатканьні вітаецца, раскланьваецца, так думаў "першы". Ён жа мне нічога ня скажа, а суне "компру" наверх, свайму кіраўніцтву, а гэта значыць, што будзе ведаць абкам партыі. Гэта не сьмяротна, але і не патрэбна, каб хто ведаў.

Хрушчоў забараніў органам дзяржаўнай бясьпекі праводзіць апэратыўную дзейнасьць сярод партыйных работнікаў. Гэта "першы" добра ведаў. Але можна сабраць інфармацыю і не праводзячы афіцыйна ніякай дзейнасьці. Гэтая кантора зьбіраць яе ўмее. У яе сьценах часта гавораць: "хто валодае інфармацыяй – той валодае сьветам". У КГБ засталося шмат людзей, якія лічаць партыю вінаватай ва ўсіх цяжкіх грахах. Яны, маўляў, толькі выконвалі волю партыі, праводзілі яе ўнутраную палітыку ў жыцьцё. Адкрыта, зразумела, гэтага ніхто ня скажа, але партыя мае свае вушы і вочы ўсюды і ведае, што такі настрой існуе. "Першы" меў грахі... не маральнага пляну, а крымінальнага. Ён за сваю раённую міліцыю і пракуратуру быў спакойны. Нават каб выкрылася што-небудзь у калгасе ці райсаюзе, то ён ведае, што тут жа і закрыецца. А вось з КГБ складаней. Тут яго ўлада канчалася.

"Першы" добра разумеў, адкуль бяруцца грошы на ўсе магчымыя сустрэчы і провады кіраўніцтва, падарункі, рэстараны і іншыя гулянкі. З касы дзяржаўнай арганізацыі грошы ўзяць было немагчыма, а вось калгасы і райспажыўсаюз былі сапраўды бяздонныя. Ён рабіў выгляд, што нічога ня бачыць, ня ведае, але вакол былі людзі, якія ўсё бачылі і маглі загаварыць. Больш за усіх ён асьцерагаўся Данілава. Ні ён, ні ягоныя супрацоўнікі не карысталіся паслугамі калгасаў і спажыўсаюзу. "Першы" нават зьдзіўляўся, няўжо жывуць на адную толькі зарплату. Во дурні!

Да ўсяго не хапала яшчэ, каб Чэся нарадзіла ад яго пазашлюбнае дзіця. Сёньня яна нічога ня хоча, але хто ведае, што ўзбрыдзе ей у галаву заўтра або калі народзіцца дзіця. Самае малое, запатрабуе грошай. І нікуды

ня дзенесься, ня скажаш, што гэта правакацыя, паклёп на партыю. Ня той час, на этап ня пусьціш.

"Першы" быў недалёка ад праўды. Ветліва-ласкавы Данілаў усё аб ім ведаў. Ня ведаў толькі аб тым, што Чэся цяжарная. Наогул, сардэчныя справы "першага" і ягоных сяброў менш за ўсё Данілава цікавілі б, каб на гэтых гулянках не марнавалі грошы, проста кажучы, украдзеныя ў калгасах. Данілава і гэта непасрэдна ня тычылася. Ёсьць на тое фінансавыя органы, міліцыя і пракурор. Але гэтая інфармацыя зьявілася, і Данілаў пачаў яе зьбіраць так, на ўсялякі выпадак. Такая ягоная служба – ведаць усё і пра ўсіх. Ён нават завёў картку, куды запісваў вядомыя яму зьвесткі аб чацьвёрцы мужчын, умоўна назваўшы іх "квартэтам".

Асабістая справа на сакрэтнага агента КГБ, тады яшчэ МГБ, Івана, цяперашняга шафёра Бардакова, была перасланая з асобага аддзела арміі з далёкага Паўднёва-Сахалінску. Там, праходзячы тэрміновую вайсковую службу, ён падпісаў дамову супрацоўнічаць з органамі дзяржаўнай бясьпекі. У той жа час завербаваць салдата асабісту вайсковай часьці было лягчэй лёгкага. Хто скажа, што ня будзе дапамагаць органам выкрываць ворагаў народа? Іншая справа, што ня кожны чалавек, нават даўшы падпіску, будзе па-сапраўднаму супрацоўнічаць. Іван жа як агент быў сапраўднай знаходкай. Ён, маючы праставаты выгляд, манэры вясковага хлопца, быў надзвычай назіральным і ўмеў выдзеліць тое, што ўяўляла апэратыўную цікавасьць. Ён не інфармаваў аб тым, што гавораць салдаты ў казарме, хто зьбіраецца пайсьці ў самаволку, ці якім чынам трапляе на тэрыторыю часьці сьпірт. Ён толькі раз патурбаваў асабіста сваім паведамленьнем, што яму давялося ў ліку іншых грузіць у вайсковы самалёт скрынкі, якія не належаць да вайсковай маёмасьці. Ніхто і ніколі не зьвяртаў на гэта ўвагі, а вось Іван зьвярнуў.

Самалёт вылецеў на мацярык, як там казалі. За ім назіралі ва ўсіх пунктах прызямленьня, хоць і не былі ўпэўненыя, што гэта што-небудзь дасьць. Дало! Аж у самой Маскве. Выявілася, ужо даўно перапраўлялася такім чынам вялікімі партыямі чырвоная ікра для продажу празь сетку сталічных рэстаранаў. Была выкрытая цэлая арганізацыя.

Тут Івана сталі арыентаваць на што-небудзь ці на каго-небудзь. Чаго не прыкмячалі іншыя, не магло схавацца ад увагі Івана. Яму нават прапанавалі апэратыўную працу, пасьля спэцыяльнай падрыхтоўкі, зразумела. Іван адмовіўся, сказаўшы, што хоча працаваць шафёрам.

У Зэльве, на радзіме, яго прыстроілі некага вазіць. А праз два гады ён ужо вазіў першага сакратара райкаму партыі.

Летам пяцьдзясят трэцяга, калі ўзялі Берыю і сталі правяраць органы дзяржаўнай бясьпекі, Данілаў, тады яшчэ капітан, ліквідаваў усе сьляды супрацоўніцтва Івана, стараючыся зьберагчы яго як агента.

Іван стаў чыстым, як нованароджаны. Ён мог болей не супрацоўнічаць, і яго да гэтага ніхто ня стаў бы прымушаць, бо апэратыўная дзейнасьць органаў дзяржаўнай бясьпекі ўжо забаранялася ў асяродзьдзі партыйцаў. Але Іван прынцыпова, па сваёй волі, "стукаў" на сваіх таварышаў па партыі, калі тыя парушалі маральны кодэкс будаўніка камунізму. А тыя парушалі. Напэўна, Іван, як і дзед Ёзуб, лічыў: што дазволена простаму чалавеку, не дазволена начальству.

“Першы” ў той жа вечар напіўся, быў па-сапраўднаму п’яны. Іван выспаўся ў машыне і мог ехаць, куды трэба і колькі трэба. Ён па прыезьдзе да месца гулянкі, як заўсёды, аднёс некалькі пакункаў зь пітвом і закускаю ў хату, дзе іх ужо чакалі і сёе-тое ўжо стаяла на стале для першага разу. Вярнуўшыся ў машыну, чытаў і слухаў радыё. Потым гаспадыня хаты прынесла яму вячэру.

“Першы” даволі часта ў стане падпіцьця загадваў Івану аддаць яму руль. Спачатку Іван спрабаваў адгаварыць шэфа, потым, бачачы, што той добра вядзе машыну, супакоіўся. На гэты раз было відаць, што да ранку “першы” трохі праспаўся, ачуняў, але знаходзіўся ў нейкім агрэсіўна-нэрвовым настроі. Не падабаўся Івану такі стан шэфа, што ўжо сядзеў за рулём. Нічога ня зробіш. Ён усяго толькі шафёр, гэта значыць, слуга.

Яшчэ на выезьдзе з гораду машына, паварочваючы ўлева на высокай хуткасьці, ледзь не зьляцела ў канаву. Пранесла. Пасажыры, што сядзелі ззаду, усё гэта бачылі, але прамаўчалі, ведаючы, што “першы” ўсё роўна іх не паслухае, не аддасьць руль Івану. Неўзабаве, хвілін праз 12-15 апынуліся перад даволі складаным кавалкам дарогі, што называўся сярод шафёраў чортавай гарой, цешчыным языком і яшчэ неяк. Дзякаваць Богу, мінулі, праехалі. Празь які кілямэтар будзе кавалак зусім дрэннай дарогі пры аб’езьдзе будоўлі маста. Там трэба збавіць хуткасьць, папярэдзіў Іван. Але “першы”, нібы ня чуючы яго, збавіў хуткасьць недастаткова, машыну страсянула, закінула. Калі за мастом выехалі на шашу, Іван папярэдзіў шэфа, што наперадзе галасуе чалавек. Шэф маўчаў. Ён глядзеў перад сабою, моцна трымаючы руль.

Ад маста дарога забірала на градусаў 15 улева. Іван потым усё стараўся разабрацца ў прычыне наезду на чалавека і ня мог прыйсьці ні да якой высновы. Ён нават дапускаў, што “першы” мог заснуць на імгненьне з адкрытымі вачыма. Такое бывае. Але чаму машына рэзка ўзяла управа? Каб ня гэты манэўр, то сутыкненьня не адбылося б.

Сутыкненьне адбылося. Праехаўшы, машына спынілася. “Першы” ведаў, што пад сядзеньнем Іван заўсёды вазіў заводную ручку, ці, як кажуць шафёры, “крывы стартэр”. Ён імгненна выхапіў яе адтуль і накіраваўся назад, да зьбітага чалавека. Усе кінуліся за “першым”. Ніхто ня ведаў яго намеру, інакш, напэўна, гэтага не дапусьцілі б. Падыйшоўшы да ляжачага чалавека, “першы” адразу з усяго маху стукнуў яго жалезінай па галаве раз, другі, трэці. Нічога не сказаўшы, пайшоў да машыны. Усе іншыя пайшлі за ім. Ужо сядаючы на сваё пасажырскае месца, сказаў: “Гэта была правакацыя”. Ніхто яму не адказаў. “Першы” загадаў свайму шафёру сесьці за руль.

Раней, калі вярталіся з гульбішча, Іван адразу вёз дамоў свайго шэфа, а потым развозіў іншых. Сёньня каля катэджу “першага” выйшлі ўсе чацьвёра, а Іван пагнаў машыну ў райкамаўскі гараж.

У гаражы, пры добрым сьвятле, Іван агледзеў машыну. Пашкоджаньня значнага не было. Была разьбітая правая фара, трохі зьмятае правае крыло, і ледзь бачна “згорбіўся” капот. Ён змог бы сам усё гэта да ранку выправіць, ліквідаваць, але не хацеў гэтага рабіць. Дзікасьць учынку ягонага былога шэфа, так былога, бо ён ужо вырашыў заўтра падаць заяву аб звальненьні, моцна ўразіла яго. Ён ведаў, што міліцыя ня знойдзе вінавата-

га, а чалавека ўжо няма. Як проста! Быў і няма. І ад чыёй рукі? Страшна падумаць! Няхай езьдзяць на свае гульбішчы, няхай п'юць-гуляюць, няхай гвалцяць маладых дзяўчат, няхай робяць, што хочуць, а я ім больш не слуга. Так думаў Іван і вельмі памыляўся.

Дамоў Іван не пайшоў. Не хацелася яму тэлефанаваць з дому. Ноччу сувязістка абавязкова яго размову будзе слухаць. Пазваніць ён можа, толькі замовіўшы ёй тэлефонную размову. Іван пайшоў у бок аўтобуснай станцыі. Там ёсьць тэлефонны аўтамат. Тэлефон у будцы на зьдзіўленьне працаваў, але зь яго немагчыма было званіць у Ваўкавыск. Гэта быў іншы раён. Іван ведаў, як пазваніць у Ваўкавыск з гэтага тэлефона. Ён набраў кароткі нумар дзяжурнай тэлефоннай станцыі і, калі пачуў заспаны голас тэлефаністкі, назваў умоўнае слова і тры лічбы. Гэта быў ягоны сакрэтны код, з дапамогаю якога Іван мог званіць у выпадку крайняй неабходнасьці. Гэты код заўсёды знаходзіўся на стале дзяжурнай АТС, якая павінна была злучыць зь любым нумарам, таго, хто яго назаве.

Жанчына ніяк не магла прачнуцца, таму нічога не разумела. Нават задала недарэчнае ў такім выпадку пытаньне: “А хто гэта гаворыць?” Толькі пасьля таго, як да яе канчаткова дайшло, што трэба зьверыць код з тым, які пачула, яна адразу прачнулася, папрасіла прабачэньня і запытала нумар тэлефона, зь якім належыць зьвязаць. Іван назваў хатні тэлефон Данілава, якому сказаў, што на пачатку чацьвёртай гадзіны “квартэт” вяртаўся з гастроляў, кіравала першая скрыпка, недалёка ад вёскі Хоўстава быў зьбіты чалавек, рэшту скажа толькі асабіста пры сустрэчы. У адказ учуў, што трэба быць дома, яму пазвоняць і вызначаць час і месца спатканьня.

Тым часам вёска ўжо абудзілася. Хоць было сьвята, усё роўна вяскоўцы падымаліся рана. Зьвестка пра гібель Аляксея дасягнула вушэй кожнага, хто толькі выйшаў з хаты. Аляксея добра ведалі, паважалі і цяпер шкадавалі яго. Спачувалі Веры, Васілю, а найбольш Ані. Трэба ж такому здарыцца з родным дзядзькам у час вясельля.

Старыя жанчыны, хрысьцячыся, казалі, што ня будзе добрага жыцьця Ані ў замужжы. Іншыя з гэтым не згаджаліся і казалі, што некалі лічылася, як пад час вясельля ў вёсцы нябожчык, то сям'я будзе моцнай і шчасьлівай. Трэція – што адно другога не датычыць. Але ўсе былі ўстрывожаныя гэтым няшчасьцем. Асабліва людзі абураліся тым, што шафёр уцёк зь месца здарэньня, не дапамог зьбітаму ім чалавеку.

Мужчыны зьбіраліся кучкамі каля чыіх-небудзь варот і выказвалі свае меркаваньні: чыя і адкуль магла быць гэтая машына, што шафёр быў п'яны, таму і ўцёк. Усе сыходзіліся на тым, што як адразу міліцыя ня знойдзе гэтую машыну, то потым ужо знайсьці яе будзе немагчыма.

Узьнікла пытаньне: што рабіць зь вясельлем. Так усё добра ішло, і вось такое здарылася. Пэўна, што ні пра танцы, ні пра песьні ня можа быць нават думкі, але ж вясельле трэба неяк завяршыць тут, у вёсцы. Пра тое, што трэба прадоўжыць вечарам у Слоніме, ніхто цяпер ужо ня думаў.

Бяда бядою, а жыцьцё патрабуе свайго. Гасьцей трэба было накарміць. У прызначаны час пасадзілі іх за стол. Усе яны таксама перажывалі і спачувалі гаспадарам і маладым. Вясельле ператварылася ў памінкі. Музыкі згарнулі свае інструмэнты, атрымалі плату і пайшлі на дарогу, каб дабрацца дамоў.

Сват са свахаю ціхенька арганізавалі ўручэньне маладым падарункаў. Васіль і Вера ўсё зьвярталіся да гасьцей, запрашаючы тых выпіваць і закусваць, казалі, што нічога ўжо ня зробіш, не падымеш Аляксея, нават прасілі прабачыць іх, што гэтак атрымалася, нібы яны былі ў чым-небудзь вінаватыя. Людзям ужо не пілося і ня елася. На гэтым вясельле скончылася, і госьці адбылі ў Слонім тым жа аўтобусам, што і прыехалі.

Выйшаўшы з машыны, "першы" запрасіў усіх зайсьці да яго. Жонка ўжо прывыкла, што мужыка часта ноччу не бывае дома, ужо не пыталася, дзе і што ён робіць. Але такое было ўпершыню, каб ён раніцою вярнуўся дамоў у суправаджэньні цэлай кампаніі. Яна ўстала, запытала, ці трэба што паставіць на стол. Мужык адмахнуўся ад яе і адправіў спаць далей, а сам павёў гасьцей у свой пакой, ці, як ён называў, кабінэт.

Жонка спачувала мужу. Цяжка быць першаю асобаю ў раёне. Нават цяпер, раніцай, ня могуць разыйсьціся. Усё абмяркоўваюць свае партыйныя і гаспадарчыя справы. А як жа па-іншаму? За ўсё галава баліць, да ўсяго ёсьць справа. Зусім пра сябе, пра сваё здароўе ня дбае, усяго сябе аддае працы, усё для людзей стараецца. Вось ён, сапраўдны камуніст-ленінец! Трэба пагаварыць, няхай беражэ сябе. З гэтаю думкаю і заснула.

"Першы" дастаў з шафы бутэльку каньяку і бутэльку гарэлкі. З кухні, зь лядоўкі, якіх там было дзьве, прынёс розную халодную закуску, лімоны і бутэльку шампанскага. Ён меў звычай завяршаць выпіўку шампанскім. На ягоным лексыконе гэта называлася "зашліфаваць". Ён і сёньня ня здрадзіў сваёй прывычцы. Гледзячы на гэта, трое пераглянуліся: "Во дзе сіла духу, во дзе жалезны характар, можна толькі пазайздросьціць". "Першы" разьліў каньяк, сабе наліў гарэлкі. Усе чацьвёра моўчкі выпілі, узялі па дольцы лімона. "Першы" паклаў сабе асятрыны і стаў есьці.

Ніхто з траіх ня ведаў, што будзе далей, але ня вельмі гэтым перайматіся. "Першы" паклікаў, дык няхай і кажа, што ад іх патрабуецца. На тое ён і ёсьць "першы". Для іх нічога не зьмянілася, ён заставаўся іхнім партыйным сакратаром, і партыйная дысцыпліна была вышэй за ўсё.

"Першы", скончыўшы есьці, загаварыў: "Чорт яго вынес на дарогу, пад машыну. Што я павінен быў рабіць? Пакінуць яго жывым, каб ён, крый божа, потым апазнаў машыну, даў паказаньні?" Бога ён згадаў выпадкова, і ад гэтага стала ўсім неяк няёмка.

"Першы" працягваў гаварыць, і голас ягоны станавіўся такім, нібы ён выступае ў райкаме на якім-небудзь паседжаньні. Гэта быў прамоўца, лідэр, салдат партыі, як ён любіў сябе называць, чалавек, упэўнены ў сабе, бо за ім стаяла партыя.

Значыць так, няма чалавека – няма і праблемы, нечакана падвёў вынік "першы". Вы там не былі і нічога ня ведаеце, і наогул, забудзьце пра гэта. Так будзе лепш.

Усе трое дружна заківалі галовамі на знак згоды. Іх вельмі абрадаваў гэтакі канец. Нічога ня ведаем, і на гэтым усё для іх канчалася, нават не пачаўшыся. "Першы" ведае, што кажа. Ці мала людзей гіне на дарогах? Адным болей, адным меней.

Усім траім неяк адразу палягчэла, хацелася штосьці добрае сказаць "першаму", запэўніць яго ў сваёй шчырасьці і адданасьці, сказаць, што яны на ягоным баку і пойдуць зь ім да канца, што ня можна дазволіць, каб з-за

нейкага там вайсковага старшыны ўпала цень на партыю. Партыя павінна быць чыстаю!

Выпілі па другой, а потым і па трэцяй. "Зашліфавалі" шампанскім і, як ні ў чым не бывала, разыйшліся. Задачы ясныя, мэты ўстаноўленыя – за справу, таварышы, як часта казала першая асоба ўсяго сацыялістычнага лягеру таго часу.

"Першы" прачнуўся апаўдні. Прыняўшы ванну, папалуднаваўшы, пайшоў у райкам. Ён заўсёды ў нядзелю хадзіў у райкам. Любіў прайсьціся па вуліцах Зэльвы, калі на гэтых вуліцах было людна. Людзі яму саступалі дарогу, ветліва віталіся зь ім. Як жа магло быть інакш – ішоў "першы". Адзіны ўладар усяго раёну. Безь ягонага адабрэньня нічога ў раёне не рашалася і не адбывалася. Ён мог любога чалавека ўзьняць і апусьціць. Партыя вырашала галоўнае пытаньне – кадравае. Вось дзе яе сіла! У кадрах! Кадры рашаюць усё!

"Першы" ўзяў ключ ад гаража і зайшоў. Агледзеўшы машыну, прыйшоў да высновы, што Іван сам зможа выправіць пашкоджаньні. Сьледу ня будзе. Няхай пройдзе трохі часу, няхай пастаіць, каб не прыцягваць увагу. Трэба зь ім пагаварыць. Можа, нават цяпер.

На званок ніхто ў Іванавай хаце не адазваўся. Усё ж нядзеля, падумаў "першы", недзе пайшоў. У Івану ён быў упэўнены. Іван умеў маўчаць.

У гэты час Іван на сваім матацыкле заехаў у лес, што за вёскаю Пасутычы, куды хвілінаю раней прыехаў Данілаў. Паведаміўшы апошняму ўсё па парадку, папярэдзіў таго, што ў панядзелак ён падасьць заяву аб звальненьні з працы. Данілаў параіў яму гэтага не рабіць. Яму Іван быў патрэбны ў той якасьці, у якой знаходзіўся. Данілаў угаварыў Івана не звальняцца і паводзіць сябе, нібы нічога ня здарылася. Няхай "першы" сам дакладае аб сваім учынку. На гэтым і парашылі.

Пры разьвітаньні Данілаў сказаў, што "першы" хутка стане апошнім. Прыйдзе другі чалавек на ягонае месца, а партыі ён ужо будзе непатрэбны пасьля таго, што сатварыў. Будзе сьледзтва і суд.

Данілаў верыў у партыю, як у самага сябе, а магчыма, нават і болей. Лічыў, што партыя пасьля асуджэньня культу асобы Сталіна ачысьцілася. Выключэньні бываюць, яны непазьбежныя. Вось гэтакім выключэньнем ён лічыў Бардакова. Зарваўся чалавек, вельмі многа на сябе ўзяў. Партыя пазбавіцца ад яго, і далейшы ягоны лёс нікога ўжо ня будзе цікавіць. Атрымае тое, што заслужыў. Пойдзе на "зону".

Калі Іван вярнуўся дамоў, то на стале на кухні ўбачыў аркуш паперы, дзе жончынаю рукою было напісана, што телефанаваў "першы" і чакае яго. Іван пайшоў у райкам. Ён разумеў, што сёньня ўжо нікуды не паедзе. Будзе размова з "першым". Чаго той хоча? Каб я маўчаў? Дык я і так буду маўчаць. Іван ужо астыў, прайшла ягоная рашучасьць звальняцца, а на яе месцы зьявілася нейкая трывога, нават страх ад невядомасьці. Хто ведае, што яны там вырашылі гэтыя чацьвёра ў "першага" раніцою. Можа, ужо згаварыліся, як спрытней мяне зрабіць вінаватым, думаў ён, ідучы. Сваіх зьядаюць, нібы тыя людаеды. Варта іхняму ж таварышу па партыі выказаць сваю думку, якая адрозьніваецца ад іхняй, і яму канец. А хто ёсьць для іх я? Слуга ды толькі, хоць таксама з партыйным білетам. Прападзі ўсё пропадам. Потым усё роўна звольнюся, працягваў разважаць сам з сабою Іван.

“Першы” быў у сваім кабінэце. Івану ня раз даводзілася бываць тут раней. “Першы” даваў яму розныя заданьні непасрэдна сам. Галоўным чынам гэтыя заданьні датычыліся куды-небудзь паехаць, што-небудзь забраць і адвезьці “першаму” дамоў. Напрыклад, са складу райспажыўсаюзу. У калгасы ён ня езьдзіў. Старшыні везьлі яму ўсё самыя і лічылі гэта вялікім гонарам. Іван ведаў, што дзьве лядоўкі на кухні ў катэджы шэфа ніколі пустымі не бываюць. А вось з райспажыўсаюзу ўсё дастаўлялася праз яго. Ды ў якіх колькасьцях, у якім асартымэнце! Іван толькі дзіву даваўся. Ён далёка не заўсёды ведаў, як гэтыя далікатэсы называюцца, і як і з чым іх трэба есьці. А якія каньякі, віны і гарэлкі! Івану вельмі падабаліся некаторыя бутэлькі. Надта ж ужо прыгожыя і фігурыстыя. Часам шэф Івану казаў: “Ты і сябе ня крыўдзі, бяры, што табе прыглянецца”. Іван любіў селядцы, вэнджанае сала, а прысмакі – гэта не для яго. Некалькі разоў і для Івана паклалі асобна селядцоў, сала венгерскага і цукерак дзецям і жонцы. Напэўна, так загадаў шэф.

Яму аднойчы давялося, самому ня хочучы, пачуць размову паміж старшынём райспажыўсаюзу і загадчыцаю складам. Ён прыехаў на склад і ціха ўвайшоў. Загадчыца са сваёй канторкі па тэлефоне размаўляла, як ён зразумеў, з старшынём. Яна скардзілася, што вымушаная дарма даваць на вялікія сумы грошай розныя тавары, робячы ў сябе на складзе недастачу, плакала.

“Першы” падаў Івану руку і сказаў: “Сядай”, – паказаўшы на мяккае крэсла каля століка для часапісаў у куце кабінэту. Іван ведаў, што далёка ня кожнага гаспадар запрашае сесьці там. У такім разе яму самому даводзілася сядаць за той жа часапісны столік. Гэта нібы ўраўноўвала яго з тым, хто сядзеў насупраць. Гэты маленькі столік не аддзяляў яго ад госьця, а наадварот, зблізжаў, настройваў размову на даверлівы, не службовы тон. Гэта быў адзін зь ягоных псыхалягічных спосабаў узьдзеяньня на чалавека – паказаць сябе такім простым, выклікаць прыхільнасьць да сябе. Гэта ўсё ведаў Іван.

“Першы” любіў быць за сваім службовым шырачэзным сталом. Там ён адчуваў сябе лепш. Паміж ім і чалавекам павінен быць ягоны стол. Гэта падкрэсьлівала рознасьць іхных узроўняў, дысцыплінавала.

Іван быў яшчэ больш зьдзіўлены, калі “першы” дастаў з сэйфу бутэльку каньяку, дзьве крышталёвыя шклянкі, схадзіў у невялічкі пакойчык, дзьверы ў які вялі проста з кабінэту, прынёс яшчэ і закуску. Не падабалася ўсё гэта Івану. Яшчэ чаго добрага, атруціць, падумаў ён. Ад гэтага чалавека цяпер усяго можна чакаць, але тут жа пастараўся адагнаць гэтую думку.

“Што, Іван, зьдзіўлены? – запытаў шэф. – Не зьдзіўляйся. Ты мяне ведаеш, я чалавек просты і цябе паважаю ня толькі як свайго шафёра, але і як таварыша па партыі. Цяпер мы абодва трапілі ў непрыемную гісторыю. Ты разумееш, пра што я кажу, але ты ня бойся, ня падай духам. Са мною разам ты не прападзеш”.

“Чаму я магу прапасьці?” – падумаў Іван, – яшчэ ня ведаючы, куды хіліць шэф. Гэта яму трэба турбавацца за сябе, ён забіў чалавека. “Першы” перпыніў ягоныя намаганьні штосьці зразумець, працягваў. “Партыя як нас вучыць? – спытаў Івана “першы”, і сам тут жа адказаў на сваё пытаньне: – Партыя нас вучыць, што няма такога становішча, зь якога не было б вый-

сьця. Наш правадыр Ленін што казаў? – зноў задаў рытарычнае пытаньне Іванаў шэф. Зноў сам адказаў: – Ленін вучыў і вучыць, што ня трэба стаяць на адным месцы, а заўсёды рухацца наперад. Так і мы, Іван, з табою павінны рухацца, думаць. Я ўжо добра падумаў і вырашыў, што трэба рабіць. Перш за ўсё ты, Іван, захварэй і не хадзі на працу. Гэта мне дапаможа езьдзіць на іншай машыне, сваю не чапаць, тлумачачы тваёй хваробай. А сам ты ў шапку ня сьпі, а шукай фару, шпаклёўку і фарбу. Шукаць лепш за ўсё далей ад Зэльвы. Едзь куды хочаш, але ўсё купі. Купляць будзеш за наяўныя грошы". – З гэтымі словамі "першы" адчыніў сэйф, узяў пачак грошай і падаў Івану.

"Бяры-бяры, – сказаў ён разгубленаму Івану. – А мала будзе – атрымаеш столькі, колькі спатрэбіцца", – і ўсунуў грошы Івану ў руку. Іван стаў казаць, што гэтых грошай зашмат, але "першы" спыніў яго рашучым жэстам. Нічога не заставалася, як пакласьці гэтую тысячу ў новых грошах у кішэню.

"Першы" працягваў павучаць Івана далей. "У Менску, у таксістаў, можна купіць усё, толькі не прагаварыся, хто ты і адкуль. Вернесься – бярыся за справу. Працаваць будзеш ноччу. Каля гаража ў той час нікога няма, але ты дзьверы добра зачыні зь сярэдзіны і чым-небудзь завесь. Менш цябе будзе чуваць, і сьвятло ня будзе відаць.

Гэта, так казаць, адзін варыянт. Ёсьць другі варыянт, запасны, так скажам, на ўсялякі выпадак, калі, што амаль немагчыма, выйдуць органы на цябе". Учуўшы гэта, Іван аж задрыжэў і перапытаў: "На мяне?"

"Першы" пільна паглядзеў яму ў вочы і паўтарыў: "На цябе, Ваня, на цябе". Трохі памаўчаўшы, спытаў: "Хіба ты забыўся, што працуеш шафёрам ты, а ня я?"

Цяпер маўчалі абодва. Іван думаў, і "першы" не перашкаджаў яму ў гэтым. Івану стала ўсё зразумелым. Паводле другога варыянту, ён, ні ў чым не вінаваты, павінен будзе ўзяць віну ў сьмерці чалавека на сябе, выгарадзіць шэфа, уратаваць ягоную кар'еру, а самому ісьці за краты. Вось яно што!

Услых Іван нічога не сказаў, але рашуча падумаў: нічога ў цябе ня выйдзе, Данілаў усё ўжо ведае, і заўтра будуць ведаць у Горадні тыя, каму ён дакладзе. Дарэмна пляцеш павуціну, сваё ты ўжо адсакратарыў, верны ленінец.

"Першы" лічыў сябе добрым псыхолягам. Ён разумеў, у якім стане знаходзіцца Іван, ведаў, што трэба таго маральна зламаць. Іван не супраціўляўся, не пратэставаў, і гэта давала надзею на поўную перамогу.

Галоўнае, каб Іван на першым допыце ня стаў гаварыць, як усё было насамрэч. Няхай потым ужо мяняе свае паказаньні, грош ім будзе цана, разважаў Бардакоў.

Ён так разважаў, а сам амаль ня верыў, што да гэтага сапраўды дойдзе. Яго толькі трохі непакоіла тое, што ягонаю ахвяраю стаў вайсковец. Вышук можа выйсьці з-пад кантролю начальніка міліцыі і пракурора. У вайскоўцаў свае парадкі, але партыя і ў іх тая ж самая, камуністычная, супакойваў сябе партыйны сакратар цэлага раёну. "Першы" зноў загаварыў, зьвяртаючыся да Івана. "Бачу, ты ўсё правільна зразумеў. Але, паўтараю, гэта на крайні выпадак, якога, я ўпэўнены, ня будзе. Тым ня менш, трэба і яго пра-

дугледзець. Падумай, і ты зразумееш, што мяне абвінаваціць у наезьдзе на таго небараку, што вылез на дарогу, немагчыма. Я спаў у час руху на сваім месцы, нікога больш у машыне не было, а перад дарогаю я добра выпіў. Што адбылося на дарозе, я ня ведаю. Ведай, Ваня, павераць мне і іншым, а не табе".

Іван прыйшоў да высновы, што сакратар вядзе зь ім адкрытую размову, ставячы яго, Івана, на тое месца, на якім ён можа аказацца, калі насамрэч міліцыя ці хто там яшчэ выйдуць на райкамаўскую машыну. "Зваліць" на яго ўсё, што адбылося, лягчэй лёгкага. Ён адзін, а іх чацьвёра, сыграны "квартэт". Што скажуць – тое і будзе. Данілаў мне тут не дапаможа, ён там ня быў, а я – асоба зацікаўленая, і мне веры ня будзе нідзе.

Іван ужо каяўся ў тым, што ўсё расказаў Данілаву. Ён разумеў, што без паказаньняў на карысьць Івана двух старшыняў калгасаў і загадчыка дзяржінспэкцыі нарыхтовак ні Данілаў, ні высокае кіраўніцтва ў Горадні і Менску яму не дапамогуць. Ды яшчэ пытаньне, ці наогул захочуць яны гэта рабіць. Выходзіць, шэф на самай справе можа лёгка ад маіх паказаньняў абараніцца. Атрымліваецца, што кругом вінаваты адзін я.

Ад гэтага выніку ягонай аналітычнай дзейнасьці Івану зрабілася млосна, сэрца забілася мацней і часьцей, кроў стукнула ў галаву.

Бардакоў назіраў за Іванам і бачыў зьмену, якая з тым адбывалася. Ён, як кажуць, каваў пакуль гарачае, а прасьцей кажучы, дабіваў таго маральна.

"Калі ты будзеш абвінавачваць мяне, зь цябе толькі пасьмяюцца, як з дурня. Дзе ж гэта бачна, каб першы сакратар райкаму партыі вазіў свайго шафёра, а не наадварот, – зноў загаварыў "першы". – Ты толькі ўскладніш сваё становішча, ты ня будзеш мець ад мяне падтрымкі, і што будзе далей, ты ўжо, напэўна, здагадаўся. Я ня вораг табе, мы не адзін год працуем разам, ты павінен мне верыць, я твой таварыш па партыі, я твой камандзір, калі глядзець па-вайсковаму. А што кажа салдацкая прымаўка? – зноў запытаў "першы" і тут жа сам адказаў: – Яна гаворыць: сам загінь, а камандзіра выратуй. Вось як, Ваня!" – павучальным тонам падкрэсьліў "першы".

Трохі памаўчаўшы, сакратар пранікнёна стаў гаварыць зноў. "Калі ты, Ваня, будзеш разумна сябе паводзіць, мая дапамога табе гарантаваная. Ты мяне ведаеш – я ўсё магу. І я зраблю для цябе ўмоўнае пакараньне, нават правоў цябе не пазбавяць. Будзеш працаваць, як і працаваў. Гэта зноў жа, на крайні выпадак. А можа абыйсьціся зусім добра, толькі казаць сьледчаму трэба разумна. Ня бойся, ніхто цябе пальцам не кране. Скажаш, ехаў, нешта стукнула ў правы бок машыны, думаў, што гэта сабака ці якая начная птушка. Не спыніўся, а толькі прытармазіў, узяўшы ўправа, паехаў далей. Пра здарэньне на дарозе ня ведаў, бо захварэў і ляжаў у хаце. Галоўнае, стой на сваім, ня вер, калі будзе хто табе казаць, што чыстасардэчнае прызнаньне табе дапаможа. Гэта ня той выпадак. Вось так, Ваня! Вучыся, пакуль я не адракаюся ад цябе. Ня бойся, не адракуся, толькі сам сабе не нашкодзь. Вышэй галаву, няма становішча бяз выйсьця, а цяпер давай вып'ем за посьпех тваёй справы».

Івану палягчэла. У яго нават зьявілася пачуцьцё ўдзячнасьці да "першага" і сораму за сябе, што хутчэй пабег званіць і дакладаць Данілаву аб

тым, што бачыў. Ён ужо зноў быў паслухмяным і адданым, нібы той пёс, свайму гаспадару. Нічога, усё добра, разважаў Іван, а машыну ўсё роўна трэба будзе яму рамантаваць. Вось ён заўтра і паедзе шукаць усё для гэтага неабходнае.

“Першы”, сочачы за Іванам, зразумеў, што сваю справу ён ужо выйграў яшчэ да сьледзтва і суду, а гэты чарвяк яе прайграў, прайграў канчаткова. Але пакідаць Івана нельга, трэба яму дапамагаць, калі што, падумаў “першы”, бяручыся за бутэльку.

Аб тым, што загінуў зьбіты машынаю іхні старшына звыштэрміновай службы, у ракетным палку стала вядома яшчэ ў нядзелю ранкам. Афіцэру асобага аддзелу, які прадстаўляў службу вайсковай контрвыведкі, паведамілі аб здарэньні адразу.

Яго вельмі занепакоіла тое, што міліцыяй не была выяўленая машына, што зьбіла Аляксея. Гэтая акалічнасьць уздымала пытаньні і вэрсіі, якія трэба было правяраць. Хоць загінулы ня быў носьбітам вялікіх сакрэтаў, не валодаў той інфармацыяй, якой валодала некалькі афіцэраў у палку, але ён служыў у сакрэтнай часьці, а гэта ўжо само па сабе патрабавала правесьці дасканалую праверку. Таму маёр дзяржаўнай бясьпекі Бірукоў у панядзелак да пачатку працы быў ужо ў сьледчага Зэльвенскай пракуратуры.

Яшчэ ўчора маёр праверыў усё, што было зьвязана з сакрэтнасьцю на службе Аляксея. Там быў поўны парадак: як у матэрыяльнай частцы, так і ў дакумэнтах. Але гэта яшчэ ні пра што не гаварыла. Паводле галоўнай вэрсіі, магчыма, быў зьдзейсьнены захоп Аляксея з мэтаю атрыманьня сакрэтнай інфармацыі, а потым ён быў забіты. У гэтую вэрсію Бірукоў ня верыў. Яна нарадзілася ў галаве ягонага кіраўніка, што сядзеў аж у Смаленску. Правяраць даводзілася Бірукову, таму ён і зьявіўся да сьледчага, каб даведацца пра тое, што ўжо вядома па гэтай справе.

Сьледчы і маёр зайшлі да пракурора раёну, і той, выслухаўшы іх, распарадзіўся прадаставіць усе паперы, якія меліся ў сьледчага адносна гэтай справы, асабісту. Папераў, як вядома, было няшмат. Міліцыя яшчэ не знайшла машыну і пакуль ніякай надзеі на гэта ня мела.

Сьледчы ўжо напісаў пастанаўленьне аб правядзеньні судова-мэдыцынскай экспэртызы. У Зэльве свайго судмэдэкспэрта не было. Калі такая патрэба ўзьнікала, экспэртызу праводзіў экспэрт з Ваўкавыску, што працаваў на некалькі раёнаў. Сёньня таксама сьледчы патэлефанаваў да яго і папрасіў прыехаць як мага хутчэй, саслаўшыся, што вынікам цікавяцца вайсковыя інстанцыі. Экспэрт паабяцаў праз гадзіну быць. Ён меў службовую машыну.

Каля дзясятай гадзіны пад’ехаў экспэрт. Сьледчы з маёрам ужо чакалі яго каля моргу раённага шпіталю.

Сьледчы ніколі не прысутнічаў пры правядзеньні падобных экспэртызаў. Не хацеў і ня бачыў у гэтым ніякага сэнсу. Экспэрт ведае сваю справу, адкажа на пастаўленыя перад ім пытаньні, усё падрабязна растлумачыць у акце экспэртызы.

Але маёр з вайсковай контрвыведкі пажадаў ягонай прысутнасьці. Ён добра разумеў маёра. Для таго цяпер вынікі экспэртызы маглі мець вырашаючае значэньне, маглі пацьвердзіць або адкінуць вэрсію, зь якою прыехаў маёр.

Сам сьледчы быў схільны болей лічыць, што Аляксей загінуў выпадкова, а шафёру машыны ўдалося пакуль што затаіцца. Экспэрт праз хвілін дваццаць паклікаў абодвух падыйсьці бліжэй да стала і стаў тлумачыць: пацярпелы быў зьбіты ударам машыны ў левае сьцягно. Аб гэтым сьведчыць мноства паломаў касьцей, што характэрна для траўмаў пры дарожна-транспартных здарэньнях. Пры падзеньні пацярпелы не атрымаў іншых пашкоджаньняў цела. Траўма бядра сумяшчальная з жыцьцём і не зьяўляецца прычынаю сьмерці. Сьмерць пацярпелага надыйшла ад чэрапна-мазгавой траўмы, якая была нанесеная трыма ўдарамі цьвёрдым і цяжкім прадметам, магчыма, мэталёвым. Кожны з гэтых удараў мог быць сьмяротным, так як кожны зь іх разбураў косьці чэрапа і мазгавую матэрыю. Пашкоджаньні ад гэтых удараў не сумяшчальныя з жыцьцём. Аб тым, што былі нанесеныя тры ўдары ў галаву, сьведчаць трэшчыны касьцей чэрапа. Удары наносіліся тады, калі пацярпелы ляжаў на зямлі, аб гэтым сьведчаць сьляды крыві, бачныя на целе, на фотаздымках, прыкладзеных да пратаколу агляду цела. Гаворачы ўсё гэта, экспэрт паказваў і тлумачыў, чаму ён робіць такія высновы.

Тут мае месца наўмыснае забойства, падвёў вынік экспэрт. Падрабязна я ўсё падам у акце экспэртызы. Колькі выпіў алькаголю, таксама падам у акце, але пасьля лябараторных дасьледаваньняў пробаў крыві. Цяпер ужо магу з упэўненасьцю сказаць, што пацярпелы выпіў няшмат. Акт судова-мэдыцынскай экспэртызы будзе гатовы не раней, чым праз тыдзень, завяршыў экспэрт. Давядзецца чакаць вынік лябараторных дасьледаваньняў з Горадні. Абодва, сьледчы і маёр, з павагаю паглядалі на экспэрта, і кожны зь іх ужо думаў аб пераменах у далейшай хадзе сьледзтва.

Маёр спытаўся, дзе знаходзіцца ваенны камісарыят. Зразумеўшы, як туды праехаць, кінуўся да сваёй машыны. Тое, што ён пачуў ад экспэрта і ўбачыў сваімі вачыма, сьведчыла пра забойства, але не зусім вязалася з вэрсіяй аб захопе Аляксея разьведкаю верагоднага праціўніка. Разьведка так прымітыўна, так неадукавана ня дзейнічае. Тут нешта іншае, разважаў маёр Бірукоў. Ён разумеў, што ўсё роўна, незалежна ад ягонай апініі, цяпер ужо машыну, што зьбіла Аляксея, будуць шукаць і апэратыўнікі вайсковай контрвыведкі.

Каля адзінаццатай гадзіны Бірукоў ужо зьвязаўся па ВЧ-сувязі з сваім кіраўніком у Смаленску. Той, выслухаўшы, адразу прыняў рашэньне: знайсьці машыну сваімі сіламі і сродкамі, не чакаць, пакуль гэта зробіць міліцыя. Другога рашэньня быць не магло. Кіраўнік паведаміў, што ўжо сёньня вылеціць апэратыўная група, будуць прынятыя і іншыя захады, загадаў групу спаткаць, давесьці да яе камандзіра сутнасьць справы непасрэдна на месцы, арганізаваць вышук машыны.

У той самы дзень а пятай гадзіне Бірукоў ужо сустракаў апэратыўную групу вайсковай контрвыведкі, што прыляцела вайскова-транспартным самалётам на аэрадром цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў далёкага дзеяньня пад Баранавічамі. Гэтая група мела ўсё сваё: легкавыя машыны, сродкі сувязі, правіянт, вайсковае і цывільнае адзеньне і іншыя тэхнічныя сродкі для правядзеньня апэратыўна-вышуковай дзейнасьці.

Галоўным было тое, што апэратыўная група не залежала ад мясцовых уладаў, а наадварот, мела шырокія паўнамоцтвы. Яна мела правы атрыманьня неабходнай інфармацыі ад міліцыі і мясцовых органаў КГБ. Міліцыя

нічога яшчэ не зрабіла, а апэратыўны ўпаўнаважаны КГБ па Зэльвенскім раёне ніякай інфармацыі ня меў.

Старэйшы групы падпалкоўнік Шчаглоў і маёр Бірукоў у панядзелак вечарам былі ў Зэльве. На гэты раз у міліцыі. Яны ўжо мелі сьпіс усіх аўтамашынаў "Волга", зьвесткі аб іх знаходжаньні ў ноч з суботы на нядзелю. Заставалася агледзець гэтыя машыны спэцыялістам.

У гэты сьпіс міліцыяй не былі ўключаныя дзьве машыны: першага сакратара райкаму партыі і старшыні райвыканкаму. Хутка былі праверана амаль усе машыны, занесеныя ў сьпіс. Выключэньнем былі тыя, што выехалі з раёну. Але аб іх ужо меліся зьвесткі. Пасьля вяртаньня будуць праверана таксама. Надзей на адшуканьне машыны не было. Пошук у Зэльве і раёне нічога ня даў. Шчаглоў і Бірукоў былі вымушаныя прызнаць гэта, дакласьці кіраўніцтву і думаць, што рабіць далей. Загад знайсьці машыну, што зьбіла Аляксея, ніхто не адмяняў.

Яны распрацавалі плян, паводле якога вышук машыны пашыраўся ў бок Горадні і ў бок Баранавічаў, а ад Баранавічаў – далей па ўсіх напрамках. Кожная гадзіна часу толькі на руку шафёру-ўцекачу. Яны гэта добра ведалі і шукалі, шукалі.

Але хто той уцякач? У Зэльве і раёне няма ніводнай "Волгі", якая была б уласнасьцю грамадзяніна. Усе машыны належаць дзяржаўным арганізацыям або калгасам. А тут такая справа, што забойца ехаў "Волгаю". Дык хто ж ён можа быць?

Яшчэ ў аўторак папалудні ў Зэльве ўжо, акрамя маладога лейтэнанта і двух байцоў, нікога не засталося. Здавалася, што і яны тут ужо былі непатрэбныя. Але падпалкоўнік Шчаглоў думаў інакш. Ён пакінуў гэтую маленькую групу для сталай сувязі зь мясцовымі органамі міліцыі, пракуратуры і ўпаўнаважаным КГБ па Зэльвенскім раёне. Гэтыя трое мелі машыну з сувязьзю, начавалі пры ваенкамаце.

Лейтэнант па ўласнай ініцыятыве кожны дзень з двума сваімі байцамі і з кім-небудзь зь міліцыі праводзіў час на шашы Слонім-Ваўкавыск каля Зэльвы. Зь яго ўжо пасьмейваліся ў раённым аддзеле міліцыі, неахвотна выдзялялі яму ў дапамогу міліцыянта. А ён настойліва стаяў на шашы, спыняў машыны "Волга", аглядаў іх, запісваў нумары і адрасы. Гэтак было і ў гэты дзень, у чацьвер.

Амаль усе мясцовыя машыны лейтэнант ужо памятаў, ведаў іхных уладальнікаў, таму спыняць іх ужо ня мела сэнсу. Лейтэнант пытаўся ў мясцовага міліцыянта, хто едзе ў той ці іншай машыне. Міліцыянт – малодшы сяржант – некалькі месяцаў таму назад скончыў курсы "Выстрал". Для яго было гонарам тое, што яго прызначылі для дапамогі вайсковай контрвыведцы. Сяржант стараўся. Зэльву і раён ён добра ведаў, бо быў мясцовым.

На гэты раз у "Волзе" ехаў чалавек, якога лейтэнант бачыў упершыню, але машына была ўжо знаёмая, правераная. Не пасьпеў ён спытаць у сяржанта, хто гэта едзе, як той выцягнуўся і аддаў чэсьць. "Волга" праехала, а сяржант, на зьдзіўлены позірк лейтэнанта стаў тлумачыць, што праехаў першы сакратар Зэльвенскага райкаму партыі.

Думка аб тым, што першы сакратар ехаў не ў сваёй машыне, а калгасу "Імя Леніна", адначасова ўзьнікла ў абодвух. Ужо не чакаючы пытаньня, сяржант зьдзіўлена прамовіў: "А чаму ён паехаў не на сваёй машыне?"

– Якая ў яго машына? – спытаў лейтэнант.

– “Волга” колеру кавы з малаком, – адказаў сяржант, задумаўшыся.

– Нумар машыны памятаеш? – з надзеяй у голасе спытаў лейтэнант.

– А як жа, – адказаў сяржант і назваў нумар.

Лейтэнант ужо трымаў аркуш паперы з нумарамі ўсіх “Волгаў”, што меліся ў раёне. Там названага нумару не было. Дзіўна, падумаў лейтэнант, што б гэта магло значыць?

А значыла гэта вось што. У сьпіс не былі ўключаны дзьве машыны: райвыканкамаўская і першага сакратара райкаму партыі. Райвыканкамаўскую машыну інспэктар ДАІ не ўключыў па той прычыне, што яна была ўласнасьцю аблвыканкаму і ў раёне на ўліку ня значылася. А вось райкамаўскую машыну дзяржаўтаінспэктар не ўключыў у сьпіс наўмысна, лічачы, што сакратар райкаму партыі ня можа быць на падазрэньні і недапушчальна зьневажаць яго праверкаю машыны, пытаньнямі, дзе была машына ў ноч з суботы на нядзелю, асабліва ў ранішнія гадзіны. Але пра гэта пакуль ня ведалі.

Гэтае пытаньне лейтэнант задаў сяржанту. Той моўчкі паціснуў плячыма, але прыгадаў, што ўжо некалькі дзён ня бачыў машыну “першага”. Нават у райаддзеле аб гэтым нехта гаварыў.

Лейтэнант насьцярожыўся і спытаў: “Што ты аб гэтым думаеш, Дзіма?” “Нават ня ведаю, што і думаць, Ігар”, – у тон таму адказаў міліцыянт, якому вельмі падабалася, што гэты афіцэр контрвыведкі зь ім быў на “ты”, па-простаму, і да яго стаў зьвяртацца гэтак жа, без “таварыш лейтэнант”.

“Ты памятаеш, якога колеру машына, што шукаем?” – запытаў лейтэнант. “Памятаю, такога ж, што і ў сакратара партыі”, – адказаў сяржант, баючыся нават прадоўжыць сваю думку далей.

“А ці ведаеш, дзе яна стаіць? – зноў спытаў лейтэнант. – Правільней кажучы, дзе яе гараж?” – паправіўся ён.

“Ведаю, – адказаў сяржант. – Але няўжо ты адважысься ехаць і агледзець яе? Гэта ж “першы”! Ты хоць гэта разумееш?” “Гэта я добра разумею, але для мяне няма ні першых, ні апошніх, у мяне ёсьць загад: знайсьці машыну “Волга” колеру кавы з малаком, магчымыя пашкоджаньні... Трэба далей працягваць?”

Сяржант адказаў, што ня трэба. “А раз ня трэба, тады сядай у машыну і паказвай дарогу”, – ужо тонам загаду сказаў лейтэнант.

Па дарозе міліцыянту зрабілася нейк няёмка ад таго, што ён будзе разам зь лейтэнантам правяраць машыну самаго “першага”. Ён добра памятаў навуку аднаго старшыны, што раіў яму абыходзіць бокам раённае кіраўніцтва, асабліва райкамаўскае. Тады той сказаў: “Не чапай – сьмярдзець ня будзе”.

Памятаючы гэтую навуку, сяржант паказаў, дзе знаходзіцца гараж, але сам туды не паехаў. Лейтэнант прыехаў да гаража, але той быў зачынены і побач нікога не было. Ён зайшоў у будынак райкаму партыі і зьдзівіўся той цішыні, якая там панавала. Людзі тут рухаліся нячутна і размаўлялі амаль шэптам, нібы ў царкве.

Лейтэнант зайшоў у нейкі кабінэт і, сказаўшы хто ён ёсьць, спытаў, хто зможа адчыніць дзьверы ў гараж, дзе стаіць “Волга” першага сакрата-

ра, што ён хоча яе агледзець. Чалавек зьдзіўлена на яго зірнуў і, не адказаўшы на пытаньне, спытаў, ці ведае той, куды трапіў.

“Так, ведаю, – адказаў лейтэнант. – Гэта райкам партыі. Тым ня меней, я хачу бачыць машыну, на якой езьдзіць “першы”. Такі маю загад”.

“Вы не разумееце, – лагодна, як зь дзіцём, загаварыў райкамаўскі чалавек. – Сюды нельга прыходзіць і патрабаваць. Тут толькі можна прасіць, а вы, малады чалавек, настойваеце на аглядзе машыны першага сакратара. Вы што, не давяраеце партыі? Назавіце яшчэ раз вашае прозьвішча, нумар вашай вайсковай часьці і прозьвішча вашага каманзіра. Мы будзем інфармаваць яго і палітычны аддзел аб вашых паводзінах, вы недастаткова палітычна адукаваны”.

Калі райкамавец пачуў, што перад ім вайсковы контрвыведчык, то трошкі сумеўся, але толькі на імгненьне. Ён зноў загаварыў, што партыя ня можа быць пад падазрэньнем, а дзеяньні лейтэнанта кампрамэтуюць партыю перад народам, што да партыі трэба ставіцца з павагаю.

Але лейтэнант стаяў на сваім. Ён павінен агледзець машыну, і ён гэта зробіць. Выходзячы з кабінэту, так нічога і не дабіўшыся ад гэтага цьвердалоба-фанабэрыстага партыйнага функцыянэра, Ігар сказаў, што будзе чакаць ключы ад гаража ня больш за тры хвіліны, а потым аддасьць загад сваім салдатам зламаць дзьверы.

Прайшло тры хвіліны. Ніхто не сьпяшаўся несьці ключы. Лейтэнант пачакаў яшчэ некалькі хвілін і загадаў шафёру ўзламаць замок на дзьвярох. Той чакаць сябе не прымусіў, і манціроўка зрабіла сваю справу.

Лейтэнанту хапіла аднаго толькі позірку, каб зразумець, што перад ім машына, якая нядаўна атрымала пашкоджаньні ў тых месцах, аб якіх гаварылі Шчаглоў і Бірукоў, арыентуючы апэратыўнікаў. Была разьбітая правая фара, трохі ўздыблены капот, зьмятае правае пярэдняе крыло. Тут жа, на скрынцы, ляжала новая фара, бляшанка шпаклёўкі і бляшанка фарбы.

На душы ў лейтэнанта палягчэла. Ён ведаў, што яму было б, каб яго-ны напад на райкамаўскі гараж аказаўся неабгрунтаваным.

Ён выйшаў з гаража, прыкрыў дзьверы, паклікаў салдата і загадаў таму стаць са зброяй каля дзьвярэй, нікога не падпускаць нават блізка. Сам зьняў трубку радыётэлефона і далажыў падпалкоўніку Шчаглову, што ўсё ў парадку, машына з пашкоджаньнямі знойдзеная, ён знаходзіцца каля гаража райкаму партыі ў Зэльве.

Тым часам з райкаму партыі патэлефанавалі ў пракуратуру і міліцыю, скардзячыся на самаўпраўныя дзеяньні нейкага “смаркача ў форме лейтэнанта”. Тут жа зьявіліся пракурор і начальнік міліцыі зь некалькімі міліцыянтамі. Пасьля таго, як лейтэнант паказаў ім пашкоджаньні на машыне, рашучасьць іхняя зьнікла і абодва папляліся ў райкам партыі клясьціся і бажыцца, што яны тут ні пры чым, што нічога зрабіць гэтаму лейтэнанту ня могуць.

Праз гадзіну-паўтары прыехалі Шчаглоў зь Біруковым, тут жа зьявіўся сьледчы пракуратуры, што на хаду кінуў лейтэнанту: “Віншую”, – і сам прыступіў да агляду машыны і складаньня пратаколу. Быў дастаўлены сюды Іван, шафёр. Ён усё сказаў так, як ад яго патрабаваў “першы”.

Іван ужо расказаў усё жонцы, і яны прыйшлі да адзінай думкі, што віну Івану трэба браць на сябе, казаць так сьледчаму і ў судзе, як вучыў яго

“першы” паводле другога варыянту. Яны баяліся за сваю будучыню, за лёс дзяцей, таму канфліктаваць зь “першым” не рашыліся.

“Першы” зьвязаўся з пракурорам і сказаў таму, што жадае, каб Іван ня быў арыштаваны. Іван застаўся на волі да суду.

Данілаў у той жа дзень далажыў свайму начальніку ва ўпраўленьне дзяржаўнай бясьпекі ўсё, як расказаў яму Іван. Начальнік упраўленьня параіў Данілаву быць ад гэтай справы як мага далей, нічым не праяўляць сваёй абазнанасьці, спаслаўшыся на тое, што яшчэ невядома, у якім кірунку пойдзе сьледзтва, і якую пазыцыю зойме абкам партыі. Далажыць асабіста першаму сакратару абкаму партыі паабяцаў у панядзелак.

Дакладаючы аб забойстве першаму сакратару абкаму партыі, начальнік УКГБ спаслаўся на агентурныя зьвесткі, пакуль што не правераныя. «Першы» адразу за гэта ўхапіўся. Не правераныя, кажаш, дык правер, а потым нясі іх мне. Цяпер ня тое, што раней было, трэба ўсё правяраць. Партыя ў гады культу асобы Сталіна панесла цяжкія страты. Тое ўжо ў мінулым. Цяпер трэба ўсё правяраць, а потым ужо абвінавачваць. Магчымы паклёп і шальмаваньне, аб гэтым таксама памятайце.

Начальнік УКГБ зразумеў, што сакратар абкаму партыі ўжо заняў пазыцыю на баку сакратара Зэльвенскага райкаму партыі. Ён нават ня стаў цікавіцца падрабязнасьцямі. Але іх, гэтых падрабязнасьцяў, ня меў нават Данілаў. Пакуль што ня меў.

Цяпер Данілава больш за ўсё цікавіла тое, як будзе сябе паводзіць зэльвенскі “першы”, ён спадзяваўся, што Бардакоў застанецца чалавекам і сам пойдзе і здасца з павіннаю. Але ён памыляўся, бо ня ведаў аб размове паміж “першым” і Іванам, якая адбылася ўжо пасьля іхняга спатканьня ў лесе.

Цяпер Данілаў чакаў. Ён ведаў, што судова-мэдыцынскі экспэрт паехаў у Зэльву праводзіць экспэртызу па вядомай справе. Галоўнае цяпер тое, што скажа экспэртыза, а іншыя доказы знойдуцца. Яны, лічы, ужо ёсьць. Бардакоў быў не адзін, акрамя яго чатыры чалавекі. Шыла ў мяшку не схаваеш. Так разважаў сам з сабою Данілаў і зноў памыляўся.

Каля палудня Данілаў атрымаў зьвестку, што экспэрт з Зэльвы вярнуўся. Ён мог па тэлефоне спытаць у экспэрта аб выніках экспэртызы. Але Данілаў быў чалавекам інтэлігентным і ніколі не падкрэсьліваў свайго высокага становішча. Ён да экспэрта паехаў сам. Той ніколькі не зьдзівіўся гэтаму візыту і паведаміў Данілаву тое самае, што ўжо паведамляў гадзіны паўтары назад сьледчаму Зэльвенскай пракуратуры і асабісту.

Значыць, Іван ня хлусіць, кажа праўду. Мае месца наўмыснае забойства. Толькі матыў забойства незразумелы. Больш падобна на хуліганства.

Данілаў папрасіў адзін асобнік акту для сябе, калі той будзе гатовы і, падзякаваўшы, разьвітаўся.

Данілаў быў вельмі непрыемна зьдзіўлены тым, як аднёсься першы сакратар абкаму партыі да паведамленьня ягонага начальніка. Будуць вам доказы, будуць, трохі пачакайце! Ён сам не хацеў апярэджваць афіцыйнае сьледзтва, але ведаў, што ў любы час зможа “раскалоць” двух старшыняў калгасаў і кіраўніка дзяржінспэкцыі хлебанарыхтовак. Яны не былі партыйнымі работнікамі, а гаспадарчымі, і яму не забаранялася мець на іх кампрамэтуючы матэрыял. Данілаў яго меў.

“Грахоў” у кожнага старшыні калгаса было нямала. Данілаў іх добра ведаў. Не бязь ведама кіраўніка дзяржінспэкцыі хлебанарыхтовак падаваліся статыстычныя зьвесткі аб ходзе ўборкі ўраджаю ў раёне. Часам збожжа яшчэ было ў каласах, а на паперы ўжо значылася здадзеным.

Данілаў быў упэўнены, што яны, гэтыя трое, здадуць Бардакова, калі тыцнуць іх насамі ў іх жа ўласныя дзеяньні, што могуць пацягнуць не на адзін год папраўча-працоўнай калёніі. Але ён памыляўся.

Так атрымалася, што сьледчы не спаткаўся зь Ёзубам. Магчыма, яго стрымала размова з участковым упаўнаважаным міліцыі, які яго папярэдзіў, што дзед Ёзік – чалавек няпросты, а магчыма, і тое, што вартаўнік адмовіўся размаўляць “пад пратакол”, афіцыйна даць паказаньні. А калі ўжо была знойдзеная машына, што зьбіла старшыну звыштэрміновай службы, дапытаны яе шафёр, было ўжо не да таямніц старога вартаўніка.

Справа аб дарожна-транспартным здарэньні са сьмяротным вынікам пакуль што для сьледчага была ўраўненьнем з мноствам невядомых. Эксперт сьцьвярджае, што мае месца забойства. Шафёр жа стаіць на сваім, што чуў нейкі нязначны стук аб машыну, але нават не спыняўся, паехаў далей. Правая фара сьвяціць не перастала. Як цяпер ужо вядома, было разьбіта шкло фары, а лямпачка засталася цэлаю і гарэла. Гэта супадае з паказаньнямі шафёра. Хто ж тады тры разы цьвёрдым і цяжкім прадметам стукнуў пацярпелага па галаве, забіў яго? Якая машына спынілася на абочыне праз сорак мэтраў? Шафёр кажа, што ягоны шэф сядзеў збоку, спаў і нічога ня ведае, а болей у машыне нікога не было. Выходзіць, знайшлі машыну, што зьбіла пацярпелага, але ён памёр не ад гэтага. Цёмны лес, а ня справа, думаў сьледчы.

Пракурор забараніў дапытваць “першага”, маўляў, спаў чалавек, што тут яшчэ не зразумела. Сьледчы разважаў: калі б “зачыніць” шафёра, гэта значыць, арыштаваць, той бы, магчыма, загаварыў бы больш шчыра, але пракурор таксама на гэта не згадзіўся. Вось і рабі што хочаш. Трэба чакаць, калі прыйдзе акт судова-мэдыцынскай экспэртызы, тады ён зможа прад’явіць шафёру абвінавачаньне ня толькі ў наезьдзе на чалавека. Пачакаем, а там будзе бачна.

Першы сакратар абкаму партыі не чакаў. Ён выклікаў да сябе Бардакова. Якая паміж імі адбылася размова – засталося таямніцай. Але пасьля гэтага былі выкліканыя паасобку абласны пракурор і начальнік УКГБ. Пракурору было загадана забясьпечыць правядзеньне сьледзтва такім чынам, каб цень на партыю ня ўпаў, сьледзтва ўзяць пад асабісты кантроль. Начальнік УКГБ атрымаў параду ня “лезьці” ў гэтую справу і не зьбіраць неправераных апэратыўных зьвестак. Такую ж параду-загад у сваю чаргу зьверху атрымаў і Данілаў. Нічога ня зробіш, загад ёсьць загад. Данілаў дастаў з сэйфу аркуш паперы, на якім зьверху было напісана “Квартэт” і разарваў яго на дробныя кавалачкі.

У вызначаны тэрмін сьледчы атрымаў акт судова-мэдыцынскай экспэртызы, паводле якога пацярпелы загінуў ад траўм левага сьцягна і галавы, характэрных для дарожна-транспартных здарэньняў.

Стары Ёзуб днём быў вольны ад свайго вартаўніцтва. Дома па гаспадарцы спраў у яго не было. Ён паехаў у Ваўкавыск у раённую бібліятэку, куды наведваўся даўно і даволі часта.

Спачатку яго не хацелі прымаць у лік чытачоў па дзьвюх прычынах: ён ня меў ніякага пасьведчаньня і таксама таму, што ён жыве ў другім раёне. Давялося браць даведку ў сельскім савеце аб сваёй асобе, і дзе ён жыве. Тое, чаму ён хоча браць кніжкі тут, а ня ў Зэльве, растлумачыў Ёзуб проста. Там яго прымаюць за амаль непісьменнага, дык навошта людзей зьдзіўляць. Хоча дзед у гэтай бібліятэцы браць кніжкі, дык няхай сабе бярэ, вырашыла загадчыца.

Неўзабаве бібліятэчныя жанчыны былі зьдзіўленыя ведамі Ёзубам гісторыі Беларусі і Расеі, асабліва савецкага пэрыяду. Ведаў ён і літаратуру. Тых ведаў, якімі валодаў гэты чалавек, немагчыма было атрымаць з падручнікаў па гісторыі і літаратуры. Ён на ўсё глядзеў па-свойму. Напрыклад, лічыў, што Беларуская Народная Рэспубліка цалкам адпавядала інтарэсам беларусаў, а савецкая ўлада сюды прынесена штучна, на штыках чырвонаармейцаў. Ён не прызнаваў вызваленьнем, а наадварот, лічыў захопам верасьнёвы прыход Чырвонай Арміі ў трыццаць дзявятым годзе. Ён казаў, што ў Другой сусьветнай вайне інтарэсы Беларусі і СССР былі рознымі, але з інтарэсамі Беларусі ніхто не лічыўся. Беларусам не патрэбны былі ні немцы, ні бальшавікі, і яны з надзеяй паглядалі ў бок Англіі і Амэрыкі, спадзеючыся, што гэтыя дзьве магутныя дзяржавы пасьля вайны змогуць дапамагчы беларусам стаць незалежнымі, але аб гэтым ніхто і нідзе ня піша і, зразумела, не напіша. Было не да маленькай Беларусі.

Гэтакія крамольныя разважаньні загадчыца бібліятэкі чула ўпершыню, нават ня ведала, як да іх ставіцца. Аднойчы яна спытала Ёзуба, ці ён супраць савецкай улады, на што той адказаў, што не, ужо ня супраць, куды яе дзенеш ці сам ад яе дзенесься, толькі што на той сьвет, але добра было б, каб гэтая ўлада вярнула яму ягонае поле і луг. Гэта ўсё нажывалася пакаленьнямі продкаў і яму аддадзена было ў спадчыну, гэта ягоная Бацькаўшчына. А сёньня ён без кавалка зямлі застаўся і змушаны, каб жыць, каб мець кавалак хлеба, працаваць вартаўніком, сьцерагчы, нібы сабака, чужое за трыццаць рублёў у месяц.

Загадчыца зразумела гэтага старога чалавека, які ўжо нічога не баяўся на гэтым сьвеце, ёй стала шкада яго. Яна сама была зь вёскі і пра зямлю чула ня раз. Старэйшыя людзі не маглі зьмірыцца са стратаю ўласнасьці на зямлю, яны марылі аб ей і спадзяваліся на перамены адносна зямлі.

Дзед разважаў аб тым, што фэрмэрскі спосаб вядзеньня гаспадаркі селяніну больш падыходзіць, чым калгасны. Як прыклад ён казаў аб сям'і Вераб'ёў, якая на рэчцы каля Барадзічаў некалі збудавала ўручную млын, дзе маглі малоць некалькі вёсак. Гэтую вялікую і працавітую сям'ю ў пяцідзясятым годзе прызналі кулацкай і вывезьлі недзе на Ўсход, у Расею, без суду і сьледзтва. У чым гэтыя людзі былі вінаватыя? Што працавалі ад цямна да цямна. Днём на сваёй зямлі, а ночу ў млыне, а іх за гэта зьвязаных і зьбітых на возе везьлі да станцыі, каб там упхнуць у вагон і адвезьці на голае месца на загубу. Уся вёска праводзіла іх плачам.

Назад ніхто зь іх ужо не вярнуўся. Потым хадзілі чуткі, што двое хлопцаў зь сям'і засталіся жывымі і выехалі да сваякоў у Польшчу. Гэта з васьмі чалавек!

Сёньня бібліятэкар была зьдзіўленая дзедам больш, чым калі раней. Ён папрасіў кніжку, што ніхто і ніколі не пытаў. Гэтай кніжкаю быў

Крымінальны кодэкс БССР, новы, тысяча дзевяцьсот шэсьцьдзесят першага году. Ёзубу хацелася ведаць, на колькі гадоў цяпер "цягне" злачынства, што адбылося на шашы, колькі гадоў пазбаўленьня волі прадугледжана законам за забойства Аляксея. Цікаўнасьць была выкліканая тым, што сярод людзей сталі хадзіць розныя чуткі аб гэтым здарэньні. Адна зь іх была, што Аляксей забіты наўмысьля, і каб ён ня быў вайскоўцам, дык ніхто б і не знайшоў вінаватага. Людзі, як заўсёды, усяго ня ведалі, але праўда ў гэтых чутках была.

Паводле артыкулу 206 часткі 2, атрымлівалася няшмат. Нават наўмыснае забойства па артыкуле 101 каралася ад 3 да 10 гадоў пазбаўленьня волі. Там, дзе Ёзубу давялося адбываць тэрмін свайго зьняволеньня, людзей, што мелі па выраках судоў менш за 10 гадоў, не было.

Ёзуб сядзеў і думаў, параўноўваў. Выходзіць, усе тыя людзі і ён сам для дзяржавы былі больш небясьпечныя за забойцаў? У ягоным разуменьні забойства чалавека было самым цяжкім злачынствам. Ён быў хрысьціянінам.

Ён ніяк ня мог да гэтага часу зразумець, што такое "вораг народу". Амаль усе ягоныя знаёмыя ў лягеры былі добрымі людзьмі, што адбывалі пакараньне невядома за што. Ва ўсялякім разе не за забойства. Гэтых людзей, гэтых так званых ворагаў народу, канваіравалі і кантралявалі сапраўдныя ворагі народу. На добры лад, у пяцьдзясят шостым годзе трэба было б памяняць месцамі "ворагаў народу" і тых, хто іх так заклеймаваў, хто зьдзекваўся над імі, стараючыся выслужыцца.

Ёзуб добра памятаў размову з адным добрым чалавекам, таксама з "ворагаў народу", зь якім давялося пазнаёміцца ў Маскве на Беларускім вакзале, чакаючы цягніка да Менску. Тады шмат людзей вярталіся зь лягераў дамоў. Пазнавалі адзін другога па вопратцы, па амаль аднолькавых фанэрных скрынках у руках, па паўночнай бледнасьці твараў. Вось тады той чалавек казаў, што тыя, хто іх загнаў у лягеры, катаваў на допытах, судзіў і нішчыў, не панясуць ніякай адказнасьці за свае дзеяньні. Іхных дзяцей ніхто і ніколі не папракне, што іхныя бацькі зьнішчылі мільёны, а можа, дзясяткі мільёнаў нявінных людзей, ня будзе пра гэта радкоў у анкетах, для іх будуць адчыненыя ўсе дзьверы, а нам і нашым дзецям свой цяжкі крыж давядзецца несьці ўсё жыцьцё. Пакуль будзе партыя.

Ёзуб цяпер ня мог спакойна слухаць перадачы па радыё пра зьверствы фашызму. Ён заўсёды нэрваваўся і казаў, а калі ж я пачую таксама з гэтага радыё аб зьверствах бальшавізму? Я ж іх бачыў, перажыў!

Іван, шафёр райкамаўскай "Волгі", быў асуджаны Зэльвенскім народным судом на тры гады пазбаўленьня волі з адбываньнем кары ў месцах для асобаў, што зьдзейсьнілі злачынствы па неасьцярожнасьці. У народзе гэта называлася вольным пасяленьнем.

Першапачатковых сваіх паказаньняў ён не зьмяніў і ў судзе. Ніхто ў Івана вельмі і не дапытваўся, што ды як. У яго склалася ўражаньне, што гэтую справу, наогул, сьпяшаюцца хутчэй завяршыць і пакласьці ў архіў.

Яго адвезьлі недзе пад Магілёў, далі працу і жыльлё. Хутка да яго прыехала жонка зь дзецьмі. Новы навучальны год яны пачалі ўжо на новым месцы. Іван ня раз казаў жонцы, што магло быць значна горш. Дзякаваць Богу, абвінавацілі і не засудзілі за наўмыснае забойства. Але ў яго было

прыкра на душы за тое, што Данілаў ня змог яму дапамагчы. Іван на яго ня крыўдзіўся, разумеў, што партыя заўсёды вырашала ўсе пытаньні зыходзячы з сваіх інтарэсаў. Партыя і закон – гэта два несумяшчальныя паняцьці, калі інтарэсы партыі і закону адрозьніваюцца.

Неўзабаве па прапанове першага сакратара абкаму партыі быў вызвалены ад сваіх абавязкаў першага сакратара райкаму Бардакоў. У віну яму ставілася тое, што ён недастаткова надаваў увагі выхаваньню свайго шафёра, які ўчыніў злачынства. Яшчэ яму была вынесеная вымова з запісам у партыйныя паперы. Гэта было цяжкім партыйным пакараньнем!

Для тых, хто ня ведаў усю сутнасьць гэтай справы, здавалася, што Бардакоў пацярпеў з-за свайго шафёра, страціў з-за яго пасаду.

Данілаў ведаў ад свайго кіраўніка, што звальненьне Бардакова адбылося на той выпадак, калі ў будучым усё выйдзе на сьвет Божы, і тады ўпадзе цень на партыю. Партыя павінна быць чыстай!

Вучні адной зь сярэдніх школаў Ліды пачалі новы навучальны год пад кіраўніцтвам новага дырэктара, прозьвішча якога было Бардакоў.

Сьледчы перавёўся працаваць у іншае месца. Ён не хацеў чамусьці далей працаваць у Зэльве.

Судзьдзя, што асудзіў Івана, неўзабаве вырашыў пакінуць пасаду судзьдзі, знайшоўшы месца ў адным з інстытутаў Акадэміі навук БССР. Пайшоў у навуку і, дарэчы кажучы, дасягнуў там значных посьпехаў.

Прайшло нямала часу. Я жыў і працаваў у Слоніме. Недзе ў самым канцы сямідзясятых гадоў мне давялося быць у адной чыста мужчынскай кампаніі. За сталом побач сядзеў ужо даволі сталы чалавек. Пазнаёміліся, хто ёсьць хто і адкуль. Ён мяне спытаў, ці ведаю я што-небудзь аб справе, што разглядалася ў Зэльвенскім народным судзе ў пачатку шасьцідзясятых гадоў, калі быў асуджаны шафёр першага сакратара райкаму партыі. Я адказаў, што ведаю, што нават цяпер на Зэльвеншчыне людзі пры выпадку ўспамінаюць, як быў асуджаны невінаваты чалавек, што ўзяў віну свайго шэфа на сябе. Гэта так, але не да канца так, заўважыў сусед. А быў гэта адзін з трох асобаў, што знаходзіліся тады ў машыне і бачылі, як усё адбылося на самай справе. Амаль дваццаць гадоў назад ён у Зэльве працаваў кіраўніком дзяржаўнай інспэкцыі хлебанарыхтовак.

Ён ведаў усё аб гэтай справе падрабязна, усё памятаў. Было бачна, што ён застаўся чалавекам, хоць і не пайшоў у суд сказаць праўду, ведаючы, што партыя яму гэтага не даруе.





**СНАРСКАЯ (Дзідык) Іна** — нарадзілася ў горадзе Полацку ў 1965 годзе. Скончыла будаўнічы факультэт Наваполацкага політэхнічнага інстытуту і філялягічны факультэт Палтаўскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту.

З 1987 году жыве ў Палтаве. Працуе рэдактарам тэлебачаньня Палтаўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Лтава". Аўтар і рэжысэр каля 100 дакумэнтальных фільмаў і тэлевізійных перадач. Сяброўка Саюзаў пісьменьнікаў Беларусі і Украіны, Нацыянальнага Саюзу журналістаў і Саюзу кінематаграфістаў Украіны. Ляўрэат літаратурна-мастацкай прэміі імя Васіля Сіманенка. Аўтар шматлікіх публікацыяў у пэрыядычнай прэсе Беларусі і Украіны, пяці паэтычных зборнікаў: "Пацеркі" (1994), "Пачакай, мая птушка" (1998), "Лясная панна" (2001), "Кветка гарынь" (2005), "Дві землі — дві долі" (2006). Вершы Іны Снарскай перакладаліся ўкраінскаю, румынскаю, ангельскаю мовамі.

Іна Снарская — сяброўка Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына", кіраўнік культурна-асьветнага аб'яднаньня беларусаў Палтавы "Агніца".

# ДВА НЕБЫ

## Жыцьцё

Спачатку ляцела.
Пасьля — бегла.
Пасьля — ішла.
Пасьля — паўзла.
Нарэшце лягла нерухома —
І ... зноў паляцела.

* * *

Душа ляцела да зямлі,
Гарэлі крылы,
Ляцела з зорных гарадоў
На бераг мілы.

Прагорклы дым у твар ёй біў,
Ня ўбачыць сьвету.
Душа дарогаю зьлягла
Ад злога ветру.

Душа, душа, ты да каго
Хваробнай ноччу?
У полі вогнішча трымціць
І сьлепіць вочы.

Як дацягнуць ёй да зямлі
У град і зьлівы,
Калі, счарнелая ўжо ўся,
Згубіла крылы.

Як дасьпяваць ёй да зары,
Зары прарочай,
Дзе па рацэ вянок плыве,
Вянок сірочы.

* * *

Мае лясы ўпляліся ў неба –
Зара, ўздыхні.
Табе лясы далёка несьці,
Прыляж, спачні.

Зара, даруй, напоі неба
Я п’ю з каўша.
Мае лясы ня просяць хлеба,
Як і душа.

* * *

Мы – дрэвы, бяссонныя дрэвы.
Далей і далей ад зямлі
Ляцім пад шаленства мяцелі,
Пад міты шаўковай травы.

Мы – дрэвы. Пішыце лісты нам
На крыльцах сівых матылькоў,
На павуцінках асеньніх,
На лапах галодных ваўкоў.

Далей і далей ад карэньня...
Мы прагнем, як волі, нябёс,
Ды цяжка нам стаць на калені,
Прыняць адзінокі наш лёс.

І цяжка, і позна вярнуцца...
Галінкаю стыне рука,
І не дае азірнуцца
Кара – лубяная рака.

* * *

Гара кідалася пад ногі,
Зару лаві.
Ліпнёвым сьветлавокім ліўнем
Зямля ў крыві.

Што не памёрла – прысьмірэла,
Я п’ю з рукі.
А на руінах вэлюм белы –
Радкі, радкі...

Гара кідалася пад ногі.
Лаві расу,
Яе жывой, яе гарачай
Не данясу.

Гаручаю, апошняй кропляй
Ляціць зямля.
Гара кідалася пад ногі,
Нібы зьмяя.

Калі імгненьне стане векам,
Гарбом сівым,
Гара падставіць небу плечы,
Як херувім.

* * *

Пастарайся проста выжыць,
Пастарайся даляцець
Да гарачых зор у жыце,
Да гаючых ценяў дрэў.

Пастарайся разам зь ветрам
Выпіць поўню, як расу.
У тваёй далоні – вечнасьць,
Вецер ўплецены ў касу.

У тваёй далоні – воля,
Поле белае буслоў...
Пастарайся проста выжыць,
Даляцець дамоў.

* * *

Па зямлі зямное пройдзе:
Правы бераг, бераг левы,
А на правым – толькі поўдзень,
А на левым – толькі дрэвы.

Сёньня я лягчэй пярынкі,
Бо зямное толькі сэрца.
Разам зь ветрам рыну, рыну,
А чужое – рвецца, рвецца...

І сьпяваць... Калі да скону
Толькі вецер – ветразь золкі,
Свой палёт ня ў змозе скончыць,
Бо да сонца шлях бясконцы.

## Дзьвіна

Вялікая рака... Яна жыве ўспамінам
Пра волю срэбных крыл, паходні, ваяроў,
Мінулыя вякі штандарамі ўсьцялілі
Яе сівое дно, загаварылі кроў.

Сьвяшчэнная рака. Гаротніца-жывіца,
Сьпяліла берагі, прыймала ўсіх сірот.
Яна заве й мяне да берагіняў ніцых.
Я бачыла Анёла там. Ён плакаў пад гарой.

## Доўгае чаканьне вясны

Калі сьцямнее,
сьцішыцца завея,
Калі сьцямнее,
запалю сьвятло

І ў садзе сінім
на галінах-веях
Пакіну ўсё,
што набыло жытло.
І ўцісну неба
ў крумкачову зрэнку
Нєспадзяваным
рабаціньнем шкла.
Ля чорнай прорвы
прастаю да веку,
Прыкутая
сьнягамі да акна.

* * *

Баліць сьпіна – там будзе месца крылам,
Там будзе месца ветразям спакусы,
Свае нябёсы восеньню адкрыла я
І вось цяпер чаўны дабром пакую.

Зязюля кукавала мне даволі,
Зязюля – забабонная старая.
Я ў неба вырываюся паволі,
Я ў неба за сабою не гукаю.

Галёкаць там – няхітрая навука.
Навучаная здрадай і падманамі,
Прашу ў твайго нацягнутага лука я
Не ператворваць птушак на падраненых.

Сьпіну схаваю, а руку падстаўлю.
Страла, сьвінец ўжо шкоды не наробяць,
Калецтва рук мне сёньня не падстава
Баяцца неба і зямлі ня помніць.

Сваё імя чытаю на скрыжалях
І крыжаной вады напіцца мушу.
Мой стрыжань вырываецца стрыжамі
І на зямлі не пакідае крушняў.

Баліць сьпіна –
Там будзе месца крылам.

* * *

Вугал ночы – край малітвы,
Кроў дажджу, спакой самотных.
У далонь зары наліта
Сто грахоў маіх сьмяротных.

Сто спакус маіх адчайных
Паяднаць душу і цела...
Там, дзе кнігаўка крычала,
Толькі сьвечачка ўцалела...

* * *

За воляю сорак год
Мы, бяздомныя, крочылі.
Гінуць сарокі-саракавіны.
Вочы твае, як ночы,
Вусны твае – руіны.

За берагам – не сьнягі,
Сьцягі гараць спарахнелыя,
Быў ты мне дарагі
Вострымі стрэламі.

Слаў ты мне гарады
Ды з палянамі яснымі,
Я ж любіла сады
Птушкаю-ястрабам.

Я ж любіла жыцьцё,
Цішыню бузіновую.
Ты не сукню дарыў – асьцё
І віно бізуновае.

* * *

Дзе неба з аўчыну,
Там ў сэрцы – айчына.
Сірочае шчасьце –
Ў людзях не прапасьці,
Выжыць, ня зьнікнуць,
Да здрады ня звыкнуць.
А вецер – салёны.
А позірк – калёны.
І жоўтыя вёрсты –
Няродныя сёстры.

* * *

Не пасьпяваю жыць
не для сябе, для іншых,
І дарагіх людзей
губляю па чарзе.
Гарацъ мае лясы,
душу ўкрывае іней.
Гарыць мая зямля –
скляпеньне сноў-надзей.

Не пасьпяваю жыць
за хлебам, не за срэбрам
І некалі сустрэць
сваіх сівых сяброў.
Ляціць, ляціць жыцьцё
да брамы ў лютым небе.
І не хапае сіл,
і не хапае слоў...

## Малітва

Ён упаў на зямлю
І пачаў маліцца.
І было яму так балюча
І так пякуча,
Што зямля загарэлася
І правалілася.
З правальля ўласнай сьвядомасьці,
Зь яміны спустошанасьці і адзіноты,
З бездані страчаных надзей і няўтоленай смагі,
Ён папрасіўся дадому,
Туды, дзе яго любяць і разумеюць.
Ніхто ня бачыў гэтага чалавека раней.
“Ён чарнец”, – гаварылі адны.
“Ён вялікі грэшнік”, – казалі другія.
“Ён прапашчая душа”, – думалі трэція...
А калі вялізная белая птушка
Расьсекла чорныя хмары моцнымі белымі крыламі,
Усе, нарэшце, пазналі яго:
Калісьці ён быў вандроўнікам і паэтам.

* * *

Калі па нябёснай дарозе
Пайду новы дзень сустракаць,
А цела пакіну ў зьнямозе
На зрэбнай прасьціне ўміраць,

Калі па дарозе адзінай,
Няўмольнай, няўтольнай – жывой
Апошнім радком-успамінам
Я вырушу за табой, –
Пазнай маё вернае сэрца,
А грэшнае цела прабач,
Яно так баялася сьмерці,
Самотнасьці і няўдач.
Наіўнае, кволае цела
На вечнасьць зямную – маё,
Яно так пяшчоты хацела
Хаця б на імгненьне адно.
Хутка вялікі горад
Прачнецца, патушыць агні,
Ты мой неадольны голад
На небе і на зямлі.
Гукае калядны званочак,
Ляціць белы голуб дамоў,
Каб недзе на зорцы паўночнай,
Ты сэрца маё знайшоў.

* * *

Дзе я здрадзіла вам,
Мае любыя, сумныя вершы,
На якіх скразьняках,
На якіх скрыжаваньнях дарог?
Вы сумленьнем былі
І любоўю адчайнай, найпершай
Да зямлі і лясоў,
Да сьвяшчэнных нябёсных гаёў.
Дзе я здрадзіла вам,
Дзе я стоган чужы не пачула,
Дзе прайшла ў забыцьці,
Дзе шчакой не адчула шчаку?
На каленях стаю
Над сырою магілай матулі,
А дзяўчынка-зара
Пераходзіць мой лёс, як раку.

* * *

Поўня. Вялікае неба
Сьвеціць зарой адчайнай.
Стане ракою глеба,
Ўздыме ільды плячамі.

Зорцы сьвяціць паўночнай,
Радавацца, што жывая.
У крышталёвыя ночвы
Падае ключ ад Рая.

Я ухаплю надзею
Спраўнай сваёй рукою,
І адшукаю дзьверы,
І паплыву ракою...

## Два небы

Два небы жывуць ў маім сэрцы – зямное і нябёснае.
Да зямнога, здаецца, я магу дакрануцца рукой або вуснамі.
Гэта здараецца тады, калі на зямлю апускаецца туман або ідзе дождж.
Тады зямное неба хоча быць да мяне бліжэй, і я адчуваю яго любоў,
адчуваю яго вільгаць і цеплыню, бо яно роднае, як мама і як радзіма.
А калі я лячу на самалёце, гэтае зямное неба ахоплівае мяне з усіх бакоў
і люляе, нібыта ў калысцы, а сонечныя зайчыкі адбіваюцца ў яго вачах.
Мяккае і пяшчотнае, яно настолькі прыгожае, што дух захоплівае,
і тады я напэўна разумею, што гэта і ёсьць шчасьце.
У радасьці сваёй я набліжаюся да другога Неба, таго,
пра якое марыла ўсё сваё жыцьцё.
Зь дзяцінства я ведала, што недзе ёсьць іншае Неба.
Яго немагчыма пабачыць, можна толькі адчуць, вядома, калі пашанцуе.
Дарогу ведае сэрца, і калі яно баліць або тужыць,
гэта азначае, што я сумую па свайму нябёснаму Небу.
Неба нябёснае калі-нікалі прыходзіць у сьне ці малітве.
Яно зьвязана з адчуваньнем Бога і Божага.
Неба вучыць нас кахаць і дараваць, а яшчэ – сьвяціцца, калі асабліва добра
і хочацца лётаць. Сьвяціцца – значыць аддаваць.
Мы сьвецімся, калі адчуваем у сабе Неба. Яно ніколі нас не пакідае,
проста мы не заўсёды гатовы Яго прыняць. Калі гэта нарэшце здараецца,
мы пачынаем сьвяціцца ў цемрыве, як ліхтары, а іншыя людзі, нібыта матылькі,
ляцяць на сьвятло, якое не апальвае, а толькі робіць мацнейшымі, лепшымі.
Кожны чалавек здольны праявіць Неба ў сабе, падняцца над мітусьнёй,
якая нішчыць жыцьцё незваротна.
Калі побач чалавек-ліхтар, ён запаўняе сваім сьвятлом усіх,
хто знаходзіцца побач і нават на вялікай адлегласьці падказвае дарогу.
Гэта падарунак Неба адкрытым і шчырым душам,
якія вучацца жыць сэрцам, а значыць, па запаветах дабра і любові.





**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук (сапр. Сокалаў Сяргей)** — нарадзіўся 16.10.1957 году ў вёсцы Астроўшчына Полацкага раёну Віцебскай вобласьці ў сям'і служачых. З 1973 году жыў у Наваполацку. Працаваў сьлесарам на заводзе жалезабетонных вырабаў (1974 — 1976), на Наваполацкім вытворчым аб'яднаньні "Палімір" (1979). Служыў у Савецкай Арміі (1976 — 1978). У 1979 годзе паступіў на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а пасьля трох курсаў перавёўся на завочнае аддзяленьне (скончыў у 1985 годзе). Настаўнічаў у сярэдняй школе № 5 Наваполацка (1982 — 1984, 1985 —1988), быў навуковым супрацоўнікам філіі Літаратурнага музэю Якуба Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёну (1984 — 1985), загадваў літаратурнай часткай лялечнай трупы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску (1988 — 1990).

Сябра СП СССР з 1990 году. У друку выступае з 1973 году (наваполацкая газэта "Хімік"). Часта выступае як аўтар і выканаўца сваіх песень.

Зараз жыве ў ЗША ў штаце Нью-Джэрзі.

# Граблі

Вось ужо некалькі гадоў запар пару разоў на месяц я праз электронную пошту атрымліваю тыя самыя лісты з розных куткоў Беларусі: калі прыедзеш? Напішы загадзя, і мы зладзім канцэрт.

Ладны кавалак сёлетняй вясны я быў дома. Ехаў з мэтаю сядзець сіднем у Наваполацку й займацца сямейнымі справамі. Зрэшты, так плянуеш заўсёды, й заўсёды такі плян не працуе. У выніку, яшчэ перад вылетам са Штатаў я ўжо ведаў, што дома мяне чакаюць найменш два канцэрты. Але па прылёце высьветлілася: адзін канцэрт скасаваны без тлумачэньня падставаў. Проста "не", і ўсё. Патэнцыйны глядач быў папярэджаны, ды ведаючы, што ўсіх папярэдзіць няпроста, мы зь сябрамі выслалі да месца меркаванага выступу пару чалавек, якія ўсіх непапярэджаных накіроўвалі ў маю кватэру. Разам зь імі туды прыйшлі музычныя крытыкі, журналісты ды не-

калькі сталічных бардаў. Дзякуючы апошнім сустрэча атрымалася падобнай да нелегальных зборак савецкіх часоў, калі нязгодныя сядзелі на кухнях і, перабіваючы шчырыя размовы на вострыя надзённыя тэмы песьнямі, думалі пра лепшае заўтра.

Удалы пачатак натхніў. Кватэрныя сустрэчы з удзелам іншых бардаў пайшлі адна за другой і ня толькі ў Менску. Ашмяна, Лагойск, Лепель, Наваполацак... Часам, прыкладам у згаданай Ашмяне, зьбіраліся людзі й зь іншых мясьцінаў: Смаргонь, Варняны.

Адзіны дазволены канцэрт прайшоў у Менску. Яго распачаў Зьміцер Бартосік, а скончыў Андрэй Плясанаў. Усё атрымалася як найлепш, а йначай і не бывае, калі ў залі сядзяць твае аднадумцы й паплечнікі – людзі, якім верыш ты і якія вераць табе.

А яшчэ былі выпадковыя выступы ў кнігарні, дзе адміністрацыя сказала мне, што рэпэртуар трэба ўзгадняць зь ёй папярэдне, ды ў кавярні, дзе на знак падзякі я атрымаў торт, які з прыемнасьцю падзяліў з прысутнымі.

Пад час усіх маіх выступаў я рабіў папярэднюю прэзэнтацыю яшчэ ня цалкам гатовага новага альбому "Граблі". Апавядаў гісторыю ягонага ўзьнікненьня ды, у разе патрэбы, тлумачыў прысутным, адкуль браліся героі новых песьняў. Зважаючы на вялікую цікавасьць публікі да альбому "Граблі", я вырашыў падаць у альманах некаторыя, ужо можна сказаць, найбольш папулярныя тэксты.

## Граблі

Сякеры, косы, вілы
Адкінутыя ўбок.
Ня тое, каб стаміліся,
Ня тое, каб саслаблі,
Яшчэ хапае сілы
Запомніць назубок,
Як продкі нашы біліся,
І перайсьці на граблі.

Мы добра вывучаем памылковыя шляхі,
Каб потым паўтараць іх, ня зьбіўшыся з дарогі.
Каб толькі не спазьніцца, бягуць нізы й вярхі
На граблі наступаць да поўнай перамогі.

Разьбіты лоб да цемя,
Варушацца глузды,
Як зырка зьзяе сонейка,
Як думкі вымагае.
Ну вось яна! Ня дрэмле!
Прамень хабах туды!
Патрапіў! Зьбіў сутонейка,
Ды не дапамагае.

Мы проста ў прэзыдэнты сягаем ад сахі,
Мы верым абяцанкам, абіваючы парогі,
Мы бачым (як ня нашыя) агульныя грахі,
І не ў набат – у граблі б'ем да поўнай перамогі.

А нос – сьвіное рыла –
Расплешчаны на блін.
Ня ўнюхаць (пераняты я),
Што праўда, што ілгарства
Адно – не перакрыла
Яшчэ адрэналін,
Дзе граблі? Што? Занятыя?
Пазычце хто, спадарства!

Мы уважаем цьвердзямі ўсе нашы катухі,
Суседавы праблемы – не падставы для трывогі
Хаваемся у бульбу, зашываемся ў імхі
І гвалцім тыя ж граблі, ну, да поўнай перамогі.

Сьціскаю зубы ў шале,
Ва ўпартасьці рыплю:
Спрачацца ж з аграблёвымі
Не па зубах зубамі,
Ня ведаю, як далей,
А сёньня я малю
У Бога граблі новыя
Няма? То зробім самі.

Хто ж будзе пераможцам? Можа, пройдзе час ліхі,
Як скула дзесь на задніцы, і хоць нямеюць ногі,
Мы ўпарта паўтараем памылковыя шляхі
І месім-пляжым граблі, ну, да поўнай перамогі.

*20-23 ліпеня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Думкі добрыя

Летні дождж, а восеньскі такі,
Што паўсюль сьцюдзёна, золка, зімна,
І душою нашаптаныя радкі
Адгукаюцца у думках ананімна.

Бо ў сярэдзіне і вонкі думкі добрыя,
Але зграя так абсела, падалеіла –
Хваласьпеў цячэ у вушы звонкі-звонкі,
І што рохкае паўсюдна тут забеяла.

Не бяда. Далёка да бяды.
Проста шкода, чуеш расьцярушанасьць.
Летні шквар, і вось жа – халады,
І з душой знаходзіць рыму здушанасьць.

А ў сярэдзіне і вонкі думкі добрыя,
Але вера ў дабрыню як злая мачаха.
Арабіна – сьлёз крывавых гронкі, гронкі.
Гэх, начхаць бы, ды няма такога начыху...

Разарву гітарную струну.
До напяцьця, што зусім ня грае.
Я да вас гітару сьпінай разьвярну –
Хай яна маўчыць, а я зайграю.

Што ў сярэдзіне і вонкі думкі добрыя,
Але сьлізкая абраная дарожанька.
Шлях віецца пад нагамі тонкі-тонкі,
І марнуе свае сілы з намі Божанька...

*2 ліпеня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Парнакапытны

Я быў зь ім на вы
А цяпер ці ніяк ці на ты.
Ён быў стырнавы
А ў штармы сябе чуў капітанам.
Акулы й кіты
Не плылі да яго у ставы.
Ён меў капыты,
Але мне было гэта нязнаным.

*РЭФРЭН:*

Парнакапытны –
Д'яблавае зло.
Парнакапытны –
З рожкамі чало.

Стрэнеш, пабачыш –
Можна і забыць,
Бо звонку ўсё
Быццам так, як мае быць.

*Рэфрэн.*

Ён вёў слаўны род,
Слаўны род ад таго змагара,
Што быў за народ,
Бо належаў і сам да народу.
Парода зубра,
Але дзе той зубрыны прыплод?
Няма ваяра.
Ёсьць пачатак рыластага роду.

*Рэфрэн.*

Хоць дзеці ў яго
Не гавораць на мове дзядоў –
Суседа майго
Ён навучае, як быць патрыётам.
Ніякіх сьлядоў,
Ну, яшчэ б вам сьляды, аняго,
Ягоных сыноў
Не відно ў Беларускіх балотах...

*Рэфрэн.*

Зважай, не засьні –
Ён улашчыць-прыўлашчыць цябе,
Каб быць на кані,
Каб паўсюдна і ўсё пад кантролем.
І ты на гарбе
Данясеш яго да вышыні.
Ён славу зграбе,
А табе... ну як выпадзе доля...

*6-7 ліпеня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Дамы з сабачкам

Люблю беспародных, бяздомных, чые галасы – не басы,
Да радасьці шчырыя, а да нягодаў нядбакі...
У нас дварнякі – то дваровыя добрыя псы,
Але й сярод іх надараюцца часам сабакі.

Прылашчыць такога самотнай кабеты рука,
А потым на шворку за костку, часінаю зь мясам.
І, бачыш, дварняк, што баяўся кійка і друка,
Цяпер асьмялеў і у наступ зрываецца часам.

Нібыта згадаў, што калісьці цярпеў ад кагось,
Нібыта ў адплату за даўняе пырскае сьлінай.
Бывае такая дварняка-сабачая злосьць
Зь вялікім дамешкам упіну й тупоты асьлінай.

І ўсё ж у душы застаецца дварняк дварняком,
Ніякія зьмены ня йдуць прасьцяню у навуку,
Быць можа, таму ад пароднай кабеты крадком
Знаходзіць дварняк па начох беспародную суку.

*1 ліпеня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Імёны

О так, мы патрыёты,
Бо на пытаньне, хто ты?
Крычым пра Беларушчыну,
А дойдзе да мяна –
Як дурні-самасейцы
Сьпяшаемся ў расейцы,
Ну што ж, страла запушчана,
Запушчана.

Зусім не Македонскі і нат не Салжаніцын,
Але нясе у неба аблуду-круцяля:
Ён быць ня змог Алесем і выпусьціў сініцу,
Застаўся Аляксандрам і страціў жураўля.

Вядома, хлюпік Саша –
Ня ўся краіна наша.
Павее сьвежым ветрыкам
Па Аляксандарам,
І без маны, бяз бою
Адродзяцца сабою
Адным радком у мэтрыках
Бязь лішніх драм.

А сёньня ходзяць цугам Іваны ды Матрёны,
Серёжы, Каці, Міші і іншы гуказбор.
На беднасьць ім пасуюць жабрачыя імёны,
Жабрачыя імёны – чужаччыны набор.

А хтосьці, гэта знана,
Дапрэ да Чынгізхана,
Альбо амухамедзіцца,
Аджозэфініцца,
Каб толькі адчувацца
У межах іншых нацый,
Каб неяк прысуседзіцца,
Прыплыніцца.

Я сам калісьці блеяў у шэрагах Сер-геев,
Фэкальна-сэксуальным было маё мяно,
Што моцна патыхала (чым вы думалі?) – Расеяй
І я, здавалася, ня ён і не яна – яно.

Кладзецца вечар золкі
Сьціхаюць балаболкі,
А постаці на ростанях
У роздуме маўчаць.
І сьніцца патрыётам,
Якія прыйдуць потым,
Сапраўднае і простае
"З чаго пачаць?"

## Шэрая кардыналка

***Прадмоўка:*** *Жозэф Франсуа ле Клерк дзю Трамбей, капуцынскі манах, правая рука Рышэльe, цягам 20 гадоў моцна ўплываў на кардынала. Насіў шэрую сутану, адкуль і пайшла мянушка: шэры кардынал. У наш час пад мяном "шэры кардынал" звычайна разумеюць самога Рышэльe, які меў велічэзны ўплыў на караля Францыі Люі XIII Справядлівага. Што ж да пераноснага сэнсу, то шэры кардынал – гэта той, хто дзейнічае з-за шырмы, патаёмна, у ценю, але пры тым рэальна вызначае ўчынкі фармальнага кіраўніка.*

У кожнага часу свае рэгрэсы,
І я гатовы паверыць цалкам,
Згадаўшы, што калісь была папеса,
Што ёсьць у сьвеце і кардыналка.

Такая шэрая мыш-палёўка,
Такая бачная, незаўважна,
Трымае лялечак на вяроўках
І адчуваецца дужа важнай...
З пірацкай тактыкай абардажнай

Кожную водзіць сваёй калейкай,
Кожнай складае-будуе ролі,
Ды гэты тэатар вам не батлейка,
Хаця Беларушчыны там даволі.

Яна заўсёды пры нейкім штабе,
Найбольш падобным да камуналкі,
Пэрыфэрыйная у маштабе,
Гэтая шэрая кардыналка...
Нібы дзяячка, ды маргіналка.

Кажуць, паэты бяруць партрэты
З жыцьця навакольнага. Не са столі.
Кажуць, паэты, пры ўсім пры гэтым,
Ані не хаваюцца у падпольлі.

Ну што ж, магчыма у самых нэтрах
Схаваных сэнсаў нястрымаў-рымаў,
Або у кроках радковых мэтраў,
Або у барвах наўмысных грымаў
Жывуць адказы... Ну што ж, магчыма...

З двума канцамі заўсёды палка.
А два канцы – гэта два пачаткі,
І дзеіць шэрая кардыналка:
Як ноч душа і як дзень пальчаткі.

*2-3 жніўня 2009 году.*

## Сьвятая карова

Сьвятая карова,
Няцельная ўжо і нядойная,
Ня жонка, ня ўдова,
Але яшчэ цалкам прыстойная,
Яе зачапіць
Не даюць нам законы будысцкія,
А буда ня сьпіць
І паўсюль сваім позіркам тыцкае.

Мы ведаем буду –
Мы самі жывем у буданчыку,
Мы гэту спаруду
Вартуем дзядоўскім бярданчыкам,
А побач карова,
І ўсё што ні забажаволіцца,
Ня супячы броваў,
Дастане яна і здаволіцца.

Сьвятую карову
Ня лясьнеш ні пугай, ні палкаю.
Між нашых раговых
Яе прызнаюць нечапалкаю.
І то не брахалка –
Ня рушце сьвятую бадлівую.
Яна нечапалка,
Хаця і даволі чаплівая.

Быкі з бугаямі
Навокал яе завіхаюцца.
Махаюць шляямі
Валы, і ў баку пасьміхаюцца –
Маўляў, пахадзіце
Залёты у вас не дарэмныя –
Усе заляціце
Пад гучным мяном: пад'ярэмныя.

О, як я люблю вас,
Бычкі-трацьцячкі крутарожныя,
Але, як ня ў час,
Не бачкі ў вас – галовы парожнія,
А вашы карыды,
Каб добра угледзецца – сьмешныя.
Карыды – абрыды,
Ды, зрэшты, мы ўсе не бязгрэшныя.

Хаваю гітару,
Крыху прыкрываючы сьпінаю,
Яе у ахвяру
Ня дам тым, хто пырскае сьлінаю,
Маўляў, абалдуй,
Бо няpraўду сьпявае ў адкрытую...
Ды я тут жыву й
Індуізму з будызмам ня блытаю...

*1 сьнежня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Калі ты

Калі ты сьмелы сапраўды –
Будзь сьмелым да канца.
Ня будзь залежнікам брыды,
Халопам малайца,
Ня дай бядзе запанаваць,
А волю зьберажы.
Сябе між сьмелых пазнаваць
Сваім дапамажы.
Калі ты сьмелы сапраўды...

Калі ты мудры сапраўды –
Будзь мудрым да канца.
Зьвязаць акордамі лады
Ёсьць талент мудраца.
Дзьве процілегласьці зьвядзі
Ў супольнае зьвяно,
І ў самай бездані знайдзі
Адно й другое дно.
Калі ты мудры сапраўды...

Калі сумленны сапраўды,
Ты ў сэрцы да канца –
То справядлівасьць назаўжды!
Няма вышэй вянца.
Ці моцны бок, ці бок слабы –
Вазьмі праўдзівы бок,
Зрабі, што здолееш, абы
Там быў і твой драбок.
Як ты сумленны сапраўды...

Калі, а зрэшты, што калі?
Каму й дзеля чаго?
Кім ёсьць, ніколі не былі,
А кім былі – ого!
Самім сабе сказаць і то!
Прызнаць ня ў змогу, не!
Бо я на ўсе на сто ніхто!
Ды то не пра мяне.
Калі, а зрэшты, што калі?

*10 верасьня 2010 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец*

## Перадзім'е

Восень дажджамі сьлёзнымі
Шкліць у зіму дарогу,
Крочым шляхамі рознымі
Да аднаго парогу,
Сыйдзем у плынь завейную,
Сьлед замяце, засьцюжыцца,
Новыя безнадзейныя
Будуць зь зімою дужацца.

Белыя – чорныя
Тыя пуціны торныя,
Чорныя – белыя
Гіблыя загібелыя.

Вось бы за той прагалінай,
Вось бы за тым пракосам
Лёсы на рукі ўпалі нам
Неімаверным лёсам,
Леглі ў дадатным роскідзе,
Веду далі ў дазволе нам,
Тайну прыходу поскудзі
Пераказаць няўдоленым...

Марыцца, мроіцца,
Казкай душа героіцца.
Мроіцца, марыцца,
Існае ж не ахвярыцца.

Долу ўбор рамантыкі,
Долу вясну паэзій.
Недзе ў нэтрах мантыкі
Мы на тым самым сьнезе:
Там, дзе абшар адсутнасьці,
Там, дзе абшар няіснасьці
Стрэнуцца нашы сутнасьці
Ў сутнаснай рэчаіснасьці.

Хмарныя, марныя
Сьцежкі жыцьця змагарныя
Зьмерзлыя, зьмёршыя...
Іншыя – яшчэ горшыя...

Холад – адмена вечнасьці,
Дарма шукаць крыніцы.
Полымя чалавечнасьці
Хіба што ля байніцы.
Добры час для дэпрэсіі,
Каб апраўдаць сказанае,
Супраць сябе агрэсія
Стрымам незакілзаная.

Вольніца, здольніца –
Чыстай душы спатольніца,
Пішацца, творыцца
Сьцюжай абшар надворыцца.

*7 – 20 верасьня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*

## Сівізна

*Спадарам Антону Шукелойцу, Барысу Данілюку*
*й іхным паплечнікам-аднагодкам*

Да сівізны павага ёсьць,
Калі заснула ў сэрцы злосьць,
Калі ж прачнулася яна –
Не у павазе сівізна.

І хто найбольш актыўны ў тым?
Хто нам пускае ў вочы дым?
Хто заклікае да вайны
Супроць шаноўнай сівізны?

А я скажу: актыўны той
Хто сам таксама зь сівізной,
Хто хоць пашанаў мо й дастаў,
Але ад лепшых ён адстаў,

Бо ў Беларускай барацьбе
Ён думаў толькі пра сябе,
Самаахвярных джаліць ён,
Як скарабей, як скарпіён...

Самаахвярныя ж, яны
Такой цураюцца вайны,
Калі нібыта ўсе свае
А зайздрасьць пыжыцца і б’е.

І кулюарны шапаток,
Прыкрыўшы ручкаю раток,
Шпурляе позірк злосны свой
Табе сівы праўдзівы вой.

Трымай удар, тваіх няма,
Тваіх забралі Калыма,
Картуз-Бяроза, Трасьцянец,
Але змаганьню не канец,

На два франты вядзем вайну:
За родны край і сівізну,
І чую я, стаіўшы дых,
Сумленны подых маладых...

*9 ліпеня 2009 году.*
*Бэрнардаў гасьцінец.*





**ТАРАНОВІЧ Алесь** друкуецца пад псэўданімам Алесь Эроціч. Нарадзіўся ў Менску. Там жа скончыў акадэмію мастацтваў. Да перабудовы быў мастакомнонканфармістам, арганізатарам кватэрных выставаў. Працаваў мастацтвазнаўцам, старэйшым экспэртам БФК. Арганізатар шматлікіх выставаў мастакоў у Беларусі і за яе межамі, стварыў мастацкую суполку “Галіна”, галерэю “6-я лінія”, тэатар “Steel orgasm”, зь якім гастраляваў па Беларусі і за мяжой.

З 1998 году — сябра БАЖ, як журналіст і мастацтвазнаўца друкаваўся амаль ва ўсіх менскіх газэтах і часапісах, найбольш у “Мастацтве”. Як пісьменьнік — у газэце “Двое” (эротыка), ARCHe, “Всемирная литература”.

У 1998 годзе пераехаў у Бэрлін. Працуе як мастак. Сябра трох бэрлінскіх літаратурных клюбаў. Друкуецца ў розных бэрлінскіх часапісах і альманахах.

Арганізаваў у 2001 годзе ў Бэрліне выставу “ДахІ”, у якой узяў удзел 31 беларускі мастак з розных краінаў Эўропы. У 2005 годзе надрукаваў кнігу “Песня Эмігранта”.

Тэмы: Нямеччына, Бэрлін, немцы, эмігранты, вайна.

Стыль: мэтафарычны рэалізм, наўмыснае выкарыстаньне вялікай колькасьці мэтафар і мэтабал, якія ствараюць своеасаблівую рамантычную аўру апавяданьня.

# Песьня эмігранта, або Ліст да самога сябе

*І ўбачыў я новае неба і новую зямлю,*
*бо ранейшыя неба і зямля мінулі.*
***Апостал Іаан “Адкрыцьцё”***

На маім пісьмовым стале стаіць памаранчавы Ванька-ўстанька,
маленькі лагодны таўсьцячок. Ніхто і нішто ня можа паваліць яго.
Ванька-ўстанька — гэта талісман эмігранта.
Уставай заўсёды. Хто б або што б ні зьбіла цябе з ног.

Эміграцыя — гэта апэрацыя без наркозу
Рывок праз адзін пралёт лесьвіцы жыцьця
Кувырок праз багну, дзе няма броду
Кідок пад танк з гранатаю — хто каго

Палёт у прастору, дзе ёсьць толькі ты і Бог
Бег праз падваротні, у якіх нікога няма
Гэта
Сны, якія не адрозьніваюцца ад успамінаў
Сіняя птушка ў клетцы,
Што наступіла на горла ўласнай песьні
Твой подых, злоўлены іншымі
Нарачоная, якую ты ўпершыню ўбачыў у дзень вясельля
Запусканьне сваіх вірусаў у чужы кампутар
Запусканьне свайго семя ў іншую форму жыцьця
Гэта
Патрон "рускай рулеткі"
Сэрца, якое грукоча на верхняй губе
Экспэрымэнт са скальпелем над самім сабой
Розум, які дасягнуў парогу адчуваньня
Палёт на неба за зоркаю
Атмасфэра нецярплівых надзей і цярплівых жахаў
Гэта
Немагчымасьць знайсьці нават цень сябра
Здольнасьць быць "ванькам-устанькам"
Твой вораг, якога ты бачыш штодня ў люстэрку
Разуменьне таго, што ты паехаў не "туды", а "адтуль"
Жыцьцё, у якім трэба бегчы, каб застацца на месцы
Адчуваньне пасажыра з "Тытаніка" ў бяскрайнім акіяне
Гэта
Здольнасьць крышыць гранітныя слупы
Гадзінамі стаяць пад дажджом зь сернай кіслаты
Вечны бой
Экстрым у кубе
Стрэс у кубе
Дэпрэсія ў кубе

Гэта і ёсьць тое жыцьцё, пра якое ты так марыў...

Якія фактары асноўныя для абазначэньня паняцьця "Радзіма"?

Месца нараджэньня, краіна, дзяржава, палітычны лад, мова, культура, грамадзянская адказнасьць, мэнталітэт, людзі... Але дзяржава – гэта часовая палітычная прылада на радзіме. Краіна – гэта вынік геапалітычнага дзяленьня сьвету. Хоць нам заўсёды паўтаралі, што радзіма і краіна – адно і тое ж. Мова? Многія ведаюць некалькі моў, некалькі культур, валодаюць рознымі мэнталітэтамі. Грамадзянская адказнасьць, ідэя агульнай выгоды, ідэя пакласьці сваю ахвярнасьць у імя росквіту краіны? Там гэтага не было і няма ні ў эліты, ні ў простага люду. Маральныя каштоўнасьці, выпакутаваныя пакаленьнямі – ад іх не засталося і сьледу. А ці былі яны?

Такім чынам, застаюцца людзі.

Але перш чым пагаварыць на гэтую актуальную тэму, трэба ад пытаньня "З чаго пачынаецца Радзіма?" перайсьці да пытаньня "Як і чым Радзіма заканчваецца?" Заканчваецца эміграцыяй.

Аказваецца, любоў да Радзімы была карысная грамадзянам СССР толькі ў гомеапатычных дозах. 20 млн. чалавек выехалі ў трэцюю хвалю эміграцыі. Насельніцтва вялікай краіны. Рэальным стаў анэкдот брэжнеўскай пары:

– Што зрабіць, калі адкрыюцца межы? – Узьлезьці на дрэва, каб не затапталі!

І зноў працягваюць ад’яжджаць...

З разуменьня таго, што замест геральдычнага гонару прыходзіць адчуваньне сіроцтва.

З разуменьня таго, што няма больш кропкі апоры, няма ідэі, няма сяброў, няма чалавека... А ёсьць разуменьне таго, што тая краіна заўсёды ашуквала. Ашуквала школа, войска, інстытут. Прафэсія, перабудова, ула-да. Ашуквала мяне, ашуквала бацьку, ашуквала дзеда...

Хіба чалавек народжаны для падману?

Аднойчы прыходзіць разуменьне, што той краіне ты быў толькі абавязаны, нічога не атрымоўваючы ўзамен. Павінен быў добра паводзіць сябе, добра вучыцца, выконваць абавязак абаронцы Радзімы, слухацца тых, хто наверсе. І ты раптам усьвядоміў, што ўся тая сыстэма працавала на сябе, а не на чалавека, як сцьвярджала. Дакладней, на тое, каб утрымоўваць у недасягальнасьці ўладу дзесяці старых. А калі табе зь сям’ёю, што туліцца ў маленькім пакоі, што дастаўся ў спадчыну ад бацькі, што ўсё жыцьцё ішачыў на сыстэму, захацелася пабудаваць кватэру паболей, высьветлілася, што гэта каштуе 500 тваіх штомесячных заробкаў. Але гэта яшчэ нічога. У вёсках людзі жывуць і ў напалову згнілых хатах зь земляною падлогаю. А тут раптам яшчэ навіна – Афрыцы, у якую ўбухвалі на працягу дзесяцігодзьдзяў, узялі і сьпісалі пазыкі на суму 74 млрд даляраў. Вось так узялі і сьпісалі, як у анэкдоце пра чукчу-хірурга: “Ай, нічога не атрымоўваецца...”

Як жыць, калі ўсе цябе кінулі? Кіраўнікі проста зьбеглі, прыхапіўшы грошы партыі. Міліцыя, тая проста няздольная цябе абараніць... выратаваньне тапельцаў – справа рук саміх тапельцаў! Тыя нешматлікія духоўныя лідэры... і тыя кінулі!

Грабеншчыкоў – “БГ”, кумір, які зьвярнуўся да цябе з заклікам “Прыйшла пара вярнуць гэтую зямлю сабе!”, зьбег... Сноўдаецца зараз па закутках то праваслаўя, то крышнаізму, то кабалы, прыпудрываючы імі маразм тэкстаў сваіх песень...

Вось слова “эміграцыя” і стала рэальнасьцю.

Але перад тым, як стаць у чаргу за іншым лёсам, прыйшло прасьвятленьне: “Чыю мэнтальнасьць ты носіш?” “Саўка” або чалавека сьвету? Што ёсьць Радзіма, што ёсьць дом, куды прынята вяртацца?” І ты ўжо ведаў, што па Гэмінгўэю “Радзіма – гэта там, дзе табе добра”. Радзіма – гэта дабрыня краіны, дабрыня людзей у адносінах да цябе. Такім чынам – твая дабрыня ў адносінах да іх. Такім чынам, дзе табе дрэнна – там ты чужы, эмігрант. Але эмігрантам можна быць, усё жыцьцё правёўшы на Радзіме і будучы мастаком, манахам-пустэльнікам...

Існуе яшчэ адно паняцьце – чалавек сьвету, касмапаліт. Чалавек, якому добра ўсюды. Дастаеўскаму належыць думка, што эмігрантамі не ста-

новяцца. Тыя, хто лёгка ўжываецца на чужыне, – імі нарадзіліся. Гэтыя людзі – касмапаліты. Ці ня ёсьць ты адным зь іх?

А зараз аб чалавеку.

Знаёмыя і былыя калегі адкрылі свой бізнэс. Ператварыліся ў "нуварышаў". Як і належыць, у "Іудушак Галаўлёвых", у эксплюататараў, бязьлітасных да сябе і іншых, якія месяцамі ня плацяць заробак, затое мяняюць модныя курорты і мадэлі машын. Зь іх неарамантызмам, сувязямі з "братвой" і сьвядомай пагардай да простага чалавека.

Усё робіцца па расейскіх прыкладах. Нас праглынае ўсходні вялікі брат. Нясьпешна, год за годам, як удаў труса.

За некалькі гадоў, як грыбы пасьля дажджу, у той краіне вырасла больш за сто мільярдэраў. Паўстаў алігархічны канібалізм лацінаамэрыканскага тыпу. Са сваёй сталіцай, дзяржавай у дзяржаве, што ўваходзіць у тройку самых дарагіх гарадоў сьвету. Горадам, дзе ўсё існуе ў некалькіх плоскасьцях: выгада, амбіцыі, імідж, навар. Горад з драпежным сэрцам, паразіт на целе краіны, горад, разбэшчаны шматгадовым палітычным блюзьнерствам. Горад, дзе вельмі даспадобы лічба 1 млн даляраў. Адзін мільён даляраў каштуе 30 хвілін выступленьня эстраднай зоркі на дні нараджэньня алігарха. Адзін мільён каштуе пародзісты арабскі скакун, трохпалубная яхта, яйка Фабэржэ, прыватны самалёт, сотавы тэлефон з дыямэнтамі, "Bugatti Veyron", шрубалёт і шматлікае іншае, без чаго сучаснаму чалавеку не абыйсьціся на "Кірмашы мільянераў", што праходзіць там.

Настаў час нястрымнай весялосьці, вакханаліі і тэатралізацыі. І ўсё гэта на фоне бяздомных і жабракоў, што замярзаюць, бандыцкіх "разборак", бездаглядных дзяцей з каналізацыйных люкаў і падвалаў, такой іх колькасьці не было нават у вайну. Будучых бандытаў і забойцаў, мсьціўцаў абыкаму за зьняважанае жыцьцё.

Дзясяткі мільёнаў суайчыньнікаў для "новых багацееў" – гэта проста дакучлівая маса, сьмецьце, пыл каля падножжа іхняй піраміды. Угнаеньне, на якім узрастае кровапралітнае, але ўзаемавыгаднае суперніцтва алігархаў і чыноўнікаў-вампіраў. Яны сьпяшаюцца пражыць свой кароткі тэрмін неанэпманаўскага жыцьця, як перад канцом сьвету. Але яны і не зьбіраюцца жыць там доўга. Іх базавыя каштоўнасьці далёка. Ужо скупленыя асабнякі ў цэнтры Лёндана па 100 млн даляраў. Скупленыя таксама палацы і замкі Францыі, Нямеччыны, Гішпаніі, Бэльгіі, пабудаваныя "царскія сёлы" ў Каліфорніі. Яны ведаюць дакладна, што чарговы "бессэнсоўны і бязьлітасны" не за гарамі, ён побач. Ведаюць, што жывуць у краіне "пэрманэнтнай" рэвалюцыі, што яна была, ёсьць і будзе там заўсёды.

Бессэнсоўны, таму што сэнсу ў расейскай рэвалюцыі ня больш, чым у фразе, што вызначае бізнэс па-расейску: "Выкрасьці скрыню гарэлкі, прадаць, а грошы прапіць", або "Рабуй нарабаванае!". Апамятайцеся! Падзяліцеся! Аддайце частку накрадзенага, і, можа, тады пранясе. Будзеце спаць спакойна, бяз снайпэра на страсе і вашай удавы ў чорнай хустцы! Бо дзяліўся ж Ракфэлер, аддаў жа Біл Гейтс 23 млрд даляраў на дабрачыннасьць. Падзеляцца? Не, не падзеляцца, як не зрабілі гэта іх дзеды і прадзеды і атрымалі 1917 год...

Сёньня ў іх мода на куплю замежных футбольных камандаў... Няма сэнсу згадваць усіх “аматараў футболу”, што купляюць каманды Нямеччыны, Бразыліі, Гішпаніі, Ізраіля, Баўгарыі, Шатляндыі. Важна іншае. Грошы гэтыя сыходзяць “міма кас”, за межы краіны. Міма народу, што пакаленьне за пакаленьнем ня ведаў дастатку ні пры якіх золатавалютных і нафтадаляравых запасах. Чыё ветхае жыльлё патанула ў пражэрлівай сыстэме ЖБК, а сталыя, з году ў год, усплёскі коштаў імгненна зьлізваюць усе надбаўкі да заробку...

* * *

Эміграцыя – гэта праблема не знадворку.
Эміграцыя – гэта праблема ўнутры цябе.
Калі ты шукаеш гадамі магчымасьць зьехаць – знайдзі яе.
Калі тваё жыцьцё падобнае на цягнік, у якога заела стоп-кран, –
Эмігруй.
Калі ня ведаеш, хто ты ёсьць, –
Эмігруй.
Калі разьдзіраесься, ехаць – ня ехаць –
Ня едзь.

* * *

Эміграцыя эміграцыі ня роўня.

Мы ня “белая” эміграцыя першай хвалі, якую лёс выдраў з засьнежаных лясоў з катаньнем на тройках з бразготкамі, адарвала ад “масьленіц” са званамі і сьпевам “Боже царя храни”, з “растегаями с икрой, да под водочку” і шпурнула на распаленыя анаталійскія камяні і пясок.

* * *

“Дым Бацькаўшчыны нам салодкі і прыемны...” Салодкі або горкі – гэта кожны вызначае сам. Большасьць зьехаўшых нікуды не прыехала, і зь незачыненых дзьвярэй цягнула сырасьцю. Эміграцыя – гэта дваістасьць, раздваеньне асобы, паглыбленьне ў сон на яве. Ты вырашыў згуляць у лёс на “біс”. І вось ты стаў часткаю вялізнага мэханізму з фіксаванаю ступеньню волі. Думкі твае расслойваюцца, цякуць двума струмянямі, і сэнс быцьця вымяраецца адлегласьцю паміж імі. У роспачы хапаемся за амэрыканскую тэхналёгію, францускую кухню, ангельскія манэры, нямецкую дэмакратыю.

* * *

Тая краіна рассыпалася, зьнікла, але дала ўсходы па ўсіх кантынэнтах.

Эмігрант – чалавек, які абраў волю. Мэта эміграцыі – выратаваць чалавека ў сабе. З кожным годам мы ўсё далей рухаемся ў лябірынце нашага новага жыцьця. Спрабуем жыць па-новаму, па цьвёрдых стандартах вольнага грамадзтва, што стварае адчуваньне незнаёмага сьвету зусім побач з намі...

* * *

Часам прыходзіць адчуваньне, што ты расьліна, якую перасадзілі ў новы вазон, але забыліся паліць. Спачатку эміграцыя – гэта шырокі вір, у які ўцягваецца ўсё вакол, потым ён звужаецца, застаецца найважнейшае, потым самае патрэбнае, потым – адзінае. Эмігранту галоўнае вызначыць, дзе ён захраснуў: паміж раем і пеклам? Або паміж пеклам і пеклам? А можа быць, паміж раем і раем? Каб стаць часткаю краіны, трэба навучыцца вытрымліваць мэнтальны канфлікт, самастойна спраўляцца са штодзённымі праблемамі.

* * *

Воля – нялёгкі цяжар, крыж, зьвязаны з рызыкай і асабістай адказнасьцю. Таму быць вольным значна цяжэй, чым рабом. Людзі лёгка адмаўляюцца ад волі ў імя спакою і дабрабыту, яны гатовыя перакласьці цяжар на нечыя плечы. Менавіта гэтая сытуацыя склалася сёньня на маёй радзіме.

* * *

На мой погляд, барацьба ў эміграцыі падзяляецца на дзьве фазы: барацьба са зьнешнім сьветам, на гэта ідзе ад аднаго да трох гадоў, затым пачынаецца барацьба з сур'ёзьнейшым супернікам, чым з Ausländerbehörde (Ведамства па справах іншаземцаў), з самым сабою.

Далей вытрымаць барацьбу з самым сабой па сілах ня многім.

Пераважная большасьць тых, зь белай эміграцыі, гэтую барацьбу прайгралі. Н. Бярдзяеў напрыклад. У эміграцыі ён не бедаваў, шмат друкаваўся, падарожнічаў, быў прызнаным аўтарытэтам.

“Я не на радзіме свайго духу, а ў чужым мне сьвеце. Усё мне падаецца чужым. Я смуткую ад адзіноты, смуткую па зносінах не з аб‘ектам, баюся сустрэчы зь іншым, тым, які можа аказацца чужым мне”.

* * *

Беларусь заўсёды была картаю розыгрышу. Палякі звалі яе “Kresy wschodne” – “усходняя ўскраіна”, а беларусаў – “крэсавякамі”. Расейцы пры цары – “Паўночна-заходні край”.

Хто назаве сёньня колькасьць абруселых палякаў і апалячаных беларусаў у Беларусі.

Кім стаць?

Можа, стаць немцам?!

* * *

Нядаўна прачытаў аб тым, як адзін сталы прафэсар разам са сваёю сяброўкаю (абодвум шмат месяцаў не выдавалі заробак), хадзілі ў краму красьці прадукты пад носам у ахоўніка. У Менску мой знаёмы прафэсар філязофіі ўвесь час хадзіў у акулярах з дужкамі, прыкручанымі меднымі дроцікамі. Мне гэтага хапіла. Чакаць, калі стану яго аднагодкам, я ня стаў.

Не хацелася вырошчваць каноплю на градах, каб выжыць, як робяць гэта шматлікія пэнсіянэры ў былым СССР.

* * *

Тут усё знаходзіць праўдзівую каштоўнасьць. Грузіны тут ня носяцца са сваёй кухняй, армяне – са сваім каньяком, малдаване – са сваім віном. Разумеюць, што на фоне францускай і італьянскай кухні, якой немцы валодаюць у дасканаласьці, ім ня “сьвеціць”. Прыбалты паціху сядзяць са сваім мастацтвам і ня рыпаюцца. Разумеюць, куды патрапілі...

* * *

Эміграцыя – гэта адказ, рэакцыя на непрымальную хаду жыцьця на радзіме, форма самазахаваньня чалавека, які адчуў сябе актыўным суб’ектам культуры, які не захацеў быць безаблічнай пясчынкай паміж няўмольнымі жорнамі жыцьця.

* * *

Душа чалавека – мігрантка і вандроўніца.

Куды прыехалі мы, адпусьціўшы тармазы жыцьця?

Да таямніцы... У прыдуманае шчасьце...

Гэта спроба знайсьці сабе месца ў сьвеце, які ссунуўся са звыклых апораў, сярод тэктанічных плітаў цывілізацыі, што ўздыбіліся на стыку двух тысячагодзьдзяў...

* * *

Па нейкіх незразумелых законах тады, у дзевяностых, мы перамясьціліся з краіны хуткіх грошай і хуткіх стрэлаў у іншы сьвет. Увесь час думаю: а ці я гэта? Можа быць, хтосьці замест мяне ў маёй абалонцы і памяці? У Нямеччыне дзясяткі новых сяброў і знаёмых, у Беларусі старых ужо няма. Размаўляю на розных мовах, маю зносіны з прадстаўнікамі васямнаццаці народаў. Для чаго, навошта, чаму? Пляны на чыё жыцьцё пражываю?

Хто адкажа...

* * *

Першае ўражаньне ад эміграцыі – цябе прапусьцілі скрозь гібрыд мясарубкі, сокавыціскалкі і аўтамата для рэзаньня гародніны. Мясцовыя нораны, лад жыцьця, СМІ здаваліся ўвасабленьнем абсурду, чыстым Кафкам. Потым была незваротная страта і бясконцы пошук самога сябе. Палюбіў мову, але перастаў разумець людзей... Паступова прыйшло разуменьне постмадэрнісцкага сьветаадчуваньня.

* * *

Ніяк ня мог зразумець, чаму, сьпісаўшы за 12 гадоў тоны паперы пра Нямеччыну, нічога не напісаў пра Беларусь. Пакуль не знайшоў у “Пуціне”

Барыса Пятровіча: “Цяжка пісаць пра тое, што добра ведаеш, і лёгка – пра тое, што ня ведаеш”.

* * *

Іншыя народы, іншую веру можна і трэба любіць. Датуль, пакуль за адным сталом з табой ня сядуць людзі, што не ядуць сьвіныя бэкон і каўбасы. Габрэі, расеец, што хоча быць габрэем, турак, чачэн і немец, што таксама жадае быць габрэем. І ўсе пяцёра – твае былыя суайчыньнікі. Іх вера гэта забараняе, і павагі да цябе яны не адчуваюць...

* * *

У той краіне былі людзі, што любілі цябе толькі за тое, што ты ёсьць. Тут ёсьць людзі, якія ненавідзяць цябе па гэтых жа прычынах... У Нямеччыне, як і ў Расеі, замежніку даводзіцца мірыцца з тым, што ёсьць катэгорыя людзей, якія лічаць, што “панаехалі тут усякія” і паступае з намі адпаведна.

* * *

Настальгіі няма.
Аб чым настальгаваць?
Сьвітанкі над беларускімі азёрамі
Зьмянілі сьвітанкі над нямецкімі.
Рублі зьмянілі маркі, а затым эўра.
Беларускія баравікі зьмянілі нямецкія.
Ляшчы і судакі тут такія ж.
І джынсы, і красоўкі, і курткі...

* * *

Перамагае тут той, хто здолее адмовіцца ад сталага погляду назад, у ранейшае жыцьцё, ранейшага сябе.

Паняцьце “далёка – блізка” сёньня адсутнічае.

Сеў на цягнік – і заўтра на радзіме. А самалётам і таго хутчэй.

Вось толькі дзе Радзіма? Тут або там? Адтуль адарваўся, а тут не прыстаў...

Сёньня ў глябальных сетках “віртуальнай” інфраструктуры, што ахапілі ўвесь сьвет, сваё і чужое зьмяшалася і стала аднолькава чужым.

Адна з асноўных праблемаў для кожнага эмігранта – гэта прымаць або не прымаць сваю другасортнасьць. Для тых, хто на радзіме быў эмігрантам, не існуе ні радзімы, ні эміграцыі...

Манахі і пустэльнікі, якія жывуць у скітах, – гэта таксама эміграцыя. І мастак – гэта таксама эміграцыя.

* * *

Сапраўдная трагедыя прыходзіць тады, калі ты вывучыў мову, прыапрануўся, перакаштаваў, паезьдзіў, папрацаваў. А далей ісьці няма куды...

А ісьці трэба. Гэта закон разьвіцьця. Рух – жыцьцё.

* * *

Часам вар'яцтва маячыць побач, як паслужлівы афіцыянт у дарагой рэстарацыі. Жадаеш ведаць, хто твой галоўны вораг, – паглядзі ў люстэрка.

Галоўнае – ня даць у сабе разрастацца трэшчынам...

Як там у песьні: "Ёсьць толькі імгненьне паміж мінулым і будучым..."

Тут сучаснасьць становіцца лейкаю, у якую ўліваецца будучыня, становячыся мінулым... Жыцьцё ператвараецца ў кавалак прасторы, дзе ёсьць Учора – гэта Радзіма, кавалачак Сёньня – жыцьцё ў іншай краіне, прыгаршча Заўтра – невядомасьць...

* * *

Навучыўся шанаваць ня толькі кожны пражыты дзень, але і кожную пражытую гадзіну, ня толькі кожнага сябра, але і цень сябра...

* * *

Ты можаш зьмяніць краіну, прозьвішча, мову, ты можаш есьці піцу, сушы, кебаб, мацарэлу, піе, гарнэлі, скампі, тапінамбур, лазаньню, маскарпонэ і гарганцолу, але ты нікуды ня дзенеш любоў да сала, бульбы і чорнага хлеба. Таму што за гэтым стаяць дзясяткі пакаленьняў тваіх продкаў...

Надзя Лежэ, народжаная Хадасевіч, на заходзе жыцьця, ледзь пераехаўшы беларускую мяжу, кінулася з лазінай да статка сьвіньняў...

* * *

Шмат што зьмяняецца, шмат што вырашаецца,  шмат што пераўтвараецца.

Нязьменным застаецца пытаньне:

– Дзе будзеш паміраць?

– Што будзе з магіламі продкаў?

* * *

Эміграцыя – гэта праверка самога сябе па вышэйшым рахунку, на крохкай грані зьнешняга і ўнутранага сьвету.

Важна ня толькі пазнаць, які гэты сьвет, але і як ён перапаўняецца ў табе. Кім ёсьць ты ў ім. Як высока ты зможаш падняць сваю плянку. У Левітанскага знайшоў: «Кожны выбірае сабе сам: жанчыну, рэлігію, дарогу, д'яблу служыць або прароку».

* * *

Пераход у іншую прастору патрабуе прывыканьня да энэргетычных перагрузак.

Калі слова "замежжа" ператвараецца з мэтафізычнага ў бытавое, за гэта трэба заплаціць. Страхамі і стрэсамі.

Кожны эмігрант змушаны супрацівіцца гэтаму соцыўму, па-свойму ствараючы свой мікрасьвет, малюючы сваю штодзённую мапу індывідуаль-

насьці. Тут ледзь ці ня кожная рыса новага побыту валодае холадам разрыву з сабою ранейшым. Для тых, хто на радзіме быў эмігрантам, не існуе ні радзімы, ні эміграцыі...

* * *

Эміграцыя – гэта фільм аб чалавеку, на якога вайной ідзе вялізны сьвет. І што ён упадабае – бой або хованку...

Адзін мой калега-літаратар сказаў: "Эміграваць у чужую краіну – усё роўна, што ажаніцца з жанчынай, якую раней ня бачыў".

Вось яшчэ адно азначэньне эміграцыі: сатрэш сябе гумкай пад нуль і пачынаеш маляваць зноўку.

* * *

Часам падаецца, што калі-небудь я вярнуся, вось толькі ня ведаю, куды...

* * *

Эміграцыя – гэта добраахвотны прыезд у месцы аддаленыя.
Дзе б'юць.
Хто і завошта б'е – няважна.
Важна, што б'юць.
І часам зьбіваюць з ног.
І тут, як у вулічнай бойцы,
Галоўнае – хутка ўстаць на ногі.
Інакш – канец....

* * *

Бацька меў галівудзкую зьнешнасьць. Займаўся штангай, як зараз гавораць "культурызмам". Любіў жанчын і быў любімы імі. Валодаў незвычайнымі арганізацыйнымі здольнасьцямі. Я не сустракаў больш такіх людзей у жыцьці. Двойчы яму прапаноўвалі эміграваць. Падлеткам – у Амэрыку, сталым – у Нямеччыну. Ён не адважыўся. Замест гэтага ён патрапіў спачатку ў фашысцкі канцлягер, а потым – у "Гулаг". Жыцьцё зьбіла яго з ног, і ён ня змог устаць...

* * *

Свой галоўны ўрок на тэму "Радзіма – эміграцыя" я атрымаў яшчэ ў Менску ў пачатку перабудовы, падчас усеагульнага ўздыму і натхненьня. Калі мае калегі па "Талацэ", закінуўшы плякаты з надпісам "Жыве Беларусь!", зьбеглі, хто ў Летуву, хто ў Польшчу, а хто ў Амэрыку... Хоць нікому зь іх у папрок гэта ня стаўлю.

* * *

Дагэтуль не магу паверыць, што "перабудова" праваліласа. Што гэты дух перамен, духоўнага ўздыму, філянтрапіі і навізны сыйшоў, выпарыў-

ся... А ці была яна? Ці не загіпнатызаваў нас тады той, хто стаяў за Кашпіроўскім?

Раптам вылезьлі зь нейкага пекла рвачы, камэдыянты, лізаблюды, што зьлілі сумленьне ў каналізацыю, браткі зь іх жахлівай фразай "кантрольны стрэл у галаву", "нуварышы" – прытворцы і скамарохі.

Прарабы новай маралі і вялікага хапка, сьпевакі, што зблыталі карчму і сцэну, клоўны, што скачуць пад "фанэру".

Нормаю стала адсутнасьць нормы. Культ мамоны. Усе акцэнты зьмешчаныя ўбок.

Кожны стаў займацца толькі сваім лёсам, і ня стала ня толькі грамадзкіх ідэалаў, але і ідэалаў наогул.

Здавалася, што краіна ў роспачы канчала з сабою...

* * *

Зараз на адлегласьці стала ясна, хто мы цяпер.

Мы – пакаленьне, згубленае паміж перабудоваю і капіталізмам.

"Забудзь сваё імя і стань ракой". (БГ).

Першае, з чым ты сутыкаесься ў эміграцыі – мільянер, бізнэсмэн, мастак, артыст, пісьменьнік, палітык – кім бы ты ня быў на радзіме, тут ты становісься нікім. Краіна цябе ня ведае.

У лепшым выпадку ты можаш патрапіць на старонкі крымінальнай хронікі.

Вудзі Ален неяк сказаў, што пасьпяховая эміграцыя – гэта "мэнтальная мутацыя". Можа быць. А як быць з тымі, каму ня трэба зьмяняць мэнтальнасьць? Хто быў інфіцыраваны хваробаю эміграцыі зь дзяцінства?

* * *

Усе эмігранты – выхадцы з Саюзу за "бугром" – расейцы.

Паволскія немцы, якія нават дома размаўлялі па-нямецку, у Нямеччыне – усё роўна расейцы.

Габрэі ў Ізраілі, хоць там, як вядома, на чвэрць былы "наш народ", (а Шчаранскі – нават міністар) – усё роўна расейцы.

Тое ж самае адбываецца ў Амэрыцы, Польшчы, Грэцыі і інш.

Эмігранты ня маюць нацыянальнасьці.

Толькі краіну.

Раней я думаў, што эміграцыя – гэта барацьба са зьнешнім сьветам, а аказваецца, гэта ў першую чаргу барацьба з самім сабою. Эміграцыя не зьмяняе людзей. Яна паскарае працэсы ў іх....

* * *

"Часам трэба вельмі хутка бегчы, каб хоць застацца на месцы" ("Аліса ў краіне цудаў").

Мне падаецца, што выслоўе гэтае можа быць лёзунгам эмігранта.

Але я б яшчэ дадаў: "І каб цябе ня сьцерла ў парашок, як шасьцяронку, якая стала круціцца ня ў той бок".

* * *

Усё жыцьцё ў Саюзе нас суправаджала дармаўшчына.

На дармаўшчыну вучыліся, на дармаўшчыну працавалі, на дармаўшчыну атрымоўвалі зарплату.

На дармаўшчыну сілкаваліся і апраналіся.

На дармаўшчыну жылі...

Але дармаўшчына павінна была калісьці скончыцца.

І для некаторых яна скончылася эміграцыяй...

* * *

Эмігрант – гэта пасажыр з “Тытаніка”, якому пашчасьціла адхапіць выратавальную камізэльку і пазьбегнуць пагібельнага віру.

Першая думка – выратаваўся!

Другая – але ж вакол бяскрайні акіян, а вада ледзяная...

* * *

Часам ловіш сябе на думцы, што пачынаеш не любіць паштовую скрыню. З кожным годам цёплых лістоў становіцца ўсё менш, а кожны ліст зь нямецкім зваротным адрасам пагражае абярнуцца экзыстэнцыяльнай бядой...

* * *

У мяне няма тэлевізара.

Мне не патрэбны мутны паток інфармацыі са “скрыні”. Яго задача – загружаць маю галаву правільнасьцямі зь няправільнага сьвету.

Маё ТБ – гэта жыцьцё.

Кожны дзень ў мяне на вачох здымаецца новая сэрыя. І кожны вечар ідзе прагляд кадраў зь мінулага жыцьця.

Куды б ты ні зьехаў, успаміны едуць разам з табою...

* * *

Любімы мой занятак тут – рэзаць шыкоўныя часапісы тыпу “Vogue” або “Stern” і выкідваць іх у сьметнік. У адплату за беднае юнацтва.

* * *

У эмігранта ўнутраны канфлікт параджае зьнешні. Калі ня выкінеш са свайго лексыкону словы: страх, лянота, стомленасьць, недавер, незадаволенасьць, то яны аб’ядноюцца і раздушаць цябе. Цяжэй за ўсё знайсьці гармонію паміж сваімі пачуцьцямі, жаданьнямі і рэальнасьцю.

У прыстасаваньні да тутэйшага жыцьця ўваходзяць незаўвага свайго болю і спачуваньне болю чужому.

– Wie geht’s? Geht Gut! Kein Problem! Вечнае пытаньне, якое не прызнае адмоўнага адказу.

* * *

Паняцьце “сэнс жыцьця” і “кожны пражыты дзень” тут перастаюць быць толькі паняцьцямі, яны становяцца сіламі, што бязьлітасна кіруюць чалавекам. Наступае “момант ісьціны”, калі ўсталёўваецца іх сапраўдная каштоўнасьць і значнасьць. Тут чужое, новае жыцьцё паказвае чалавеку сябе ва ўсёй паўнаце і чакае ад яго таго ж. І гора таму, хто гэтага не разумее і не прымае. Гэта, як на вайне, дзе чалавечае быцьцё даведзена да краю, да памежнай сытуацыі. Галоўнае – знайсьці праўдзівы духоўны стрыжань, які насычае спаўна.

І стрыжань гэты – Бог.

* * *

У Маціса і Руо неяк спыталі, ці змаглі б яны жыць і працаваць на незаселенай высьпе. Маціс адказаў, што не, там ня будзе гледачоў. Руо адказаў – так, вядома, там буду я і Бог. Гэта, як словы зь песьні: “Ня важна, дзе зараз жыву я, у краіне сваёй або чужой. Там неба – дзе Ісус са мной...”

* * *

Калі даведваліся, што я з Weissrussland, некаторыя немцы пыталі:

– А што, Rotrussland таксама ёсьць ? Але ніколі ніхто не спытаў пра Swarzrussland або Grünrussland... Стэрэатып.

* * *

Толькі тут пачынаеш выразна разумець сэнс выслоўя: “Што расейцу добра, тое немцу – сьмерць”. Толькі наадварот.

* * *

Захад – гэта не адно цэлае.

Амэрыка, Канада, Новая Зэляндыя, Аўстралія – гэта ня Англія, Францыя, Італія, Нямеччына. У першых няма іншаземцаў, няма і абарыгенаў (індзейцы ў рэзэрвацыях ня ў лік). Тут веданьне мовы і плюс талент можа быць формулаю посьпеху для тых, хто зноў прыбыў.

У краінах старога сьвету – не. “Будь ты хоть семи пядей во лбу”, а твая мова – perfekt, калі ты ausländer – гэта прысуд. Адная з асноўных праблемаў для кожнага эмігранта – гэта прымаць або не прымаць сваю другасортнасьць. Калі ты становісься чалавекам другога сорту, то ўсе грахі, назапашаныя капіталістычным грамадзтвам, шчодра сыплюцца на тваю галаву. Наверх яшчэ ніхто не падняўся.

Выключэньне складаюць спартоўцы. Але жыцьцё ў спорце абмежаванае некалькімі гадамі...

* * *

Там я быў паляўнічы і рыбалоў, ставіў мудрагелістыя снасьці.

Зараз я сам ахвяра і здабыча. Вакол раскіданыя прыгожыя і прывабныя прыманкі, якія ўтойваюць у сабе кручкі, петлі і пасткі…

* * *

Эміграцыя… Ці ня ёсьць яна спробаю падмануць самога сябе?

Мы пусьціліся ў гэты паток у надзеі на цуд, на тое, што калі-небудзь, дзе-небудзь вынесе на бераг. Жывучы на радзіме, зь яе дзіўным ужываньнем піра жыцьця і яе поўнай гангрэны, усяго гэтага “параду-але” недарэчных катэджаў, “Мэрсэдэсаў”, кабакоў і пікнікоў, геніяў фізыкі і чорных геніяў “пірамід”, вёсак зь ціха дагніваючымі хатамі, дзе пануе непрабудная п’янка, хрушчовак, якія тырчаць, як зубы, шыкоўных надмагільляў на могілках з надпісам “Вавану ад братвы” і былых інтэлігентаў, што капошацца ў сьмецьцевых баках – усяго гэтага раскручанага махавіка самаліквідацыі, ты верыў, што дзесьці ёсьць іншыя берагі, іншыя каштоўнасьці. І вось слова “замежжа” пераўтварылася з абстрактнага ў рэальнае. Яго можна памацаць. Так, адна з галоўных заваёваў немцаў – выпрацоўка рацыянальнага паняцьця аб тым, што такое сацыяльная справядлівасьць. Гэта цывілізацыя, якую нельга зімітаваць.

Але ці годны ты яе? Гэта трэба даказаць…

* * *

Тут, за мяжой, я нарэшце атрымаў адказ, аб чым сьпяваецца ў песьні “Immigrant Song” (“Песьня эмігранта”) групы “Led Zeppelin”, што была вельмі папулярная ў часы майго юнацтва. Пра мяне…

* * *

Нямеччына – гэта грамадзтва. Гэта згуртаванасьць на нацыянальнай ідэі.

У Беларусі ніколі не было грамадзтва. Кожны сам за сябе. Чужаземец або свой – няма розьніцы…

* * *

Добра быць беларусам у Бэрліне. Немцы ня любяць расейскіх немцаў, лічаць іх расейцамі. Расейскія немцы ня любяць расейцаў, лічаць іх катамі і прыгнятальнікамі, расейцы ня любяць традыцыйна габрэяў, тыя традыцыйна ня любяць і баяцца ўсіх. Мяне любяць усе і запрашаюць да сябе, бо немцы нічога ня ведаюць пра Беларусь, расейскія немцы лічаць нас малым народам, такім, як і яны, расейцы любяць беларусаў, як сваіх кроўных братоў, а габрэі любяць за тое, што беларусы – адзіны народ у Эўропе, які не рабіў габрэйскіх пагромаў.

* * *

Я не беларус, я тутэйшы – казаў бацька, які добра размаўляў на беларускай, расейскай, польскай, ідыш, трохі нямецкай, бо ў сваім дзяцінстве лавіў рыбу ў Менску на Сьвіслачы разам з расейскімі, польскімі і габрэйскімі хлопцамі, а потым перажыў дзьве нямецкія акупацыі – армію Людэн-

дорфа ў 17-м годзе і армію Гудэрыяна ў 41-м годзе. Ён бачыў у Менску Пілсудзкага пад час яго знакамітага выступленьня: "Беларусы, я зьвяртаюся да вас як роўны да роўных!" Потым бачыў Тухачэўскага і Якіра. Ягоны бацька служыў у Балак-Балаховіча. Калі б нехта ў дзяцінстве сказаў мне, што і я буду размаўляць на гэтых жа мовах, больш таго, што буду жыць у Нямеччыне і пісаць у габрэйскія друкаваныя выданьні – я б палічыў гэта вар'яцтвам...

* * *

Сцэнар эміграцыі – гэта заўсёды вынік сумяшчэньня лёгікі пэўнага чалавечага жыцьця і сацыяльна-палітычнай раскладкі сілаў у культуры на вызначаных тэрыторыях. Нядзіўна, што зь Беларусі ад'яжджаюць па-іншаму, чым з Расеі або Летувы.

Зь Беларусі эмігравалі заўсёды. І ў савецкі час, і ў рэвалюцыю, і да рэвалюцыі.

У час Францыска Скарыны і да яго. Важна ня тое, хто і калі эміграваў, а тое, што эміграцыя для беларуса – паняцьце натуральнае. І тэма разрыву з Радзімаю ў яго вострa не стаяла. Гэтага няма ні ў традыцыі беларускай літаратуры, няма ні ў В. Быкава, ні ў І. Дамейкі, ні ў М. Шагала, ні у пасьляваеннай эміграцыі.

А вось у расейскіх пісьменьнікаў заўсёды стаяла вострa. Адзін Дастаеўскі чаго варты: «Лепш быць сасланым у Сыбір, чым жыць тут» (гэта ён пра Нямеччыну XIX ст.).

* * *

Памру і стану нямецкай зямлёю.
Зьмяшаюся з прахам Гётэ і Дзюрэра.
Не, лепш Рэмарка.
Мне ён падабаецца больш.

* * *

Маці даўно ўжо няма на сьвеце, я забыў цяпло яе рук. Але тут, у Нямеччыне, я сустрэў маці. Фраў Герыке, супрацоўніцу нашай фірмы і маці майго шэфа – Марціна. Энэргічная, дзелавая, мудрая і бясконца добрая. Штораз, калі жыцьцё зьбівае мяне з ног, яна дапамагае ўстаць.

Яе муж ваяваў на Ўсходнім фронце, распавядаў ёй, які прыгожы Кіеў увесну. Яна жадала б зьезьдзіць туды. Чаму розьніца паміж сталымі немкамі і маладымі такая вялікая?

У мяне няма братоў, але тут, у Бэрліне, братам мне стаў Марцін, мой шэф. Чалавек, які сумяшчае ў сабе зацятасьць фанатыка, устойлівасьць спартанца і высакароднасьць патрыцыя. Я ўдзячны яму за тое, што ён навучыў мяне, як трэба працаваць у калектыве...

А яшчэ я ўдзячны Рэмарку за тое, што паказаў, якое павінна быць сяброўства.

Лютэру за тое, што адкрыў для мяне Бога.

Дзюрэру за тое, што навучыў мяне маляваць.

Цвэйгу за тое, што адкрыў для мяне мастацтва пісьменьніка.

Фрэйду за тое, што навучыў правільным узаемаадносінам у сям’і.

Ніцшэ за тое, што дапамог зразумець сутнасьць жанчыны (ня фразай пра пугу).

Невядомаму будаўніку сабору ў Ульме за тое, што навучыў якасьці працы.

Незнаёмай бабульцы, што даглядае магілы савецкіх ваеннапалонных у Баварыі, за тое, што так пачалося маё разуменьне немцаў.

* * *

З Набокава:

“Я ніколі не вярнуся. Уся Расея, якая мне патрэбна, – заўсёды са мной – літаратура, мова, уласнае дзяцінства”.

“Ubi bene, ibi patria” – “Радзіма – гэта там, дзе табе добра” – казалі старажытныя рымляне.

* * *

Прыходзіць той момант, калі ты раптам разумееш, што ўрос у гэтае грамадзтва, у гэтую краіну, у гэты народ. Стаў жыць ягонымі сьвятамі і буднямі, радасьцямі і смуткамі, традыцыямі і звычаямі. Стаў прарастаць у гэтую цьвёрдую зямлю, пусьціў карані, арганічна ўплёў сваю мэнтальнасьць у тутэйшую. Знаходзіш іншае гучаньне слову “касмапалітызм”. Бо гэта – натуральны стан вольнага чалавека, здольнага жыць там, дзе жадаеш і як жадаеш. Можна палюбіць чужую краіну ня толькі ў знак падзякі, але і таму, што яна апынулася блізкай тваім мроям і паданьням аб жыцьці, за тыя новыя небасхілы спазнаньня, што ты ў ёй набыў, за тыя новыя якасьці ў сабе, аб якіх ты не падазраваў.

Ванька-ўстанька ў табе адбыўся...

*( Скарочана)*

*Бэрлін, 1998 – 2010 гг.*



**ШАМЕЦЬКА Юрась** нарадзіўся і вырас у Менску. З 1997-га жыве і працуе ў Атаве, Канада. Публікацыі ягоных вершаў у альманаху “Беларус”, у часапісах “Маладосьць” і “Дзеяслоў” выклікалі зацікаўлены водгук ня толькі чытачоў, але і крытыкаў, літаратуразнаўцаў. І гэта натуральна, бо вершы Юрася Шамецькі шматасацыятыўныя, шчырыя пачуцьцямі і думкамі, пашыраюць прастору беларускай паэзіі. Юрась Шамецька — аўтар кнігі вершаў “Шлях да вяртаньня”, якая выйшла сёлета ў менскім выдавецтве “Беларускі кнігазбор”.

## Тры вершы пра каханьне

### 1

Неба падае з рук... Пачынаецца восень...
Сьветлагорскія сосны ўрастаюць у просінь.
Суцяшаюся цішай
напярэдадні ночы,
шлях шукаю з вакзала, што лёс напрарочыў.
Мне пашарпанасьць сьцен не дае памыліцца...
Ты мяне сустракаеш,
мне ўжо не спыніцца.
А сумненьні даўно спадзяваньняў ня варты...
— Ты прыехаў? Паедзеш, напэўна, ня заўтра?
І пяшчотна глядзіш... Небу робіцца лёгка,
Баха граць не спыняецца радыёкропка.
І зьбірае ў раку неба кропелькі волі...
— Безь цябе я назад не паеду ніколі.

### 2

Зьяўленьне дзён даўгіх бясконца
там, дзе начныя сьветлафоры
сьвятло давалі, быццам сонца,

а лямпачку на калідоры
мы не ўключалі.
Нас трымала
свабода, каб сябе спазнаць...
Жыцьцё нічым не замінала
свой шлях той ноччу пачынаць.
Гадзіньнік цікаў неспакойна...
Было дванаццаць, можа, болей...
Лёс падаваўся выпадковым,
нібыта кніжным.
Хутка, вольна
час раздаваў жыцьця авансы...
А я глядзеў табе у вочы,
каб не лічыць апошнім шанцам
чароўны край той доўгай ночы.

## 3

Цені ня маюць адценьняў...
Зь лёгкасьцю па правадах
перасылаюць імгненьні
аб непакорлівых снах.

Дні не дадуць стаць рашучым,
і, абляцеўшы прастор,
час можа стаць балючым –
ты ж адвядзеш мой дакор.

Раптам успомнім пра ноты –
і, каб сябе адшукаць,
мы да наступнай суботы
будзем па нотах сьпяваць.

Музыка зробіцца сталай,
доўга трымаўшы цяпло...
Ценямі целаў каханых
будзем ляцець на сьвятло.

* * *

Не шукаю я пары змаганьня,
не бывае тут пары дажджоў...
Ў Менск стары, як крылы для вяртаньня,
я білет шчасьлівы не знайшоў.

Горад мой бяз золата і бронзы,
абмінуўшы славу і прэстыж,
ў скрыжаваньнях вуліцаў бясконцых
знойдзе мне мой ратавальны крыж.

Я блукаю, каб знайсьці адказы...
Ён, як храм, стаіць паміж вятроў –
горад непакораны ў паразах,
не зламаны дзідамі вякоў.

Ён і сёньня дорыць водар чысты,
ў акварэльных променях дажджу,
дапаможа вызначыць празрыста
шлях адзіны, па якім пайду.

## Пачатак зімы

### 1

У Менску рана – тры гадзіны ночы.
Яшчэ ня сплю – ў Атаве толькі восем...
У прагны час, каб не бурыць сьвяточнасьць,
на сем гадзін працягне вечар восень...
Тут дрэвы не пазначаны на мапах,
Шато Лаўр’ер* мне адчыняе дзьверы...
Вось цяжка цягнуць ваяры гарматы
на помніку... Мне іх ня бачна веры...
Веленавым сьвятлом цякуць хвіліны
па вуліцах... Зусім не разумею –
чаму губляюць годныя ліцьвіны
свой шанц апошні... Цёмны вечар грэе...
Я ж слухаю этэрны шум прасторы...
У Менску – тры, а мне няма жаданьня
зноў аб’язджаць дарожныя заторы
і не лічыць свой шлях выратаваньнем.

### 2

Зіма... Няма куды сьпяшацца...
Жыцьцё лірычным вернецца настроем,
анёлы пастараюцца застацца, –
малююць неба фарбай неспакою.
Мне не знайсьці (ня чутна нават слова)
свой шлях, што застаецца выпадковым...
Іду адзін, каб адшукаць сьвятое,
наіўнае, жывое навакольле...

Няма праспэктаў, толькі ёсьць гайўэі, –
Не разважай... На газ мацней  націсьні...
На хвалях радыё мажорны вецер вее,
і раніцай тут малако ня кісьне.
А голас вечнасьці праўдзівы вецер сее...
Надвор'е кепскае, а горад не пусьцее.
Ў маім жаданьні восень не старэе...
Халодным днём Шато Лаўр'ер сагрэе...

**3**

Пачатак там, дзе скончыцца жыцьцё,
дзе кожная хвіліна – адкрыцьцё
адлюстраваньня... Сьветлым сном астыў
мой горад, што няспынна, ціха плыў,
а потым перайшоў на жорсткі бег...
У парк іду... Кладзецца першы сьнег...
Халодны край паўстане ў поўны рост,
мне вершам нагадае Роберт Фрост
пра восень, без жаданьня даказаць,
а толькі ісьціну забытую сказаць:
калі ў цябе ёсьць хоць адзін чытач,
то варта вершы для яго пісаць
і чуць свой голас ў поўнай цішыні,
і разумець, што больш вы не адны...
Раку Атаву Сьвіслаччу б назваць,
каб ведаць далей, што яшчэ чакаць.

**4**

Зноў восень адступіла ад сталіцы
і коньніца непадуладных лісьцяў
ня вернецца... Ёй болей не спыніцца...
Па лужах скачуць спрытныя сініцы...
Я неба падзяляю на кварталы,
тут сьцёк вады пралічаны дакладна...
Вось толькі часу засталося мала –
прастора слова выдалена з заўтра.
Ужо без спадзяваньня на нябёсы,
каб не губляць апошнюю магчымасьць,
раблю свой крок насустрач снам і лёсу
і не пытаю: "Дзе ж яна, айчына?"
Мне годным падаецца лёс адданы,
"Куды ісьці?" – здаецца, не пытаньне...
Далёкі край зноў характво стварае,
і чысты сьнег над горадам лунае.

* Шато Лаўр'ер – гатэль у Атаве.

## Пазл

Па дзьвюх дарогах не пайсьці, –
я тут не выбіраю.
У думках час не абыйсьці, –
ня ведаю, што далей...

Расьце сунічнік на двары...
Часьцей мяне вяртае
ў дзіцячы лес, да той пары,
якой даўно ня маю.

Зьмяняе правілы парой
свабода на выгнаньні,
яна здаецца мне гульнёй,
гульнёй выпрабаваньняў.

Сухі дрымотнік на вакне
дзяцінства мне вяртае...
Няпросты пазл на стале
з пражытых дзён складаю.

* * *

*А. С.*

У рэчкі мудрасьці вучуся
і не страшуся глыбіні.
Я адчуваю, што вярнуся
у надыходзячыя дні.
Паўстануць вобразы над плыньню...
Мне іх ужо не абмінуць...
Вось вечар у тумане стыне,
і берагі ракі плывуць.

У рэчкі лёгкасьці вучуся,
бязьмежжа вечнасьці цаню,
і быць сабою не баюся,
няўдзячнасьць лёсу абміну.
Вучуся жыць жыцьцём празрыстым
і разумею, што знайду
свой шлях зямны, каб словам чыстым
душы памераць глыбіню.





**ШЧУР Макс** (нар. 5.12.1977, Берасьце) жыве ў Чэхіі з 1998 году, за гэты час выдаў зборнікі вершаў “Амфітэатар” (Гданьск, 1999), “Раньні збор” (Стакгольм, 2006) і “Амальгама” (Менск, 2010), а таксама кнігу прозы “Ліст, знойдзены на папялішчы” (Познань, 2011). За раман “Там, дзе нас няма” атрымаў у 2004 г. прэмію Янкі Юхнаўца. Перакладае з гішпанскай, ангельскай, чэскай і славацкай моваў. Апрача “Беларуса” публікуецца збольшага на ўласнай вэб-старонцы www.niamiesta.se, у альманаху “Запісы БІНіМ”, часапісах “Дзеяслоў” і “Analogon” (Чэхія). Сёлета ягоны пераклад паэмы Карла Гінэка Махі “Май” (“Дзеяслоў”, № 48, 2010) быў намінаваны на прэмію часапіса “Прайдзісьвет”.

# Урывак з элегіі (з новых вершаў)

## Перакладчыку Гэрбэрта

*Ю. Б.*

Паўзе жыцьцё, бягуць спаборніцтвы,
дванаццаці падгруп парад
у наступ клінам ператворыцца,
і зноў старонка перагорнецца
наперад, анібы назад.

Ізноў, застаўшыся ў плюс-мінусе,
мы будзем гінуць за мэтал
і верыць, што канёк нас вынесе,
нібы пры князі Гедымінасе,
у бітвы казачны фінал,

дзе, бы ў гадронавым каляйдэры,
цягнік урэжацца ў цягнік,
усіх адужаюць аўтсайдэры,
зайздросьнікі памруць ад зайздрасьці,
і прыз дадуць – не ацаніць!

Да мэты рушым паступова мы,
ды ўжо цяпер займае дых,
калі знаёмімся мы з новымі
высокіх курсаў прапановамі
замест ранейшых курсавых.

Усё залежнае ад жэрабя,
пашчасьціць – будзе “заі...ца”...
Трыюмфу прага людажэрная
разьменіць талент на кішэнныя
й падкажа нумар жарабца.

Жыцьцё – гульня і пры ўзурпатары...
Як той казаў – carpe diem...
І мы, адчайныя заўзятары,
зноў на быцьця таталізатары
з сабой самімі прайграем.

* * *

Працягваецца трыццацігадовая
вайна. Б’юць сьнегам мокрыя гарматы.
Адзіна для дзяцей “хлапушкі – сьвяты”.
Ані зязюля з хаткі носу не высоўвае.

Сьвет вадзяністы зьмерз, паводле Талеса:
зіма сама ідзе да Магамэта.
Вечны паўтор – любога мага мэта:
– Дзе ты была так доўгі час? – Вярталася...

Аблазіць футра, вапна, й скура лупіцца,
у ролі елкі – шчэць на падбародзьдзі.
Паабяцай сабе ў наступным годзе
вянок-гняздо – халупу ў Мнехалупіцах.

(Хутчэй, набыць Галгофу мне б патрафіла,
каб помнік збудаваць нерукатворны.)
Ды час не надыйшоў паводле графіка.
Зажыва пахаванаму ў кавярні,
з усіх трафеяў мне належыць “Трафіка”*.

* тытунёвая крама (чэс.); мае таксама значаньне “sinecura”

## Гонка

Прыход “Збавіцеля”? Паклёп!
Няма адкуль чакаць падмогі.
Жыцьцё: суцэльны бія-Тлён,
каб выйграць – трэ рассунуць ногі.

Магчымых мэт – заўсёды пяць.
Каб у нулях магчы застацца,
зь дзяцінства вучымся трапляць,
зрок чорных зрэнак усыпляць,
ня даць ім шанцу адстраляцца.

Імкне лыжня – трамвай, мэтро –
вязе сьцяну вянкамі ўвешваць...
Узяць ды скіраваць патрон
супроць сябе! І штраф: +

* * *

*Калі большасьць зьменіцца ў безаблічнасьць...*
***“Апакаліпсіс заўтра”***

Вас не ўратуюць сьпісы ні фэйсбукі,
ні пыльныя аналы картатэк,
ні пільнасьць гістарычнае навукі
з трагедыяй айчыны тэт-а-тэт,

ні сумная вядомасьць Герастрата,
ні дараваньне бога хрысьціян,
ні памяці ў старэчым веку страта –
не прычакаць ад іх карысьці вам,

і не пазьбегнуць “брацкае” магілы,
нягледзячы на “правільную жызьнь” –
хіба лічыць за “помнік” слуп пахілы
з дыягназам сьмяротным “лукашызм”.

* * *

Перавялі на Юліянскі каляндар нас, ці
мы самі навярнуліся ў іх веру –
месяц ня спалі з чыстай салідарнасьці,
званкоў чакалі, бы вясновага павеву.

Час – затрыманы, сьвяткаваньне перанесена,
арышт накладзены на добрыя навіны,
пакуль ня ўсе яшчэ вярнуліся з Акрэсьціна
альбо з сугучнай з Жодзінам краіны.

Але ж як скончыцца бязглузда-доўгі тыдзень,
хай не радамі – бо ня ўсё адразу –
а з шчыльна сьціснутымі сківіцамі выйдзем
адсьвяткаваць сваю часовую паразу.

* * *

Калі б я жыў у Мюнхене,
я б не пісаў паэм,
ня йшоў бы ў бар занюханы
на сёмую p.m.,
а толькі на дзясятую,
за кілямэтар-два,
перамагаць апатыю
галёнамі пітва.

Калі б я жыў у Мюнхене,
вакол была б вясна,
набліжаная кухлямі
праз тэлескопы дна,
і поўную ўпакаваную
ў імглісты цэляфан
я б, як сваю каханую,
скрозь кухаль цалаваў.

## Conceptual Blending

Сон – як мэтафара ці сэкс, дзе два ў адно
злучаюцца, як форма й зьмест прамовы –
плынь думак з інтанацыяй кіно –
у сплаве ключ ствaрыўшы адмысловы,

што прапускае лёгікі патоп
праз вуха ў залюстроўе альхіміста:
там ладзіць маскарад ідэй натоўп,
спраўляе шлюб з хаўтурамі ўрачыста.

Між сьветаў шлях праходзіць нацяянькі,
і розьніца як ёсьць, дык ёсьць нявелькай:
паўсюль ільга жалобныя вянкі
паблытаць зь сьвежавыкінутай елкай.

* * *

*К. Ж.*

Шлях на Андзел: Стакгольм пераходзіць у Люнд,
дападобіўшыся правінцыйнаму цэнтру.
Вось за што я Эўропу любіў і люблю –
што адчужанасьць тут выдаюць без рэцэпту.

Сонца ліжа на вежах крыжы-ледзянцы
ў разьвітальнай пяшчоце, бы маці – дзіцятка,
караблі аддаюць, быццам зброю, канцы,
і катвіга вісіць, як на гумцы – пальчатка.

Разьлілася па люстры няроўным рака
гарбылямі віроў, пакамечанай плыні –
накрухмаліць бы лёдам... Вал махавіка
на парозе малох раскруціў – пільны, пыльны.

Выспа – ня рыба-кіт, а бэ-ушны матрац,
пад які прасьціну берагоў падтыкнулі.
Успамін пра юнацтва штурхае на пляц,
бы нясьмелага хлопчыка ў нейчыя гульні.

Два натоўпы: адзін, у пасажы – на баль,
а другі Папялушкай таўчэцца на пляцы.
У абодвух – адны прыгажуні амаль...
І няясна, якім варта больш захапляцца.

## Умка

Што з гледзішча гісторыі – прагрэс,
з прыватнага – выдатак амуніцыі.
Ільга ў васьмідзясятыя "празрэць",
трыюмфу прычакаць над камуністамі,

а там – чаго чакаць, чаго хацець?
Няўжо – юнацтва вечнага паўтораньня,

і з набліжэньнем сьмерці ружавець,
нібыта за сваё старэньне сорамна?

Ня сорамна! Героям “зорных войн”
і “геніям” пары самапіярніцтва
шчэ ў Вас бы павучыцца быць сабой,
красы людзкой і фальшу выкрывальніца.

* * *

*(а ля Лорка ці раньні Борхэс)*

Сырэна закочвае ў слоік
з фармальдэгідам гістэрыку.
Пажар аранжавы ліжа
вогнеўпорныя шыбы.
Зямля ў лятэксе лёду
ільсьніцца напятым чэлесам,
і толькі лужыны-шанкры люструюць
набліжэньне хваравітай вясны.

* * *

І сёньня, пэўна ж, нечыя народзіны,
якіх я не прыгадваю – чые?
Месца і час, спакой нарэшце знойдзены,
ды плынь жыцьця спыніцца не дае.

Пад паху ўзяўшы том замест тэрмомэтра,
чужога лёсу выпісаўшы лек,
іду ў засаду, паляўнічы моманта,
каб з колькасьці ўспамінаў не сшалець.

Хоць трыццаць тры – бракуе ран пад рэбрамі.
Зь вянкамі не пакрытай галавой
замест Рэмбо ў люстэрку бачыш Рэмбрандта –
на сьмех ён абарочваецца свой.

Бліжэй ня лішне зь цемрай пазнаёміцца,
зь пяра яе крытычным вастрыём,
што ўзважыць холадна і выкажацца ёміста:
ня сонца – іншых зор ты патрыёт.

І ў час адліву, шуму бессэнсоўнага
ў адлюдненае вуліцы мяне
вітае зорка раньняя, як роўнага,
агонь цыгаркі ўбачыўшы ў вакне.



Як котка, не баяцца вышыні
й падзеньня, лёгка крочыць пэўным крокам,
ня біцца лбом у дзьверы – “Адчыні!”,
а прывідам праходзіць міма вокан.

Як котка, быць самому па сабе,
не слугаваць, ня дбаць пра век кароткі –
магчыма, я ня чуў аб лепшым спосабе
быць чалавекам, як у спосаб коткі.

## Сьвяты Валянцін

Сырэна струну нацягнула ўздоўж вуліцы
й паслабіла, вуха пусьціўшы зь пятлі.
Аб шыбы ўдараюцца рухі цырульніцы,
маўляў матылі.

У модных кавярнях ахвярамі млявымі
вісяць, утварыўшы гурткі, паліто.
Гара аздабляе прадмесьце гірляндамі,
як цырк шапіто.

Адчужаны люд выпадковымі парамі
насустрач кіруе, бы дзеці ў садок –
як знак, нечытэльнымі і арбітрарнымі,
бы костак кідок

у геннага варыва таннае месіва:
вядуць пацыфістак былых патрулі,
і з колькасьці вольнанаёмніц ня весела,
бо ты “на мялі”.

## Урывак з элегіі

*“Но, пока мне рот не забили глиной...”*
***Бродский***

Хоць гара – не Вэзувій, здаецца, што ўнізе – Пампэі,
праўда, ім пагражае ня лява, а толькі памыі;
на суседняй гары – штосьці кшталту Крамля і курантаў:
тэлевіжы зь іх вуснаў здымаюць склады акуратна

і на ўсіх падзяляюць. Падчашы – пачэсны занятак.
Разяўляюць талеркі галодныя йрты птушанятак.
Тут Парыж злаштавалі сабе (ці падобнае штось) мы,
ды паколькі ўжо звонку далёка ня шэсьцьдзесят восьмы,
вока цешыць, прынамсі, імпэрскі палац Правасудзьдзя:
ён пусты, не заняты нікім, і займацца ня будзе –
там, бы ў сэйфе, шчэ цепліцца дух кафкіянска-каканскі
спарахнелай прынцэсы з абвергнутай досьведам казкі.
У куфэрку ляжыш ссохлай муміяй часу юнацтва –
трэ чагось наглынацца, каб збавіцца галюцынацый –
гэтак шэпчаш сабе, уваходзячы ў даўнюю ролю,
што абрыдла табе як актору, так і негерою.
Асьвятленьня найменшую зьмену зраньня й на сутоньні,
як акула – крывю, адчуваеш, фатон па фатоне,
нібы Гамлета-бацькі фантом уваходзіць, ці фатум –
асабісты гамон, апрануты пакеплівым фатам.
Незьмястоўныя дні спакушаюць на подзьвігі духу
(то бок подзьвіг цяпер – ужо здолець дабрацца ў піўнуху);
страх застацца сам-насам з фантомам, бяз пары і працы,
прымушае ўцякаць цябе ў Зону – прасьцей, нажырацца.
Толькі там разумееш усе перавагі самоты,
за якую жыцьцём ахвяруеш ці ня ўсё жыцьцё ты,
ды яшчэ за магчымасьць сказаць, што й нязванаму госьцю
яна ампулу часам падасьць зь незямной прыгажосьцю.

* * *

*(у дзень нараджэньня Ю. Нямцэвіча)*

Бог сьведка, я ў жыцьці ня быў “паэтам Берасьцейшчыны”,
а берасьцейцам – быў. Хадзіў бухаць на МОПРа.
На цьмяныя няглядзячы ўяўленьні аб Нямцэвічы,
пісалі – хто ўжо як, а вось бухалі – добра.

Правінцыя, сябры, яна і ў Афрыцы правінцыя –
адкрытая вятрам, раўнінная, як наша.
Там дужаюцца з кліматам парывы наравістыя
(а клімат: што ў мазгох, што пад нагамі – каша).

Пісьмо з геаграфічнымі ня ў згодзе азначэньнямі
(найлепшы інструктаж ляцець вас не змушае) –
гэта ёсьць толькі сьмешныя фармальныя зачэпкі,
што закідае грунт паветранаму шару.

* * *

Зіма вярнулася ня ў кайф (настрой – вясновы),
нібыта Біблій нежаданы прадавец:
ніяк ня знойдзеш важкіх словаў для адмовы,
і перад сьцюжай выпадае чырванець.

Ізноўку сьніў ты: з кімсьці спаў, кудысьці ехаў,
і ўсё, чаго так пазьбягаеш у жыцьці,
як сантымэнтаў – балазе, хапае ўцехаў:
напрыклад, проста кніжку ўзяць і ў бар пайсьці,

дзе шчэ ільга на локці ўзьнятай цыгарэце
амаль па-школьніцку выкрыкваць: "Можна я!" –
ды ейны дым да сэрца надта не бярэце:
яна пагасьне, дайце час, як кожная.

## Лічылка

Сіняй крэйдай па вадзе
рысу ліхтарок вядзе.

Хто пяройдзе тую рысу –
атрымае проста ў пысу.

Хто яе пераплыве –
мецьме дзірку ў галаве.

Хто б яе надумаў сьцерці –
не пазьбегне кіпцяў сьмерці.

Ты б хацеў перасячы?
Ад пачатку сам лічы!

* * *

*"Таго, што мы любілі –*
*ня можна разьлюбіць".*
***Сайфэрт***

Здаецца, мы можам любіць толькі тых,
каго ўжо аднойчы любілі.
Глядзімся ў люстэркавы часу трыптых,
як мы, пэрманэнтна-лябільны,

і бачым сябе, якіх нам закарціць –
расказваць пра гэта ня мне вам,
як веры ў самога сябе маккартызм
буяць замінае сумневам.

Надзеўшы на грудзі пляўкоў пенапляст,
трымаемся ўсьцяж на паверхні
люстэрка, і поўхі чарговае “плясь”
наш вобраз ад нас не адверне.

У крохкасьці міту – ці наша віна?
Трывалая ў ім толькі рамка.
Ад погляду, што не намацвае дна,
усім часам робіцца мляўка.

У тварах сваіх любім рысы бацькоў
і зь імі ідзем на збліжэньне,
а не на таран, хаця той часьцяком
і ўявіцца нам, як збавеньне.

Хацелася б, каб заняло зноўку дых
і мову – але да той хвілі
мы будзем імкнуцца любіць толькі тых,
каго ўжо дагэтуль любілі.

* * *

Тваё плячо зіхціць, як хваля
пад банькай-лупай… да нябёс
яно ў эмоцыяў навале
ўздымае скуры сонны плёс.

Тваё плячо зіхціць, як горад,
і я, нібы турыст начны,
ныраю ў лябірынт ягоны
зь зіхценьня поўнымі вачмі.

* * *

Вясна – ня зьмена тэмпэратуры
ці зьмена даты ў календары,
а новы ген, іншы тып культуры:
На ногі! Лезь са зьвярынай скуры,
кінь лук і дзіду – жні, сей, ары!

Загадны лад – там, дзе быў абвесны:
у поле чыстае – ура, джгай!
Чуеш, як першымі на прадвесьні
рабочыя з стрэшнае верхатуры
сьнягоў страсаць пачалі ўраджай?

## Летні час

Ня памятаю, каб трынаццаць год назад,
на ўцёках цягніком з таго тысячагодзьдзя,
я – не, не паліцай, але й не партызан –
на эўрапейскі час гадзіньнік пераводзіў.

Хутчэй наадварот: нібы сустрэчны крок,
з павагі да майго былога хранатопа
(насустрач дзеду ўнук рабіў такі ж рывок)
сябе на летні час перавяла Эўропа.

* * *

*...And then the lighting of the lamps.*
***T. S. Eliot***

Сутоньне тут як тут – мы не пасьпелі выйсьці
насустрач, прывітаць – яно прыйшло само,
засьпеўшы ў ложку нас. Нашто імчаць кудысьці,
на шпонку замыкаць ваконнае трумо?
Нічога да быцьця мы тым не дадамо.

Зноў выбрацца ўдваіх – вярнуцца паасобку,
і зноўку – не туды, куды б хацеў інстынкт?
Зноў з тысячы карун прапіць ня больш за сотку
пры спробе пераплыць якісьці ўяўны Стыкс?
З нагоды, безь яе? Па шчырасьці, it stinks.

У лепшыя часы – усё было часовым,
на хуткую руку, як спроба, як эскіз,
цяпер – наадварот, трывае. Дык чаго вам?
Вунь, гледзячы на вас, у дзежцы Месяц скіс,
трымаючыся, каб ня выбляўвацца ўніз.

Сябе мы раздалі ў вар'яцтве рэпэтыцый –
хай, хоць без гледачоў, ідзе далей сэанс,
дэрньера. Балазе, ільга ўжо не пытацца,
ці быў у стужцы сэнс – ён не кранае нас:
у апаратнай лепш пакруцім “True romance".



Глыбокая восень люструецца ў ранньняй вясьне –
блізьняты, якіх, апроч маці, ніхто не адрозьніць.
Яшчэ й праз гады падабенства зьдзіўляе мяне:
рэальнасьць п’яніць, успамін нечакана цьвярозіць.

Мне зноўку здаецца: я дзесьці, далёка ня тут,
ці ўвосені ў Пінску, ці ўвесну – на высьпе, ля мора...
Ніколі ня скінуць Уявы шчасьлівы хамут,
пакуль будзе біцца халоднае сэрца курсора.

Прыехаць на вёску – заўжды апынуцца бліжэй
да неба, да зорак над нізкай мяжой акаёму,
і – так, да зямлі, ды ня ў сэнсе “прыродных” клішэ:
да могілак, вечнасьці. Цішы згадаць аксыёму.



Я жыву, – як той Ірэнэа Фунэс,
што ўпаў не з каня, а з дуба на кактус,
і застаўся на ўсё жыцьцё інвалідам, –
не ствараючы новых асацыяцый,
у адной вясьне канца дзевяностых,
дзе любая дробязь незабыўная:
сэкс без аргазмаў і вычварэньняў,
шмат любові, сонца і алькаголю,
і найперш – пачуцьцё свабоды і сэнсу.
Што было пазьней? Няўдалыя спробы
заснуць пасьля рэзкага абуджэньня,
зразумець прыроду свайго збачэнства,
апісаць для іншых яго сымптомы.
Немагчыма назваць гэта ўсё “цікавым”.
Хто мяне цікавіў – застаўся ў ценю,
каго я цікавіў – зрабіўся прымхай.
Што ж, ня варта пераацэньваць сучаснасьць:
кожны момант часу ня меней значны.
Але мне прыемнае ўсьведамленьне,
што ёсьць пэўныя рэчы, што не праходзяць:
маладосьць, шаленства, удзячнасьць, вернасьць,
Борхэс, Фрэдзі, матэ, пахмельле, восень.

*   *   *

Шчэ з Лысай гары не пасьпелі прыбраць трох крыжоў,
а ўжо на яе наляцелі з-за лесу вядзьмаркі.
У жыцьці сялянаў яшчэ Першамай не ўвайшоў –
сьвяткуйце яго, гарадзкія. Тут іншае шоў.
Нат “Шкоды” гасьцей выглядаюць, нібы іншамаркі.

Падстава для сьвята – ня Маха, ня “Фаўст”, а настрой.
Тут кніг не чытаюць, тут ведаюць зьмест апрыёры.
Тут тройцы акордаў пануе стары “дамастрой”,
тут бацька аднолькавы з сынам, нявеста – зь сястрой,
а час, як струменьчык смалы – больш густы й пакрыёмы.

Прастора – прасьцейшая, без гарадзкой крывізны,
бо погляд з пагорку выпроствае сьцежку лясную,
і сьніш ад віна нечакана бязьвінныя сны,
і боскі спакой – па-ранейшаму невыязны
з красы навакольнай, хоць бога даўно не існуе.

## Хайку II

Пасьля дня ў турыстычным горадзе
ўвечары заходжу пераведаць машыну –
майго новага японскага сябра.

*   *   *

На падушку пакласьці голаў заместа плахі
і чакаць, покуль прыйдзе сон яе адсячы.
Сьніць глыбіні, колеры, гукі і нават пахі,
сваякоў па духу – па ўжо згаданым мячы.

За падобны сьвет налажыць галавой ня страшна –
ён табе-друкарцы дыктуе за вершам верш,
і пакуль ён ёсьць, ты сам сабе магараджа.
Сумна толькі, што ён існуе, дакуль жывеш.

## К. К.

### 1

Твая прысутнасьць ці адсутнасьць
фармуе адчуваньні дзён,

назоваў звыклую абсурднасьць,
што час ладуе шалудзьдзём,
канкрэтным напаўняе зьместам:
з табою дзень – выходны дзень.
А так я ў дзень – сам-насам зь местам,
якой ён маскі ні надзень.

**2**

Мы абралі жыцьцё ў тлустых сьценах
гістарычнага цэнтру, каб людзям
не чуваць было нашых крыкаў;
калі ж людзі ўсё-ткі іх чуюць,
то й праз сто гадоў будуць блытаць
голас наш з галасамі зданяў
гістарычнага цэнтру.

## Navalis*

Россып сьветлаў расьцягвае скуру бубна,
пакуль, накшталт бубеннай балонкі,
тая з грукатам перастрэлкі ня покне.
Барочная музыка невыдумна
падкрэсьлівае рамантычнасьць поўні.

Гэтак гінуць у часе сьмерці нэўроны,
пускаючы задоўжаныя абдымкі.
Човен дыміцца, бы патаплёны.
Турысты з сабою адносяць здымкі,
ты з сабою ў мазгох – гэты верш няроўны,

і думаеш, ці б Наваліс
пагадзіўся зь яго назовам.

* фаервэрк на Вэлтаве ў гонар сьвятога Яна Нэпамуцкага

# Экзэкуцыя

*“Вёска пазбаўляе духоўнага чалавека ўсяго і не дае яму (амаль) нічога... яна шторазу духоўна яго спусташае і ўрэшце зьнішчае”.*
***Томас Бэрнгард, “Пляменьнік Вітгэнштайна”***

Тук-тук-тук-тук.

Тук-тук-тук.

Тук-тук-тук-тук-тук-тук.

На вёсцы мяне штодня абуджае мой даўні таварыш – дзяцел. Гэта нашмат горш за будзільнік – той ільга прынамсі выключыць, нават усьлепкі, у стане паўсну. Зь дзятлам зрабіць немагчыма папросту ні халеры. Ён, відавочна, упадабаў драўляны кавалак страхі проста над маёй галавой, і хоць ты яго забі, але ён заўсёды будзе вяртацца штораніцы на тое самае месца, у адзін і той жа час. Здаецца, з дапамогай азбукі Морзэ дзяцел імкнецца паведаміць мне штосьці важнае. Альбо проста хоча прадзяўбціся скрозь дрэва да маёй галавы, каб выкалупаць зь яе апошнія мазгі. Падазраю, што, калі так станецца, ён будзе расчараваны – яму ня будзе асабліва чым пажывіцца.

Каторая гадзіна? Гэтае пытаньне я задаю сабе цалкам аўтаматычна, нягледзячы на тое, што яно мяне зусім не цікавіць. Дый чаму яно павінна мяне цікавіць? Каб даведацца, колькі я спаў? Я ведаю, колькі – доўга. Таму мне, шчыра кажучы, нават боязна зірнуць на будзільнік. Зрэшты, адсюль яго не відаць. Дакладней, відаць, але я ня бачу стрэлак – у мяне слабы зрок. Канец канцоў, якая розьніца, каторая гадзіна? Што гэта мяняе? Хіба нейкая лічба можа прымусіць мяне ўстаць?

Вось ужо некалькі месяцаў, якія здаюцца тыднямі, я замкнёны ў гэтай кватэры. Не, мяне ніхто не замыкаў – я сам замкнуўся. Зрэшты, маню – замыкаў. Замкнула жонка, пасьля таго як сыйшла. Памятаю яшчэ, што мая годнасьць не дазволіла мне затрымаць яе.

Я разыйшоўся зь ёю нейкі час таму, на дзень сьвятога Валянціна, так бы мовіць, зрабіў сам сабе і ёй падарунак – гэта было самае лепшае і самае нявіннае, што я мог прыдумаць. Усе далейшыя крокі ў нашых адносінах, верагодна, былі б гвалтоўнымі, прычым з абодвух бакоў. Наагул, не разумею, што бачаць людзі, асабліва маладыя, у дні сьвятога Валянціна. Чаго яны па ім так шалеюць? Падазраю, што гэтае сьвята наагул зладзілі, каб перашкодзіць карнавалу. Яно – найпростая супрацьлегласьць і процівага паганскаму Купальлю. Купальле – сьвята наладжваньня новых стасункаў, Валянцін – пацьверджаньня старых. Купальле (заўважце, нашае традыцыйнае сьвята) – сьвята здрады, Валянцін – сьвята вернасьці, у нейкай ступені нават цнатлівасьці. Хіба гэта ня сумна?

Зрэшты, менавіта таму на Валянціна здрада ці прынамсі бойка з каханым чалавекам – найсаладзейшы з учынкаў. Хаця наш з жонкаю разыход быў прадвызначаны задоўга да таго дня: ён нагадаў мне сто разоў адкладзеную партыю ў шахматы, хіба што ролю хадоў у ёй адыгрывалі пытаньні. Мне здавалася, што я загнаў яе ў безвыходнае становішча, у кут, у цугцванг – але яна, уяўляеце, сказала мне, што ўвесь гэты час гуляла са мною

ня ў шахматы, а ў паддаўкі! Такім чынам, выйшла, што яна перамагла. Чорныя здаліся. Так ва ўсім: я жыву сваё жыцьцё (першапачатковы сцэнар якога, відаць, аддалі на рэалізацыю больш таленавітаму рэжысэру) бяздарна і залішне таропка – дакладна так, як гуляю ў шахматы. Хуткі пачатак, атака, напор – які захлынаецца, будучы залішне непрадуманым, гусарскім, рызыкоўным, а потым – доўгая пакута, неахвота здавацца, адчайны супраціў, невыноснае чаканьне паступовага, павольнага, але пэўнага разгрому.

Чаму я ўсё-ткі насамрэч зь ёю разыйшоўся? Напэўна, ад суму. Заўсёды надыходзіць час, калі чалавек адчувае, што пара кінуць прымаць той ці іншы наркотык. Пік маёй цікавасьці да жанчын прыйшоўся на папярэднія 5-6 гадоў – гэта быў час, які прырода дала мне на завядзеньне сям'і й трывалага монагамнага стасунку, аднак я легкадумна не скарыстаў яго, і цяпер прыродзе няма чаго прапанаваць мне ў якасьці мадэлі звычайнага чалавечага шчасьця.

Магчыма, вы параілі б мне зноў закахацца? Маўляў, кожнае наступнае каханьне вылечвае папярэдняе, бля-бля-бля... Я спрабаваў – не дапамагло. Відаць, я занадта стомлены ад і для гэтай гульні, якой чалавек вымушаны аддаваць сябе ўсяго, насуперак парадзе ірляндзкага барда. Я ня надта азартны тып і ніколі ім ня быў. Любы стасунак з жанчынай нагадвае мне нават не гульню, а нейкі іншы, нашмат меней цікавы спорт, у якім залік ідзе не на галы, а на час ці на атрыманыя пункты: хто першы ўцячэ, хто больш разоў здрадзіць... Які сэнс паўтараць з кімсьці новым тыя самыя, даўно завучаныя з кімсьці яшчэ рытуалы?

Час прызнацца: ня памятаю, чаму яна сыйшла. Яна штосьці спрабавала тлумачыць. Я ня слухаў яе, таму нічога не зразумеў зь ейных словаў. Яна казала штосьці накшталт таго, што ў яе больш няма сілаў са мною жыць, падтрымліваць мяне маральна й матэрыяльна. Ну, маральна яна мяне ніколі асабліва не падтрымлівала. А вось матэрыяльна – гэта праўда. Ужо колькі тыдняў ніхто не прыносіць мне ежы. Гэта азначае, што ў хаце яе павінна застацца зусім няшмат, хоць апошнім часам я амаль ня ем. Зрэшты, я не галодны. У мяне няма ніякай ахвоты есьці. Дзякуючы назапашваньням тлушчу я змагу яшчэ працягнуць нейкі час бязь ежы. За час жыцьця з жонкаю я аброс тлушчам і барадой, як сапраўдны служыцель культу, натуральна – уласнай асобы. З задавальненьнем зноўку пачаў бы курыць, аднак пры адсутнасьці грошай гэта было б роўнае самагубству. З другога боку, курэньне магло б быць вельмі добрым стымулам для пошукаў працы. Я заўважыў, што людзі, якія паляць, дасягаюць у жыцьці большага посьпеху. Як усе наркаманы, яны больш хіжыя за тых, хто вядзе здаровы лад жыцьця: залежнасьць прымушае іх варушыцца. З другога боку, яны раней паміраюць. Такім ёсьць кошт дасягненьня згаданага жыцьцёвага посьпеху.

Доўгі час я падманваў жонку, быццам я геній. Яна зразумела, што гэта ня так, нашмат раней за мяне, аднак доўгі час прыкідвалася, быццам нічога не заўважае. Я, у сваю чаргу, заўважыў, што яна прыкідваецца, і гэта мяне ў ёй усё больш і больш раздражняла. Зразумела, што мяне раздражнялі ў ёй і іншыя рэчы, пералічваць якія тут было б залішне доўга, але перадусім – гэта. З другога боку, калі мы жылі разам, дык у ранішнім уставаньні была прынамсі нейкая прывабнасьць, таму што пры жонцы я штодня сьнедаў кавай і шакалядам (замест колішняй цыгарэты). Я ніколі не пы-

таўся, адкуль мая жонка бярэ грошы на каву й шакаляд – мяне гэта не цікавіла. Толькі пасьля таго, як кава і шакаляд скончыліся, я пачаў хвалявацца, чаму гэта жонка ўсё яшчэ не вярнулася. Што рабіць? Патэлефанаваць у паліцыю? Магчыма, зь ёю штосьці здарылася? Не, не хацелася дапускаць такой думкі. Да таго ж давялося б усюды бегаць, сьведчыць. Калі б што здарылася, ужо затэлефанавалі б ейныя сваякі. Здаецца, у яе ёсьць нейкія сваякі – прынамсі, яна штосьці аб іх казала. Але ж як яна магла гэтак са мной абыйсьціся! І дзеля яе я зьдзейсьніў такія подзьвігі! Якія? Напрыклад, кінуў курыць...

Неўзабаве пасьля нашага расстаньня на ейнае імя пачалі прыходзіць лісты. Спачатку – звычайныя, потым – у асабістыя рукі. Я некалькі разоў хадзіў па іх на пошту, але мне іх не далі. Сказалі, патрэбная даверанасьць. Тады я прымусіў сябе напісаць ёй мэйл, і праз тыдзень-два яна адказала: маўляў, усё ў парадку, забудзься. Я забыўся. Толькі з наступнага ліста, ад экзэкутарскай фірмы, я даведаўся, што маёмасьць маёй жонкі, большую частку якой яна літасьціва пакінула мне, падлягае канфіскацыі. Маўляў, паколькі яна не зьявілася ў суд, нягледзячы на мноства дасланых ёй позваў, ёй даецца тыдзень на пагашэньне доўгу перад нейкаю страхавою кампаніяй. Уявіўшы сабе пэрспэктыву застацца аднаму ў пустой хаце, я быў амаль гатовы заплаціць тую запазычанасьць за яе, але, даведаўшыся велічыню сумы, засьмяяўся – такіх грошай у мяне ніколі не было й ня будзе.

Усе гэтыя радасныя навіны мне ўдалося паведаміць ёй толькі пазаўчора, па тэлефоне. Упершыню за колькі месяцаў я пачуў ейны калісьці дарагі голас. Яна адрэагавала абурана, як быццам гэта я патрабаваў ад яе гэтых грошай. Маўляў, яна нічога ня ведае, стасункаў зь ніякай страхавою кампаніяй ня мае ўжо болей за два гады. Няўжо я званю ёй не для таго, каб пакаяцца й папрасіць прабачэньня, а адно каб абцяжарваць такімі дробязямі? Толькі тады я ўсьвядоміў, што павінна адбыцца ў бліжэйшыя дні.

Цяпер я шкадую, што адразу ня выпісаў яе з свайго адрасу ці прынамсі не памяняў шыльдачак на дзьвярах і на паштовай скрынцы. Я наагул амаль не чапаў нічога, што засталося ад нашага колішняга супольнага жыцьця, – наўрад ці зь нейкай сэнтымэнтальнасьці, проста я не люблю зьменаў, паратоў не люблю сам іх ажыцьцяўляць. Нават ня памятаю, ці прыбіраў я за час ейнай адсутнасьці ў хаце. Рабіць гэта цяпер – няма сэнсу, экзэкутары дапамогуць мне з гэтым лепш за любую ўкраінскую фірму. Вызваліцца шмат месца. Можна будзе вырошчваць марыхуану ў хатніх умовах.

Ад экзэкуцыі мяне мог бы ўратаваць які-небудзь сур'ёзны дыягназ, толькі не лянота й ня зорная хвароба, а штосьці накшталт паралюшу ці эпілепсіі. Гэта значыць, што наведваць мясцовую лекарку няма сэнсу, яна пра такія хваробы нават ня чула. Яшчэ ўратаваць мяне маглі б наяўныя грошы. Іх мне маглі альбо пазычыць (маглі, але не пазычылі), альбо я сам мог бы распрадаць сёе-тое з маёмасьці, якая апынулася пад пагрозай экспрапрыяцыі. На другое, на жаль, засталося надзвычай мала часу, гэтаксама як і на тое, каб пасьпець аформіць крэдыт у банку, які б мне ўсё адно ніхто ня даў – цяпер у мяне няма сталага прыбытку. Дый навошта шукаць пакупнікоў, дамаўляцца, з намогай пазбаўляцца рэчаў з мэтай уплаты чужога доўгу, калі мая галоўная мэта – зусім ня ўплата доўгу, а захаваньне ў сваім карыстаньні гэтых самых рэчаў, якіх, я лічу, ніхто ня мае права ў мяне

адбіраць. Адзінае, што яшчэ можна паспрабаваць зрабіць – гэта іх схаваць, як падказвае мне мой інстынкт, успадкаваны ад маіх продкаў, вечна кімсьці акупаваных сялянаў.

Як вы ўжо маглі здагадацца паводле тону маіх нараканьняў, я эмігрант. Але сувязяў з радзімай ня страціў. Напрыклад, нядаўна адзін сябар даслаў мне смс: “Ты жывы?” Маўляў, хтосьці распаўсюдзіў чуткі, што мяне забілі, разрэзалі на кавалкі й раскідалі па горадзе. Дзіўна, што і праз дзесяць гадоў пасьля ад’езду я выклікаю ў сваіх знаёмых асацыяцыі зь нейкімі падобнымі прыгодамі: людзей усё яшчэ перасьледуе ўява таго, што са мною можа здарыцца нешта горшае за тое, што я застаюся ў жывых. Што я мог яму адпісаць? Толькі тое, што такую важную рэч, як пазбаўленьне жыцьця, нельга даручаць іншым людзям, і што ў такім выпадку абавязуюся своечасова паведаміць пра сваю сьмерць усім зацікаўленым. Тады мне здалося, што я ўдала пажартаваў.

* * *

Здаецца, што нядзеля і панядзелак памяняліся месцамі – учора на будоўлі пад вакном цэлы дзень грукаталі працоўныя прылады, затое сёньня ва ўсёй вёсцы пануе настолькі глыбокая цішыня, што мне нават пачало не ставаць тых ненавісных мне гукаў. У звычайныя дні маторы за вакном гудуць увесь час, як рэанімацыйныя прыстасаваньні: адчуваньне, што калі б яны адключыліся назаўжды, адключыліся б ад сваіх кіслародных падушак і ўсе насельнікі вёскі, як тыя зомбі ў якім галівудзкім фільме.

Пад маім вакном ужо доўгі час будуецца нейкая віла, і калі меркаваць паводле прагрэсу й размаху працаў, то цалкам магчыма, што зь яе аднойчы вылупіцца новая Бабілёнская вежа. Прынамсі, за тры гады праз гэтую будоўлю прайшлі ці ня ўсе народы сьвету: славакі, цыгане, украінцы, манголы, віетнамцы, афрыканцы... Засталося яшчэ, каб да іхнага ліку далучыўся і я. Думаю, што неўзабаве так яно і будзе. Менавіта таму грукат працоўных прыладаў настолькі мяне раздражняе. Але сёньня за вакном цішыня, затое за дзьвярыма з самай раніцы шумна гаспадараць суседзі. Прыходзіць страшная думка: няўжо яны ўжо жэняць сваіх дзяцей? Як я мог пражыць тут столькі гадоў і не заўважыць, што іхныя дзеці вырасьлі? Здаецца ж, яны толькі пасьпелі нарадзіцца... Хаця хто ведае, што ў маіх суседзяў за культурны бэкграўнд і ці ёсьць у іх нейкія ўзроставыя абмежаваньні на шлюбы. Такім чынам, неўзабаве ў доме дзяцей будзе ў некалькі разоў болей... Падстава для чарговае эміграцыі.

Суседзі ўспрымаюць мяне, як калісьці зусім іншыя суседзі ўспрымалі майго бацьку: падазроны тып. Чым меней яны мяне бачаць, тым больш, натуральна, пра мяне ведаюць. Тым ня менш, час ад часу я ўсё-ткі пакідаю сваю кватэру для таго, каб праверыць пошту, ну і яшчэ – каб выканаць абавязак, зьвязаны для мяне з найвялікшым прыніжэньнем: прыбраць, у адпаведнасьці з графікам і патрабаваньнямі добрасуседзтва, лесьвіцу. Заўсёды пасьля гэтай дзесяціхвіліннай грамадзка карыснай працы я адчуваю вострую неабходнасьць напіцца, каб пазбавіцца нэрвовага стрэсу. Апрача алькаголю на мяне супакаяльна ўзьдзейнічае сузіраньне мапы Аргентыны – прынамсі, цягам першых дзьвюх гадзінаў. Але рана ці позна я немінуча

ўсьведамляю, што адзіным ўратаваньнем у маім стане могуць быць толькі ўцёкі зь вёскі ў горад. Канчаткова зразумець гэта мне звычайна дапамагае жудасная і неверагодна голасная музыка ў гукаўзмацняльніках, паразьвешаных на кожным рагу, каб ніхто, крый бог, ня мог схавацца ад жыцьцёва важных паведамленьняў мясцовых уладаў. Гэтая папсьня, паводле меркаваньня апошніх, павінна прынаджваць да гукаўзмацняльнікаў усіх, як жалейка заклінальніка пацукоў. Які неасьвечаны дэспатызм! Мой інстынкт акупаванага селяніна, аднак, прымушае мяне прыслухоўвацца да гэтых абвестак: можа, урэшце прагучыць загад прымусова заступаць на будоўлю? Але якое там: самае сьмешнае, што абвесткі штогод тыя самыя – часам здаецца, што яны гучаць у запісе. Напрыклад, пра рой пчолаў, які ад кагосьці ўцёк. Цалкам верагодна, што гэта той самы рой пчолаў, што й летась. І гэта я яшчэ маўчу пра пэрыядычныя выпрабаваньні сырэнаў грамадзянскай абароны, безь якіх у наш век сталай тэрарыстычнай пагрозы ніяк нельга абыйсьціся!

Устаць? Вычысьціць зубы? Апошнім часам мяне ад гэтага ванітуе, хаця сапраўднай прычынай можа быць мой выгляд у люстэрку, куды, як мне здаецца, хочуць уцячы – ці то ад мяне самога, як у дзіцячым вершыку, ці то ад экзэкуцыі, – нават нешматлікія прадметы асабістай гігіены на палічцы, што засталіся пасьля жонкі. Насамрэч, на вёсцы добра адно: адсутнасьць сораму за свой выгляд. Думаю, за апошнія месяцы я пачаў нагадваць масавага забойцу Радавана Караджыча ў момант ягонага арышту. Парадаксальна, што з барадой я больш падобны да жанчыны, чым безь яе. Можа быць, выраз майго твару выразна кантрастуе з такім мужчынскім атрыбутам, як барада, і ад гэтага робіцца больш відочнай якаясьці жаноцкая мяккасьць увачччу? Халера ведае; у кожным разе я ўсё больш нагадваю сабе сьвятую Вільгефорціс – чулі пра яе? Гэта такая партугальская сьвятая, якой бог дапамог за ноч адпусьціць бараду, каб усьцерагчы ад шлюбу з мусульманінам. Памятаю, яшчэ ва ўнівэрсытэце мае суседкі па інтэрнаце заўважылі гэтае падабенства і павесілі на мае дзьверы фотаздымак жанчыны з барадой. Тое, што ў іншага было б другаснай полавай прыкметай дарослага мужчыны, у мяне толькі падкрэсьлівае, што ў душы я яшчэ галамуз. Дык можа, пагаліцца? Расчасаць патлы? Не сьмяшыце; хай падобных фармальнасьцяў прытрымліваюцца тыя, каму гэтае грамадзтва не адмовіла ў шанцы на прыстойнае існаваньне. Да таго ж, жонка сыйшла, а бальшыню гэтых рытуалаў я выконваў дзеля яе.

* * *

Дванаццатая гадзіна. Пасьля таго, як дзяцел урэшце зьлітаваўся, мне ўдалося на нейкі час зноў заснуць: гэтым разам мяне абуджае суседзкае кацяня, якое курняўкае з голаду пад іхнымі дзьвярыма. Суседзі чамусьці ўвесь час забываюцца, што ў іх ёсьць кацяня, і ня чуюць ягонага сковыту, зашыўшыся ў глыбіню сваёй шматпакаёвай кватэры. Пару разоў я ўжо хадзіў быў пагрукаць ім у дзьверы, каб яны яго пусьцілі – але суседзі, як мне здаецца, не ацанілі маіх высілкаў. Таму цяпер я нізавошта не пайду кацяняці за лёкая. Буду ляжаць і чакаць, пакуль яно перастане курняўкаць – іншай магчымасьці няма, бо калі б ягоныя гаспадары адчынілі яму самі, гэ-

та быў бы цуд. Празь нейкі час кацяняці даходзіць, што ў гэтым доме ў яго больш нікога няма, і што ніхто яго болей ня любіць – нават я. Дапускаю, што я і сам бы мог яго пакарміць, калі б было чым. Такім чынам, кацяня сыходзіць галоднае – дзякуй богу.

Прачнуўшыся, я адразу ўключаю радыё альбо тэлевізар – звычайна тое й другое адначасова. Так, у мяне ёсьць тэлевізар! А вы што думалі? Безь яго я ўжо даўно б звар’яцеў, як і ўсе прыстойныя людзі ў маім становішчы. Тэлевізар дапамагае мне вытрымліваць штодзённую аблогу навакольнага сьвету. Часьцей за ўсё я гляджу тэлевізар бяз гуку й адначасова слухаю радыё. Гэты кантраст здольны забаўляць мяне прынамсі нейкі час, пакуль радыё ня зробіцца немагчыма слухаць, гэтаксама як тэлевізар – глядзець. Але што я буду рабіць бязь іх, калі іх канфіскуюць – не ўяўляю. Гэта ж не лядоўня і ня пральная машына. Уласна, тэлевізар быў першым, што зьявілася ў гэтай хаце. Кніг тады яшчэ амаль не было, посуду і мэблі таксама. Першыя месяцы я спаў на падлозе нават не на матрацы, а на вопратцы (гэта, відаць, чакае мяне неўзабаве), у спальніку. Я мог бы так жыць бясконца доўга, калі б ня жончына патрэба захоўваць хоць якія повязі з вонкавым сьветам. Калі шчыра, мне самому нават думкі не прыходзіла, што я магу дазволіць сабе такую раскошу, як тэлевізар. Тое самае тычыцца іншых раскошаў, зьвязаных з марнаваньнем часу на адпачынак: відэа, аўдыяцэнтру, тэнісных ракетак ці там ровара. Усе гэтыя прыстасаваньні заўжды здаваліся мне нейкім табу, гэтаксама як карыстаньне імі – чымсьці па сутнасьці амаральным. Цяпер, пасьля таго, як бальшыня непатрэбных мне рэчаў, за выняткам тэлевізара, зьнікла, я зразумеў, якую важную ролю ён адыгрываў у маім тутэйшым жыцьці з самых першых дзён, дапамагаючы забыцца на ўсе сапраўдныя праблемы. Я ўсьвядоміў, што вось ужо нейкі час мой тэлевізар жыве за мяне, калі я сплю, вартуе мой сон замест сабакі, а цяпер, у адсутнасьць жонкі, яшчэ й прамаўляе да мяне, дапамагаючы мне заснуць; акрамя таго, калі-нікалі па ім нават круцяць мае ўлюбёныя фільмы.

Пры ўсёй маёй нянавісьці да сваёй кватэры (аднапакаёвай, у адрозьненьне ад суседзкіх), яна належыць да непрацяглага сьпісу месцаў, дзе я адчуваю сябе адносна ўпэўнена. На жаль, астатнія такія месцы знаходзяцца ў горадзе – але дзеля таго, каб дабрацца туды, трэба пакінуць вёску, што амаль гэтак жа цяжка, як у ёй застававацца. На вёску, як і на прыроду ўвогуле, асабліва ўлетку, у мяне алергія – у літаральным, мэдычным сэнсе гэтага слова, тым часам як на ейных насельнікаў – у пераносным. Першая суправаджаецца хранічным катарам і астмай, другая – прыступамі прыхаванай разьюшанасьці й нікому ня чутнай лаянкі. Шкада, што ў мяне няма сындрому Турэта, як у аднаго мясцовага вар’ята – тады вяскоўцам было б лягчэй мірыцца з маім невылечным дзівацтвам.

О, зь якім задавальненьнем я жыў бы ў месьце! Як важна мець штодня перад вачыма менавіта тое, што хочаш бачыць! Аднак мне й за гэтую кватэру хутка ня будзе чым плаціць, ды што там, ня будзе нават за што купіць квіток на цягнік. Пры гэтым я ня п’ю, ня ем, нават не палю. Я жыву дзякуючы двум рэчывам, якія цудоўна рыфмуюцца між сабою – кафэіну й кадэіну, дакладней – кадыналу. Кадынал – вельмі дарагі лек. Усе патрэбныя мне лекі збольшага дарагія: ад алергіі, ад дэпрэсіі, ад бяссоньніцы. Ня ведаю, адкуль мая жонка брала грошы на ўсю гэтую хімію. Цяпер безь яе я й кроку не ступлю.

Зрэшты, практычных падставаў езьдзіць у горад пасьля таго, як я страціў працу, у мяне няма. Калісьці ў горадзе ў мяне былі сяброўкі. Потым яны перасталі мне званіць. Мабыць, ведалі, што пазваніць першым у мяне забракуе мужнасьці. Дый адкуль тая мужнасьць у мужчыны, які нагадвае партугальскую сьвятую? З жанчынамі наагул ня так проста сябраваць, як здаецца. І цымус ня ў тым, што мужчыну нічога ня трэба ад іх, апроч сэксу. Цымус зусім у адваротным: цяжка ўтрымаць цікавасьць жанчыны да сябе, ня будучы для яе сэксуальна прывабным. Факт майго шлюбу гэтую прывабнасьць, калі яна й была, заканамерна паменшыў. З жонкай у нас у горадзе, дый нідзе, не было супольных сяброў; яшчэ й праз гэта яна са мною ўсё больш і больш нудзілася. Як быццам я ня нудзіўся зь ёю! Я нуджуся практычна з усімі, каго ведаю. Спадзяюся, што яны таксама нудзяцца ў маім таварыстве – не хапала яшчэ, каб я задарма некага забаўляў!

Праз усё гэта яшчэ да сыходу жонкі я пастанавіў нікуды болей ня езьдзіць. І не хадзіць, нават у мясцовы бар, дзе неасьцярожнае знаёмства зь любым з тутэйшых жыхароў пагражае немінучым вульгарным панібрацтвам зь іхнага боку ўжо пасьля двух куфляў піва. Праз боязь такога знаёмства я ў вясковым бары звычайна хаваюся за (не, не за стойкай, выбачайце) кніжкай ці раблю выгляд, быццам гляджу тэлевізар, выключыўшы які, лёгка спраўдзіць, што я прыкідваюся, бо я й пасьля гэтага буду таропіцца ў ягоны экран да самага закрыцьця піўной, заварожаны замагільна-попельным адлюстраваньнем, нібы поглядам мэдузы Гаргоны, што дае заўсёднікам бару дадатковую падставу пачаргова кпіць зь мяне ці то як з “інтэлектуала”, ці то як з “нарцыса”. Не, лепей заставацца ў кватэры. Не разумею, чаму некаторыя мае знаёмцы лічаць, што мяне трымае дома нейкая псыхічная хвароба. Як яны памыляюцца! Не, гэта я сам трымаю тут сябе, па сваёй уласнай волі. Сьвет па-за межамі маёй кватэры мне ненавісны.

Апошні раз я выходзіў з дому, каб схадзіць да зубнога, дакладней – да зубной. Зубастай і языкастай. Зубастай тут яшчэ называюць сьмерць. Пайсьці да яе мяне прымусіў толькі шалёны, ніколі дагэтуль мною не адчуваны фізычны боль. Гэта празьмернае спажываньне кавы і шакаляду пачало вылазіць мне бокам, ці слушней – ротам. Дантыстка сказала тады, што на такія зубы, як мае, ня мае часу і параіла мне набыць сабе зубную шчотку. Я сказаў, што ў мяне ўжо ёсьць зубная шчотка, якою я нават часам карыстаюся. Я прамовіў гэта з асаблівым націскам на слова “шчотка”, якое азначае тут яшчэ й курву. Зразумела, што пасьля гэтага я ня хутка зьяўлюся ў ейным кабінэце, калі толькі ня вывучу лаціну, каб паразумецца зь ёю безь перакладчыка. Відаць, мне давядзецца цяпер лячыць зубы ў тутэйшага міністра культуры, стаматоляга па адукацыі. Спадзяюся, зь дзеячоў культурнай самадзейнасьці ён нічога не спаганяе. Варта, напэўна, сесьці і напісаць яму калегіяльна-пакаяльнае прашэньне. Хаця ад стомы з самога сябе не ўратуе ніякі стаматоляг, нават міністар.

* * *

Згадваю, што ўчора ў стане афэкту зьеў апошняе яйка. Гэта азначае, што ежы ў хаце насамрэч зусім не засталося. Іншымі словамі, калі я сапраўды яшчэ не зьбіраюся паміраць, трэба ўстаць і пайсьці ў краму. Божа, як я

ненавіджу тутэйшыя крамы! Усюды гандлююць адны падманшчыкі, сэнс жыцьця якіх вас аблічыць. А калі не падманшчыкі, дык туды цягаецца розная набрыдзь, накшталт мяне. Апрача таго, прадавачкі ў крамах любяць задаваць пытаньні, што сваёй абсурднасьцю нагадваюць дзэн-будысцкія каны, хаця адказ на іх загадзя добра вядомы з адпаведнай літаратуры: “як маецеся?”, “чаго жадаеце?” “як спадарыня?”, “чаму даўно не заходзілі?” Шкада, што на вёсцы няма віетнамскіх крамаў – там, прынамсі, ніхто ня хоча з вамі знаёміцца; для віетнамцаў усе эўрапейцы на адзін твар, астатнія народы сьвету, апроч уласнага, ім да сракі.

На лесьвіцы грымяць жалезныя парэнчы. Сваёй формай яны нагадваюць трубкі касьцёльнага аргану, але іхны гук падобны хутчэй да нядзельных званоў. Як і належыць, я ніколі не пытаюся, па кім яны звоняць – мяне гэта не цікавіць. Дзеля скразьняку й грукату абы-як прымацаваных да вушака дзьвярэй ствараецца адчуваньне, што ў хату ўвесь час хтосьці ломіцца. Гучныя галасы за дзьвярыма, потым сьмех. Сьмяюцца, хутчэй за ўсё, таксама зь мяне. Шкада, што ў мяне ў дзьвярах няма вочка: мяне магла б крыху супакоіць магчымасьць назіраць за лесьвіцай у гэты сымулякр аптычнага прыцэлу.

Упэўнены, што неўзабаве мяне прыйдуць ня толькі абрабаваць, але й выкінуць з кватэры. Гэтая грамада вяскоўцаў урэшце прыпёрла мяне да сьценкі. Іх нельга не зразумець: за столькі гадоў прывідна-паразытычнага існаваньня я ня здолеў пераканаць іх у тым, што магу быць для іх чымсьці карысны. Па шчырасьці, я і не хачу быць ім нічым карысны. Усё, што я хачу – гэта каб мяне пакінулі ў спакоі. Марныя спадзяваньні: якраз цяпер чую, як за вакном хтосьці выгуквае маё імя, што прымушае мяне вызірнуць вонкі, каб пераканацца, што гэта не галюцынацыя. Гэтак я даведваюся, што маё імя ў гэтай краіне – сабачае. Мой цёзка – вялізная нямецкая аўчарка вартаўніка будоўлі. Яшчэ я даведваюся, што за вакном ідзе дождж. Практычная адсутнасьць людзей – цудоўная нагода прымусіць сябе выйсьці на двор. Узяць парасон, раскрыць яго над галавой. Я люблю карыстацца парасонам, бо мне падабаецца слухаць гук кропляў. Перад тым, як я адкрыў гэтую асалоду, я ненавідзеў парасоны. Акрамя таго, парасонам ільга захіліць твар, каб у сваю чаргу ня бачыць бязбожныя твары тых, хто, у адрозьненьне ад мяне, не баіцца маланак і грымотаў.

Галасы на лесьвіцы сьціхлі. Цяпер можна выйсьці з кватэры. Ужо ў перадпакоі, насунуўшы боты, заўважаю, што парасону няма. Чэрці дзяры! Гэта азначае, што жонка сыйшла разам з парасонам? Ёй было мала ноўтбука, кветак, посуду, праса – дык яна ўзяла яшчэ й парасон! Як я цяпер пайду пад дождж? Ніяк. Гэта азначае, што я застануся дома. Буду чакаць экзэкутараў. Ужо цяпер не магу дачакацца, калі ўрэшце пабачу іхны белы варанок, хіба што безь міргалкі. Нездарма слова “экзэкуцыя” азначае яшчэ й пакараньне сьмерцю. Хутчэй бы яны прыехалі, у мяне няма сіл трываць да вечара. Але яны не сьпяшаюцца, як і ўсе іншыя побытавыя паслугі.

Тэлефонны званок. Відаць, хтосьці памыліўся нумарам. Гнюснае віскліvае бразгатаньне. Шчыра кажучы, я пасьпеў ужо забыцца на гэты гук, і толькі цяпер усьвядоміў, як быў гэтаму рады: гэтак мяне раздражняў толькі школьны званок, які клікаў мяне зь перапынку ў клясу. Так, у мяне ёсьць тэлефон. Яго, вядома ж, неўзабаве адключаць, бо мне няма чым за яго

плаціць. Зрэшты, я імкнуся ім не карыстацца. Дый куды мне званіць? Каму? Апошняй, яшчэ летась, званіла мая даўняя сяброўка – таксама замежніца, у якую я быў калісьці плятанічна закаханы, – каб паведаміць, што яна зьяжджае з гораду – на радзіму. Не змагла знайсьці сабе новую працу, а з ранейшай яе пагналі. І ёй, як і мне цяпер, да часу трэба было некуды падзець набытыя за восем гадоў рэчы. Я адмовіў тады ёй, сказаўшы, што мне й самому няма куды дзяваць сваіх трантаў. Вось жа, цяпер мае словы трапілі богу ў вушы.

Званок урэшце перапыняецца, але праз нейкі момант азываецца зноў, як пакутлівы зубны боль. Не, гэта не памылка. Хто гэта можа быць? Намагаюся згадаць, каму зь неабачлівасьці даваў свой тэлефонны нумар. А? Б? В? Зь ніводным зь іх я ня маю ахвоты размаўляць. Хто яшчэ? Здаецца, болей няма каму. А што калі гэта жонка?

Сьпяшаюся да тэлефона, але званок змаўкае. Мяне апаноўвае адзін з маіх тыповых прыступаў разьюшанасьці. Я хапаю тэлефон і з усяе моцы шпурляю яго ў сьценку. Слухаўка адлятае, плястык апарату покаецца, але частае, нібы аварыйнае піканьне не перарываецца, а гучыць ужо на ўсю кватэру. Трасца! Я падбягаю да тэлефону й пачынаю таўчы яго нагамі: я цябе даб'ю, пачвара, вісклівая поскудзь! З босай нагі цячэ незаўважаны мною цурок крыві.

* * *

– Хутка ты асушыў... Што, цяжка было сёньня на працы?

– Ня тое слова. Чысты жах. Даўно я так не гарбаціў і не сьмяяўся.

– Іці тваю, ну ты й цынік. Пазбаўляеш людзей апошняга ламачча, тыя потым пазбаўляюць сябе жыцьця, а ты ўсё рагочаш... Шакал ты, вось ты хто!

– Ну шакал – і шакал... У шакала таксама сям'я. Але сёньня, скажу табе, гэта насамрэч было штосьці. Такое рэдка ўбачыш. За такія моманты я й люблю сваю работу...

– Ну каліся ўжо...

– Спачатку дзень быў як дзень. Здаецца, пяць – так, пяць кватэраў мусілі ачысьціць. Пэнсіянэра, дзьве цыганскія сям'і, аднаго паціпу бізнэсоўца, ну й нейкага там прыхадня з усходу... З пэнсіянэрам праблем не было. Нейкі камуністычны злачынца – былы вертухай ці штось такое... Асаблівага супраціву не чыніў... З цыганамі – як заўжды, шмат крыку й мала працы, бо не было чаго выносіць, а з хаты іх усё адно мусілі лягавыя выкінуць, бо самі яны змотвацца не хацелі, вядома... Ну, бізнэсовец – з тым наагул, як маслам памазаў, бо ў яго, вядома, ня хата, а палац, толькі ні халеры там няма, а калі што і ёсьць – то быццам не ягонае, а сваякоў, а што было ягонага, то ён даўно нібыта распрадаў, каб пазыкі аддаць... Ня будзеш жа ў яго басэйн канфіскоўваць, ясны перац... Ну, яны з нашым босам парукаліся, нейкую паперчыну нам падпісаў – дый па ўсім. Дык заставаўся яшчэ той інтурыст – ніяк не маглі знайсьці тую задрыпаную вёску, дзе ён жыве, думалі яму перазваніць, але ў апошні момант перадумалі: ён усё адно б не сказаў, дый у нашай працы нечаканасьць – таксама фактар... Карацей, пад'яжджаем туды, званім – адчыняе, увесь трымціць, але на першы погляд

нібыта ў парадку, ну хіба што крыху нападпітку, як бяз гэтага... Ну, мы ўваходзім у хату – бляха муха, людцы мае родныя! Гляджу – поўная хата рэчаў, усё на месцы, толькі пабітае ўводрузг! Тэлік ды манітор ад кампутара, відаць, жахнуў кувалдай, засталіся дзьве дзюркі агромністыя, як пасьля бамбёжкі... Пралку таксама расхерачыў, прынамсі, гэты, як я яго называю, ілюмінатар... У лядоўні кабэлі павырываў, ну, карацей, зьнішчыў, што мог, заставалася толькі мэблю сякерай пасячы, ды, відаць, ня мае сякеры – нам пашанцавала... Хіба што кнігі, сабака, недзе схаваў – па пустых паліцах было відаць. Ну не ідыёт? Скажаш, гэта ня сьмешна? Кажу табе, мне з гэтага ўсяго ажно ў сральню закарцела – дзякуй богу, што ён хоць унітаз не пабіў... Адным словам, поўны афэлак, вар'ят грэбаны. Але самае прыкольнае ўва ўсім гэтым тое, што ўрэшце нічога мы ў яго забіраць ня мусілі, бо наш шэф, гэты тормаз, забыўся, што мы яму павінны былі толькі нейкія паперы перадаць – маўляў, доўг ягоны ўжо заплацілі, так што мы туды, уласна, дарэмна ўсёй кодлай езьдзілі, маглі раней дадому сыйсьці... У выніку, той дурань гэтую экзэкуцыю за нас сам зрабіў... Бляха, я не магу...

– Халера... Маёмасьць хоць застрахаваная была?

– Гаўна! Ён быў вінаваты якраз страхавой кампаніі, бо за страхоўку маёмасьці два гады не плаціў, дык яму страхоўку скасавалі й справу нам перадалі... Іці тваю, гэта называецца... як яго... іронія лёсу. Скажы? Ну, налі мне яшчэ адзін...

# вяртаньне волі

*"Як і ён, я ня спала сямнаццаць дзён, прынамсі, я лічу, што ня спала. Насамрэч, я сплю па дзьве-тры гадзіны ў дзень... Недахоп сну выклікае дысфункцыі бачаньня... Мая тоеснасьць ня тут. Я толькі тая, хто прачынаецца і адчувае боязь".*

***М. Дзюрас***

адсутнасьць ёсьць штосьці што разумеюць толькі рэчы толькі яны па-сапраўднаму ўмеюць сумаваць падсумоўваць дзяліць на нуль ім гэта дазволена

наўмысна для вас патлумачу для пачатку прынамсі адсутнасьць тут вялікіх літараў і знакаў прыпынку калісьці даўно я чытаў аповед аднаго свайго таварыша з аргентыны пра такое ж пачуцьцё адсутнасьці напісаны такім жа стылем няўжо гэта чарговая спроба плягіяту гэта здаецца мне падазроным пагатоў што там вялося пра адсутнасьць каханай дзяўчыны сорак восем гадзін бяз магды называўся аповед напісаны па-гішпанску ў мурох менскага не не астрогу а інтэрнату ці можа там была іншая лічба

я ўсьведамляю што і гэты аповед глядзеўся б лепей калі б я напісаў яго тады калі так пісалі ўсе навокал некаторыя з таго часу папросту ня ўмеюць пісаць іначай тады гэта лічылася чымсьці звыш- ці зьніж- у сэнсе звышінтэлектуальным і гэта ў пэўнай ступені праўда бо чытач адчувае сябе разумнейшым расстаўляючы за цябе знакі прыпынку замест настаўніцы тады б мне паверылі нават вы

тады авангард быў папросту ізноўку ў модзе гэтым разам пад маскаю постмадэрнізму напэўна ўсе рэвалюцыі маюць попыт на авангард вось і я дазволіў сабе засумаваць па рэвалюцыі калі такі самавідавочны адказ вас задаволіць

вядома ўсё гэта запазычана зь літаратуры ня толькі спосаб пісьма відаць і самі гэтыя пачуцьці запазычаныя ў іншых людзей бо магутных пачуцьцяў ня так і шмат як і мэтафараў казаў іншы аргентынец

пагатоў мне кажуць што я злоўжываю двукосьсем коскамі і наагул знакамі прыпынку але насамрэч мне гэта абрыдла абрыдла слушнае прычасанае прыгожае пісьмо я маю на ўвазе ўласнае якая розьніца што і гэта выглядае залішне антыкварна ніхто іншы як джойс вынайшаў смс-паведамленьне раман-тэлеграму плынь сьвядомасьці чым выбіў зброю з рук сюррэалістаў што не пасьпелі яго прачытаць выдатны трук параўнальны з крадзяжом стагодзьдзя ў якім-небудзь няспынным цягніку сапраўды навошта духу злоўжываць матэрыяй калі ён застаўся адзін у чыстай форме

замест знакаў прыпынку я злоўжываю тут іншым злоўжываю нашым знаёмствам нашым разьвітаньнем якое ў падпітым стане здалося мне кранальным ты магла нават падумаць што я рады таму што займеў падставу для нейкіх сапраўды глыбокіх так бы мовіць аўтарскіх перажываньняў гэта значыць што за свае перажываньні я мушу падзякаваць табе і яшчэ аднаму вядомаму чалавеку якому не зьбіраюся дзякаваць ні за што напісаў і падумаў ні за што апрача твайго вяртаньня але напісаў толькі ні за што

так гэта патрэба гераізму ў сэнсе нейкага дачыненьня да навакольных падзеяў далёкіх і блізкіх не мая патрэба а патрэба мяне-аўтара які патрабуе ад сваіх прыдуманых пэрсанажаў якіхсьці зьдзяйсьненьняў у тым ліку і ад сябе самога будучы сам гэткім жа прыдуманым пэрсанажам

можа быць гэта яшчэ нагадвае перакладзены мною аднойчы менскі дзёньнік іншага маладзёна з-за мяжы ў тым дзёньніку мяшаюцца каханьне і смутак і неразуменьне навакольнае рэчаіснасьці

у кожным разе апавядальнік заўжды паразітуе на ўласных героях гэтак жа як і на іншых аўтарах зрэшты што яму застаецца

маё дачыненьне да тваёй гісторыі насамрэч павярхоўнае ня менш павярхоўнае за дачыненьне да гісторыі ў прынцыпе асабліва так званай найноў-

шай што здаецца мне ў першую чаргу гісторыяй хваробы але я ня доктар і не хачу ім прыкідвацца

а вось у табе ўжо тваё першае зьяўленьне безумоўна выявіла задаткі мэдычнай у добрым сэнсе гэтага слова сястры з майго раману які ты чытала ў адрозьненьне ад астатніх можа быць менавіта пасьля гэтага мне палегчала

зрэшты нашым знаёмствам я абавязаны тваёй цікавасьці да людзей у прынцыпе а не ў прыватнасьці да мяне што яшчэ раз падкрэсьлівае ў табе рацыянальны пачатак а ў жанчынах мне гэта заўжды падабалася

таму ў той вечар я зусім не зьбіраўся даваць табе на разьвітаньне ніякіх талі-зманаў пагатоў дабраславеньняў насамрэч я наіўна зьбіраўся адгаварыць цябе ад паездкі і я думаў што мне гэта ўдалося аднак замест таго каб пагадзіцца са мной ты больш ясна ўявіла сабе што цябе чакае і табе зрабілася сумна бо ты зразумела што не абавязкова вернесься назад аднак квіткі ўжо набыла магчыма нават за год наперад як на фінальны матч чэмпіянату сьвету аднак адкуль ты магла ведаць што глядыятарскія баі вярнуліся ў праграму зімовае алімпіяды

гэта ўсё праз тваё пачуцьцё адказнасьці ня столькі за сябе колькі за іншых у тым ліку і за мяне ня ведаю чым я заслужыў гэты гонар бяру ў двукосьсе ўсё-ткі бяз знакаў прыпынку не абыйсьціся

я дакладна казаў табе падчас адной з нашых шматлікіх сустрэчаў што больш люблю глядзець спорт па тэлевізары чым на стадыёне пагатоў у ім удзельнічаць але нягледзячы на ўсе выгоды кожны такі заўзятар застаецца сам-насам з сваім шкадаваньнем пасьля таго як ягоная каманда ў чарговы раз прайграе ў фінале ці ў тым што магло камусьці здавацца фіналам астатнім боем з змагарнага гімну пасьля гэтага яму ў якасьці суцяшэньня застаецца толькі выключыць тэлевізар тым часам як на стадыёне ільга пакрычаць пабіцца выбегчы на поле неабавязкова голым трапіць у пастарунак што называецца ўвайсьці ў гісторыю

гэтае настойлівае параўнаньне з спартовым матчам ізноўку здасца табе глупствам але рэч у тым што палітыка сёньня ў так званых цывілізаваных краінах ёсьць перадусім кшталтам забавы то бок тым чым яна заўжды была для саміх палітыкаў таму няма чаго дзівіцца што аматары паўсюдна й суцэльна прайграюць прафэсіяналам

цяпер я ведаю што гэтае празрыстае параўнаньне было яўна няўдалым праз самую яго празрыстасьць бо вось ужо некалькі тыдняў запар я пазіраю ў вакно і бачу ўсё тое самае што заўжды мне заўжды хапала намаганьня волі каб зьмяніць эмацыйную афарбоўку бачнага вось цяпер напрыклад дастаткова сабе ўявіць што ты праходзіш па суседняй вуліцы і ня хочаш зайсьці бо мы проста пасварыліся і што пры жаданьні я магу цябе набраць і запрасіць на традыцыйную сустрэчу ў паблізнай кавярні дзеля замірэньня ты

можаш вядома адмовіцца сустрэнемся пазьней калі ласка як заўгодна ўбачымся заўтра

несупынна гляджу ў вакно насупраць заўважыўшы найменшы рух як снайпэр увесь час трапляю позіркам у нейкага незразумелага чалавека няпэўнага ўзросту і няясных заняткаў які прытрымліваецца аднаго рэжыму са мною ня сьпіць па начах не не хачу дапускаць думкі што ён кіруецца маім жыцьцёвым рытмам крадзе мой жыцьцёвы рытм

не разумею навошта яму так пільна сачыць за мною я ж зусім нічога не зрабіў вось ужо колькі гадоў я ні ў чым ня ўдзельнічаў чым максымальна наблізіўся да сваіх шараговых суайчыньнікаў сяброў якіх язык не паварочваецца назваць абываталямі толькі тут я здолеў іх зразумець і па-сапраўднаму ўзьненавідзець іх на сваім прыкладзе так бы мовіць у сваёй асобе я з тых актораў што насуперак свайму ўяўленьню могуць спадзявацца толькі на мэтоду станіслаўскага

то бок мае перажываньні настолькі банальныя што нічога апроч гэтай графічнай формы ня здольнае прыцягнуць да іх чыюсьці ўвагу

нямеччына ўвосень я сьмяяўся з фасбіндэра зь ягонай удаванай на камэру ангажаванасьці і вось цяпер апынаюся ў падобнай ролі хіба што ўзімку і мне таксама страшна і я таксама не магу працаваць

патрэбна нешта зрабіць ты павінен нешта зрабіць калі не цяпер то ніколі напісаць артыкул сабраць подпісы абураных тутэйшых інтэлектуалаў нібыта міласьціну выйсьці на мітынг прыйсьці да амбасады пачаць біць у званы й грудзі плюнуць у твар узьняць шум вакол уласнай гіпэрбалічнай дзейнасьці з другога боку здаровы сэнс пазірае на мяне зь непасрэднае будучыні і падказвае мне якім сьмешным я буду сам сабе неўзабаве пасьля таго як усё ператворыцца ў клішэ пагатоў што табе гэта не дапаможа

знаёмцы пытаюцца ў кавярнях і на вуліцы што там у вас адбываецца я раблю выгляд вельмі дасьведчанага чалавека але стараюся не абрыдаць ім расповедамі ў маёй калі так можна сказаць краіне адбываецца штосьці пра што я ўласна ня маю права расказваць і гэтага права мне асабліва бракуе мяне не кранае адсутнасьць права расказваць пра ўсясьветную вайну ці атамную катастрофу ці штосьці падобнае аднак распавесьці пра тое што там адбываецца мне вельмі хацелася б але ж я ня ўмею усё што я ўмею гэта расказваць іншым гісторыі з кніг гісторыі пра гісторыі гэта адзінае што я ведаю ці думаю што ведаю

дзіўна што калі я казаў ім тое самае трынаццаць гадоў таму ніхто мне ня верыў дый мне самому гэта здавалася фікцыяй няўжо ўсё што я кажу мае налёт літаратурнасьці

вера ў цывілізацыю пахіснулася ў той жа момант калі пахіснуліся дзьверы ці драўляныя сталы але не таму што яны былі яе апірышчам але таму што

немагчыма было датэлефанавацца ў цэнтар гораду было ясна што там сабраліся людзі зь якімі я сябрую ці прынамсі хацеў бы сябраваць але мне было ў гэтым адмоўлена зрэшты як і ўсе гэтыя гады але ў той вечар гэта асабліва балела ім упершыню нашмат больш чым мне

муж сяброўкі пасьля ўсяго што бачыў на ўласныя вочы вярнуўся дахаты з амаль дапітаю пляшкаю каньяку ў руцэ хаця ён непітушчы

такое адчуваньне што хто не хацеў трапіцца бо ведаў што можа трапіцца той ня трапіўся але ж ты ніколі дагэтуль ім не траплялася пагатоў у тым горадзе як гэта ні сьмешна ты толькі госьця ня тое што ў гэтым таксама як я той горад ператварылі ў дасканалую пастку дакладна як у маіх снах хтосьці пастанавіў увасобіць іх у жыцьцё без майго дазволу зрэшты і без майго пратэсту ужо толькі за гэта варта было б падаць на іх у суд гэта яўнае парушэньне аўтарскіх правоў цікава якой кампэнсацыі я мог бы патрабаваць калі не твайго вяртаньня мабыць ніякай

пасьля твайго ад’езду самым сымпатычным мне чалавекам у горадзе застаўся віетнамскі гандляр у начной краме катораму ўдалося ажыцьцявіць мару майго жыцьця знайсьці сабе працу падчас якой можна сядзець і чытаць ён сядзіць за пультам і чытае штоночы віетнамскія дэтэктывы зь нейкай бясконцай пэйпэрбакавай сэрыі калі ты зьяжджала ён чытаў трэці выпуск сэрыі цяпер чытае ўжо дзясяты і ні пра што не пытаецца аднак я ўдзячны яму за гэта ня менш чым за ягоную вечную ўсьмешку

званкі наступнага дня прынесьлі ня болей карысьці я хацеў пазваніць каб сказаць як сумуюць па табе кавярні гэтага гораду дзе мы шматразова сустракаліся ці ня з кожнай зь іх я спрабаваў табе тэлефанаваць вядома толькі праз гэта на іх ня варта вешаць мэмарыяльных шыльдаў але яны ўсё адно там будуць вісець у маёй памяці

яшчэ я мог бы сказаць табе што апрача гэтых тэлефанаваньняў на твой і іншыя гадамі незапатрабаваныя нумары мой лад жыцьця ніяк не зьмяніўся што я й дагэтуль быў залежны шмат ад чаго ў тым ліку ад інфармацыі гэтага самага магутнага наркотыка сучаснасьці але ніколі яшчэ не прымаў яго так часта з жаданьнем раз і назаўжды ачомацца ад гэтага працяглага сну тым часам як сам толькі падаўжаў дзеяньне наркозу бо адсутнасьць навінаў гэта ўрэшце добрая навіна як вядома кожнаму журналісту чымсьці накшталт антыдэпрэсанту раней гэта называлі надзеяй

праз пару дзён я сустрэўся зь першым журналістам які адтуль вярнуўся і відаць было што ён не разумее маёй нездаровай узрушанасьці яму было ня страшна ён увесь час імкнуўся расказваць мне пра дэталі аднак я ведаў дэталі я хацеў ведаць агульную карціну мяне цікавіла выключна адчуваньне прысутнасьці

памятаю аднойчы гады праз два пасьля майго ад’езду адтуль прыехалі нейкія маладыя людзі і я першым чынам спытаўся ў іх як там на радзіме

яны засьмяяліся і папрасілі спытацца пра штосьці больш канкрэтнае бо што такое радзіма сапраўды я пагадзіўся і ўжо болей ні пра што ў іх не пытаўся

зрэшты калі б я мог спытацца я б спытаўся ці не сустракалі яны там чалавека з маімі рысамі валасамі вачыма і завушніцай апранутага гэтак жа як я і калі сустракалі то дзе ён цяпер знаходзіцца з кім зь іх сядзеў у адной камэры і калі яго ўрэшце адпусьцяць аднак не спытаўся

мне самому было б цікава даведацца ці быў гэты маладзён у эпіцэнтры падзеяў і як хутка яны яго паглынулі й зьнішчылі ці можа ён усё-ткі стаяў убаку як хутчэй баюся зрабіў бы я на ягоным месцы

магчыма тое самае мне карціць спытацца ў цябе але я думаю што калі б ты нават сустрэла там гэтага маладзёна ты нічога б мне не сказала каб ня зраніць маіх пачуцьцяў перадусім да сябе самога пачуцьцяў на якія мне ўсё цяжэй адказваць узаемнасьцю

такім чынам мы сядзелі зь ім у кавярні ён піў піва і апісваў баявыя дзеяньні з упэўненасьцю ваеннага вэтэрана перасоўваньні войскаў плян ляндшафту апорныя пункты назовы вуліцаў і іншую гуглень усё гэта цікавіла мяне ня болей за бітву пад ватэрлё мяне цікавіла толькі тое што адчуваў шараговы жаўнер ці хай сабе напалеон і таксама ў пэўным сэнсе тое хто на ягоную думку быў гэтым напалеонам

дарэчы ў горадзе дзе ты цяпер знаходзісься я маю шмат знаёмых жанчын з дасканалым густам голасам і пачуцьцём гумару чый лёс заўсёды цікавіў мяне нашмат болей за твой прынамсі я так думаў але цягам некалькіх дзён аказалася што гэта зусім ня праўда

ня ведаю ці варылі тыя жанчыны ў той вечар боршч пераканаў што ў іх няблага атрымалася я ў прынцыпе аматар баршчу дый шлях да сэрца мужчыны ляжыць вядома цераз што але ведаю што ў іншым месцы ў той вечар разьлівалі боршч па сьнезе проста з палявых кухняў і кармілі ім тых хто згаладаўся па зьмене рацыёну адвечны нацыянальны сымбаль сказала б ты

я сам ня ўмею гатаваць боршч але відаць нездарма колер соку з вараных буракоў так падобны да колеру чырвонага віна якога я выпіў у тыя дні болей чым на працягу году шторазу ў думках падымаючы тост за тваё вяртаньне хаця меўся б відаць падымаць яго за перамогу дэмакратыі ці за штосьці падобна абстрактнае

не паверыш я пасьпеў прызвычаіцца да тваёй адсутнасьці

таму асабліва страшна зрабілася калі я раптоўна даведаўся што ты выяжджаеш было адчуваньне што цяпер настане штосьці непапраўнае і мне захацелася сказаць табе абсалютна адваротнае ад таго што казаў дагэтуль не вяртайся сюды гэты горад ня варты таго каб сюды вярнуцца

але ты напэўна махнула рукой што будзе тое будзе дакладна як пры разьвітаньні і пасьля сказала што адклала ад’езд яшчэ на адзін дзень вось тады я болей ня вытрымаў і дазволіў сабе ці можа нават прымусіў сябе заплакаць як іншыя прымушаюць сябе сьмяяцца ў псыхатэрапэўтычных мэтах ці дзеля падаўжэньня веку ці проста каб не ашалець

ці то таму што ведаў што праз свой начны разлад жыцьця не змагу сустрэць цябе на вакзале ці то таму што баяўся зноў на некалькі дзён згубіць з табою хоць якую прынамсі мабільную сувязь ці з таго што гэты аповед небясьпечна наблізіўся да раману ў кожным разе я ведаю што быў бы ў той момант згодны ўкленчыць і выпрошваць для цябе волі як булгакаўская маргарыта ці той кім усе цяпер пагарджаюць волі для адзінага чалавека я таксама абгаварыў бы й здрадзіў сваіх няісных паплечнікаў каго заўгодна быццам прасіў бы волі для самога сябе таму што я насамрэч прасіў бы яе для самога сябе

у пазанаступны дзень калі ты вярнулася ты адразу ж паводле нейкай інэрцыі скіравалася на прызначаную яшчэ да твайго ад’езду чарговую канфэрэнцыю па правах чалавека да якіх не належыць права ігнараваць падобныя мерапрыемствы адну з тысячаў канфэрэнцый якія праводзілі й будуць праводзіць высакалобыя разумнікі дзякуючы табе і астатнім ты сьціпла сядзела ў кутку і слухала а я стаяў за дзьвярыма і не хацеў заходзіць бо адчуваў што ты там дзе ж яшчэ хаця твой тэлефон быў адключаны відаць з павагі да імянітых прамоўцаў карацей я спусьціўся зь лесьвіцы і пайшоў памалу ў невядомым кірунку як аказалася ў кірунку бару ў якім мы ніколі з табою не былі

там я напісаў табе гэтае смс-паведамленьне і застаўся чакаць калі ты канчаткова вернесься адтуль дзе не магла не прысутнічаць мне было неабходна сустрэцца з табою бязь сьведкаў сам-насам як аўтару з гераіняй ня дзеля таго каб ты распавяла мне пра ўсё што з табою здарылася а дзеля таго каб на ўласныя вочы ўбачыць як за гэтыя тры тыдні адсутнасьці ты зьмянілася больш чым за тры гады нашага знаёмства

я ведаю што ты атрымала маё паведамленьне таму я па-ранейшаму тут і чакаю

*24.03.2011*





ЯКІМОВІЧ Валянціна (да 1976 году Малахоўская) нарадзілася 27 лістапада 1949 году ў г. п. Касьцюкоўка на Гомельшчыне. У 1973 г. скончыла архітэктурны факультэт БПІ. Працавала архітэктарам, настаўніцай крэсьленьня, жывапісу і народнага мастацтва, пэдагогам-арганізатарам, старэйшым навуковым супрацоўнікам. З 1987 году брала ўдзел у працы нефармальнага маладзёвага аб'яднаньня "Талака". Сяброўка Беларускага народнага фронту (ад 1989 г.), а таксама Таварыства беларускай мовы і Беларускага саюзу фальклярыстаў і фальклёрнага гурта "Дзяньніца". Народны майстар па вырабе нацыянальных беларускіх строяў. Аўтар шэрагаў культуралягічных артыкулаў і публікацыяў фальклёрнага і этнаграфічнага характару. З канца 1998 году жыве ў ЗША.

# Дзяцінства майго бацькі

Калі да нас у хату на сьвяты прыходзілі аднавяскоўцы на бяседу, то спачатку мне дазвалялася разам зь імі павячэраць за агульным сталом, а потым прасілі засьпяваць песьню. І я, чатырох-пяцігадовая дзяўчынка, узьбіралася на зэдлік і звонкім голасам заводзіла песьню, пачутую з радыё:

"Парней так многа хала-га-стых,
а я люблю жанатага,
ах рана ён завёў сям'ю – пячальна-я гісторыя,
я ад сябе любоў та-га-ю, а ад яго – тым боляе ..."

Ці тую, што вельмі любіў сьпяваць мой бацька:

"Пазабыт, пазабро-го-шан з маладых, юны-гы-х лет,
сам застаўся сірато-го-ю – шчасьця до-го-лі мне нет..."

Песьні былі расейскія, але я сьпявала іх так, як чула ад дарослых, зь беларускаю манэрай вымаўленьня і гоканьня. Дарослыя задаволена сьмяяліся, пляскалі ў далоні, а потым я залазіла на печ, дзе на драўляным шасьце ў вузельчыках з марлі віселі запасы сушаных чарніцаў, вішняў, сьліваў і скрылькі грушаў ды яблыкаў. А галоўнае – там захоўвалася вялікая галоўка кавалкавага цукру. Яе мы, дзеці, зрэдку, кожны тайком ад усіх, думаючы, што іншыя так ня робяць, паціху абгрызалі. Памалу, а таму, як нам здавалася, і зусім незаўважна, галава цукру меншала. Аж пакуль аднойчы

маці са зьдзіўленьнем не знайшла там невялічкі кавалак ад таго цукру. А пакуль што я сядзела на печы і, як прамакатка, убірала ў сябе ўсё, што бачыла і чула. Трэба сказаць, што тады ў час застольля шмат размаўлялі і сьпявалі. Тыя сьпевы прарасьлі ўва мне буйным цьветам, напоўнілі маё жыцьцё і ратавалі нават у самыя цяжкія часіны. А мой бацька ня толькі лепш за ўсіх сьпяваў, але яшчэ й быў вельмі добрым апавядальнікам. З тае дзіцячае пары ягоныя апавяданьні пракручваюцца ўва мне як урыўкі паўзабытай кінастужкі, якую зафіксавала памяць.

## Дзед Аляксей

Аляксей жыў у вёсцы Акшынка Веткаўскай воласьці Гомельскага павету. У шлюбе з Настасьсяй 16 верасьня ў 1903 годзе ў іх нарадзіўся сын Дзьмітры. Хоць сям'я жыла ня ў дужа якім дастатку, за тры гады дваццацісямігадовы гаспадар збудаваў новую хату. У другой палове кастрычніка ён марыў перасяліцца зь сям'ёю з бацькавых сеняў, дзе даводзілася дагэтуль туліцца. Перад самымі Пакравамі пайшоў да новае хаты, каб, як той казаў, зрабіць апошні штрых. Сьнег яшчэ ня выпаў, а марозік пад вечар узяўся не слабы. Аляксей палюбаваўся дубовымі масьніцамі падлогі, новай выбеленай печчу, кінуў у яе каменны вугаль, распаліў агонь. Пакуль прымацоўваў звонку да ўваходных дзьвярэй кавану ручку з клямкаю, паветра ў пакоях пацяплела. Вуглі яшчэ зрэдку цьмяна паблісквалі, калі, скончыўшы працу, Аляксей залез на гарачы чарэнь і з асалодай расправіў на ім свае зморання працаю дужыя плечы. Вырашыў пераначаваць. Каб хата ня выстыла да раньня, у хуткім часе закрыў комін. Прыемнае цяпло разьлілося па целе, веі зьмежыліся, і ён заснуў крэпкім маладзецкім сном.

Апоўначы прачнуўся ад нясьцерпнага галаўнога болю. Кроў, пульсуючы, шумна і балюча прылівала да скроняў, бы ў іх білі жалезнымі малаткамі. "Угарэў", – мільганула думка. Хацеў саскочыць зь печы, выйсьці на двор, каб дыхнуць сьвежага паветра, але такія моцныя і пругкія яшчэ ўчора цяглiцы неяк абмяклі і ня слухаліся. Ня верачы сабе, ён напружыўся, рвануўся з усяе моцы, каб узьняцца, але толькі слаба варухнуўся, прыўзьняў галаву, з болем стукнуўся ёй аб цагляны гарачы чарэнь і страціў прытомнасьць.

Настасься, цяжарная другім сынам, у бяссоньні да раньня кідалася па падушцы, бо гэта была яе першая самотная ноч з тае пары, як яны з Аляксеем пабраліся шлюбам.

## Зьмітракова школа

Старэйшаму, Міцю, было тры гады, калі ён застаўся бяз бацькі, а тут на божы сьвет зьявілася яшчэ адно немаўлятка – Васілёк. Бяз бацькі жылі бедна, але дзеці расьлі хутка. Маці шыла кашулі навырост, але не пасьпявала агледзецца, як яны ўжо былі закароткія і выглядалі на Зьмітраку куртата. Ды і прозьвішча было ў іх дзіўнаватае: Куцанковы. Каб дапамагчы маці, у восем год Зьміцер наняўся летам да пана пасьвіць сьвіней. Сінявокі

старэйшы сын, не па ўзросту рослы і шыракаплечы, удаўся ў Аляксея. За лета ён пакрываўся цёмным загарам, а стрыжаныя “пад гаршчок” пшанічныя валасы выгаралі на бела.

Калі ўвосень Зьмітру споўніўся дзевяць год, пан наняў яго целаахоўнікам да свайго сына, адпраўляючы таго ў школу, каб ніхто не пакрыўдзіў. Паніч быў гультаяваты. Пакуль ён займаўся тым, што лавіў мух і тапіў іх у атраманце ды ўзіраўся ў вакно, Міця, з увагі на свой вялікі рост, сядзеў на самай апошняй парце і ўважліва слухаў усё, аб чым казаў настаўнік. Заадно ён узяў сабе ў абавязак падказваць панічу адказы на пытаньні настаўніка. У хуткім часе аб гэткай сытуацыі настаўнік даклаў пану і заўважыў, што парабак дужа здатны да вучобы. Пан загадаў прыняць хлапчука ў лік навучэнцаў. Гэта надало Зьмітраку яшчэ больш ахвоты вучыцца. Адзіны прадмет, які ён не любіў, было багаслоўе, бо бацюшка быў вельмі злосны і за кожную памылку ці малую правіннасьць моцна біў вучняў па руках і плячох доўгім драўляным кіем, які служыў яму і як указка. Зьміцер і паніч пасябравалі. Надумаліся яны адпомсьціць таму папу.

Аднаго разу матушка замясіла цеста для велікодных булак і паставіла дзежку перад печчу, каб падыйшло, а сама прылегла ў спальні падрамаць. Паніч стаў звонку вартаваць, каб своечасова папярэдзіць Міцю, калі хто нечакана зьявіцца. Міця праз адчыненае вакно ўлез у хату, сыпануў жменю махоркі, хуценька перамяшаў яе зь цестам і прыкрыў, як і было, рушніком. Тады ён ціха высьлізнуў тым жа ходам, як і ўвайшоў. З усіх ног хлопцы кінуліся ўцякаць і, пераскочыўшы праз плот, разьбегліся ў розныя бакі. Як ні дзіўна, але тая “навука” пайшла на карысьць настаўніку багаслоўя. Бывала, ён і зрываўся да крыку, але больш не лупіў вучняў кіем.

## Чаравікі

Бяда, што ў Зьмітрака не было ані портак, ані абутку. Гэта стварала вялікую нязручнасьць у школе, дзе былі й дзяўчынкі, якія ўжо зьвярталі на яго сваю ўвагу. Ён насіў даўгую за калена зрэбную кашулю, падпярэзаную чырвоным тканым паскам, як і большасьць сялянскіх хлапчукоў. Бегаць басанож ён прывык ажно да самых халадоў, а лапці не любіў. Бывала, ужо і сьнег выпадзе, а хлопец бяжыць па ім босы, часам здыме з галавы картуз, пагрэе ў ім з хвіліну ногі й імчыцца далей, трэба было толькі шпарчэй перабіраць нагамі. Нарэшце вясною, напрыканцы чацьвёртай клясы, маці справіла сыну з грубага лёну порткі і набыла на памер большыя, новенькія, бліскучыя чорненькія чаравікі. Шчасьлівы хлапчына раней выходзіў з дому і, не сьпяшаючыся, з годнасьцю ішоў на заняткі. Каб абутак не знасіўся раней часу, у школе ён яго здымаў і хаваў у парту, а на ўроках раз-пораз з радасьцю пазіраў на сваю абнову. Ды тут аднаго разу ўдаўся такі сонечны і цёплы вясновы дзень, што як толькі празьвінеў занок з урокаў, Зьміцер, забыўшыся пра свой абутак, па звычцы пабег дахаты босы. На парозе яго стрэла маці і сувора запыталася пра чаравікі. Зьбянтэжаны хлапчук хутчэй ветру паімчаўся зноў у школу, але нехта гаспадарлівы ўжо прыхапіў іх. Зьмітрок не стрымаўся і ад крыўды горка заплакаў.

## Хлеў

Хата ў сям'і Куцанковых была новая, побач стаяла добрая пуня, а вось хлявок для хатняй жывёлы Аляксей не збудаваў, не хапіла яго маладога жыцьця. У трынаццаць год Дзьмітры адчуваў сябе гаспадаром, адказным за сям'ю. Надумаўся самастойна збудаваць хлеў. Як сыйшоў сьнег, запрог у воз каня і паехаў зь дзесяцігадовым братам у лес. Нялёгка было хлапчукам дзьвухручнай пілой сьпілоўваць сосны, потым сякерамі абсякаць гольле. Пачалі грузіць бярвеньне на воз, зь якіх апошняе было таўставатым. Зьмітрок узваліў верхавіну яго на плячо брата, сам пайшоў да камля, пакуль дайшоў, Васілёк не ўтрымаў цяжкі ствол і паваліўся разам зь ім на зямлю. Так паўтаралася некалькі разоў. Старэйшы брат сварыўся на малога і, шкадуючы, абдымаў і плакаў разам зь ім. Тады здагадаліся, паклалі пад нахілам збоку ад воза бярозу і, як па масту, ускацілі перш вершаліну, потым і ніжнюю цяжэйшую частку бярвяна. Так набываўся вопыт. Да восені з дапамогаю суседзяў, талакою, удалося завяршыць пабудову хлява.

## Паляваньне

З восені да вясны, узяўшы бацькаву паляўнічую стрэльбу, Зьміцер, як і ўсе вясковыя мужчыны, самастойна хадзіў паляваць на зайцоў, курапатак і глушцоў. Быў канец лютага, калі падлетак у чарговы раз пайшоў на паляваньне. Ён любіў сьцішаны, урачыста затулены сьнегавой бельлю, зьнерухомелы зімовы лес. Але ў гэты дзень яму ня шэнціла, было толькі некалькі пустых стрэлаў. Раптам па сьнезе, між ельнічку, мільгануў вогненна-руды хвост лісы. Хлопец кінуўся ў той бок, пацэліў, пальнуў, ды зьнянацку, зусім побач, на ягоным шляху, ашчэрыўшы зубы, зьявілася галодная ваўчыца. Амаль ня цэлячы, стрэліў у яе. Параненая зьвяруга зь віскатам кінулася проста на Міцю, але недаскочыла і, паваліўшыся, скрывавіла сьнег. Перапужаны падлетак кінуўся наўцёкі, не разьбіраючы дарогі. Яловыя лапы балюча сьцябалі па твары. Ня маючы часу, каб перазарадзіць стрэльбу, ён бег не азіраючыся, і зусім побач за сьпіной чуў скачкі й цяжкае дыханьне ваўчыцы. Заўважыў, што бяжыць неяк па кругу, бо трэці раз прабягае ля адной і той жа сасны, рэзка памяняў напрамак і хутка трапіў у падмерзлую зьверху забалаць. Сьпіна і лоб узмакрэлі, а ваўчыца не адставала. Ужо не было чуваць яе дыханьня, але яна неадступна хлюпала па ягоных сьлядах крок у крок. Выбіваючыся зь сілаў, Зьмітрок вырашыў дабіць параненага зьвера прыкладам стрэльбы, разьвярнуўся і... са зьдзіўленьнем ня ўбачыў нікога побач. За ім ніхто ня гнаўся. Пачало цямнець. Зьмітрок перавёў дыханьне, спакойна агледзеўся, зарыентаваўся ў бок роднай вёскі. Толькі зрабіў некалькі крокаў, як пачуў, бы нехта зноў гоніцца за ім. Цяпер толькі зразумеў, што гэтак хлюпалі на некалькі памераў большыя ягонай нагі бацькавы боты, у якія на гэты раз ён прыбраўся перад паляваньнем. "Сапраўды, у страха вялікія вочы", – усьміхнуўшыся, падумаў хлапчына.

Цемра гусьцела. Калі выйшаў на лясную сьцежку, угледзеў між кустоўя дзьве пары воўчых вачэй, раздалося прызыўнае жахлівае выцьцё, і

ззаду ад сябе падлетак заўважыў палаючыя вочы трэцяга ваўка. На шчасьце, побач стаяла высокая старая бяроза, у імгненьне вока ён узабраўся на яе. А ваўкі й не зьбіраліся сыходзіць. Цяпер яны палявалі на Зьмітрака, чакаючы, пакуль той засьне і зваліцца долу на іхныя іклы. Ад начнога марозу мокрую сьпіну скавала ільдом, рукі ня слухаліся, празь нейкі час ён перастаў адчуваць холад і здагадаўся, што засынае, пачаў сьпяваць і насьвістваць, каб ня даць самому сабе заснуць. На досьвітку ваўкі сыйшлі. Зьмітрок зьлез з дрэва, пагядзеў, адкуль узыходзіць сонца, пайшоў у патрэбным напрамку і пад адным з дрэваў наткнуўся на параненую ім учора ўжо акалелую ваўчыцу. Ён засьпяшаўся да роднае вёскі, дзе, гледзячы на белае бязьлюднае поле праз замарожанае дзіўным узорам вакно, не змыкаючы вачэй, яго чакала маці.

## Сіямскае кацяня

У пятнаццаць год Дзьмітры вучыўся  ўжо ў сёмай клясе, што для таго часу лічылася вельмі прыстойнай адукацыяй. У час зімовых вакацыяў, у ноч перад Калядамі выпаў такі сьнег, што сумёты даставалі да страхі. Раніцой людзі змушаныя былі адкопваць свае дзьверы і, каб неяк рабіць праходы, даводзілася рыць ў сьнезе ледзь не траншэі ў чалавечы рост. А потым ўзьнялося сонца і пачало так прыграваць, што сьнег увачавідкі пачаў зьнікаць, нібы выпарвацца ў паветра. Па абедзе пані-барыня надумалася ехаць на імяніны да сваёй пляменьніцы ў вёску, якая была на адлегласьці дванаццаці кілямэтраў. На сані паклалі вялікую ношку сена, паверх – дыванок, а зьверху ўсяе гэтае канструкцыі ўссадзілі самую пані, апранутую ў футра. Яна пасадзіла ў сваю муфтачку маленькае сіямскае кацяня, якое хацела падараваць пляменьніцы. За фурмана пані ўзяла сабе Зьмітрака. Пасьля такога вялікага сьнегу, а потым нечаканай адлігі сані па няроўнай дарозе зьлёгку кідала з боку ў бок, і пані бясконца незадаволена бурчэла і сварылася на свайго фурмана. А Зьміцер, усхваляваны паездкай і тым невядомым, што чакала яго недзе наперадзе, з асалодаю ўдыхаў марознае паветра і зь любоўю ўглядаўся ў бясконцую абмерлую прастору роднага поля, пакрытага, куды ні глянь, белым сьнежным покрывам, што выклікала ў ягонай душы не журбу, а сьвяточны настрой. У бязьмежжы асьнежанага поля паказаўся лазьняк і масток празь невялікую рачулку, на другім беразе якой стаяла самотная бяроза. Калі зраўняліся зь ёю, сані наскочылі на невялічкі пянёк, іх зьлёгку страсянула. Зьмітрок, паганяючы каня, падумаў, што нешта пані замоўкла і больш не сварыцца. З гэтаю думкай ён азірнуўся і... О, жах ! Пані ў санях не было.

На  поўнай хадзе маладзенькі фурман разьвярнуў каня і паімчаўся на пошукі згубленай пані. Праз кілямэтра паўтара ён убачыў яе на дарозе. Калі сані падкінула, з-за таго што на іх паклалі зашмат сена, разам зь сенам і дываном пані ссунулася ў сьнег. Цяпер пані, падобная на гогалеўскую Каробачку, ляжала на сьпіне і бездапаможна торгала нагамі і рукамі, спрабуючы перавярнуцца на жывот, як велічэзны жук, перакулены на сьпіну. Хлапчына кінуўся падымаць яе, што было ня так проста з-за немалой панінай вагі. Абтросшы зь яе сьнег, ён пасадзіў пані на воз і прасіў літасьці

і прабачэньня за недагляд. А тая, абзываючы яго разбойнікам і забойцам, загадала злавіць сіямскае кацяня, якое выскачыла з муфты і залезла на сасну.

Вечаровае зімняе сонца больш ня грэла. Засьнежаныя ствалы дрэваў за дзень адтаялі, а падвячоркам падмарозіла, і яны пакрыліся ільдом. Па абледзянелай кары сасны Зьміцер палез уверх па кацяня. Толькі працягнуў да яго руку – тое забралася яшчэ вышэй. Хлапчына не ўтрымаўся і, абдзіраючы рукі і жывот, сасьлізнуў уніз. Палез другі і трэці раз, зноў сарваўся, а кацяня забралася на самую верхавіну, куды чалавеку дабрацца было немагчыма. Барыня, седзячы сьпіной да свайго фурмана, сварылася і кляла яго: “Ах жа ты, бандзюга, каб жа праз твае рэбры каза траву шчыпала, як ты ў дарозе згубіў мяне і маё кацяня!”

Мароз крапчэў, сонца села за лес, цямнела. Зьміцер запусьціў у кацяня палкай, тое звалілася на сьнег, хлапчына упаў на яго зьверху, спрытна схапіў і, нарэшце, вярнуў кацяня барыні. Паехалі далей. Цяпер ужо рот пані не закрываўся, а хлопча падумаў, што пэўна ў тых гасьцёх яго засякуць розгамі.

На ганку сядзібы сваячкі барыня адразу ж пачала распавядаць пра свае прыгоды. Зьміцер, каб не трапляцца ёй на вочы, далей ад бяды, павёў каня ў стайню і вырашыў там заначаваць. Каля карыта, у якім кармілі коней, пад адну палу худой сьвіткі падаслаў сабе саломы, а другой накрыўся з галавою, памалу сагрэўся і заснуў.

Пасьля сьвяточнай вячэры пані спахапілася: “Дзе ж мой фурман?” Вырашылі, што той ад страху зьбег у лес, ды яшчэ, чаго добрага, замерзьне там. Кінуліся шукаць, пабраўшы паходні, але нідзе не знайшлі. Здагадлівы конюх знайшоў Міцю ў стайні. Заплаканая пані, якая насамрэч была не такая ўжо і зласьлівая, з радасьці, што хлапец знайшоўся, пачала абдымаць і цалаваць яго. А тады загадала, каб яго добра пакармілі й паклалі спаць на печы гаспадароў.

Юная дзяўчына ў прыгожай сукенцы, з-пад якой выглядалі калашыны штаноў з карункамі, што хлопца вельмі ўразіла, бо такога адзеньня ў вясковых дзяўчат ён ніколі ня бачыў, прынесла яму на падносе ўсялякіх прысмакаў з панскага стала. Хлопец так наеўся, што, як той казаў, думаў, што ў яго зараз разьвяжацца пуп. А дзяўчына на дэсэрт прапанавала яшчэ й вялікі кавалак пірага з духмянай гарбатай. Зьмітрок пакутліва ўздыхнуў, пачаў было адмаўляцца: “Паненачка, дзякуй вялікі і даруй, але ж жывот не гумовы, больш не магу есьці”. Тая адказала, што яна такая ж панна, як і ён пан – простая кухарка, апранутая так дзеля сьвята, і што гэты смачны пірог пякла сама, таму ён ня можа ад яго адмовіцца. На такія довады ў Зьмітра не знайшлося адказу. Сапраўды, такога салодкага пірага яму не даводзілася есьці ніколі. З-за стала ён ледзьве ўзьняўся. Залез на чужую печ і шчасьлівы заснуў.

Прачнуўся Зьмітрок па малой патрэбе. У цемры, спрасоньня забыўся, што ён не ў сваёй хаце, скокнуў уніз... І апынуўся ў палоне нейкай вузкай і высокай чатырохсьценнай скрыні, куды зьверху засыпалі торф ці каменны вугаль, а зьнізу, для распальваньня печы, выграбалі праз адкрыты праём. Не было за што й ухапіцца, каб адтуль выбрацца. Не сядзець жа тут да раньня! Да таго ж, дае аб сабе знаць гарбата, якой так прыемна было запіваць

пірог. Хоць плач. Пасьля безвыніковых спробаў выбрацца на волю, хлопец паціху пачаў зваць паненку-кухарку. Яна прыйшла на ягоны голас. Убачыўшы, у чым справа, закінула яму таўстую вяроўку, трымаючы другі канец яе, і вызваліла Зьмітра. Вывела на двор, каб справіў сваю патрэбу, а сама стала побач, бо сабакі маглі накінуцца і парваць чужака. Хоць дзяўчыне было сямнаццаць год, а хлапчыне толькі йшоў шаснаццаты, ён быў на галаву вышэйшы і адчуваў сябе нармальным дзецюком, каб дазволіць сабе апаражніцца пры ёй. Яна ж сярдзіта прысьпешвала яго, як малога, бо стаяць на марозе было сьцюдзёна. Зьміцер рашуча загадаў дзяўчыне зайсьці ў сені.

Назаўтра яны разьвіталіся, ня гледзячы адзін аднаму ў вочы. За адно імгненьне Зьмітро адчуў, што дзяцінства незваротна мінула, што цяпер ён дзяцюк, які мусіць прымаць на сябе адказнасьць за кожны ўчынак.

* * *

Анастасія – маці Зьмітрака – пасьля сьмерці ягонага бацькі Аляксея ў хуткім часе выйшла замуж у другі раз, наразіла сыноў Сямёна, потым Нікадзіма і зноў аўдавела. Пасьля заканчэньня школы, па восені, Дзьмітры паехаў у Маскву і паступіў на Рабфак, дзе вучыўся на адным курсе разам з Андрэем Грэчкам і Лявонам Брэжневым. Невядома, як склаўся б ягоны лёс, але праз год навучаньня Зьміцер атрымаў ад маці ліст, дзе яна пісала, што жыве ў вялікай бядоце, і прасіла старэйшага сына вярнуцца ў Акшынку, каб дапамагчы ёй падняць меншых ягоных братоў. Адмовіць маці ў дапамозе ён ня мог. Давялося вярнуцца на Радзіму ў Беларусь. Прыйшла савецкая ўлада, і пачалося зусім іншае жыцьцё. Але аб гэтым, можа, напішу ў іншы раз.



# ПЛЯНЫ НА БУДУЧЫНЮ

*З выхадам у сьвет гэтага нумару альманаху пачынаецца падрыхтоўка да друку наступнага, выхад якога заплянаваны на жнівень-верасень 2012 году. Апошні тэрмін дасылкі твораў для друку ў ім – **1 чэрвеня 2012 году**. Дасылаць матэрыялы для наступнага нумару найлепш на адрас электроннай пошты **hazetabielarus@att.net** .*

*Калі нехта з аўтараў ня мае доступу да Інтэрнэту, то свае творы, запісаўшы на электронныя носьбіты інфармацыі (CD, DVD), можна даслаць поштаю на адрас:*

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
***USA***

*Калі ў некага з аўтараў творы існуюць толькі ў рукапісе, і ён ня мае доступу да кампутара, то даслаць іх можна на гэты ж адрас.*

*У альманаху “Беларус” могуць быць надрукаванымі літаратурныя творы самага markрознага кшталту: паэзія, проза, падарожныя зацемкі, успаміны, але аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі.*

*Альманах друкуецца клясычным правапісам, таму ўсе тэксты будуць адаптаваныя да яго. Пасьля выхаду новага нумару кожны з аўтараў атрымае асобнік бясплатна і будзе мець магчымасьць набыць яшчэ некалькі па зьніжаным кошце. На жаль, выдавецтва ня мае магчымасьці выплочваць ганарары, бо не займаецца камэрцыйнай дзейнасьцю.*

*Замовіць наступны нумар альманаху ці мінулыя можна, напісаўшы на вышэйпададзены адрас. Жадаючыя могуць зрабіць замовы ў Інтэрнэце, наведаўшы старонку: **www.e-krama.com**. Робячы замову ў Інтэрнэце, аплату можна зрабіць крэдытнымі карткамі ці праз рахунак Paypal.*

*Будзем вельмі ўдзячныя ўсім ахвярным людзям, хто зможа падтрымаць выданьне фінансава. Вашыя імёны будуць абавязкова пададзеныя ва ўступным артыкуле, і вы першымі атрымаеце новае выданьне пасьля выхаду з друку.*

***Марат КЛАКОЦКІ***

# SUMMARY

## Almanac *BIELARUS* 2011

The fifth issue of the Almanac BIELARUS 2011 was published in New York and is devoted to the works of authors who write in the Belarusan language and live outside Belarus. It begins with the poetry of **Lavon BARAVY**, which is full of nostalgic memories and images of the old country.

**Iryna VARABIEJ** presents translations of stories by Cree Indians of Canada.

The frequent author of the almanac, **Vital VORANAÚ**, includes a series of short stories and has pioneered a new genre in the Almanac BIELARUS, the comics, with three comic mini-stories from the Belarusan history.

**Źmicier DAVYDZIENKA** presents ironic poems and acrostic verses.

**Jury ŽVALIKOÙSKI** aptly composes poems as reaction to music and to the native tongue with genuine lyricism.

**Vital ZAJKA** reflects, in his short story "The Baldie," on trials and tribulations of an immigrant settled in New York.

**Viktar KAVALEÙSKI** devotes his piece to the fate of immigrants from Belarus in Australia and presents a translation from a book about a Polish-Australian woman, whose life, as lives of many Belarusans, felt the full brunt of the 20th century's calamities.

**Alina KUŹMIČ** presents a poetical cycle "When the wind..."

Accomplished literary translator **Jakub ŁAPATKA** presents his translations of prose by Apollinaire and of poetry by Manuel del Cabral and Federico Garcia Lorca.

**Cimoch LIAKUMOVIČ**, a literary scholar and translator, gives an artful account about aged Jewish refugees from Belarus in America in the story "Confession."

**Anatol MAÙČUN** writes an essay-memoir entitled "We and Nature."

**Emigidyjuš RYŽY (Archbishop JURY)** is presented in the Almanac with his powerful story from the times of World War II in Belarus, "The Sixth Commandment."

The detective genre in the Almanac is represented by the story "Quartet" by **Michaś SKIBA.**

A poetical series "Two Heavens" is written by **Ina SNARSKAJA.**

Prominent poet and bard **Siaržuk SOKALAŬ-VOJUŠ** publishes a collection of lyrics from his new album of songs "The Rakes."

**Aleś TARANOVIČ** tries to analyze the emotional impact of emigration and separation from Belarus in his essay "The Émigré's Song."

**Juraś ŠAMIEĆKA** presents his love poetry.

**Maks ŠČUR** presents his new poetic collection "An Abstract from Elegy," a story titled "Execution," and a stream-of-conscience narrative "Return of Liberty."

**Valancina JAKIMOVIČ** writes a collection of stories based on her family's experience called "The Childhood of My Father."